ШТОМЕСЯЧНЫ НАВУКОВЫ І МЕТАДЫЧНЫ ЧАСОПІС

# Роднае слова

2011/6
(282)
чэрвень

ЗАСНАВАЛЬНІК:
МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

УСТАНОВА «РЭДАКЦЫЯ ЧАСОПІСА "РОДНАЕ СЛОВА"»

Часопіс выходзіць з 1988 года (у 1988 – 1991, №№ 1 – 48, выдаваўся пад назвай **"Беларуская мова і літаратура ў школе"**)

Галоўны рэдактар
**Зоя ПАДЛІПСКАЯ**



WWW.RS.UNIBEL.BY

# Змест




Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках, мастацтвазнаўстве, культуралогіі, педагагічных навуках (тэорыя і методыка навучання беларускай мове і літаратуры).

# "КАНСТЫТУЦЫЯ" Ў АДУКАЦЫІ

## ІНТЭРВ'Ю З МІНІСТРАМ АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СЯРГЕЕМ МАСКЕВІЧАМ

13 студзеня 2011 г. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка падпісаў Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адукацыі, які пачне дзейнічаць з 1 верасня 2011 г. Зроблены важны крок ва ўдасканаленні нацыянальнага заканадаўства, якое рэгулюе грамадскія адносіны ў сферы адукацыі. Прапануем увазе чытачоў "Роднага слова" гутарку пра тое, як вялася праца над кодэксам і чым было выклікана яго з'яўленне.



***Сяргей Аляксандравіч Маскевіч*** *нарадзіўся 1 жніўня 1953 г. у вёсцы Быкаўка Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці.*

*У 1974 г. з адзнакай закончыў фізіка-матэматычны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы. У перыяд з 1974 да 1983 г. працаваў лабарантам, старшым інжынерам і старшым навуковым супрацоўнікам у навукова-даследчым сектары інстытута. Паралельна вучыўся ў аспірантуры Інстытута біяхіміі АН БССР па спецыяльнасці "Біяфізіка".*

*Абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму "Спектральна-люмінісцэнтныя якасці вытворных тыяміна, піравінаграднай кіслаты і іх комплексаў з іонамі двухвалентных металаў у растворах" (1983, БДУ, навуковыя кіраўнікі – чл.-кар. АН БССР Ю. Астроўскі і Л. Кавач). З 1983 г. – старшы выкладчык, з 1988 г. – дацэнт кафедры агульнай фізікі.*

*З імем Сяргея Маскевіча звязана станаўленне і развіццё новага метаду спектраскапіі – спектраскапіі гіганцкага камбінаванага рассейвання святла. У 1995 г. у БДУ абараніў доктарскую дысертацыю на тэму "Спектраскапія гіганцкага камбінаванага рассейвання святла і структурная арганізацыя адсарбіраваных на металічнай паверхні малекулярных сістэм". Вучоная ступень доктара фізіка-матэматычных навук прысвоена 28 чэрвеня 1996 г., вучонае званне прафесара – 25 чэрвеня 1997 г.*

*Навуковыя дасягненні Сяргея Маскевіча прадстаўлены ў больш чым 270 друкаваных працах, большая частка якіх апублікавана ў прэстыжных замежных і рэспубліканскіх перыядычных выданнях.*

*З 1995 да 1997 г. працаваў прарэктарам па навуковай рабоце, 1 лістапада 1997 г. быў прызначаны рэктарам Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.*

*19 сакавіка 2005 г. Сяргей Маскевіч абраны дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 3-га склікання па Гродзенскай цэнтральнай выбарчай акрузе № 52. У 2008 г. абраны дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 4-га склікання па Гродзенскай цэнтральнай выбарчай акрузе № 50, а на 1-й сесіі Палаты прадстаўнікоў – старшынёй Пастаяннай камісіі па міжнародных справах і сувязях з СНД.*

*Паралельна з працай у Парламенце Сяргей Маскевіч ажыццяўляў навукова-педагагічную дзейнасць у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы, Беларускім дзяржаўным універсітэце, Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка.*

*Са снежня 2010 г. – міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь.*

*У 2007 г. за актыўную навукова-педагагічную і грамадскую дзейнасць Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Сяргей Маскевіч узнагароджаны медалём Францыска Скарыны, а таксама ганаровымі граматамі Нацыянальнага сходу і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, мясцовых органаў улады.*

**– Сяргей Аляксандравіч, Вам давялося "прымяраць" Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адукацыі на сябе і ў якасці прафесара, у мінулым рэктара аднаго з прэстыжных ВНУ краіны, і ў якасці парламентарыя. Значэнне гэтага заканадаўчага акта цяжка пераацаніць. Тым больш што аналагаў у свеце няма…**

– Так. Вопыту стварэння заканадаўчага акта, які забяспечвае комплекснае рэгуляванне грамадскіх адносін у сферы адукацыі, у свеце няма. Рэспубліка Беларусь з'яўляецца першапраходцам. Гэты факт яшчэ раз паказвае на прыярытэты дзяржаўнай палітыкі ў сацыяльнай сферы.

**– Як вялася праца над стварэннем кодэкса?**

– Праца над праектам Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адукацыі мела планавы характар і не была выклікана нейкімі надзвычайнымі акалічнасцямі.

З моманту набыцця суверэнітэту ў Рэспубліцы Беларусь толькі на ўзроўні Кіраўніка дзяржавы і Урада Рэспублікі Беларусь было прынята больш за 50 нарматыўных прававых актаў, якія непасрэдна адносяцца да сферы адукацыі.

**– Якія з іх былі асноўнымі?**

– Да прыняцця кодэкса аснову нарматыўнай базы сферы адукацыі складалі пяць законаў. У тым ліку прыняты ў 1991 г. Закон "Аб адукацыі" і законы, якія рэгулююць грамадскія адносіны ў сферы прафесійна-тэхнічнай (2003), спецыяльнай (2004), агульнай сярэдняй (2006) і вышэйшай адукацыі (2007), а таксама Дэкрэт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 17 ліпеня 2008 г. № 15 "Аб асобных пытаннях агульнай сярэдняй адукацыі".

Ключавое месца ў нацыянальным заканадаўстве аб адукацыі займаў Закон Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі", але ў ім шматлікія важныя пытанні, якія патрабуюць заканадаўчага замацавання, засталіся па-за сферай рэгулявання.

**– І што гэта за пытанні?**

– Нягледзячы на праведзеную вялікую работу па стварэнні заканадаўчай базы, адсутнічала рэгуляванне спецыяльнымі законамі шэрагу ўзроўняў асноўнай і дадатковай адукацыі. Напрыклад, дашкольнай, сярэдняй спецыяльнай, адукацыі пасля ВНУ, пазашкольнага выхавання і навучання, павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў.

Акрамя таго, адсутнічала заканадаўчае рэгуляванне пытанняў арганізацыі ва ўстановах адукацыі выхаваўчай працы, сістэмы працы па падтрымцы дзяцей, якія дасягнулі высокіх паказчыкаў у вучэбнай і грамадскай рабоце, а таксама дзяцей, якія знаходзяцца ў сацыяльна небяспечным становішчы, і інш.

**– Можна сказаць, што прыняцце кодэкса было прадыктавана неабходнасцю забяспечыць поўнае і сістэмнае рэгуляванне прававых нормаў, на аснове якіх ажыццяўляецца адукацыйны працэс на ўсіх узроўнях?**

– Цалкам дакладна. Акрамя гэтага, у сферы адукацыі патрабавалася ўдасканаленне заканадаўства для больш эфектыўнага забеспячэння інавацыйнага развіцця краіны, а таксама фарміравання агульнаадукацыйнай прасторы Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, краін СНД, ЕўрАзЭС, уваходжання ў "еўрапейскую прастору вышэйшай адукацыі".

**– Сяргей Аляксандравіч, Вы адзначалі, што аснову нарматыўнай базы сферы адукацыі складалі пяць законаў. Скажыце, яны зведалі нейкія змены, увайшоўшы ў кодэкс?**

– У кодэксе захаваны канцэптуальны змест аб'яднаных у ім актаў. Толькі ў асобных выпадках некаторыя нормы былі перапрацаваны. Важна, што ў кодэксе ўзгоднены нормы заканадаўства аб адукацыі з нормамі іншых галін права Рэспублікі Беларусь.

**– Што дасць уступленне кодэкса ў сілу з 1 верасня 2011 г.?**

– Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адукацыі дазволіць паспяхова вырашыць шэраг узаемазвязаных задач. Ён створыць адзіны механізм прававога рэгулявання ў галіне адукацыі. Адбудзецца скарачэнне колькасці нарматыўных прававых актаў, якія дзейнічаюць у гэтай сферы. Рэгуляванне часткі адносін у сферы адукацыі будзе павышана да заканадаўчага ўзроўню. Прыбяруцца супярэчнасці, дубляванне ў прававым рэгуляванні адносін у сферы адукацыі.

**– Гэта ўсё ў тэорыі. Давайце пагаворым пра канкрэтнае. Па структуры кодэкс падраздзяляецца на агульную і асобную часткі, якія ўключаюць 17 раздзелаў, 63 главы і 295 артыкулаў. Што гэта значыць?**

– У агульную частку праекта кодэкса ўключаны раздзелы і артыкулы, якія забяспечваюць прававое рэгуляванне пытанняў, агульных для ўсіх узроўняў адукацыі.

У асобнай частцы ўстанаўліваюцца нормы, якія замацоўваюць спецыфіку адукацыйных адносін як самастойнага віду грамадскіх адносін на адпаведных узроўнях асноўнай і дадатковай адукацыі: дашкольнай, агульнай сярэдняй, прафесійна-тэхнічнай, сярэдняй спецыяльнай, вышэйшай, адукацыі пасля ВНУ, дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі, дадатковай адукацыі дарослых. Тут жа прадугледжаны нормы па падтрымцы дзяцей, якія дасягнулі высокіх паказчыкаў у вучэбнай і грамадскай рабоце, дзяцей, якія маюць патрэбу ў аздараўленні, дзяцей, якія знаходзяцца ў сацыяльна небяспечным становішчы, і дзяцей, якія маюць патрэбу ў асаблівых умовах выхавання.

У агульнай частцы кодэкса вызначаны асновы дзяржаўнай палітыкі ў сферы адукацыі. Напрыклад, такія, як прыярытэтнасць адукацыі, дзяржаўна-грамадскі характар кіравання, свецкі характар адукацыі і інш. Устаноўлены дзяржаўныя гарантыі правоў у сферы адукацыі.

**– Да нядаўняга часу можна было назіраць блытаніну ў паняццях: пачатковая, базавая, сярэдняя, няпоўная (няскончаная) вышэйшая адукацыя. У кодэксе прапісана, што адукацыя падраздзяляецца на асноўную, дадатковую і спецыяльную. Расшыфруйце, калі ласка, для нашых чытачоў гэтыя паняцці.**

– У адпаведнасці з Кодэксам Рэспублікі Беларусь аб адукацыі асноўная адукацыя ўключае: дашкольную, агульную сярэднюю, прафесійна-

тэхнічную, сярэднюю спецыяльную, вышэйшую адукацыю, адукацыю пасля ВНУ, якая ўключае аспірантуру і дактарантуру.

Спецыяльную адукацыю атрымліваюць асобы з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.

Дадатковая адукацыя падзяляецца на наступныя віды: дадатковая адукацыя дзяцей і моладзі і дадатковая адукацыя дарослых.

**– Відавочна, што такое паняцце, як курсы павышэння кваліфікацыі і ім падобныя, зжыло сябе. Што прыходзіць ім на змену?**

– У кодэксе ўводзіцца паняцце “адукацыйныя праграмы”, якія ўключаюцца ў асноўную, дадатковую і спецыяльную адукацыю. Такі падыход забяспечвае рэалізацыю на практыцы прынцыпу акадэмічнай мабільнасці, будзе спрыяць пашырэнню студэнцкіх абменаў у рэчышчы Балонскага працэсу.

**– Цяпер усё часцей гавораць пра дыстанцыйную адукацыю. Гэта знайшло адлюстраванне ў кодэксе?**

– Вядома. Дыстанцыйная форма атрымання адукацыі вызначана як від завочнай.

**– Кодэкс будзе рэгламентаваць дзейнасць адукацыйных установаў ад “а” да “я”. Але цяпер нават школа мае статус юрыдычнай асобы. Ці паменшыцца ступень самастойнасці той жа школы?**

– У кодэксе фіксуюцца правы, абавязкі і адказнасць суб’ектаў адукацыі. У прыватнасці, вызначаецца норма, у адпаведнасці з якой установы адукацыі самастойныя ў ажыццяўленні адукацыйнай, навуковай, навукова-тэхнічнай, фінансавай дзейнасці, дзейнасці па навуковаметадычным забеспячэнні адукацыі, падборы і расстаноўцы кадраў. Але ў межах заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**– Вы выступаеце за павышэнне сацыяльнага статусу настаўніка. Такія перадумовы закладзены ў кодэксе?**

– Настаўнік ва ўсе часы ў беларусаў карыстаўся непахісным аўтарытэтам. Ён не толькі вучыў, але і быў мудрым дарадцам розным пакаленням. Заўсёды стаяў у цэнтры грамадскага жыцця. Як носьбіт духоўнай культуры, ведаў і высокай маралі ўяўляў для грамадства жыццёва важную каштоўнасць. Настаўнік – гэта люстраны адбітак грамадства. I калі яму дрэнна, то карані шукаць трэба ў саміх сабе. Заклікаю берагчы настаўніка, паважаць яго працу. Менавіта ад яго залежыць наша сучаснасць і будучыня.

Сацыяльны статус настаўнікаў трэба павышаць, і такія магчымасці закладзены ў кодэксе. Педагагічныя работнікі маюць права на абарону прафесійнага гонару і годнасці, творчую ініцыятыву, свабоду выбару педагагічна абгрунтаваных формаў і метадаў навучання і выхавання, вучэбных выданняў і сродкаў навучання. Пазначана, што яны маюць права на штомесячную кампенсацыю расходаў на набыццё вучэбнай і метадычнай літаратуры ў парадку і на ўмовах, якія вызначаюцца Урадам Рэспублікі Беларусь. Настаўнік становіцца стрыжнёвай фігурай у вядзенні адукацыйнага працэсу.

Варта адзначыць, што ўпершыню заканадаўча замацаваны нормы, якія забараняюць ажыццяўляць педагагічную дзейнасць. Ёю не могуць займацца асобы, якія маюць судзімасць, прызнаныя недзеяздольнымі або абмежавана дзеяздольнымі. Кодэксам вызначаны і іншыя выпадкі, прадугледжаныя заканадаўчымі актамі.

**– Гэта адзін бок адукацыйнага працэсу. Суб’ектам яго з’яўляюцца і навучэнцы. Якое месца ў кодэксе адведзена гэтай катэгорыі?**

– Устаноўлены асноўныя правы і абавязкі навучэнцаў. Яны маюць права: атрымліваць адукацыю ў адпаведнасці з адукацыйнымі праграмамі, пераводзіцца ва ўстановы для атрымання іншай спецыяльнасці, аднаўляцца, навучацца па індывідуальным вучэбным плане ў межах зместу адукацыйнай праграмы і інш.

Дзяржавай гарантаваны стварэнне спецыяльных умоў для атрымання адукацыі з улікам асаблівасцей псіхафізічнага развіцця навучэнца, ахова жыцця і здароўя падчас адукацыйнага працэсу, бясплатнае псіхолага-медыка-педагагічнае абследаванне ў дзяржаўных цэнтрах карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі, карыстанне падручнікамі і вучэбнымі дапаможнікамі, забеспячэнне стыпендыяй і іншымі грашовымі выплатамі, месцам для пражывання, кампенсацыя расходаў па найманні жылля ў выпадку незабеспячэння месцам у інтэрнаце.

Заканадаўча замацавана права на крэдыт на льготных умовах для аплаты першай вышэйшай адукацыі.

Акрэслена кола абавязкаў навучэнцаў. Яны абавязаны добрасумленна і адказна ставіцца да засваення зместу адукацыйных праграм, праграм выхавання. Нормай павінен стаць клопат пра сваё здароўе, імкненне да маральнага, духоўнага і фізічнага развіцця і самаўдасканалення. Навучэнец павінен выконваць патрабаванні ўстаноўчых дакументаў, правілаў унутранага распарадку, правілаў пражывання ў інтэрнатах, паважаць гонар і годнасць іншых удзельнікаў адукацыйнага працэсу. У кодэксе прапісана норма беражлівых адносін да маёмасці ўстано-

вы адукацыі, а таксама індывідуальнага прадпрымальніка, якім у адпаведнасці з заканадаўствам даецца права ажыццяўляць адукацыйную дзейнасць.

**– Распрацоўка кодэкса, яго шырокі тэрміналагічны спектр павінны былі пацягнуць за сабой удакладненні паняційнага апарату ўсёй сістэмы адукацыі…**

– Гэта трэба асабліва падкрэсліць. Распрацоўка кодэкса пацягнула за сабой удакладненне паняційнага апарату ўсёй сістэмы адукацыі і напаўненне яе іншымі паняццямі. Напрыклад, упершыню на заканадаўчым узроўні будуць урэгуляваны пытанні дысцыплінарнай адказнасці навучэнцаў. У заканатворчай практыцы ўпершыню ўстанаўліваецца паняцце “дысцыплінарная правіннасць”, вызначаецца парадак і меры дысцыплінарнай адказнасці, кампетэнцыя і паўнамоцтвы службовых асоб.

**– Прававое рэгуляванне будзе тычыцца ўсіх узроўняў адукацыі. Назавіце, калі ласка, асноўныя асаблівасці кожнага з іх.**

– Асаблівасцю прававога рэгулявання грамадскіх адносін у сістэме дашкольнай адукацыі з’яўляецца замацаванне на заканадаўчым узроўні патрабаванняў да наяўнасці адукацыйных стандартаў і ўсталяванне вычарпальнага пераліку тыпаў і відаў дашкольных устаноў, тэрмінаў атрымання адукацыі.

У якасці асноўнага віду агульнаадукацыйнай установы захоўваецца агульнаадукацыйная школа. Агульнаадукацыйная школа становіцца 11-гадовай, а базавая адукацыя – 9-гадовай.

Для падрыхтоўкі навучэнцаў на больш высокім агульнаадукацыйным узроўні ў сістэме агульнай сярэдняй адукацыі прадугледжана функцыянаванне гімназій і ліцэяў (1-2 установы на раён). Галоўная задача гэтых устаноў – вызначаць перспектывы сістэмы агульнай сярэдняй адукацыі.

Нормы кодэкса, якія рэгулююць сістэму прафесійна-тэхнічнай адукацыі, забяспечваюць інтэграцыю прафесійна-тэхнічнай адукацыі з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй і ўзаемадзеянне ўстаноў, якія забяспечваюць атрыманне прафесійна-тэхнічнай адукацыі, з арганізацыямі розных галін эканомікі.

У кодэксе прававое замацаванне атрымала ідэя інтэграцыі сярэдняй спецыяльнай адукацыі з прафесійна-тэхнічнай і вышэйшай адукацыяй. У гэтых мэтах у якасці віду ўстановы сярэдняй спецыяльнай адукацыі вызначаны каледж.

У раздзеле “Вышэйшая адукацыя” захоўваюцца прынцыпы і падыходы, замацаваныя ў Законе Рэспублікі Беларусь “Аб вышэйшай адукацыі”. У тым ліку двухступеньчатая сістэма вышэйшай адукацыі з падрыхтоўкай на першай ступені спецыяліста, а на другой ступені вышэйшай адукацыі (магістратуры) – магістра, што забяспечвае захаванне прынцыпаў масавасці і элітнасці вышэйшай адукацыі.

Нормы кодэкса значна пашыраюць прававое поле рэгулявання грамадскіх адносін, на ўзроўні вышэйшай адукацыі звязаных з акадэмічнай мабільнасцю, працаўладкаваннем выпускнікоў, прыцягненнем замежных абітурыентаў, улічваюць патрэбы інавацыйнага развіцця эканомікі.

Засваенне адукацыйнай праграмы навучання пасля ВНУ завяршаецца выдачай дыплома даследчыка.

Упершыню заканадаўчае замацаванне атрымала сістэма дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі, што раней называлася пазашкольным навучаннем і выхаваннем. Значныя змены зведалі віды ўстаноў дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі, колькасць якіх была скарочана ў мэтах аптымізацыі і прыведзена ў адпаведнасць з адукацыйнымі праграмамі.

Сістэма дадатковай адукацыі дарослых (раней – павышэнне кваліфікацыі і перападрыхтоўка кадраў) таксама ўпершыню замацавана заканадаўча. Неабходна адзначыць, што абагульненне нормаў, якія рэгулююць павышэнне кваліфікацыі і перападрыхтоўку кадраў, усталявала прававыя асновы для забеспячэння рэалізацыі прынцыпаў бесперапыннасці адукацыі на працягу ўсяго жыцця.

Раздзел “Спецыяльная адукацыя” кодэкса пашырае нормы і прынцыпы, закладзеныя Законам Рэспублікі Беларусь “Аб адукацыі асоб з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця (спецыяльнай адукацыі)”. Нормы кодэкса рэгламентуюць прымяненне розных арганізацыйных формаў, метадаў і сродкаў навучання, у тым ліку выкарыстанне тэхналогій дыстанцыйнага навучання з улікам спецыфікі фізічных і (або) псіхічных парушэнняў.

**– Сяргей Аляксандравіч, ацэньваючы пройдзены шлях па стварэнні кодэкса, ці можам мы гаварыць пра з’яўленне галіны адукацыйнага права?**

– Прыняцце кодэкса завяршае працэс фарміравання заканадаўства аб адукацыі як поўнай, лагічна паслядоўнай і эфектыўнай сістэмы прававых нормаў, тым самым ствараецца новая галіна права – адукацыйнае права. Кодэкс – гэта “канстытуцыя” ў адукацыі. Несумненна тое, што прыняцце кодэкса забяспечвае ўдасканаленне праваадносін у сферы адукацыі і будзе спрыяць павышэнню якасці адукацыі.

Гутарыў **Віктар ІЎЧАНКАЎ.**



# ЛІТАРАТУРА І ЧАС

*З архіваў часу*

Сяргей ШАПРАН

## "ЛЁС ТАКІХ ЗАЎЖДЫ САМЫ ТРАГІЧНЫ"

### ВЫБРАНАЕ З ПЕРАПІСКІ ВАСІЛЯ БЫКАВА І МІКОЛЫ ПАШКЕВІЧА

20 мая споўнілася б 75 гадоў Міколу Пашкевічу (1936 – 1972). Гэта пра яго, настаўніка беларускай мовы і літаратуры са Сваткаўскай сярэдняй школы, напісаў Васіль Быкаў: "Цяпер такіх людзей мала, Мікалай Арсеньевіч сярод іх быў, мабыць, самы лепшы, самы самаадданы". І гэта яго памяці прысвяціў аповесць "Абеліск". Быкаўскае прысвячэнне стала першым з трох, пазней пісьменнік ахвяруе свае творы толькі Уладзіміру Караткевічу і Рыгору Барадуліну.



**Мікола Пашкевіч і Васіль Быкаў.**

Нарадзіўся Мікола Пашкевіч у сялянскай сям'і ў вёсцы Гарадзішча Вілейскага павета Віленскага ваяводства (цяпер – Мядзельскі раён Мінскай вобласці). У час Вялікай Айчыннай вайны, калі бацька са старэйшым сынам быў на фронце, маці з шасцю меншымі дзецьмі засталася ў вёсцы пад акупацыяй. Зразумела, што ў школу Мікола Пашкевіч пайшоў позна – толькі ў 1945-м. Пасля быў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і выкладанне беларускай мовы і літаратуры на радзіме – у Сваткаўскай сярэдняй школе. Тут малады настаўнік узначальваў гурток паэзіі "Маладая рунь", выпускаў насценную газету і альманах. У 1967 г. паступіў у аспірантуру Інстытута літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі, але па стане здароўя не змог яе скончыць і вярнуўся да працы ў школе.

Гасцямі школьнага гуртка беларускай літаратуры, які вёў Мікола Пашкевіч, былі многія вядомыя пісьменнікі. Н. Гілевіч сведчыў, што прыкмеціў Міколу Пашкевіча, "гэтага вельмі сімпатычнага і вельмі ж беларускага па абліччы хлопца", яшчэ тады, калі той быў студэнтам і "падкрэслена ветліва" даваў Гілевічу "добры дзень!"*. Да таго ж часта сустракаў М. Пашкевіча з сябрамі-аднакурснікамі В. Рагойшам і Л. Акаловічам у мінскіх кнігарнях – "апантаныя кнігалюбы, яны дапамагалі арганізаваным чынам прапагандаваць беларускую літаратуру". Але, мабыць, найбольш характарызуе М. Пашкевіча такі вось эпізод, пра які распавядаў Ніл Сымонавіч: «Яшчэ адна незабыўная сустрэча з Міколам Пашкевічам адбылася ў Мядзелі, якая прадоўжылася ў Міхася Лынькова на Нарачы. У Мядзел, у школу, нас – В. Быкава, М. Аўрамчыка і мяне – запрасіў мой былы аднакурснік па БДУ Кастусь Каратай. Упусціць такую магчымасць – паслухаць пісьмен-

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1.*

* Тут і далей цытуецца паводле: **Гілевіч, Н.** Светлай, паэтычнай душы беларус : згадка пра Міколу Пашкевіча / Н. Гілевіч // Збор твораў : у 23 т. / Н. Гілевіч. – Мінск, 2010. – Т. 5. – С. 321 – 323.

нікаў – Пашкевіч не мог, і прыджгаў са Сватак у Мядзел, і ў час сустрэчы ўсё запісваў і запісваў нешта ў свой нататнік. Даведаўшыся, што мы з Мядзела паедзем праведаць Міхася Лынькова на ягоным лецішчы на беразе Нарачы, Мікола страшэнна расхваляваўся: як бы гэта каб і яму апынуцца там, на сустрэчы з Лыньковым? Пачалі садзіцца ў машыну, а яна маленькая, чатырох на заднім сядзенні ніяк не памесцяцца, бо і траім цеснавата. Выгляд у Міколы быў проста няшчасны – так засмуціўся, што яму месца няма, у Лынькова разам з намі пабыць не зможа. І раптам усклікнуў: “Дазвольце, я тут прымашчуся, у вас за спінамі! Я скручуся і ўлягуся! Дазвольце! Вельмі прашу вас!..” Падумалі – жартуе? Не! Глядзіць такімі жаласнымі вачыма, што на жарт зусім не падобна. І Быкаў сказаў: “Ну, Мікола, такой любові да беларускай літаратуры я яшчэ не бачыў. Але ад міліцыі – калі затрымае – будзеш адкарасквацца сам”. На шчасце, у нашай “калясцы” месца “за спінамі” было трохі больш прасторнае, чым звычайна ў легкавых аўто. Ну і міліцыя, дзякаваць Богу, не затрымала. Так і даехалі да Міхася Лынькова, і добрую гадзіну са старым нарачанцам прагутарылі. Шчаслівейшым за ўсіх нас чуўся, канешне ж, Мікола. І, як і ў Мядзелі, таксама стараўся занатаваць гаворку са старэйшынам беларускай літаратуры».

Гэта была, відаць, ужо не першая сустрэча М. Пашкевіча з В. Быкавым (на карысць гэтаму сведчыць цытаваны ніжэй ліст В. Быкава ад 18 мая 1971 г.). Першая адбылася тады, калі Васіль Уладзіміравіч наведаў Сваткаўскую школу, пра што пасля пакінуў запіс:

*“З вялікім задавальненнем пішу гэты водгук аб наведанні цудоўнай школы ў Сватках, якая, на маю думку, з’яўляецца красамоўным прыкладам для многіх школ Беларусі ў справе выхавання моладзі ў духу пашаны да роднай культуры, літаратуры і мастацтва. Як нідзе ў іншай школе, у Сватках любяць і ведаюць сучасную беларускую літаратуру, нікуды ў іншае месца не ездзяць з такой ахвотай беларускія пісьменнікі. Тут мы знаходзім надзвычай удзячных і дужа цікаўных нашых чытачоў, ведаем, што ў Сватках усё напісанае намі трапіць па адрасу, вучні тут растуць дапытлівыя і цікаўныя да ведаў і найперш да ўсяго, што адносіцца да роднай беларускай культуры. Дзякуй за гэта выкладчыкам Сваткаўскай СШ, яе дырэктару, завучу і найперш вялікаму энтузіясту беларускай культуры Міколу Пашкевічу.*

*Вялікіх Вам поспехаў і добрага здароўя жадае*

*Ваш Васіль Быкаў.*

*29 красавіка 1971 г.”** [1, арк. 5].

* Можа быць датавана кастрычнікам 1971 г., бо з просьбай пра такі водгук М. Пашкевіч звярнуўся да В. Быкава ў лісце ад 21 кастрычніка 1971 г., прасіў пры гэтым, каб была пазначана дата наведвання Сваткаўскай школы – 29 красавіка 1971 г.

Упершыню М. Пашкевіч запрасіў В. Быкава наведаць школу, дзе працаваў, у лютым 1970 г. І хоць Васіль Уладзіміравіч адказаў згодай, аднак больш за год не мог выбрацца на Мядзельшчыну, з нагоды чаго М. Пашкевіч неаднойчы звяртаўся да яго пісьмова і ў тэлефонных размовах. У шчыра-прастадушных лістах сельскі настаўнік прама выказваў свае пачуцці, аднак побач са словамі вялікага захаплення (*“Вы – мой КУМІР!!!”*) часам прысутнічаюць працілеглыя выказванні, бо В. Быкаў хоць і абяцаў прыехаць, але кожны раз паездка адкладалася. У выніку, не вытрымаўшы, М. Пашкевіч выплёскваў на паперу хвалю эмоцый: *“…у мяне ўсё перамяшалася: крыўда і непаразуменне з павагай і добразычлівасцю да вас, злосць і абурэнне змяняліся са шчырасцю і вялікаснасцю адносін да вас, адным словам, пачуцці зблыталіся з розумам адносна вас як чалавека і пісьменніка”.*

Разам са сваімі калегамі малады настаўнік літаральна жыў будучай сустрэчай з В. Быкавым: *“Мы ўжо бачым вас сярод школьнікаў вясёлым і шчырым субяседнікам,* – напіша ён у адным з лістоў, – *альбо ўяўляем, як вы хочаце адпачыць ад аўтографаў, ад даверлівых поглядаў вучняў, з сарамлівасцю трымаючых вашы кніжкі, ці вы давяраеце нам – сапраўдным беларусам! – свае таямнічыя думкі і згадкі, сваё моцна-хісткае становішча і г. д. Колькі розных думак роіцца ў галаве!”* І неаднойчы тлумачыў, чаму гэтая сустрэча так патрэбна вучням і асабіста яму: *“…хочацца пачуць граматную думку, разумнае слова, што адаб’ецца на прышчэпцы любві вучням да роднага слова, да матчынай мовы, што мяне заўсёды хвалюе, турбуе і кідае ў хваробу”.*

Ён так прыспешваў падзеі, быццам жыў з адчуваннем, што засталося яму на гэтым свеце не шмат, зусім ужо трошачкі, і таму так настойліва і неадступна запрашаў, маліў В. Быкава завітаць у Сваткаўскую школу. Аднойчы нават зрабіў нечаканае прызнанне: *“…востра дакараю сябе за такую неадчэпную назойлівасць, нібы ад вашага прыезду сапраўды залежыць мой лёс, маё пахіснуўшаеся ў аспірантуры здароўе, з-за чаго я і зноўку аказаўся ў школе пасля здачы кандыдацкага мінімуму. Нібы ўсё гэта залежыць ад вашага прыезду”.*

Быкаўскія лісты ў адказ – таксама своеасаблівы ўзор эпісталярыю. Сусветна вядомы пісьменнік, які ўжо меў у той час мільённыя наклады, адчуваў сябе вінаватым і не саромеўся ў тым прызнавацца: *“Я гэтым самым прашу ў Вас і Вашых вучняў прабачэння, але ж не наўмысна падвёў Вас. Акалічнасці, нярэдка здараецца, усё яшчэ мацнейшыя за нас”.*

Больш за тое, ён, здаецца, ніколькі не крыўдзіўся на сельскага настаўніка за яго эмацыйны максімалізм і, як сапраўдны інтэлігент, не адмаўляўся ад дадзенага абяцання: *"Я адчуваю, што вінаваты, таму хачу гэтым лістом дамовіцца канчаткова і катэгарычна"*. Калі ж В. Быкаў урэшце наведаў Сваткаўскую школу, М. Пашкевіч прысвяціў доўгачаканаму госцю верш:

*Сёння ў нашай школе гадавое свята,*
*Радасць спавівае сонечны прасцяг,*
*Весняе паветра спевамі багата –*
*Сёння Васіль Быкаў у нас у гасцях!*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Мы штодня чакаем вашых новых твораў.*
*Знаем: талент – кара, вольная турма.*
*Ды любоў не знае цяжкасцяў, дакораў…*
*Вось таму, што любім, – скідкі вам няма*.*

Зрэшты, не толькі пра запрашэнне ішла гаворка ў гэтым ліставанні: вось М. Пашкевіч пытаецца пра лёс Аляксандра Твардоўскага (бо каму з беларускіх пісьменнікаў, як не В. Быкаву, было ведаць пра гэта: у "Новом мире" А. Твардоўскі надрукаваў тры яго аповесці); уздымае *"пытанне нацыянальнага характару"*, якое *"штосекундна турбуе заўсёды"*; а вось тлумачыць сэнс свайго жыцця: *"Маё найвялікшае шчасце ў тым і заключаецца, каб прышчапіць Людзям, Чалавеку, Вучню любоў да роднага слова, любоў да сапраўднага мастацкага палатна…"* Ці іншым разам апісвае ўражанне ад "Сотнікава", а пазней захапляецца "Абеліскам". І калі ў апошнім выпадку В. Быкаў спачатку адказаў даволі стрымана («*Дзякуй за добрыя словы з повaду "Абеліска" – напісаў, як разумеў, як адчуваў, з упэўненасцю, што беларускае настаўніцтва заслугоўвае шмат лепшага, – зарабіла за шмат гадоў сваёй працы ў народзе*»), то калі даведаўся пра невылечную хваробу М. Пашкевіча, сам ужо даў волю пачуццям: «*Жыццё складанае, цяжкое, а добрых людзей менш чым благіх і мусіць, таму добрым дастаецца болей хібаў. Кожны з іх у меру сваіх сіл і разуменняў робіць тое, што лічыць неабходным, і ты ў ліку гэтых людзей – адзін з першых. <…> Пішучы свой "Абеліск", я меў на ўвазе такіх настаўнікаў, як ты, шаноўны Мікола Пашкевіч. Няхай гэтае прызнанне зменшыць твае пакуты ад хворасці і, можа, дасць трохі сілы перамагчы яе*». І гэтае прызнанне сапраўды на нейкі час падтрымала сваткаўскага настаўніка…

Памяць пра Міколу Пашкевіча Быкаў пранёс праз усё жыццё. *"То быў выдатны настаўнік – энтузіяст беларушчыны, бясконца захоплены літаратурай"*, – напісаў ён праз тры дзесяцігоддзі ў "Доўгай дарозе дадому" [2]. А яшчэ, у хуткім часе пасля смерці Мікалая Арсеньевіча, ахвяраваў яму свой "Абеліск" – тую самую аповесць, якая, на думку М. Пашкевіча, *"павінна з'явіцца настольнай кнігай кожнага настаўніка"*. Так Васіль Быкаў засведчыў сваю павагу і чалавечую прыязнасць, так назаўсёды засталося ў гісторыі беларускай літаратуры імя 35-гадовага настаўніка з Мядзельшчыны Міколы Пашкевіча.



**МІКОЛА ПАШКЕВІЧ – ВАСІЛЮ БЫКАВУ****

Васіль Уладзіміравіч, добры дзень!

Дазвольце быць перад вамі з наросхрыстанай душой… Піша Вам незнаёмы настаўнік з-пад Нарачы, ёсць такая вёска Сваткі. У нашай школе-дзесяцігодцы пабывалі І. Навуменка, Н. Гілевіч, Я. Семяжон, А. Лойка, М. Аўрамчык, У. Караткевіч, Р. Барадулін, Г. Бураўкін. Некаторыя з іх і неаднойчы. Як бачыце, нашы вучні бачылі жывога паэта, пісьменніка, і таму не зусім усе абыякавыя да мастацкіх твораў, да роднай літаратуры. <…>

Мы вырашылі абмеркаваць вашую кнігу "Альпийская балада", і не па кіно, а па твору. Улічваючы вучнёўскія пытанні і, вядома, многія згадкі і непаразуменні настаўнікаў, я і вырашыў звярнуцца да вас за адказам, што "вытрымае" папера. Я разлічваю ўзняць гаворку не толькі пра "Альпійскую баладу", але і пра "Здраду", "Трэцюю ракету", "Жураўліны крык" – кнігу, і пра зб[орнік] "Адна ноч", і пра аповесць "Праклятая вышыня" (шкадую, што няма "Круглянскага мосту"). А таму і пытанні ўзніклі самыя разнастайныя і рознай шырыні. <…>

P. S. У школе мне прыйшлося весці нейкі час гурток паэзіі "Маладая рунь". Будучы ў аспірантуры ў Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы, мне пашчасціла [неразб.] выдаць альманах сваіх гурткоўцаў, і дасылаю вам яго. Пазнаёмцеся з творчасцю нашых вучняў, іх нясмелымі спробамі пяра. Так што на дасланыя вам намі пытанні мы не застанемся глухімі, не для знешняга этыкету напісаныя яны. Вучні любяць літаратуру, разумеюць яе выснову, сёе-тое з задумаў аўтараў і г. д. Вы ж падорыце ім жывое слова, жывую думку, шчаслівую хвіліну ў жыцці. О, як бы хацелася ўсім нам бачыць вас на нашай зямлі, у нашай школе! Быў бы, здаец-

* Захоўваецца ў асабістым архіве В. Быкава ў Мінску.

** Частка лістоў М. Пашкевіча друкуецца па арыгіналах, якія захоўваюцца ў малодшага сына пісьменніка Васіля Васілевіча Быкава ў Гродне; частка прыводзіцца па публікацыі: **Дыялог з Васілём Быкавым** / уступ. слова, публ. В. Жука // Дзеяслоў. – 2005. – № 2 (15).

ца, самалёт-таксі – абавязкова прыслалі б за вамі пры вашай згодзе. А можа што атрымаецца, Васіль Уладзіміравіч? Зрабіце свята ў нашым калектыве, здорава любячым вас і не багата ведаючым вас школьнікам і настаўнікам. Ходзіць аўтобус Гродна – Мядзель, а тут не бяда, мы ад мікрасталіцы 20 км. Будзьце добразычлівымі, калі ласка, да нас!

Душою і розумам

вашыя вучні

і настаўнікі Сваткаўскай школы.

Жыву я ў в. Гарадзішча.

4.02.1970 г.

**ВАСІЛЬ БЫКАЎ – МІКОЛУ ПАШКЕВІЧУ**

Паважаны Мікола Пашкевіч!

Я шчыра дзякую за добрыя словы прысвячэння і за ўвагу, выказаную прысланнем кніжкі. Вы так многа паставілі перада мной пытанняў, што, відаць, адказаць на іх давядзецца ўсё ж вусна. Як-небудзь бліжэй да лета я пастараюся прыехаць да вас, тады пагаворым аб усім падрабязна.

Аб тым я паведамлю дадаткова.

А пакуль што шлю Вам асабіста і ўсім гурткоўцам самыя найлепшыя пажаданні.

Бывайце здаровы.

Са шчырасцю В. Быкаў

12/II – 70 г. [1, арк. 1].

**МІКОЛА ПАШКЕВІЧ – ВАСІЛЮ БЫКАВУ**

Васіль Уладзіміравіч,

родны, блізкі, дарагі!

Здорава мы (дырэктар школы Барыс Сцяпанавіч – матэматык, Вольга Іванаўна – літаратар, жонка дырэктара, які здорава рысуе… вучні школы, хто разумее адважнасць вашых твораў, і я) абрадаваліся, калі прачыталі: “Як-небудзь бліжэй да лета я пастараюся прыехаць да вас…” <…>

Не ведаю чаму, толькі я вашым словам веру да фанатычнасці, як самому сабе. Таму так і ўзрушаны мы вашым дакляраваннем.

Мы рады сустрэць і прыняць вас у любы дзень і любой парою: зімой, вясной, летам. <…>

Надзейна спадзяемся на ваш прыезд – гэтым я ўжо і жыву, і дыхаю. Мы пастараемся зрабіць усё магчымае, што ад нас будзе залежыць, для вашага шчаслівага прыезду і ўдачнага вяртання дадому. А пакуль што прыміце ўпэўненне ў нашай сардэчнай павазе з пажаданнем у гэтую святочную ўрачыстасць без банальных слоў: ад душы для душы… зямнога па-зямному вам шчасця на гонях роднай літаратуры!

Кажуць, што Аляксандр Трыфанавіч* не рэдактар часопіса, ці праўда? Дзе ён і кім ён? У мяне ёсць “Новый мир” № 5, 1968 г. Гегель пісаў, што ўсё прыгожае раней гіне. Гэта, мусіць, аб'ектыўная ісціна. Усяго найлепшага вам ад усіх школьнікаў і настаўнікаў.

Мікола. 18.ІІ.70 г.**

Дарагі Васіль Уладзіміравіч!

Няўжо такі вірлівы пачатак узбуджэння радасці і прыемнасці закончыцца незразумелым расчараваннем? Як не хочацца згаджацца з розумам, з набліжэннем апошніх хвілінаў надзеяў і спадзяванняў, з тым, што вы панапраўду не завітаеце да нас. Страшэнна не хочацца верыць. Мне вельмі непрыемна: такая смелая і ўзнёслая рэклама, запэўніванне вучняў у нечым бажэсцвенным і раптам… Браток ты мой (прабачце за такую форму звароту), мне сур'ёзна хацелася б пагаварыць з адценнем смутку і надзеяў. <…>

Мне хочацца аднаго: зразумейце мяне. І просьба адна: дайце катэгарычны і надзейны адказ. Прыедзеце – дата, не прыедзеце… ну што ж, нідзе не дзенешся, прыйдзецца згадзіцца. Вучні – дзеці. Яны ўсё пакуль што прымаюць за чыстую манету. Іх можна скіраваць у любы бок, яны павераць. Розумам іх можна даказаць, але паспрабуй пераканаць іх пачуцці, іх чаканне і спадзяванне. Шчыра скажу, не бяруся, бо наўрад ці хто змог зрабіць падобны паварот са мною. Праўда, <u>час</u> зробіць сваю справу. Ды з цягам часу можа змяніцца якасць прадмету ў любы бок.

Карацей кажучы, Васіль Уладзіміравіч, за вамі апошняе слова. Да пісьма, да сустрэчы.

Паважаючыя вас школьнікі і яшчэ сёй-той з добрымі пажаданнямі ад імя ўсіх добразычліўцаў

Мікола.

5.06.70 г.

**ВАСІЛЬ БЫКАЎ – МІКОЛУ ПАШКЕВІЧУ**

Шаноўны Мікалай Пашкевіч!

Нам з Вамі яўна не пашэнціла ў гэтую вясну – так навалілася на мяне клопату ды і хвароба, што, як бачыце, у маі-чэрвені паездка не адбылася. Запіску Вашу знайшоў 28[-га] па прыездзе з Масквы, дзе даўгавата прабыў, а цяпер, вядома, няма сэнсу рушыць. Значыцца адкладзем на восень – верасень-кастрычнік, авось тады лепш пашанцуе.

---

* Аляксандр Трыфанавіч Твардоўскі.

** Рукапісная паштоўка. Архіў В. Быкава ў Гродне.

Я гэтым самым прашу ў Вас і Вашых вучняў прабачэння, але ж не наўмысна падвёў Вас. Акалічнасці, нярэдка здараецца, усё яшчэ мацнейшыя за нас.

Усяго Вам найлепшага ўлетку, з вінаватасцю В. Быкаў.

30/VI – 70 г. [1, арк. 2].

**МІКОЛА ПАШКЕВІЧ – ВАСІЛЮ БЫКАВУ**

Васіль Уладзіміравіч,

родны, блізкі, дарагі! – як у свой час пра бацьку пісаў П. Трус… <…> Няхай думаюць некаторыя, як хочуць, толькі мне было да незразумелага здзіўлення балюча, што потым перайшло ў падсвядомую крыўду на вас і па сёння я не ўсё разумею, калі, праглядаючы часопіс "Новый мир", убачыў: «"Сотников" В. Быков» і без подпісу, без заўсёдашняга "перевел на русский язык автор" ці "авторизированный перевод"*. Няўжо, думаю, ён стаў рускім пісьменнікам, няўжо, думаю, жыццё зрабіла такую брыдкую справу, як некалі М. В. Гогаль лічыўся ды і лічыцца рускім класікам, хаця ўсе абрады, павер'і, традыцыі ўслаўляліся ўкраінскія. Здзіўлена мы перакінуліся словам на гэтую тэму некалі з Паўлінай Вікенцьеўнай Мядзёлка. Само сабою ўзнікае пытанне: тут памылка друку ці гэта нічога не значыць, або… як гэта зразумець? Мне, шчыра кажучы, не хацелася б збядняць нацыянальныя скарбы. <…>

Тое, што вы друкуецеся на рускай мове, на польскай, нямецкай, французскай і іншых, радуе мяне і прыдае гонару вам. Гэта ж мы, беларусы! выходзім на ўсясветную арэну. Па прызнанні аднаго польскага майго сябра, мацнейшага ў ваеннай тэме пісьменніка за Васіля Быкава <u>няма</u> сёння і ў рускай літаратуры. Бясспрэчна, прыемна, вітальна, здорава.

Ліст тэлеграмнай сцісласці ад вас атрымаў. Разумею, чаму вы не завіталі ў вызначаны час да нас. З хваробай не паспрачаешся. Ну што ж, надзейна спадзяюся на верасень, кастрычнік месяцы, што нічога вам не зможа памяшаць апрадмеціць дакляраванае слова. Можа б нават з <u>кім</u> яшчэ. Чакаю паведамлення і хісткай даты, бо на цвёрдую дату боязна разлічваць. Жыццё часта не ідзе тым шляхам, які яму пракладваюць тэарэтыкі, заканадаўцы, шаманы.

Шкада аднаго: няма прошлых дзесяцікласнікаў, якія дужа цікавіліся вамі і як пісьменнікам, і як чалавекам. Але нічога, галоўнае – быць вам у нас. <…>

Душой і розумам ваш Мікола.

6.IX.1970 г.**

* * *

Добры дзень!

Вы знаеце, Васіль Уладзіміравіч, у мяне ўсё перамяшалася: крыўда і непаразуменне з павагай і добразычлівасцю да вас, злосць і абурэнне змяняліся са шчырасцю і вялікаснасцю адносін да вас, адным словам, пачуцці зблыталіся з розумам адносна вас як чалавека і пісьменніка. Хочацца крычаць, грубіць, ламаць, крышыць, каб супакоіць пачуцці, а потым розум развабжае сцішана, паслядоўна, памяркоўна. Нехта ўва мне лае Васіля Уладзіміравіча, ну няўжо ў яго няма сумлення, ну няўжо ён словы так лёгка кідае на вецер. Гэта ж столькі чакаць, абнадзейваць школьны калектыў, псіхалагічна рыхтаваць сябе і вучняў, і няма ні адказу, ні сустрэчы. Няўжо Васіль Уладзіміравіч не можа ўважыць маёй і нашай любві, няўжо не кранае яго сардэчных струн нашая шчырасць просьбы? Розум жа, або другі ўва мне я, адваротна першаму майму я, расшыфроўвае гэтае становішча па-другому. Калі б сэрца ў Васіля Уладзіміравіча было мяккае і сентыментальнае, то даўно магло б яно разваліцца на часткі, магло б перастаць існаваць. Час на паездкі ў вас, бясспрэчна, агранічаны, многа часу ўходзіць на напісанне, на пераклад, а на надрукаванне! Да гэтага ёсць справы службовыя, сямейныя, грамадскія. Плюс к гэтаму <u>шырокая</u> перапіска, хіба можна ўсё пералічыць… Калі К. Маркс пісаў, што яго ўяўленне аб шчасці – барацьба, то для вас яно, гэтае слова, з'яўляецца ў разгорнутым выглядзе. І мне думаецца, што найбольшая барацьба ў вас праяўляецца ў паказе праўды гісторыі. Жыццёвая праўда, праўда веку, часу, праўда дня раствараецца ў надзённых дробязях, што падчас яе цяжка вызначыць, цяжка акрэсліць, цяжка паказаць. І толькі з бельведэра будучыні і з пэўнай адлегласці часу ярка і акрэслена вырысоўваецца кожная сучаснасць. Так у вас ваенная сучаснасць набірае сілу праўды з вышыні і з адлегласці 25 гадоў мірнага жыцця. <…>

Пакуль напісаў гэтыя супрацьлеглыя радкі, настрой спаў, увайшоў у свае берагі. Таму хочацца некалькі слоў сказаць пра аповесць "Сотнікаў". Такія рэчы апасна чытаць, бо пасля іх прыходзіцца тэрмінова бегчы ў аптэку. Сотнікаў, бясспрэчна, герой! маладзец! Ні ў каго

* У "Новом мире" (1970, № 5) быў надрукаваны аўтарскі пераклад "Сотнікава". У арыгінале аповесць выйшла пазней у "Полымі" (1970, № 11).

** Рукапісны тэкст. Архіў В. Быкава ў Гродне.

з крытыкаў і чытачоў не выклікае сумнення душэўны гераізм Сотнікава. І калі падумаць, то такія якасці характару нараджаюцца, што і пацвярджаецца аповесцю, для чаго і зроблены ракурс у маленства Сотнікава (прыгадаем выпадак з маўзерам). Тут, відаць, і другую мэту меў на ўвазе аўтар, каб лепш адцяніць харавство душы Сотнікава. Таму для параўнання характараў часоў іх маленства апісваецца выпадак з Рыбаком, воз якога зануры у абрыў, у выніку чаго зламала руку малышка, а ён збег, нягледзячы ані на што. А як брыдка выглядае Рыбак у эпізодзе, калі яны ляжалі пад страхою ў Дзёмчыхі, калі Стась ляснуў затворам аўтамата, каб прастрачыць пакулле, то Рыбак думае, няхай ж бы лепш паказаўся Сотнікаў, ён усё роўна хворы, ранены. І няхай бы Рыбак пасля гэтага рабіў і добра (хаця на гераічны ўчынак нават у думках ён не здольны, няхай ён, Рыбак, не займаецца салодкім самаабманам, думаючы, што ён адпомсціць немцам, толькі б застаўся жыць), то ўсё роўна агіда да яго не прапала б. Ён паказаны роўна напрацягу ўсяго апавядання, ад простага запытання, чаму Сотнікаў не змог здабыць сабе лепшай вопраткі, і да апошніх яго хвілін здрадніцтва, калі Сотнікаў дапамог яму пагутарыць з начальнікам паліцыі, што і зрабіла яго жывым трупам, ад чаго ён і намерваўся павесіцца ў туалеце. Ён роўна праведзены псіхалагічна. Таму наша настаўніца Вольга Іванаўна, жонка дырэктара, выказалася, што тут Васіль Быкаў супадае з Дастаеўскім у псіхалагізме, другія параўноўваюць Вас з К. Чорным, а я ў гаворцы аднёс вас да Л. Талстога па ўзнятай праблематыцы і сіле мастацкага яе вырашэння. <…> У нас заходзіла спрэчка, каму лепш жыць: Рыбаку ці Сотнікаву. Мы на Сотнікавых выхоўваем вучняў, але Рыбакі ў жыцці “перагамаюць”, застаюцца жыць, жыць, вядома, біялагічна і толькі, але не ўсім вядома іх нутро. <…>

Зараз, Васіль Уладзіміравіч, дайце мне любы адказ: прыедзеце ці не прыедзеце да нас у школу. Я вам дасылаў ліст у верасні гэтага года, хіба вы яго не атрымалі. Дык мне хочацца ведаць канкрэтна, каб ужо ведаць, як гаварыць з вучнямі. Увесь час ім абяцаю і абяцаю, дык жа ж і ў мяне ёсць нейкі аўтарытэт, лепш тады не гаварыць, не абяцаць. <…> Ну, калі ласка, зразумейце мяне. З павагай і пажаданнямі далейшых поспехаў.

Мікола.

26.IX.1970 г. <…>

Пытанне нацыянальнага характару штосекундна турбуе заўсёды. Дык вот гэты вар'яцкі збег абставін, змаганне ў школе за тое, каб прадметы вяліся на роднай мове, з-за чаго бываюць непаладкі і непаразуменні, псуе настрой. Бывае задумаешся, ну хто б адкрыў мне лік шчасця? хто б прарваў мне гэты ланцуг няўдач і няўладкавання? Хоць калі далі бог становішся “суеверным” чалавекам. Нідзе няма патрэбнай спачувальнасці і творчага ўваходу ў становішча просьбы. Бачыш і адчуваеш сухасць, бюракратызм, што ў нас крытыкуецца, і не можна яго пазбавіцца. Дзе ж тут святасць [поглядаў]? Так бывае. Жывеш спадзяваннем, што а можа калі-небудзь і ўсміхнецца шчасце; як гавораць у народзе, што шчасце – не конь, хоць паддзень ды павязе. Можа гэта і не варта было б вам пісаць, але яно надта прасілася на паперу. Парвіце гэты клок паперы*. Чаму так прызнаўся вам – не ведаю сам. Лягчэй мне стала, хоць вы, вядома, мне ні ў чым не дапаможаце, хіба як адно: прыехаць і гэтым самым адкрыць лік маёй, калі можна так сказаць, перамозе над абставінамі. Душою ваш Мікола**.

**ВАСІЛЬ БЫКАЎ – МІКОЛУ ПАШКЕВІЧУ**

Дарагі Мікола,

я, безумоўна, павінен павініцца перад Вамі, але і цяпер я не ведаю, што і як мне рабіць з Вашаю просьбай. Нейкі час я адсутнічаў у Гродне, ездзіў на Полаччыну, прыехаў не зусім здаровы, хаджу ў паліклініку, шмат розных літаратурных (і не толькі) спраў і тут – нязздзейсненае абяцанне. Вядома, я не супраць і з задавальненнем бы, але не ведаю і цяпер калі зробім гэта.

Але зробім!

Абавязкова прыеду ці адгэтуль, ці з Мінску, за які дзень да таго дам тэлеграму.

На тым і дамовімся.

Тады пагаворым пра ўсё.

А пакуль –

з прабачэннем

Ваш В. Быкаў

4.X.70 г. [1, арк. 3].

*Працяг будзе.*

**Спіс літаратуры**

1. **Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва.** – Ф. 55. – Воп. 1. – Адз. зах. 168.
2. **Быкаў, В.** Поўны збор твораў : у 14 т. / В. Быкаў. – Мінск, 2009. – Т. 8. – С. 275.

*У наступным нумары будзе змешчаны матэрыял **Аркадзя Жураўлёва**, які працягне аповед пра адметную асобу настаўніка Міколы Пашкевіча.*

---

* Заканчэнне ліста (пасля даты) напісана на невялічкім аркушыку.

** Рукапісны тэкст. Архіў В. Быкава ў Гродне.

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

# "ЧЭСЦЬ АДДАЦЬ АЎТОРЦЫ…"

## ДА 170-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЭЛІЗЫ АЖЭШКІ




Эліза Ажэшка (1841 – 1910) пакінула вялікую творчую спадчыну: каля двухсот твораў розных жанраў. І светлую памяць, і шанаванне ў душах гарадзенцаў, яе сучаснікаў і іх нашчадкаў. Бо была не толькі вялікай пісьменніцай, але і гуманісткай, мецэнаткай. Дом Элізы Ажэшкі ў Гародні на мяжы стагоддзяў стаў сапраўдным літаратурным салонам, месцам, што вабіла прадстаўнікоў культуры розных нацыянальнасцей. І, безумоўна, беларусаў, да якіх вялікая пісьменніца нашага Краю і шчырая патронка для ўсіх гарадзенцаў мела вялікую прыхільнасць як да прыніжаных і абражаных, якія, аднак, мелі высокі чалавечы гонар, спрадвечную культуру, але жылі часта ў глыбокай паняверцы. "Гэта была свядомая аўтарская пазіцыя – не толькі стварэнне нацыянальнага каларыту, а глыбокае разуменне народнага жыцця, суперажыванне гаротнаму і бяспраўнаму, але духоўна годнаму народу" [1, с. 115]. Пра тое сведчаць найлепшыя творы пісьменніцы: аповесці "Нізіны", "Дзюрдзі", "Хам". Як пісаў Уладзімір Содаль, "Ажэшка, як ніхто да яе, апавядала свету пра беларусаў і Беларусь. Яна для нашага краю, як Гогаль для Украіны. Той быў сувязным паміж Украінай і Расіяй, а яна – між Беларуссю і Польшчай" [2, с. 70].

У многіх творах Э. Ажэшкі знайшоў адлюстраванне водгук паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, у якім непасрэдны ўдзел брала і сама пісьменніца, – "лёсазломны і лёсавызначальны час", як назваў яго перакладчык твораў Э. Ажэшкі на беларускую мову Анатоль Бутэвіч.

Матыў памяці ў навеле **"Gloria victis"** Э. Ажэшкі займае цэнтральнае месца. Гэта ўспаміны пра адну з самых значных падзей другой паловы XIX ст., што ўскалыхнула ўвесь Край, адбілася на ягоным лёсе. Гэты першы пласт памяці, надзвычай шырокі, усеагульны, пераплятаецца з іншым, на якім вырастае асабісты, у эпіцэнтры якога перажытае аўтаркай, выпакутаванае, таму і пазначанае глыбокай эмоцыяй, асабліва кранальнае. У ім на першы план выступаюць пачуцці вялікай любові да тых духоўна блізкіх і дарагіх, каго ўжо няма, хто стаў пераможаным. Матыў памяці падсвечваецца трагічным матывам страты, бо самае светлае і велічнае – знішчана. "Матыў памяці нясе ў сабе досвед перажытай трагедыі, перадае высокія трагічныя і патрыятычныя пачуцці" [3, с. 224]. А перажытае асабіста цесна знітавана з перажытым гэтай зямлёй, яе людзьмі.

Гэта быў першы твор, напісаны ўраджэнкай нашага Краю, дзе па-мастацку дасканала і пажаночы эмацыйна-вытанчана асэнсаваны вынікі руху супраць нацыянальнага, палітычнага ўціску на пачатку 1860-х гг. Цэнтральная навела "Gloria victis", што дала назву ўсяму цыклу, была створана яшчэ ў 1888 г. да 25-годдзя паўстання, хоць да чытача прыйшла значна пазней, на пачатку XX ст. Зусім нядаўна дайшоў гэты твор і да беларускага чытача ў перакладзе пісьменніка А. Бутэвіча, які стала займаецца пераствараннем твораў Э. Ажэшкі на беларускую мову. У прыватнасці, яму належыць пераклад рамана "Над Нёманам".

З глыбокай старажытнасці, з часоў Рымскай імперыі, увайшло ў мову ўсіх цывілізаваных народаў кінутае з пагардай правадыром галаў у адрас пераможаных рымлян – "Vae victis!", што азначала – "Гора пераможаным!", бо слава, матэрыяльныя здабыткі належаць выключна пераможцам, пераможаным застаецца толькі гора, прыніжэнні і абразы. Пратэсты немагчымыя. І гэта лічылася нязменным праз тысячагоддзі.



***Ала Мікалаеўна Петрушкевіч*** *– літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук (1993). Дацэнт кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Закончыла беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1981), аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі (1992). Аўтар кніг "Пра творы і творцаў: літаратурна-крытычныя артыкулы" (2002), "Некаторыя старонкі беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя" (2009) і інш., шэрагу метадычных дапаможнікаў, больш як 150 навуковых прац, а таксама паэтычнага зборніка "Пярсцёнак" (1997).*

Як, зрэшты, нязменным і несправядлівым было забыццё на многія гады таго паўстання на нашай зямлі: «*І заўсёды плыў тут несмяротны струмень часу, няспынна паўтараючы: "Vae victis! Vae victis! Vae victis!"*» [4, с. 256].

Назвай і зместам твора Э. Ажэшка выказала нязгоду з гэтай замацаванай часам традыцыяй. Вядомае ад старажытных часоў "Vae victis" перамяніла на "Gloria victis", на ўслаўленне тых, хто пераможаны, тым самым сцвердзіла, што змаганне і вялікія ахвяры не былі марнымі. Тое ж сцвярджае і перакладчык А. Бутэвіч: "Самы глыбокі… сэнс хаваецца менавіта ў апошнім слове – *пераможаным.* Так, няхай паўстанне не мела поспеху, хай палеглі і пайшлі па этапу ягоныя ўдзельнікі, ды слава іх – *пераможаных* – ад гэтага не цьмее і не становіцца меншай" [5, с. 235].

Даследчыкі творчасці Э. Ажэшкі адзначаюць дасканалае спалучэнне ў творы фантастычных і рэалістычных момантаў: «"Gloria victis" – гэта фантастычная гісторыя аб ветры і адначасна гісторыя рэалістычная аб тым, што пачуў вецер, лятаючы па свеце, ад лясной флоры пра людзей» [6, с. 29]. Тым самым гэты твор ляжыць каля вытокаў і цэлага пласта новай беларускай прозы нашаніўскай пары, дзе казкавыя, фантастычныя элементы вельмі натуральна пераплятаюцца з рэальным жыццём. Згадаем "Казкі жыцця" Якуба Коласа, апавяданні Вацлава Ластоўскага, Максіма Гарэцкага. Праўда, неабходна падкрэсліць, што рэальныя падзеі, асобы ў навеле "Gloria victis" перададзены праз асаблівую рамантычную вобразнасць.

Навела – гэта своеасаблівае падарожжа ў часе, якое, аднак, даволі моцна абмежавана прасторай (падзеі адбываюцца ў лясах Беларускага Палесся, непадалёку ад горада Кобрына). Асноўны падзейны пласт пераносіцца ў гады паўстання. А сустрэча ветру з лесам адбываецца праз паўстагоддзя. Твор пачынаецца і заканчваецца сустрэчай ветру з дрэвамі, што не закругляе, а выводзіць знакамітыя падзеі на прастор, адкуль вецер уварваўся ў лясны гушчар і куды неўзабаве вернецца. У часе гэты рух скіраваны ў будучыню, бо тая гераічная гісторыя для таго і расказана, каб разнесці памяць пра яе, пра вядомых і невядомых герояў. У звароце да дрэў вецер просіць: "*Праспявайце мне пра гэтую магілу строфы жыцця і строфы смерці, каб мог я ўзняць вашу песню да самага неба і паказаць яе небу, а пасля панясці над зямлёй у прастору, у далячынь, у час, у чалавечую памяць, у сэрцы*" [4, с. 241]. Аповед дрэў неаднаразова названы песняй, што падкрэслівае гераічны і разам з тым глыбока лірычны, эмацыянальна афарбаваны змест твора.

Вецер, як мы бачым яго на самым пачатку навелы, усюдыісны, магутны, цікаўны. Няма межаў яго смеласці. А прасторы Палесся надзвычай спрыяльныя для гэтага: "*Гэй, ты, прастор вольны, прастор разложысты! На тваіх раўнінах, што падпіраюць берагі нябёсаў, няма для ветру ні перашкодаў, ні заслонаў. Не сутыкнецца тут шпаркі вецер ні з гарой, ні з пагоркам, не стрымае яго палёту ніякі высокі горад, хіба толькі адзін лес паўстане перад ім сваім цёмным абліччам*" [4, с. 239]. Гэткім няспынным, прагным вольнасці быў і той рух, што паклікаў герояў у цёмную пушчу.

Безумоўна, форма аповеду ад імя дрэў, як лічыць А. Бутэвіч, "пэўным чынам дазваляла маскіравацца ад надта ж пільнай цэнзуры" [5, с. 235]. Але не толькі гэтай прычынай, на нашу думку, яна выклікана. Чалавечы век, як і чалавечая памяць, параўнальна нядоўгія. Век дрэў больш працяглы. Да таго ж безыменная магіла знаходзіцца ў лесе, а лес сябра ветру. І гэта вельмі натуральна, што свайму сябру лес апавядае пра даўнюю таямніцу. І апавядае так узрушана, шчыра, бо тое даўняе хвалюе і зараз. Як адзначае польская даследчыца творчасці Э. Ажэшкі Барбара Наварольска, "мова прыроды… служыла для адлюстравання еднасці чалавека і зямлі, чалавека, прыроды і космасу" [7, с. 277]. Зрэшты, далей і сам перакладчык слушна даводзіць: "Памяць прыроды нязводная, як нязводныя тутэйшыя лясы і бары, што аберагаюць гэтую памяць" [5, с. 235].

Многім прадстаўнікам лясного царства дадзена слова. Кожны з іх спрычыніўся да захавання памяці. Уздыхае, нібы спакутаваная сястра, што страціла ўлюбёных братоў, бяроза; схіляе галаву высокая елка, якая першай гаворыць пра адвечную несправядлівасць: "*Ёсць на зямлі героі ўшанаваныя і не ўшанаваныя, якія маюць помнікі і не маюць іх*" [4, с. 241]. І насельнікі лесу кожны па-свойму ўшаноўваюць безыменную магілу. Ліловыя званочкі вызвоньваюць жалобную малітву. Асабліва пяшчотна выглядае дар шыпшыны, што "*адарвала ад свайго рубінавага сэрцайка адзін пялёстак і кінула яго на курганок*" [4, с. 241].

І робіць гэтак вось ужо паўстагоддзя. Але тую незвычайную гісторыю аўтарка напачатку ўкладвае ў вусны не гэтым рамантычным насельнікам лесу, чые сэрцы перапоўненыя эмоцыямі, а старому самавітаму дубу, што традыцыйна сімвалізуе загартаваную часам моц і глыбокую мудрасць.

У тым змаганні гінулі сотні, тысячы. Гісторыя і сапраўды захавала імёны нямногіх. Э. Ажэшка імкнецца падкрэсліць, што і сярод невядомых былі вельмі цікавыя, адметныя постаці, вартыя памяці. Недарэмна галоўным героем навелы яна зрабіла не аднаго з кіраўнікоў паўстання – гістарычную асобу Рамуальда Траўгута, а юнага Марыся Тарлоўскага, *"аднаго з безыменных, з найменшых, з самых маладых"* [4, с. 242].

Рамуальду Траўгуту, безумоўна, аддадзена належная пашана. Ён варты стаць героем многіх твораў. Яго імя ўведзена пісьменніцай у найвышэйшы пантэон славы, яно названа святым: *"Таму што ён, помнячы Божы запавет, пакінуў жонку, дзяцей, багацце і спакой, усё, што прыносіць радасць і ўцеху, усё, што з'яўляецца вабнасцю жыцця, яго чарамі, скарбам, што прыносіць шчасце і асалоду, і, усклаўшы на плечы крыж народу свайго, пайшоў за тым вогненным стаўпом, які гарэў на гэтай зямлі. Пайшоў і сам згарэў у ім"* [4, с. 242]. Пра шлях ахвярнага служэння героеў піша і Б. Наваральска: "Патрыятычнае змаганне паўстанцаў было свядомым выбарам дарогі, якою крочылі і апосталы, і першыя хрысціяне" [7, с. 279].

Тыя трагічныя падзеі пачыналіся ў час росквіту зямлі, у цудоўным траўні. І гэткім было жыццё герояў, бо ўсе яны былі па-вясноваму маладымі, у самым росквіце ці на ягоным пачатку. Юны Тарлоўскі выклікае асаблівую пяшчоту і шкадаванне, бо не вылучаецца ні фізічнай сілай, ні прыгажосцю, ні ўбраннем. Спрадвеку ў нас шкадуюць слабейшых. Апавядальнік дуб гэтак тлумачыць сваю надзвычайную прыхільнасць да непагляднага знешне героя: *"Менавіта таму і стаў маім улюбёнцам, што быў кволы, малы, з пяшчотным ружовым тварам, а вочы меў як у дзяўчыны – лагодныя, нясмелыя, чыстыя і такія блакітныя, як тыя незабудкі…"* [4, с. 243]. Мудры дуб добра разумее знешнюю неадпаведнасць героя той унутранай сіле і вышыні, якой лёс шчодра абдарыў яго. Бачым, як рэзка мяняюцца эпітэты-характарыстыкі. Умоўны лад яшчэ раз падкрэслівае, што ўсё гэта, высокае і светлае наканаванне, не спраўдзіцца. Як не спраўдзіцца апошняе жаданне юнага героя, што з'яўляецца вялікай несправядлівасцю, бо нават асуджаныя на смерць злачынцы маюць права на спаўненне такога жадання. Пра гэта ўжо апавядае высокая елка, бо магутны дуб не змог пераадолець у сабе вялікае ўзрушэнне.

У час змагання адбываецца сапраўдная метамарфоза, калі маленькі Тарлоўскі ператвараецца ў асілка, уратоўвае кіраўніка паўстання. У сваёй палкай прамове Рамуальд Траўгут выказвае не толькі ўдзячнасць за захаванае жыццё, але і захапленне, і здзіўленне: *"Неверагодна, што ў такім малым юнаку жыве такі леў!"* [4, с. 247].

Кульмінацыя трагедыі – апошняя бітва. Яна заканчваецца смерцю герояў, чый жыццёвы шлях жорстка абарваны. Не завершана тое многае, на што яны спадзяваліся. Не прачытаны нават ліст Анэлі да брата, змагары не мелі на тое хвіліны, жыцці іх ужо не належалі ім: *"Гэта была кветка, кінутая здалёку рукой дзяўчыны на гэтыя адкрытыя магілы"* [4, с. 252]. Апошняе, чаго прагнула душа героя на мяжы смерці, – гэта перадаць вестку любай сястры. Сярод мноства эпізодаў твора, што гучаць на высокай трагічнай ноце, апісанне смерці героя вылучаецца асаблівай экспрэсіўнай насычанасцю, выразнасцю. Сярод колераў пануе злавесная чырвань: *"Пасаджаны на вострыя пікі і ўзняты высока ў паветра, маленькі Тарлоўскі свой белы, як хустка, твар павярнуў на іржава-чырвоны бляск сонца. Гэты пакутлівы твар з паміраючымі вачыма, з чырвонай палоскай крыві ад залацістых валасоў да вуснаў, якія канвульсійна дрыжалі, пазнаў, аднак, сябра, рука хуткім рухам кінула яму нейкі чырвоны прадмет"* [4, с. 254]. Ізноў ён маленькі, бо ўсё высокае ўжо прынесена ў ахвяру, аддадзена вялікай мэце. А ён, сам-насам са смерцю, на краі магілы, імкнецца споўніць сваё апошняе жаданне. Адзінае, што змог прапанаваць яму лёс, – ужо не бачыць, як праз імгненне гіне сябра Ягмін, той, хто мусіў перадаць вестку, хто кахаў яго сястру.

Літаральна ўсе асноўныя падзеі навелы знаходзяцца пад знакам развітання. Таму такую выключную функцыю адыгрывае слова *апошні.* Два апошнія словы Марыся, прамоўленыя аслабелым голасам, звязваюць у адно самых дарагіх людзей, у іх укладзена і надзея на іх яшчэ магчымае шчасце, на іх памяць. Усё, здавалася б, марна. Але пра гэта памятае лес, ад гэтай гісторыі заходзіцца ў нямым плачы нават вецер. І ён данясе на шырокі прастор і ў людскую памяць гэтыя падзеі. "Gloria victis!" – найвышэйшая справядлівасць павінна быць у гэтым, бо *"кроў герояў, іх ахвяра не толькі засталася ў памяці прыроды, але мацней звязала прыроду з народам, які жыве на той самай зямлі"* [7, с. 279].

У магіле пахаваны смелыя змагары, іх жыцці, будучае. Тут пахаваны і лёсы тых, хто адпусціў, выправіў, блаславіў на барацьбу. Каханыя, жонкі, маці, сёстры. Іх высакароднай ахвярнасці Эліза Ажэшка таксама пяе славу. Таму і ўведзены ў змест твора аповед пра з'яўленне на магі-

ле праз многа гадоў сястры маленькага Тарлоўскага Анэлі, які ўкладзены ў вусны ліловых званочкаў. Гэта яны імкнуліся аблегчыць яе боль, *"спачувальна халадзілі яе разгарачаны твар і пілі слёзы з яе вачэй"* [4, с. 255]. Слёзы і горыч – гэта ўсё, што прапанавала ёй жыццё за высокую ахвярнасць. І яна выпіла гэтую горкую чару да дна: *"Бедная з твару! Бо не была ўжо ані белая, ані ружовая, яе бель і ружовасць выпіла з яе жыццё. Беднае жыццё! Бо не ведаем мы, што рабіла яна там на свеце, толькі ў вачах бачылася адзінота – горкая і самотная"* [4, с. 255].

Навела "Gloria victis" – гэта яшчэ адзін помнік героям. Помнік любові і каханню. Помнік надзеям. Недарэмна паролем паўстанцаў былі словы: *"З надзеяй альбо насуперак надзеі!"* Помнік, што змагла стварыць пісьменніца, якая да канца сваіх дзён пранесла ў памяці велічныя ідэалы паўстання. Пэўная адлегласць у часе кампенсуецца не толькі выключнай памяццю, але і пачуццём абавязку – расказаць пра сваё разуменне, данесці сваю праўду пра мінулыя падзеі. Тое паўстанне на нашай зямлі – гэта велічная і трагічная старонка, што павінна застацца не толькі ў гісторыі, але і ў свядомасці людзей як прыклад змагання за волю.

Упершыню цыкл навел "Gloria victis" выйшаў асобнай кнігай у Вільні ў 1910 г. да 25-годдзя паўстання. Першапачатковая назва – "1863". «Аднак і канчатковая назва "Gloria victis", што азначае *слава пераможаным*, не менш значная і сімвалічная. Самы глыбокі… сэнс хаваецца менавіта ў апошнім слове – *пераможаным*» (А. Бутэвіч).

Як сцвярджае польская даследчыца Б. Наваральска, галоўная выснова ў навеле – "ахвяры не былі дарэмнымі, а паўстанцкі парыў не быў непатрэбнай, прайгранай бітвай. Таму што кроў герояў, іх ахвяры не толькі захаваліся ў памяці прыроды, але мацней звязалі прыроду з народам, які жыве на гэтай самай зямлі. Больш за тое, пад уплывам пралітай крыві прырода пачынае адчуваць і ацэньваць падзеі, як ахвяры крыўды" [7, с. 279].

Знакавым сёння бачыцца і той факт, што першым творам польскай літаратуры, змешчаным на старонках "Нашай Нівы", стала апавяданне Э. Ажэшкі **"Гэдалі"**. Наша вялікая зямлячка мела ў сэрцы глыбокую прыхільнасць да абяздоленага люду, шчырую спагаду да яго няшчасцяў і захапленне працавітасцю, духоўным багаццем. Вартай шанавання была і вялікая любоў пісьменніцы да роднай зямлі, якой яна засталася вернай да апошняга дня.

Апавяданне друкавалася з працягам у шасці нумарах (№№ 11 – 16). Можна толькі ўявіць, як вясковы люд, на той час не надта распешчаны вялікім выбарам культурнай інфармацыі, з нецярплівасцю чакаў працягу гэтага, сённяшняй мовай кажучы, цікавага "серыяла" пра жыццё ў нашым Краі, дзе пазнаваліся тагачасныя тыпы руплівага гаспадара-працаўніка, маладых людзей, чые настроі былі скіраваны да ідэй дабра, справядлівасці.

У цэнтры твора – вобраз маленькага чалавека, прыніжанага і абражанага, кінутага злым лёсам на дно галечы, у абдымкі хвароб і няшчасцяў. Ён уражвае не столькі цягавітасцю, колькі глыбокай мудрасцю, здольнасцю з падзякай да Творцы прымаць свой лёс. Э. Ажэшка была сапраўднай гуманісткай, умела спагадаць людзям незалежна ад іх нацыянальнасці. Напэўна, і ў душах чытачоў пакуты героя выклікалі спачуванне.

Адзін з найцікавейшых аспектаў дзейнасці пісьменніцы – этнаграфічная праца, збор назваў раслін беларускай зямлі. Вынікам яе сталі нарысы **"Людзі і кветкі над Нёманам"**, апублікаваныя ў навукова-этнаграфічным часопісе "Вісла" ў 1888 – 1892 гг., а таксама цудоўныя кампазіцыі з зёлак, што праз стагоддзе захавалі сваю прыгажосць. Некаторыя з іх зберагаюцца ў музеях Гродна. Э. Ажэшка выкарыстала ў нарысе 228 назваў раслін. Мэта, якую ставіла даследчыца, – паказаць, што ў народных назвах адлюстраваны сапраўдны духоўны скарб, паэтычнасць, спрадвечная мудрасць, розум, талент беларускага сялянства. *"Мы павінны сумленна працаваць і, наколькі гэта магчыма, сумесна. Каб праўдзіва паказаць і правільна ацаніць гэты асноўны грамадскі клас і гэтыя мільёны чалавечых істот, якія называюцца вясковым людам"* [8, с. 457] – так Э. Ажэшка вызначала сэнс сваёй працы.

У самой назве нарыса гучыць узнёслая паэзія. Тут – і надзвычайнае багацце краю над Нёманам, і вылучэнне найпрыгажэйшага ў прыродзе – кветкі. Але самае значнае – людзі, чалавек-творца, які здольны гэтую, на першы погляд, някідкую красу ўбачыць і як належыць ацаніць, апавіць у дасканалую моўную форму, дзе і сэнс – відавочны, і гучанне – музыка. А над усім адчуваем тое шчырае пачуццё любові, якую мела ў сваім сэрцы аўтарка і да гэтага краю, і да яго народа.

Людзі і ёсць тыя кветкі зямлі, убачыць, разгадаць, раскрыць здольнасці, талент якіх можна толькі пры ўмове руплівай, старannай працы. З гэтай думкі і пачынаецца нарыс: *"Вывучэнне якіх-небудзь бакоў жыцця народа я параўнала б з выбіраннем жмені канапляных зярнят з бочкі маку"*. Незвычайнасць сітуацыі тут была найперш у тым, што яна, адукаваная пані, апынулася ў ролі вучня, яны ж, часцей непісьменныя, прыніжаныя вякамі няволі, станавіліся настаўнікамі. Э. Ажэшка прапанавала цэлую методыку працы

з беларускімі сялянамі, асновай якой найперш ёсць павага, тактоўнасць, шчырасць.

Галоўныя правілы ў гэтай навуцы: *"...шырока і настойліва ўжываць сакратаўскі метад актывізацыі думкі пытаннямі"*, *"распытваць настаўнікаў безупынку, настойліва, направа і налева, мужчын і жанчын, дзяцей і старых, дасціпных і праставатых з выгляду"*, *"гэтых людзей трэба бачыць у іхнім натуральным асяроддзі, дзе яны займаюць нейкае становішча і карыстаюцца ад роўных сабе пэўнай павагай і зычлівасцю"*.

Зразумела, што "Наша Ніва" адгукнулася на трагічную вестку з Гародні ў траўні 1910 г. Ужо ў № 20 ад 13 траўня быў апублікаваны прачулы артыкул В. Ластоўскага пра сыход вялікай польскай пісьменніцы. Аўтар адзначае: "Яе смерць – гэта страта ня толькі Польшчы, ня толькі польскага народу, для каторага яна працавала, але і ўсяго культурнага свету: Эліза Ажэшка ў мнагалетняй сваёй працы старалася перш за ўсё шырыць у сваім грамадзянстве ідэалы і думкі агульналюдскія, старалася будзіць міласьць да нешчаслівых і пакрыўджаных жыцьцём, міласць да чалавека" [9, с. 308].

Вацлаў Ластоўскі падкрэсліваў еднасць пясняркі з беларускім краем, беларускім людам: "Большая часьць твораў Элізы Ожэшковай, як і сама душа пісьменьніцы, неразрыўна зьвязана з беларускай глебай; у повесьцях Ожэшковай бачым у пекных малюнках абразы нашай старонкі..." [9, с. 308].

Не без болю і наракання зважае аўтар на тую акалічнасць, што многія ўзгадаваныя гэтай зямлёй творцы аддавалі свой талент іншым народам, культурам. Адвечная несправядлівасць – траціць сваё, найлепшае, мову і дзяржаўнасць – для Беларусі стала наканаваннем: "Праўдзівай бацькаўшчынай Ожэшковай была Беларуская зямля, каторая яе ўзгадавала; з Польшчай – апрача мовы і гістарычных перажыткаў – вялікая пісьменьніца мела мала супольнага. І ўсё-ж такі беларуская фантазія, беларуская казка, што рожавай дымкай апавіла яе дзіцячыя думкі, ускалыхала вялікага духа пакойнай на славу чужым. Такая ўжо, відаць, доля нашага краю..." [9, с. 308].

Самай яркай старонкай пабрацімства польскай пісьменніцы з дзеячамі беларускай літаратуры з'яўляецца яе сяброўства з Францішкам Багушэвічам, які неаднойчы бываў у доме Элізы Ажэшкі, меў з ёю шматгадовае ліставанне. Са скрухай успрыняла яна вестку пра адыход беларускага паэта. "Каралева жывога слова", "Каралева польскай прозы і пакутлівай праўды" – такія высокія характарыстыкі даваў пісьменніцы пачынальнік беларускага нацыянальнага адраджэння. Пра глыбокую прыхільнасць паэта да вялікай гарадзенскай пані сведчыць верш-прысвячэнне Ф. Багушэвіча "Яснавяльможнай пані Арэшчысе", у якім ад імя беларускага люду, заўсёды шанаванага ёю, выказаў шчырую ўдзячнасць, жаданне: "*Чэсць аддаць Аўторцы / У простай гаворцы!*" – і пашану за тое, што заглянула ў хату беларуса і ўбачыла там чалавека, якім часта пагарджалі, працягнула яму руку і выліла на паперы смутак ягонай душы.

Гэтая старонка літаратурнага, творчага і чалавечага сяброўства выклікала цікавыя водгукі ў студэнтаў беларускай філалогіі, удзельнікаў паэтычна-музыкальнага салона "У пані Элізы", што некалькі гадоў даволі актыўна працаваў у музеі пісьменніцы. Былі напісаны вершы, эсэ, у якіх юныя творцы паспрабавалі аднавіць тую прыгожую атмасферу, што панавала ў доме вялікай пісьменніцы, уявіць, перадаць светлыя пачуцці, што звязвалі абодвух творцаў, выказаць свае ўражанні.

Памяць пра вялікую пясьнярку прынёманскага краю шануецца на Гарадзеншчыне: цэнтральная вуліца горада, дзе жыла Эліза Ажэшка, носіць яе імя, у 1929 г. на сродкі, сабраныя жыхарамі горада, пастаўлены помнік скульптара Р. Жэрыха, створаны музей і ў Гародні, і ў школе вёскі Мількаўшчына, ладзяцца навуковыя канферэнцыі, прысвечаныя творчасці пісьменніцы.

### Спіс літаратуры

1. **Русілка, В.** Ідэйна-мастацкая канцэпцыя паэмы Любові Русілкі "Алея Элізы" / В. Русілка // Шлях да ўзаемнасці : матэрыялы XIV міжнар. нав. канф., Гродна, 26 – 27 кастр. 2006 г.; пад рэд. С. Мусіенкі, І. Крэня. – Гродна : ГрДУ, 2007. – С. 115 – 120.

2. **Содаль, У.** Каралева жывога слова / У. Содаль // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1991. – № 6. – С. 69 – 71.

3. **Гарданова, Л. Н.** Мотив памяти в поэзии Я. Ивашкевича (40 – 50 гг.) / Л. Н. Гарданова // Взаимодействие литератур в мировом литературном процессе (Проблемы теоретической и исторической поэтики) : материалы междунар. науч. конф., Гродно, 1997. – С. 223 – 226.

4. **Ажэшка, Э.** Gloria victis / Э. Ажэшка // Дзеяслоў. – 2008. – № 4. – С. 239 – 256.

5. **Бутэвіч, А.** Нечаканая Ажэшка. Колькі словаў пра паўстанцкія матывы ў творчасці Элізы Ажэшкі / А. Бутэвіч // Дзеяслоў. – 2008. – № 4. – С. 231 – 238.

6. **Lizis, M. T.** Kategoria czasu w "Gloria victis" / M. T. Lizis // Творчасць Элізы Ажэшкі і беларуская культура : зб. навук. прац; пад рэд. С. П. Мусіенкі. – Гродна : ГрДУ, 2002. – С. 29 – 35.

7. **Noworolska, B.** Eliza Orzeszkowa. Trwanie, pamięć, historia / B. Noworolska. – Białystok : Wydawnictwo uniwersytetu w Białymstoku, 2005. – 301 s.

8. **Ажэшка, Э.** Аповесці, апавяданні, нарысы / Э. Ажэшка. – Мінск : Беларус. кнігазбор, 2000. – С. 512.

9. **Наша Ніва.** Першая беларуская газета з рысункамі. Факсімільнае выданне. 1910 г. – Мінск : Тэхналогія, 1998. – 800 с. – Вып. 3.

Ігар ШАЛАДОНАЎ

# ЦЭЛЬНАСЦЬ БАЧАННЯ СВЕТУ Ў АПАВЯДАННЯХ ЛУКАША КАЛЮГІ

Своеасаблівасць уваходу ў беларускую літаратуру творчасці Лукаша Калюгі (1909 – 1937) вельмі дакладна вызначыў Кузьма Чорны, адзін з першых крытыкаў і дарадцаў пісьменніка. Паводле ўспамінаў Яна Скрыгана, класік атэставаў Калюгу наступнымі словамі: "Пісьменнік… і не абы-які пісьменнік, братачка. Богам дадзены талент…" [1, с. 5].

Паказальна нават тое, што абранне псеўданіма *Калюга*, тоеснага ў мясцовых гаворках *копанцы, пелі*, мела пад сабой глыбокі сэнс. Думаецца, пісьменнік такім чынам вызначыў сваё мастацкае крэда. *Копанка, пеля* – невялікія водныя люстэркі, якія непасрэдна адбіваюць, адлюстроўваюць натуральны, рэальны ход падзей навакольнай прасторы; у гэтым бачылася маладому празаіку найважнейшая мастацкая задача творцы. Імкненне выявіць цэльную праўду свайго часу, сваёй эпохі без флёру і рэтушы ідэалагічных павеваў было прынцыповым фактарам жыццёвай і творчай пазіцыі пісьменніка, таму ён так сур'ёзна і не па гадах разважліва паставіўся да праблемы ўваходу ў літаратурна-мастацкія суполкі 1920-х гг.

Як вядома, вялікай папулярнасцю карысталася ў тыя часы сярод творчай моладзі літаратурнае аб'яднанне "Маладняк", але Лукаш Калюга ў гэтую арганізацыю не ўступіў, хоць ужо ў дэбютных творах паказаў сябе таленавітым празаікам. І толькі з утварэннем у 1926 г. літаб'яднання "Узвышша" вызначыўся ў сваёй эстэтычна-мастацкай схільнасці, уступіў у гэтую арганізацыю ў 1927 г. па рэкамендацыі Кузьмы Чорнага.

Згодна з выказваннем аднаго са слынных мысляроў ХХ ст. Марціна Хайдэгера, "быццё – гэта найперш не прадмет пазнання, улады, пераўтварэння, а дар, які павінен быць успрыняты, зразуметы і захаваны чалавекам" [2, с. 412]. Найлепшая філасофская праца М. Хайдэгера "Быццё і час" была ўпершыню надрукавана ў 1929 г., як відаць, у часавым кантрапункце паралелізму з творчай рэалізацыяй Лукаша Калюгі.

Паводле вучэння ўсё таго ж філасофа, "жыць на зямлі і ў свеце – гэта значыць спасцігаць яго не як сукупнасць рэчаў ці нейкую рамку, якая абрамляе ўсё існае" [2, с. 242]. Свет, на думку мысляра, ёсць такая не рэчыўная сутнасць, што з'яўляецца ўмовай магчымасці быцця як рэчыўнасці. Свет выступае як развіццё існага, дзе рэчы набываюць свой "гарызонт", дзе раскрываюцца найлепшыя магчымасці і выбар, дзе маюць месца лёс і гістарычнае здзяйсненне.

Знакаміты нямецкі філосаф не беспадстаўна лічыў, што толькі мастацкаму слову пад сілу раскрыць "святло свету і змрок зямлі" [2, с. 542]. Згодна з меркаваннем мысляра, вучоны заняты найперш раздрабленнем свету і зямлі на маленькія элементы і часткі. А мастак імкнецца паказаць свет цэльным, ён будуе, узвышае яго, як будуе і ўпрыгожвае зямлю. Пры гэтым найважнейшай задачай мастака слова з'яўляецца "не паказ рэчаіснасці, выяўленне несхаванага". "Прыгажосць, – піша ён, – ёсць спосаб, з дапамогай якога быційствуе ісціна, несхаванасць" [2, с. 365].

Бачыць свет як цуд адкрыцця, як дар выяўлення несхаванасці, дзе простае, будзённае "стаіць" у жывым гарызонце патэнцыяльнага ўзвышэння, яднае завочны, амаль сінхронны дыялог філасофскай думкі Хайдэгера і творчай практыкі Лукаша Калюгі.

Ужо ў адным з першых твораў пісьменніка, апавяданні **"Вясна"**, можна выразна адчуць прыродную схільнасць маладога творцы здзіўляцца свету, павышаную пачуццёвую "тактыльнасць" яго манеры пісьма. Вось як гэта ўвасоблена ў экспазіцыйнай прыроднай замалёўцы апавядання: *"Як маленькія люстэрачкі, мяняюцца ад прамення вясенняга сонца растрэсеныя на полі сняжынкі. Весела міргае шыр палявая, як вокам скінуць, ад вуглоў трох новых хат з прыбудоўкамі хлеўчукоў ды такоў, што як дзіця старчыхі ў цёплай хаце, туляцца ля іх, да бярэзнічку шляхечага хутара. Заве шыр на свае загоны"* [1, с. 215].

Здавалася, будзённая, жывая пейзажная замалёўка прыходу вясны разам з тым вельмі яскрава высвечвае і прыгажосць месца, і ўзнёслы душэўны стан героя. Па-мастацку ўжытая метафара, дзе сняжынкі параўноўваюцца з маленькімі люстэркамі, якія шматколерна праламляюць промні вясенняга сонца, надае малюнку прыроды асаблівую каларытнасць бачання, адчуванне радасці, выяўляе новы ракурс успрымання і спазнання свету.

Прыродная прыгажосць у творы выступае арганічнай перадумовай чалавечай гарманізацыі жыцця, нягледзячы на канфліктны і псіхалагічна нацяты характар далейшага сюжэтнага разгортвання. Калізія твора будуецца на няпростых узаемаадносінах паміж шляхціцам-засцянкоўцам Вінцэсем, ад гаспадаркі якога адрэзалі

частку зямельнага надзелу, і яго новым суседам селянінам-аднаасобнікам Тодарам, які нядаўна кінуў парабкоўства і вырашыў пачаць новае самастойнае жыццё на выдзеленым яму сялянскім камітэтам участку зямлі. Адносіны да новай улады ў персанажаў супрацьлеглыя.

Паказальнымі ў апавяданні падаюцца і заключныя радкі, дзе аўтар даводзіць думкі Тодара: *"Вось мы ўкаранімся тут, тады падзівіцца свет. З гэтым абшарам нам саўладаць – плёвая справа"* [1, с. 218]. Унутраны маналог маладога селяніна, які толькі ўзбіўся на ўласны кавалак зямлі, найперш накіраваны на суседа, заможнага і гаспадарлівага шляхціца Вінцэся.



***Ігар Міхайлавіч Шаладонаў** – літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук (2002). Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі. Закончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт (1986), аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі (1992). Аўтар манаграфіі "Выпрабаванне чалавечнасці: беларускае апавяданне 20-х гадоў аб рэвалюцыі і грамадзянскай вайне" (2008), каля 70 навуковых артыкулаў.*

Цікава, што ў развагах Тодара робіцца акцэнт на слове *ўкараніцца*, якое кантрастуе з галоўнымі ідэалагічна-лозунгавымі паняццямі таго часу: *змяніць, перабудаваць, разбурыць*. Апантанае жаданне і схільнасць новага гаспадара да карпатлівай, упартай працы на новым месцы, імкненне ўпрыгожыць і добраўпарадкаваць гэты куток зямлі робяць яму гонар. Больш за тое, мы бачым, што Тодар не зайздрослівым, а паважліва-назіральным вокам аглядае і ўспрымае парадак і дабрабыт гаспадаркі суседа. Іншая справа, што для маладога аўтара, як і для яго героя, характэрна завышаная аптымістычная настраёвасць наконт рэалізацыі задум і мар.

Узвышаны пафас унутранага жадання ўсталявацца на гэтым месцы, у гэтым жыцці надае выразную прыгажосць марам, намаганням і дзеянням героя. Імкненне Тодара абжыцца на новым месцы, стварыць утульнасць і хараство ўжо сваёй патэнцыяльнасцю адухаўляюць прастору і шырыню навакольнага ландшафту: *"Пазіраючы на бакі, Тодар мерае гаспадарскім вокам шырыню Вінцэсева поля. Імчацца думкі стройнымі чародамі"* [1, с. 117]. Згодна з экзістэнцыяльным бачаннем, нямецкі філосаф лічыць, што формай вызначэння і выяўлення быцця з'яўляецца не абстрактная думка, а чалавечае існаванне.

У сюжэтнай калізіі апавядання дыялогі Тодара і Вінцэся, якія кандэнсуюць вызначальны канфлікт твора, не ствараюць моманту "сустрэчы", агульнай прасторы ўзаемаразумення і ўзаемапрыняцця найважнейшых прынцыпаў чалавечага жыццебудаўніцтва. Па аўтарскай логіцы сюжэтна-фабульнай кампазіцыі твора, найперш канфрантацыя і непрыманне зыходзяць ад зацятай пазіцыі шляхціца Вінцэся, які прыхаваў крыўду і не жадаў мірыцца з новым парадкам.

З іншага боку, стан душы Тодара, адкрыццё ім натуральнай, створанай рукамі людзей прыгажосці, утульнасці, гарманічнасці дазваляюць герою знайсці прастору "сустрэчы" з гістарычным *топасам* жыцця.

Калі зыходзіць з этымалогіі, *топас* – гэта месца, выкарыстанне якога справа не аднаго чалавека, а цэлага калектыву, грамады.

Лукаш Калюга праз вобраз галоўнага героя, селяніна Тодара, імкнецца выявіць тыпалагічную, народную рэфлексію на час, гістарычную рэчаіснасць, якая заснавана на індывідуальнай адаптацыі чалавека да новага сацыяльнага хранатопу. Вось чаму празаік так адкрыта звязвае перспектыву шчаслівага жыцця героя з яднаннем і супрацоўніцтвам з блізкімі па жыцці людзьмі, найперш з бядняцкім камітэтам, які прыходзіць на дапамогу Тодару ў час, калі вясной у беднага селяніна не хапае зерня ні на пражытак, ні на пасеў.

Людская салідарнасць, разуменне агульнасці лёсу і ёсць тая перадумова чалавечага ўзвышэння, што зараджае пафас жыццёвага аптымізму ў былога парабка, а цяпер селяніна-аднаасобніка, які вырашыў стаць гаспадаром свайго кавалка зямлі, займець тую "кропку быційнасці", якая ўключыць яго ў агульны працэс жыццестварэння.

Галоўным "месцам быційнай экзістэнцыі" творчасці Лукаша Калюгі стала яго родная вёска, што ў тэксце атрымала назву Баркаўцы. Баркаўцы ў пэўным мастацка-творчым сэнсе сталі пабрацімам знакамітай Іокнапатафы амерыканца У. Фолкнера, выразнікам феномена экзістэнцыяльна-топаснага мыслення пісьменніка. Адно з апавяданняў Лукаш Калюга так і назваў **"Баркаўцы – добрая вёска, і баркаўчане – вясёлыя людзі"**.

Вызначальнай сэнсавай характарыстыкай назвы твора, яго ідэі выступаюць словы-канцэпты *вясёлыя, весялосць*, якія вызначаюць пафасную аснову аўтарскага светапогляду. Гульнёвы, калектыўны пачатак жыццебудаўніцтва выяўляе ў творы арганічную спалучанасць сумеснай жыццясферы вёскі, дзе кожны баркаўчанін дадае да агульнага зместу і праявы вясковага ладу індывідуальную, арыгінальную адметнасць.

Мастацка-гульнёвая прастора апавядання ўтрымліваецца найперш на грунце падпарадкавання адзіным спрадвечным канонам і правілам сялянскага побыту, дзе загадзя амаль усё прапісана і запраграмавана і дзе выявіць уласную

неардынарнасць магчыма толькі праз нейкую сваю, прыродна дадзеную рысу.

Цікавым аўтарскім назіраннем з'яўляецца характарыстыка баркаўчан: «*Не шануюць і самі сябе баркаўчане. У нас нікога па імені не завуць. Кожны мае сваю* ***прыкладку****. І ў старога і ў малога яна ёсць. Лук'яна капераціўскім сабакам завуць, Трахіма з Пагулянкі – млечнікам. Парасчынага свёкра "дэбаю" звалі. Ды што казаць, як каго завуць, калі вы болей нікога і не ведаеце ў нас. Але пачакайце! Абы толькі вам быў час, а мне ахвота, дык шчэ ці аднаго можна будзе баркаўчаніна ў газетах працягнуць. Абы здароўе! Потым весела ў Баркаўцах жыць. Дармо, што і ў мяне самога* ***прыкладка*** *ёсць, а я патом іх ні на адну вёску, ні на адзін горад не прамяняў бы*» [1, с. 230].

Як відаць з прыведзенага прыкладу, аўтар прытрымліваецца тапалагічнай рэфлексіі, не аддзяляе сябе ад аднавяскоўцаў, захоўвае з імі ўнутраную, пупавінную сувязь. Гэтае ўменне, прыродны дар празаіка, зліцца са сваімі героямі-аднавяскоўцамі ў адзіным паўнакроўным, быційна-жывым імпульсе прадвызначае феномен мастацкай праўдзівасці ранняй творчасці Лукаша Калюгі. Яго героі, простыя звонку людзі, выжываюць у нялёгкіх сацыяльных умовах пераходнага перыяду, дзе жыццё аднаго шмат у чым залежыць ад іншага, усіх.

У апавядальнай прозе выразна выяўлена архетыпнасць калектыўнага спосабу развіцця, які стагоддзямі складваўся ў грамадстве і ствараў ментальную аснову народа, яго звычаі, норавы, характар. Маладому мастаку слова ўдалося вельмі трапна паказаць тую фактуру народнай выжывальнай стратэгіі, дзе, здавалася, непрыкметная, слаба праяўленая і пакуль непрадуктыўная ў жыцці адметная рыса індывіда знаходзіла сваё месца ў калектыўным целе і топасе існавання людской супольнасці.

Наяўнасць такой рысы добра раскрыта на фоне "*прыкладкі-мянушкі*" ў кожнага жыхара вёскі Баркаўцы. Уважлівае стаўленне пісьменніка да натуральнага, паўсядзённага жыцця, самых дробных змен у побыце і паводзінах людзей стварае ў ідэйным плане ранняй апавядальнай прозы Лукаша Калюгі аптымістычна-дзейсную парадыгму псіхалагічнай устаноўкі жыхароў вёскі, утрымлівае ў іх актыўны пазнаваўчы модус, прымушае пакуль што больш-менш арганічна прыстасоўвацца і адаптавацца да новых павеваў у сацыяльным, палітычным і эканамічным жыцці краіны і разам з тым засяроджана прыглядацца да негатыўных, разбуральных працэсаў разбалансаванасці паспешлівых актывісцка-радыкальных праяў у грамадскім арганізме вясковага быту.

Праява адаптацыйнасці як формы карпатлівага абжывання сваёй сацыяльнай прасторы ў часе становіцца пазначальнай прыкметай творчай манеры празаіка. Пісьменнік вельмі адчувальны і ўважлівы да мінімальных вонкавых зрухаў зямлі і прыроды, якія станавіліся каталізатарамі самых нечаканых душэўных і духоўных праяў. Творца быў арыентаваны найперш на паказ унутранага поклічу людзей да гарманічнага развіцця, на пошук і знаходжанне рэсурсаў да ўзвышэння (пад уплывам як калектыўнага, так і асабістага вопыту) у асваенні рэчаіснасці.

Асаблівая ўвага пісьменніка да арганікі калектыўнага выжывання, моцы вітальнай сілы інстынкту, дзе падсвядомае, архаічнае ўключана ў пазітыўную функцыю развіцця, робіць шмат у чым алагічныя, арыгінальныя думкі і дзеянні герояў важным крытэрыем і фактарам стабільнасці і выжывальнасці праўды і годнасці.

Паказальны прыклад з усё таго ж апавядання "Баркаўцы – добрая вёска, а баркаўчане – вясёлыя людзі". Ужо вядомы нам селянін Трахім з Пагулянкі ў творы выказвае, на першы погляд, парадаксальную, алагічную думку, "*што Баркаўцы й блізка ля добрай вёскі не стаялі, бо гарэць не разу не гарэлі*" [1, с. 232].

Арыгінальнасць свайго меркавання ён тлумачыць наступным чынам: "*Тут, – кажа, – не людзі, нелюдзі. Ніколі яны з торбамі не хадзілі. Гору чалавечаму не ўмеюць спагадаць, бо самі ў ім не былі*". І хоць аўтар далей жадае крыху згладзіць горкі папрок Трахіма вёсцы тым, што казаў ён гэтыя словы ў хвіліну злосці, з кім не бывае, "*а так няма людзей лепшых, як нашы баркаўчане*" [1, с. 234]. Але ў гэтым алагічным выказванні Трахіма прыхаваны, на нашу думку, значна шырэйшы змест і сэнс пісьменніцкай метадалогіі ў раскрыцці чалавеказнаўства.

Пажар як стыхійная прыродная сіла дае найбольш выразную магчымасць раскрыцца сапраўднаму чалавечаму патэнцыялу, убачыць, наколькі ўнутраныя асабістыя і калектыўныя якасці людзей рэалізаваліся ў неардынарнай сітуацыі. Менавіта пры такіх стыхійна-гібельных з'явах найбольш выразна выяўляецца духоўная вышыня высілкаў індывідуальных і калектыўных, найбольшае выражэнне амаль інстынктыўных дзеянняў людзей.

Таму паводзіны ў час знішчальнай пагрозы нярэдка могуць быць сапраўдным крытэрыем і паказчыкам чалавечнасці. На гэта хоча звярнуць увагу Лукаш Калюга словамі і думкамі Трахіма з Пагулянкі, які разам з іншымі героямі найбольш удала паказвае, дэкларуе і генерыруе адаптацыйна-топасную парадыгму паступовага і вельмі маруднага працэсу "прырашчэння" маралі, духоўнасці, чалавечнасці ў народнай стыхіі жыцця.

**Спіс літаратуры**

1. **Калюга, Л.** Творы : раман, аповесці, апавяданні, лісты / Л. Калюга; уклад., прадм. Я. Р. Лецкі; камент. Н. В. Гаўрош, Т. М. Трыпуцінай. – Мінск : Маст. літ., 1992.

2. **Хайдеггер, М.** Время и бытие : статьи и выступления / М. Хайдеггер. – М. : Республика, 1993.

*У энцыклапедыю "Максім Багдановіч"*

Мікола ТРУС

# ЭМІЛЬ ВЕРХАРН І МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

## БЕЛЬГІЙСКА-БЕЛАРУСКАЯ СПАДКАЕМНАСЦЬ ТВОРЧАСЦІ І ГРАМАДСКІХ ПАМКНЕННЯЎ

Бельгія. Невялікая краіна ў цэнтры Еўропы. Колькасна нешматлікі народ, для якога глабальныя грамадска-палітычныя патрасенні заўсёды былі пагрозай выжывання як нацыі, праблемай захавання культурнай самабытнасці. Тут нарадзіліся сусветна вядомыя шэдэўры жывапіснага мастацтва – палотны вялікіх фламандцаў Ван Дэйка, Брэгеляў, Рубенса, Ёрданса і інш.

У адметным рэчышчы развіваліся бельгійска-беларускія культурныя сувязі, замацаваныя за апошнія дзесяцігоддзі арганізацыйна – стварэннем таварыства дружбы паміж дзвюма краінамі. У Бельгіі пэўны час жыў кампазітар Мікола Равенскі, а таксама мастак-рэстаўратар Міхась Саўка, доктар мастацтва, кавалер ордэна Кароны, які вучыў каралеву Бельгіі маляванню. Беларускае перастварэнне бельгійскага мастацкага слова прагучала ў зборніках "Краіна Паэмія" (1962), "З французскай і бельгійскай паэзіі" (1993). На пачатку ХХ ст. парасткі сяброўства і культурнай узаемнасці гадаваліся класікам беларускай літаратуры Максімам Багдановічам.

Тамтэйшую спецыфіку культурнай і палітычнай сітуацыі ў многім прадвызначыла геаграфічнае становішча Бельгіі, якая стагоддзямі развівалася на стыку раманскай і германскай культур, спарадзіла спецыфічны феномен – "бельгійскі сінтэз". Каралеўства Бельгія складаецца з дзвюх частак: Фландрыі і Валоніі, што знаходзяцца ў стане пастаяннага саперніцтва, якое апошнім часам стала асновай доўгатэрміновага палітычнага крызісу.

Сёння, як і даўней, бельгійская літаратура ствараецца пераважна на дзвюх мовах: французскай (паўднёвыя правінцыі) і фламандскай (нідэрландскай, паўночныя правінцыі).

Да XVIII ст. літаратура на французскай мове была неад'емным складнікам французскай культурнай метраполіі, на фламандскай – нідэрландскай. Сусветна вядомая класіка франдцузскамоўнай літаратурнай творчасці пазнейшага часу – Шарль дэ Кастэр (1827 – 1879), Марыс Метэрлінк (1862 – 1949), Жорж Сіменон (1903 – 1989) і інш.

Вялікую ролю ў справе кансалідацыі творчых сіл, абуджэнні цікавасці да нацыянальнай літаратуры ў XIX ст. адыграла "Маладая Бельгія", літаратурнае аб'яднанне, што існавала ў 1880 – 1890-я гг. і выдавала часопіс пад такой самай назвай (1881 – 1897). Пакліканне "Маладой Бельгіі" да жыцця звязана з ростам нацыянальнай самасвядомасці ў краіне, імкненнем стварыць нацыянальную самабытную літаратуру, вызваліцца ад сляпога прыпадабнення да замежных, асабліва французскіх узораў мастацкай творчасці. У групу ўваходзілі Э. Верхарн, М. Метэрлінк, Ж. Экаўт, Ж. Родэнбах – усяго 14 пісьменнікаў, якія аб'ядналіся пад лозунгам "Будзем самімі сабой" ("Soyons nous"). "Мастацтва дзеля мастацтва" было адным з галоўных эстэтычных крэда "Маладой Бельгіі".

Адметнай эпохай у гісторыі нацыянальнага пісьменства стаў канец XIX – пачатак XX ст., калі бельгійская літаратура ў многім з аб'екта знешніх уплываў ператвараецца ў суб'ект актыўнага творчага дыялогу, сама аказвае заўважны ўплыў на мастацкае жыццё ў іншых краінах Еўропы. У авангардзе творчых пошукаў у гэты час крочыць паэзія (Э. Верхарн) і драматургія (М. Метэрлінк). "Спецыфіка развіцця бельгійскай літаратуры на мяжы стагоддзяў непасрэдна звязана з сацыяльнымі катаклізмамі эпохі інтэнсіўнай індустрыялізацыі і ўрбанізацыі краіны, аплачаных разарэннем фламандскай вёскі, чые жыхары масамі рынуліся ў гарады на новыя капіталістычныя прадпрыемствы" [8, с. 303]. Характарызуючы час і значэнне творчасці Э. Верхарна, Б. Раскін пісаў у прадмове да зборніка вершаў бельгійскага паэта: «…наступала эпоха грандыёзных сацыяльных зрухаў, эпоха войнаў і рэвалюцый, і найбольш чэсныя і чуйныя пісьменнікі Захаду не маглі не чуць "падземных штуршкоў" блізкіх гістарычных патрасенняў. Да такіх пісьменнікаў належаў Верхарн. Адчуванне пераднавальнічнага часу – пярэдадня вялікіх крушэнняў і вялікіх здзяйсненняў – ён адлюстраваў выключна глыбока і шматвобразна» [6, с. 5].

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 4.*

### З ЖЫЦЦЯПІСУ ЭМІЛЯ ВЕРХАРНА

Эміль Верхарн (Emile Verhaeren; 21.05.1855, Сент Аман, Бельгія – 27.11.1916, Руан, Францыя) – бельгійскі паэт, драматург, крытык. Фламандзец па паходжанні. Пісаў на французскай мове. Закончыў юрыдычны факультэт універсітэта ў Лювене, працаваў адвакатам. У пачатку 1880-х гг. зблізжаецца з дзеячамі "Маладой Бельгіі", супрацоўнічае з шэрагам газет і часопісаў, публікуе крытычныя артыкулы, прысвячае сябе мастацкай літаратуры. Блізкімі Э. Верхарну былі сацыялістычныя ідэі, ён стаў адным з заснавальнікаў пры "Народным доме" (1891) у Брусэлі літаратурна-мастацкай секцыі, дзе сам чытаў лекцыі рабочым па літаратуры і мастацтве.

Творчая індывідуальнасць пісьменніка фарміравалася ў рэчышчы актыўнага знаёмства з фламандскай культурай, захопленасці каларытнымі карцінамі П. Рубенса, рэлігійных пошукаў. Вялікі ўплыў на Э. Верхарна аказалі французскія пісьменнікі В. Гюго, Ш. Бадлер, а таксама заканадаўцы наватарскіх тэндэнцый у еўрапейскім мастацтве, майстры сімвалізму П. Верлен, С. Малармэ, А. Рэмбо.

Мастацкая эвалюцыя пісьменніка прайшла шлях парнаскай вытанчанасці дэбютных вершаў, відавочнага ўздзеяння сімвалізму і містыцызму. Паэт звяртаўся да апісання вясковай Фландрыі, што супрацьстаўлялася адчужанасці і бесчалавечнасці горада. Першая кніга – зборнік вершаў "Фламандкі" ("Les flamandes", 1883) – засведчыла майстэрства аўтара ў абмалёўцы вясковага каларыту.

На творчым рахунку Э. Верхарна зборнікі і паэтычныя цыклы "Вечары" ("Les Soires", 1887), "Крушэнні" ("Les Débâcles", 1888), "Чорныя паходні" ("Les Flambeaux noirs", 1890), "Палі ў трызненні" ("Les Campagnes hallucinées", 1893), "Прывідныя вёскі" ("Les Villages illusoires", 1894), "Гарады-спруты" ("Les Villes tentaculaires", 1895), "Уся Фландрыя" ("Toute la Flandre", 1904 – 1911) і інш.

У час Першай сусветнай вайны паэт пісаў пра трагедыю маленькай Бельгіі, ахвяры агрэсара, апяваў подзвіг салдат і генералаў, што змагаліся ў імя "захавання нацыі", заклікаў да "братання" на фронце. Усё гэта знайшло адлюстраванне ў зборніку "Пунцовыя крылы вайны" ("Les Ailes rouges de la guerre", 1916), а таксама рускім выданні "Окровавленная Бельгия" (1915).

Творчасць Э. Верхарна аказала значны ўплыў на еўрапейскую літаратуру XX ст. У французскай мастацкай творчасці пад уздзеяннем сілавога поля яго паэзіі фарміраваліся такія плыні, як унанімізм, параксізм, касмізм і інш.

### УСХОДНЕСЛАВЯНСКІ ВЕКТАР ТВОРЧАЙ УЗАЕМНАСЦІ

У 1911 – 1913 гг. Э. Верхарн шмат падарожнічаў, чытаў лекцыі ў розных гарадах Германії, пабываў у Расіі, дзе яго выступленні ў Маскве і Пецярбургу сустрэлі цёплы прыём і мелі шырокі розгалас. Уражанні ад паездкі знакаміты бельгіец выклаў у некалькіх артыкулах і вершах.



**Эміль Верхарн.**

Дванаццаць гадоў Э. Верхарн перапісваўся з В. Брусавым. Толькі за перыяд з 1907 да 1914 г. паэты абмяняліся амаль ста лістамі. В. Брусаў тройчы наведаў калегу па пяры ў яго бельгійскім летнім доме каля французскай мяжы (1908, 1909, 1913). Першыя апублікаваныя пераклады твораў Э. Верхарна на рускую мову належаць гэтаму мастаку слова і датуюцца пачаткам XX ст. (па іншых сведчаннях, справа рускага перастварэння твораў бельгійскага паэта была распачата яшчэ ў 1890-я гг.). Першая кніга, выдадзеная ў Расіі, – "Стихи о современности" (1906, пераклад В. Брусава). У рускай інтэрпрэтацыі ў пачатку XX ст. выйшлі таксама драмы "Манастыр", "Філіп II", "Алена Спартанская". Да Кастрычніцкай рэвалюцыі над перакладамі твораў бельгійскага пісьменніка працавалі А. Блок, В. Брусаў, М. Валошын, М. Чуеў, Г. Чулкоў, Эліс і інш.

Мяркуючы па вялікай колькасці перакладаў, задзейнічаных выбітных перакладчыках, цалкам апраўдана весці гаворку пра своеасаблівы культ Э. Верхарна ў Расіі першых дзесяцігоддзяў XX ст. З павагай пісалі пра бельгійскага паэта і пісьменнікі-сімвалісты, і аўтары бальшавіцкай газеты "За правду". Невыпадкова А. Блок, адзін з перакладчыкаў твораў Э. Верхарна на рускую мову, адзначыў, што ў бельгійскага паэта "гучнае імя Данта сучаснай еўрапейскай паэзіі…". В. Брусаў пісаў, што сучаснікі гатовыя "ўзвесці яго на той, зараз вольны трон, які ў розныя ча-

сы займалі Гётэ, Віктор Гюго, Леў Талстой…" [3, с. 13].

У наш час творы Э. Верхарна загучалі па-беларуску дзякуючы Л. Баршчэўскаму. Прывядзем адзін з узораў плёну працы перакладчыка.

**ПАБОЖНАЕ**

*Ноч зімняя пацір да неба ўзносіць.*

*І ўзношу ў змроку сэрца я сваё начное,*
*О Госпадзе, ў бясконцыя Твае прасторы,*
*А ўсё-ткі ведаю: не здарыцца такое,*
*Каб само сэрца сціішылася ў горы.*
*Я знаю: маніш Ты – й майго не бачыш твару*
*І руху губ, і як укленчыў я маркотна…*
*Не спадзяюся на спагаду я – ды мару,*
*Адзін ва ўсім Сусвеце, гэтак вось маркотна.*
*Дай веры маім трызненням-літанням:*
*Мне трэба выліць іх перад Тваім маўчаннем.*

*Ноч зімняя пацір да неба ўзносіць* [5, с. 694 – 695].

**ВЕРШ "ПАЎСТАННЕ" ЭМІЛЯ ВЕРХАРНА Ў ПЕРАКЛАДЗЕ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА**

Цікавасць М. Багдановіча да творчасці Э. Верхарна, тое, што стала штуршком да перакладу верша "Паўстанне", можна патлумачыць featureрознымі акалічнасцямі: гэтаму магла паспрыяць сама аўра захопленасці творчасцю бельгійскага паэта ў Расіі пачатку XX ст., якая толькі ўзмацнілася пасля яго прыезду ў 1913 г.; не апошнюю ролю магло адыграць і адметнае стаўленне да вядомага бельгійца В. Брусава, асобу і творчасць якога, у сваю чаргу, пясняр чыстай красы ўспрымаў з асаблівым піетэтам. Да таго ж творчая практыка класіка беларускай літаратуры ў пэўнай ступені выявіла кропкі судакранання з паэзіяй Э. Верхарна, версіфікацыйнае майстэрства апошняга (верлібры), распрацоўка ўрбаністычнай тэматыкі былі ў пачатку XX ст. узорнымі ў еўрапейскім маштабе. Даследчыкі адзначаюць: "У эпоху, калі гарызонты паэзіі на Захадзе катастрафічна звужаліся, ён стварыў магутнае мастацтва, якое здзіўляе грандыёзным ахопам гісторыі і сучаснасці, прыроды і грамадства, нацыянальнага і агульначалавечага" [5, с. 11].

Пераклад М. Багдановіча датуецца ўмоўна 1913 – 1914 гг. [2, с. 686]. Па-беларуску перанічаваныя першыя пяць строф верша "Паўстанне" ("Le révolte") з кнігі "Гарады-спруты" ("Les Villes tentaculaires", 1895), дзе горад пададзены ў яго сацыяльных кантрастах, а паўстанне (у перакладах іншых аўтараў – рэвалюцыя, мяцеж) бачыцца як увасабленне народнага гневу і стваральнай сілы, «менавіта ў "Гарадах-спрутах" Верхарн вырастае ў найбуйнейшага паэта-ўрбаніста, які шукае новыя шляхі паэтычнага ўвасаблення новага зместу жыцця» [6, с. 8].

Мы звярнуліся да першай публікацыі перакладу М. Багдановіча. Нам бачыцца, што такая рэтраспектыва тоіць у сабе напаўзабыты навуковы патэнцыял. У гэтым выпадку твор друкаваўся па рукапісе, зараз страчаным, каментарыі да яго – адна з першых старонак станаўлення беларускай класічнай літаратуразнаўчай навукі. Заўважаныя хібы ў моўнай арганізацыі тэксту актуальныя і сёння, хоць не лішне нагадаць, што гэта быў час эмпірычнага станаўлення беларускай літаратурнай мовы, а паколькі пераклад не друкаваўся пры жыцці М. Багдановіча і ахоплівае толькі частку арыгінала, то можна гаварыць пра яго як чарнавы, рабочы варыянт, так бы мовіць, адзін з прыкладаў творчай лабараторыі перакладчыка. Узнаўленнем публікацыі 1927 г., сёння маладаступнай, з захаваннем усіх асаблівасцей тагачаснага правапісу, мы імкнуліся актуалізаваць тэксталагічную працу, вывучэнне этапаў станаўлення беларускага літаратуразнаўства, а таксама дынаміку ўспрымання і навуковага асэнсавання творчасці класіка беларускай літаратуры.

У якасці дадатковых, ужо сучасных каментарыяў адзначым адну акалічнасць: пры публікацыі ў Творах (1927; 1957), Зборы твораў (1968) не былі ўлічаны аўтарскія папраўкі рукапісу, зробленыя М. Багдановічам. У Поўным зборы твораў (у 3 т.) паэта першапачатковы тэкст узноўлены:

"7 *Вечара чырвань і золата крыюць у глыбі яе.*



***Тэа ван Рысельберг.* Чытанне Эміля Верхарна.** 1903 г.

11 *З вамі, агні, зіхацяшчыя саблі, штыкі:*
13 *Ўздзеты у іх на канцох, як сарваныя груба цвяткі!*" [2, с. 379].

Агульнапрызнана, што М. Багдановіч – пачынальнік урбаністычнай паэзіі ў беларускай літаратуры, але ці магчыма вытлумачыць распрацоўку гэтай новай тэмы ў нацыянальным пісьменстве нашаніўскага перыяду толькі знаёмствам і захопленасцю паэтам Вільняй?

Эміль Верхарн распрацоўваў тэму горада дзесяцігоддзямі, як правіла, выкарыстоўваючы версіфікацыйныя магчымасці верлібра, і пры гэтым выяўляў эвалюцыю аўтарскага бачання. Немагчыма адназначна сцвярджаць у дадзеным выпадку пра ўплыў творчасці на той час прызнанага класіка бельгійскай літаратуры на беларускага песняра: перад намі паўстануць моцна адрозныя аўтарскія інтэрпрэтацыі ўрбаністычнай паэзіі, але кантэкстуальная падсветка творчасці Максіма Багдановіча адкрывае з гэтай нагоды новыя гарызонты даследавання, падмацоўвае еўрапейскасць гучання беларускага мастацкага слова пачатку ХХ ст.


**Спіс літаратуры**

1. **Антановіч, Т.** Гучала слова бельгійскага класіка / Т. Антановіч // Кантакты і дыялогі. – 2000. – № 3.
2. **Багдановіч, М.** Поўны збор твораў : у 3 т. / М. Багдановіч; АН Беларусі, Ін-т літаратуры імя Я. Купалы. – Мінск : Навука і тэхніка, 1992. – Т. 1 : Вершы, паэмы, пераклады, наследаванні, чарнавыя накіды / рэд., аўт. прадм. А. Лойка. – 752 с.
3. **Брюсов, В.** Эмиль Верхарн. По письмам и личным воспоминаниям / В. Брюсов // Русская мысль. – 1917. – № 1.
4. **Волошин, М.** Верхарн : Судьба, творчество, переводы / М. Волошин. – М., 1919.
5. **Галасы з-за небакраю** : анталогія паэзіі свету ў беларускіх перакладах ХХ ст. / склад М. Скобла; уступны артыкул Е. Лявонавай, навук. рэд. Л. Баршчэўскі. – Мінск : Лімарыус, 2008. – 896 с.
6. **Раскин, Б.** Поэзия Верхарна : [вступ. статья] / Б. Раскин // Э. Верхарн : стихи. – М. : Гос. изд-во худ. лит., 1961. – С. 5 – 12.
7. **Творы М. Багдановіча** : вершы – апавяданьні – тэкст – варыянты – увагі; падрыхтавана літаратурнаю камісіяй Інбелкульту; пад рэдакцыяй Проф. І. І. Замоціна / М. Багдановіч. – Менск, 1927. – Т. 2. – 502 с. [Акадэмічная бібліотэка беларускіх пісьменьнікаў].
8. **История всемирной литературы** : в 9 т. / РАН, Ин-т мировой лит. им. А. М. Горького. – М. : Наука, 1994. – Т. 8. – С. 300 – 316.
9. **Фрид, Я. В.** Эмиль Верхарн : Творческий путь поэта / Я. В. Фрид. – М. : Худож. лит., 1985. – 271 с.


Эміль ВЕРХАРН

**ПАЎСТАНЬНЕ**

*Вуліца – ў руху кракоў,*
*Цела і плеч, і працягнутых рук,*
*Рвушчыхся дзіка ў гару, як галіны кустоў.*
*Так і здаецца, што тут самой вуліцы рух,*
*Мкнушчай, лятучай, дрыжашчай ад сьлёз*
*Злобы, надзей і пагроз;*
*Вечара чырвань і золата крыюць яе.*

*Ў гуле трывожных званоў*
*Сьмерць устае.*
*Сьмерць усплывае са сноў*
*З вамі, агні і штыкі;*
*Колькі галоў*
*Ўзьдзеты у іх, як сарваныя груба цьвяткі!*

*Кашаль глыбокі гарматаў глухіх*
*Лічыць стагнаньні цякушчых гадзін,*
*Лічыць самотна, адзін:*
*Ўсе цыфэрбляты на пляцах крывых,*
*Быццам як вочы ў павеках бальшых,*
*Выбіў каменьняў ударыўшы град.*
*Часу звычайнага болей няма.*
*Душам адважным, ня маючы спыну ума,*
*У церазьмернасці гэтых грамад.*

*На вуліц шэрыя каменьні*
*Шалёнасьць люнула ў гарэньні*
*Агнёў, у крыках, поўных сілы,*
*Са сьвежай кроўю кожнай жылы,*
*Зьбялеўшы страх*
*Ад напруджэньня:*
*Нядоўгі сіл яе размах*
*Варт нават века цегаценьня*
*К сталетняму свайму чаканьню*
*У марах, снах.*

*І ўсё, аб чым калісь мы сьнілі,*
*Аб чым вачамі мы малілі,*
*То, што мы словам раскачалі,*
*Што нават сьмелыя адклалі*
*На будучы далёкі век,*
*Што быццам сокі, чалавек*
*Ў глыбі сваёй маўчком хавае, –*
*Яно цяпер шмат рук з аружжам налівае,*
*Зьмяшаўшы ў грамадзе заўзятасьць,*
*злобу, зьдзек.*

Выдаецца з аўтографу (IV, 8, 32). Пераклад першых пяці строф вершу E. Verhaeren "La révolte".

У аўтографе рукою паэты да пачатковага тэксту даданы ўстаўкі ў наступных радкох: 7-м – "у глыбі" – між словамі "крыюць яе", у 11-м радку – "зіхацяшчыя саблі" – між "агні і штыкі", і ў 13-м – "на канцох" – пасьля слоў "узьдзеты ў іх".

У 1-м радку "кракоў" (зам. "крокаў") ужыта поэтам, як відаць, для рыфмы з словам "кустоў" (3 р).

У 2-м радку слова "страх" ("зьбялеўшы страх") трэба разумець як прыслоўе "вельмі", "дужа", "надта". У 5-м радку дзеяпрыметнікі цяперашняга часу ("мкнушчай", "дрыжашчай") ужыты поэтам на ўзор расійскае літаратурнае мовы.

Радкі 8-3 і 20-23 у перакладзе ня зусім ясны, таму для параўнаньня да іх прыводзім французскі тэкст <…> [7, с. 478].

# МІФАЛАГЕМА КУЛЬТУРНАГА ГЕРОЯ Ў ТВОРЧАСЦІ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

Хто такі *культурны герой*? Гэта герой-асветнік, персанаж міфа, які здабывае або ўпершыню стварае для людзей розныя прадметы культуры, уводзіць пэўную культурную арганізацыю, магічныя загады, рытуалы. Місія культурнага героя ў міфалогіі – творчае пераўтварэнне свету, яго ўпарадкаванне для жыцця людзей.

У аснову міфаў, казак, эпічных аповедаў пакладзены сюжэт пра вандраванні і прыгоды героя. Ім можа быць першапродак, культурны герой, дэміург. Пра яго дзейнасць мы даведваемся непасрэдна з тэксту таго ці іншага міфа, аднак "яшчэ не ацэнены ў поўнай ступені месца і значэнне фігуры героя ў духоўным жыцці ўсіх народаў, не толькі ў старажытнасці, але і да сёння" [1].

Першапродкі, культурныя героі, дэміургі часта аб'ядноўваюцца ў адзін вобраз, які ў значнай ступені садзейнічае пераадольванню хаосу ў свеце, усталяванню гармоніі. Менавіта таму названыя катэгорыі міфічных персанажаў і з'яўляюцца ці не самымі галоўнымі ў старажытнай міфалагічнай спадчыне. У адных народаў у якасці такіх герояў выступаюць татэмныя продкі-жывёлы (Воран, Кіт, Мядзведзь, Леў, Бык), у другіх – істота з антрапаморфнымі рысамі (дух, бог, тытан, герой), у трэціх – герой ператвараецца ў казкавага персанажа.

Да ліку самых вядомых герояў далучаюць знакамітага міфалагічнага персанажа – Праметэя, які прынёс людзям агонь. Таксама варта адзначыць і наступных герояў-цывілізатараў, першых цароў самых розных царстваў: траянца Энея (як лічылася, першапродка італьянскага народа), Ромула (першага цара Рыма), беларускага князя Усяслава Чарадзея, рускага Уладзіміра Краснае Сонейка і інш.

Асаблівая ўвага засяроджваецца на выключным паходжанні героя, які звязаны са сферай сакральнага. Лічылася, што ён можа ўзняцца на неба, быць пасланцам багоў, выканаўцам іх волі. Часам у якасці героя мог выступаць творца цэлага сусвету. У любым выпадку, у "паходжанні героя можна адзначыць выбранасць, выключнасць, прадвызначэнне. Ён закліканы альбо прызначаны для выканання нейкай звышчалавечай задачы" [1].

Такім чынам, міфалагема культурнага героя абавязкова павінна быць надзелена функцыямі абаронцы, народнага збаўцы. У гэтым плане яна цесна карэлюе з міфалагемай выяўлення Нябеснага Іерусаліма, з якой, у сваю чаргу, звязаны матыў з'яўлення Месіі, заступніка чалавечага роду. "Персанаж месіі ідэнтыфікаваны з культурным героем альбо міфічным доўгачаканым продкам. Іх прыход раўназначны рэактуалізацыі міфічных першапачатковых часоў, ці адраджэнню свету" [2, с. 78]. Атрымліваецца, міфалагема героя – гэта адкрытая эксплікацыя з'яўлення Месіі, што знаходзіць выражэнне на старонках як архаічных тэкстаў, так і больш сучасных.

Важны момант у характарыстыцы міфалагемы героя – гэта абавязковая наяўнасць гераічных дзеянняў, якія, па логіцы, павінны прывесці да значнага паляпшэння ўмоў існавання як асобнага персанажа твора, так і ўсіх дзейных асоб у аповедзе. Міфалагема героя звычайна распадаецца на некалькі ўзроўняў, на якіх варта спыніцца больш падрабязна.

Па-першае, вандраванне героя. Яно заўсёды адбываецца з пэўнымі перашкодамі, загадкамі, таямнічымі пераўтварэннямі. Па-другое, просьба пра дапамогу, успрынятая героем як асабістае даручэнне, адмовіцца ад якога ён не мае права. Патрэбна ўдакладніць, што вандраванне можа адбывацца як пасля такой просьбы, так і перад ёй, бо вельмі часта назіраецца сітуацыя, калі герой прыязджае ў невядомую мясціну і толькі тут даведваецца пра неабходнасць дапамагчы людзям. Нарэшце, трэці ўзровень міфалагемы – гэта здзяйсненне дапамогі праз подзвіг: не проста прыехаць і дапамагчы, а абавязкова зрабіць гераічны ўчынак, што не пад сілу астатнім, але мае элементы барацьбы, суда, пакарання, дзе сам герой будзе выконваць функцыі як воіна, так і суддзі. "І герой вядзе вайну да пераможнага заканчэння без усялякіх кампрамісаў і перамір'яў. Справядлівасць павінна быць узноўлена. І герой здзяйсняе суд" [1].

Вядома, найлепшая ілюстрацыя міфалагемы культурнага героя ў творчасці Уладзіміра Караткевіча – раман "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". Аднак і ў іншых творах такі тып героя мае вы-

*У красавіцкім нумары змешчаны артыкул **Паўла Ушкевіча** "Міфалагемы ў творчасці Уладзіміра Караткевіча. Міфалагема шляху". Неўзабаве будзе апублікаваны матэрыял маладога даследчыка "Міфалагема вечнай жаноцкасці ў творчасці Уладзіміра Караткевіча".*

разнае мастацкае ўвасабленне. Зварот да гэтай міфалагемы ў творах беларускага пісьменніка – таксама і зварот да семантыкі героя ў беларускай літаратуры ўвогуле, якая застаецца слабавывучанай у міфалагічным кірунку*.

У аповесці ***“Дзікае паляванне караля Стаха”*** У. Караткевіча вобразы і ўчынкі галоўнага героя Андрэя Беларэцкага ўсталёўваюць аналогіі з дзеямі культурнага героя, заступніка (згодна з біблейскай міфалогіяй, Месіі). Звернем увагу на ўзроўні выяўлення міфалагемы героя ў творы У. Караткевіча.

Андрэй Беларэцкі наведвае ваколіцы Балотных Ялін у той час, калі яго з’яўлення ніхто не чакае. Увогуле, жаданне прыехаць менавіта ў гэтае месца ўзнікла раптоўна, нечакана для нашага героя: *“Я быў у такім настроі, калі адзін мой знаёмы параіў мне паехаць у Н-скі павет, месца, якое нават у той час лічылася глухім”* [3, с. 10]. Само вандраванне (як першы ўзровень міфалагемы культурнага героя) распачынаецца ў глухой балотнай мясцовасці: *“Гэта не была звычайная раўніна, на якой коцяць рудыя рэдкія хвалі нашы жыты, гэта не была нават дрыгва – дрыгва ўсё ж не пазбаўлена разнастайнасці: там ёсць трава, ніцыя скарлючаныя дрэўцы, там можа бліснуць азярцо. Не, гэта быў самы жахлівы, самы безнадзейны з нашых краявідаў: тарфяныя балоты”* [3, с. 11]. Жудаснае надвор’е, адсутнасць дарогі, цёмная, як сажа, ноч – усё спрыяла таму, каб развітацца з жыццём адразу ж, у балоце. Аднак Андрэю Беларэцкаму, кажучы словамі з аповесці, *“не хацелася паміраць”*. Можна сцвярджаць, што ён здзейсніў свой першы подзвіг: застацца жывым пры такіх умовах і знайсці сцежку да маёнтка Балотныя Яліны зможа не кожны са смяротных. У названым выпадку дзейнічае “закон міфапаэтыкі”: сваю волю правяць вышэйшыя сілы. Пра што сведчаць нават словы ахмістрыні: *“Во пашчасціла вам, выратавала вас царыца нябесная”* [3, с. 15].

Аднак на гэтым першы ўзровень міфалагемы не заканчваецца. Вандраванне Беларэцкага атрымлівае працяг і ў наступных раздзелах. Пасля таго як ён наведаў сядзібу Дубатоўка, распачалося “падарожжа” праз балота да маёнтка Балотныя Яліны, дзе і адбылася сустрэча з прывідным паляваннем: *“Бязгучна скакала па верасе дзікае паляванне караля Стаха, імчалі шэрыя, туманныя, нахіленыя наперад постаці. Я не адразу зразумеў, што яны, блукаючы балотам, натрапілі на мой след і зараз ідуць па ім па маю душу”* [3, с. 92]. І ў гэты раз Беларэцкі ацалеў, што таксама можна лічыць воляй вышэйшых сіл, бо рэдка хто пасля сустрэчы з дзікім паляваннем заставаўся жывым.

Падарожжа героя не спыняецца. Ён наведвае фальварак Жабічы, які належаў Кульшам, Халодную лагчыну, хату Свеціловіча, гарадок. Такім вандраваннем па яноўскім наваколлі міфалагема як бы “абвяшчае” ўсім пра з’яўленне нейкай новай асобы, *культурнага героя*.

Другі ўзровень міфалагемы ўтрымлівае просьбу пра дапамогу. Такім заклікам гучаць словы гаспадыні Балотных Ялін пра трагічныя падзеі ў наваколлі Волатавай прорвы. Беларэцкі вырашае застацца і дапамагчы пераадолець страхі Яноўскай, якія маглі звесці яе ў магілу. *“І калі да гэтага вечара я быў абыякавы да гэтай заморанай шляхцяначкі, дык пасля яе палкіх слоў зразумеў, што нейкім дзівам з яе атрымаўся сапраўдны чалавек. Гэтаму чалавеку трэба было абавязкова дапамагчы. І, лежачы ў цемры з адкрытымі вачыма, я амаль да ранку думаў, што калі ўчора я вырашыў ехаць праз два дні з брыдкага месца і далей ад радавітай гаспадыні, дык зараз я застануся тут на тыдзень, два, тры, на месяц, каб разгадаць усе гэтыя таямніцы і вярнуць сапраўднаму чалавеку заслужаны ім спакой”* [3, с. 39].

Паступова рыхтуецца заключны ўзровень міфалагемы культурнага героя – дапамога. І не проста дапамога, а такая, што ўтрымлівае абавязковы элемент подзвігу. Трэба адзначыць, што падчас вандравання галоўнага героя мы становіліся сведкамі ўчынкаў Беларэцкага, якія можна кваліфікаваць як подзвіг (прыезд падчас навальніцы праз балота ў маёнтак, выратаванне жыцця пасля ўцёкаў ад дзікага палявання). Аднак сапраўдны подзвіг героя-Беларэцкага – гэта перамога над бандай Дубатоўка, што пад выглядам таямнічых вершнікаў наводзіла жах на ўсё наваколле: *«Як свечка, палаў палац апошняга “рыцара”, рыцара начных разбояў і воўчага сонца»* [3, с. 190]. Учынак Беларэцкага, безумоўна, утрымлівае ў сабе як матыў барацьбы (прычым барацьбы не толькі з Дубатоўкам, навалай у выглядзе дзікага палявання, але і барацьбы, перш за ўсё, з самім сабой), так і матыў суда (герой разам з простым народам выносіць прысуд зла-

* Варта адзначыць выдадзеную ў 2001 г. дысертацыю “Міфалагема героя і масавая свядомасць” расійскай навукоўцы В. Туркінай, дзе даследуецца фарміраванне і функцыянаванне міфалагемы героя ў сістэме масавай свядомасці. У 2008 г. у Маскве ўбачыла свет праца “Міфалагема героя ў паэтычнай творчасці М. Гумілёва” Т. Тадзевасяна, у якой творчасць расійскага паэта даследуецца праз пошук міфалагічных канцэптаў і міфалагем. Па дадзенай праблеме напісаны таксама навуковая праца “Міфалагема Мазепы ў заходнееўрапейскай культуры” Н. Дзяменцьевай і артыкул “Некаторыя асаблівасці міфалагемы героя” І. Садоўскай. Як бачым, праблема размежавання міфалагемы існуе ў навуковым асяроддзі і знаходзіць водгук у працах даследчыкаў міфалогіі і літаратуры.

чынцам). І як сапраўдны культурны герой Беларэцкі выконвае ролю воіна, змагара, збаўцы, заступніка і суддзі.

Такім чынам, міфалагема культурнага героя ў аповесці У. Караткевіча мае трохкампанентную структуру: вандраванне героя, аказанне дапамогі пацярпелым (гэта значыць, жыхарам Волатавай прорвы), здзяйсненне подзвігу. Больш за тое, у творы прасочваюцца біблейскія алюзіі – параўнанне героя-Беларэцкага з Месіяй: персанаж з'явіўся ў час, калі неабходнасць такога народнага заступніка дасягнула кульмінацыйнай кропкі, ён супрацьпаставіў сябе цемрашальству, апанаваламу злу і прынёс народу збавенне.

У "Чорным замку Альшанскім" носьбітам міфалагемы героя з'яўляецца вобраз Антона Косміча. Галоўны персанаж рамана мае шмат агульнага з асобай Андрэя Беларэцкага, што праяўляецца найперш на ўзроўні ўчынкаў і стаўлення да навакольнага асяроддзя. Абодва – шчырыя патрыёты і абаронцы справядлівасці. Акрамя таго, вобраз Косміча, як і Беларэцкага, таксама акумулюе ў сабе кампаненты вобраза культурнага героя. Па-першае, пастаяннае вандраванне персанажа з Мінска ў ваколіцы Альшанскага замка. Па-другое, аказанне дапамогі як у раскрыцці забойства Мар'яна Пташынскага, так і ў выкрыцці банды Лыганоўскага (паралель з дзеяннямі Беларэцкага ў дадзеным выпадку асабліва выразная). Па-трэцяе, наяўнасць подзвігу ва ўчынках як абавязковага ўзроўню выяўлення міфалагемы героя. На апошнім пункце варта засяродзіцца больш падрабязна.

Косміч выратоўвае з падземнага сутарэння Сташку Рэчыц (не без дапамогі ксяндза Жыховіча), заступаецца за свайго забітага сябра Мар'яна Пташынскага (смерць якога ўсе лічаць выпадковай і недарэчнай), абараняе і Альшанскі замак, калі быў зроблены чарговы крок да знішчэння яго мура: «*Я Антон Косміч. Прыехаў даследаваць Альшанскі замак і касцёл. Маю адносіны да арганізацыі па ахове помнікаў, між іншым, і гэтага вось вашага замка. Застаў прыемную карціну разбурэння. І "запечатлел". Да ведама сучаснікаў і на памяць нашчадкам. Удзячным нашчадкам*» [3, с. 317]. Таму нечаканае з'яўленне Косміча можна лічыць яскравым прыкладам заступніцтва за гістарычную памяць, за старажытныя каштоўнасці, якія пэўным чынам могуць паўплываць на будучае пакаленне людзей. Сапраўдны подзвіг з месіянскім характарам грамадзянскай дзейнасці.

Магчыма, мы можам акрэсліць новую міфалагему – караткевічаўскую міфалагему *інтэлігенцыі*, якая вынікае з першапачатковай міфалагемы культурнага героя. І Андрэй Беларэцкі, і Антон Косміч, і Алесь Загорскі, бясспрэчна, прадстаўнікі гэтай сацыяльнай групы – абагульненае ўвасабленне эліты грамадства, заступнікі нацыянальных самабытных скарбаў грамадства, культуры, мовы, гісторыі.

Культурныя героі твораў У. Караткевіча выконваюць ролю асветнікаў, вялікіх стваральнікаў і даследчыкаў. Самая важная місія культурнага героя ў міфалогіі – творчае пераўтварэнне навакольнага свету, добраўпарадкаванне жыцця людзей. Аналагічную сітуацыю бачым і на прыкладзе караткевічаўскай міфалагемы героя, яскравыя вобразы-прадстаўнікі якой – Андрэй Беларэцкі і Антон Косміч. Вынікам іх дзейнасці сталі як глабальныя падзеі (значныя для ўсяго наваколля – спыненне злачынства бандаў Дубатоўка і Лыганоўскага), так і асабістыя дабрачынныя справы (накіраваныя, перш за ўсё, на паляпшэнне ўмоў існавання асобных людзей).

Таксама ў нашым кантэксце вызначэння культурных герояў варта ўзгадаць і персанажаў рамана "Каласы пад сярпом тваім" Юрыя Загорскага, яго сына Алеся, Чорнага Войну, Кастуся Каліноўскага, нарэшце, дзеда Алеся – Данілу Загорскага-Вежу, і персанажа аповесці "Сівая легенда" двараніна Рамана Ракутовіча, кіраўніка сялянскага паўстання. Спіс можна працягваць…

Патрэбна адзначыць, што згаданыя персанажы твораў Уладзіміра Караткевіча вылучаюцца пэўным сінкрэтызмам боскага і чалавечага пачаткаў, што сведчыць пра сувязь міфалагемы героя з сакральнай сутнасцю міфалагічнай сістэмы, у якой існуюць і дзейнічаюць персанажы гістарычных твораў.

**Спіс літаратуры**

1. **Гурин, С. П.** Маргинальные прогулки № 15. Мифологема героя / С. П. Гурин // Культурный центр "Русская неделя" [Электронный ресурс]. – Режим доступа : http://www.russned.ru/filosofiya/marginalnye-progulki-no15.-mifologema-geroya. – Дата доступа : 27.08.2010.
2. **Элиаде, М.** Аспекты мифа / М. Элиаде. – М. : Инвест-Пресс, 1995. – 238 с.
3. **Караткевіч, У.** Збор твораў : у 8 т. / У. Караткевіч. – Мінск : Маст. літ., 1990. – Т. 7 : Дзікае паляванне караля Стаха : Аповесць; Чорны замак Альшанскі : Раман. – 574 с.

**Павел УШКЕВІЧ,**
аспірант Гродзенскага дзяржаўнага
ўніверсітэта імя Янкі Купалы.

*Артыкул рэкамендаваны да друку доктарам філалагічных навук І. Жуком.*

З эпісталярнай спадчыны

# “БІБЛІЯ СЛОВА МАТУЛІНАГА”

## БАРАДУЛІНСКАЕ ЛІСТАВАННЕ З МАЦІ

Вобраз маці традыцыйны ў беларускай літаратуры. Ён падаецца паэтамі ў непарыўным ланцужку пакаленняў. Гэты вобраз мае вытокі ў міфалогіі і фальклоры, дзе маці – сімвал жыцця, сімвал вечнасці. Апаэтызаваны вобраз коласаўскай маці ў “Новай зямлі”, рамантызаваны – у Янкі Купалы, трагічна-ўзнёслы ў паэме “Голас сэрца” Петруся Броўкі. Часта звярталіся да вобраза маці Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка, Ніл Гілевіч, Яўгенія Янішчыц, Максім Танк, Янка Сіпакоў і інш. Вось як шчыра-спавядальна і ўзнёсла-ўрачыста льюцца паэтычныя радкі, прысвечаныя самаму святому на зямлі чалавеку: “*Мама… / Маці… / Матуля… / Матуля, / Ты адна, як жыццё, як вясна*” (В. Шніп), “*Перапёлка жалю, / Кнігаўка маіх лірычных кніг!*” (Я. Янішчыц), “*Таворыць маці – і душа пяе, / І я ля маці сэрцам спачываю*” (З. Марозаў), “*Я ў люстэркі больш глядзець не буду. / Знаю: ёсць праўдзівае адно – / Вочы маці – вечнасці акно…*” (Л. Галубовіч), “*Спеў матулі маёй трапяткім жаўруком / Прарастае ў блакіце высокім…*” (Ю. Свірка), “*Рукі мілыя, матчыны рукі, / У часіну жыццёвай разрухі / Ратавалі мяне ад бяды*” (Я. Міклашэўскі), “*Як рэкі, маці. / Сіл набрацца / Прыходзім мы да гэтых рэк*” (Л. Дайнека), “*Без мамы / Страчаю вясну, / Без мамы / Смуткую Вялікдзень!*” (А. Пісьмянкоў), “*А маці старэе. / А маці – адна*” (С. Басуматрава), “*Рукі маці цалуем / Толькі раз… ля магілы…*”, “*Ты памаліся, маці, за мяне. / За ўсе мае грахі ты памаліся…*” (М. Башлакоў) [1].

Вельмі своеасабліва апаэтызавала вобраз маці-гаротніцы, маці-ахвярніцы і пасляваеннае (ці філалагічнае) пакаленне, якое з найбольшым болем адчула і перажыло матчыны слёзы і адзіноту, яе жыццёвы подзвіг, поўны драматызму лёс. Адметнае месца тут належыць Рыгору Барадуліну, які, фактычна, стварыў культ маці ў сучаснай беларускай паэзіі. Са слоў В. Быкава, вобраз маці паэта сведчыць пра сілу сыноўняй любві – “можа, самай самаадданай любові ў сучаснай беларускай паэзіі” [2, с. 4]. Маці – нязменная паэтава муза, якая натхняе і жывіць усю барадулінскую творчасць. Вобраз маці пранізвае, “асвятляе і асвяшчае” (В. Тарас) усе кнігі Барадуліна. “*Біблія слова матулінага*” [3, с. 113] – сімвал ягонага жыцця.

Заўважым, у барадулінскай творчасці вобраз маці адметны прачулай памятлівасцю і набывае моцна акрэслены асабісты характар. Таму нельга пакінуць незаўважанымі наступныя моманты. Па-першае, маці і матчына хата (замест звыклага “бацькоўская хата”) у барадулінскім уяўленні – трыумф гранічнай цэльнасці і сімвал паразумення; маці застаецца жывой душой хаты: “*…матчына хата слухае, / ці ўсё на зямлі спакойна?*” [3, с. 201]. Па-другое, са шчырым замілаваннем, сціпла і велічна называе Р. Барадулін яе (маці) – прычым нязменна – толькі “*мама*”. Па-трэцяе, маці для паэта – “*стыхійна вялікі філолаг*” (!). “*Я не знікаю, бо нада мной / Маміны словы – анёламі*” [3, с. 163]. Па-чацвёртае, паэт не тое што апавядае пра маці – ён моліцца на яе: “*А мама багіняй была*” [3, с. 170]. “Барадулінскае маленне аб маці набліжаецца да каталіцкага абагаўлення мадонны, тым самым узвялічваючы сутнасць нашай паэзіі” [2, с. 4]. І, па-пятае, вобраз маці ў Барадуліна жыве пад знакам Вечнасці. “*Ты стала зямлёй, / а твае гады ідуць без цябе па зямлі*” [3, с. 206].

Маці – сумленне паэта (“*Сумленне, / якое завецца / Словам кароткім – мама*” [3, с. 194]) і бясконцы напамін: як трэба жыць. З удзячнага сэрца выліліся незабыўныя радкі: “*Дзякуй табе за жыццё! / Даруй за няўдзячнасць, / МАМА…*” [3, с. 152]. Своеасаблівым знакам даравання-прычашчэння слугуе паэтава ліставанне з маці Акулінай Андрэеўнай, якой са шчырым замілаваннем сыноўняе сэрца пасылае сваю душу як самае каштоўнае, дарагое, трапяткое… **“Паслаў бы табе душу…: ліставанне Рыгора Барадуліна з мамай (1954 – 1971)”** (2009) – неардынарная кніга эпісталярнай спадчыны паэта, адзін з рэдкіх узораў беларускага прыгожага пісьменства. Гэта кніга-споведзь, кніга-запавет пра самаахвярную, мудрую ў будзённай канкрэтнасці і заўсёднай святасці любоў Маці да Сына. Гэта звычайныя самыя светла-радасныя і самыя шчымліва-горкія жыццёвыя драбніцы, якімі бывае надзелены і абдзелены чалавек на зямлі. Незвычайнае хіба тое, што Рыгор Барадулін смела вынес на суд чытача ліставанне з самым дарагім чалавекам – са сваёй МАМАЙ-БАГІНЯЙ. “*Ліставанне – гэта шчабятлівыя птушыныя галасы, якія ад дажджоў і снягоў, ад суравеяў і ўрокаў затуліліся ў канвертах. Маці, самотная зязюля, чакала вестак ад сына, каб не так горка было адной гора гараваць. А сына, які не мог адразу прызвычаіцца да гарадскога тлуму і людскога холаду, грэлі родныя словы*” [4, с. 4], – піша паэт у сціплых анатацыйных радках да кнігі, за якімі і паміж якімі сказана, аднак, так багата,

*Мама*
*Лісты мне пісала верлібрам*
*Без знакаў прыпынку,*
*Без абавязковых вялікіх літар…*
*І ў кожным радку*
*Столькі было зямлі і неба,*
*Лесу і мурагу,*
*І столькі мне добрага напрарочана,*
*І кожны радок*
*Быў да сэрца прытулены,*
*Што Біблію слова матулінага*
*Берагу,*
*Каб не сурочылі!*
. . .
*Дзякуй табе за жыццё!*
*Даруй за няўдзячнасць,*
*МАМА…*



шырока, разгоніста. Бо ягоныя ўспаміны дарагія, яны мрояць павуцінкай, усплываюць у лістабоі радасці і журбы…

Вобраз маці асноватворны ў барадулінскай паэзіі. Бо ці не цяплом матчынай адданасці і самаахвярнасці быў сагрэты родны хатні парог, ці не крэўнымі матчынымі словамі, песнямі была спазнана і адчута Бацькаўшчына, ці не спрацаванымі матчынымі рукамі былі выпешчаны зямля і жыта, ці не трывожным матчыным сэрцам напрарочана доля ў жыццёвай дарозе, ці не тая Адзіная – захавальніца роду і ўсяго існага, жывога ў святым для паэта ўшацкім прыстанку?

Колькімі залацінкамі дабрыні яна яго адарыла! Колькі раніц яна разбудзіла! Колькі песень праспявала! Колькі ўсмешак падарыла!.. (Хай сабе пазней і ў пісьмах.) Колькі зычыла сонца!.. Ці не ад чысціні яе простых слоў святлела ў душы? Ці не ўсё ў хаце пахла мамінымі рукамі? Удзячнымі, шчырымі выглядаюць радкі з ліста да маці дзевятнаццацігадовага юнака-студэнта, якому маці-ахвярніца пачынае перасылаць першыя перадачы: *“Усім, усім я табе абавязаны. Вазьму есці сала, і адразу ўспомніцца, чые рукі збіралі храп’е, чые рукі прыгатаўлялі яго… Надзену штаны, апрану футболку, мне ўспомніцца, што твае рукі ўсё гэта зрабілі”* [4, с. 8]. І – пасля: *“Целую, мама, твои загрубевшие от работы руки… В каждой строчке одежды теплота твоих рук”* [4, с. 16]*, *“Целую тебя в твои золотые ручки”* [4, с. 42], *“Поцелую твои почерневшие, твои ласковые, самые ласковые во всём свете руки, моя мамусенька”* [4, с. 79], *“І ў Мінску за 200 км ад Ушач – я адчуваю твой цёплы позірк, тваю любоў да мяне, адчуваю цяпло і пяшчоту тваіх самых цяплейшых, самых ласкавейшых, самых шчырэйшых у свеце рук, рук маці”* [4, с. 108], «*А можа, нездарова ты там, можа, баляць твае натруджаныя, спрацаваныя залатыя ручкі, якія мяне і калыхалі, і спавівалі, якія мяне лашчылі і бярозавай “кашай” частавалі, якія адным дотыкам самы люты боль суцяшалі*» [4, с. 136], *“Пастараюся і сам прыехаць на свае імяніны, каб мамачка свайго 25-гадовага Інючка благаславіла ў жыццё, каб я змог пацалаваць рукі, якія першыя спавілі мяне, пераняліі першы мой крок, падымалі да зор, гушкалі”* [4, с. 170].

*“Трэба дома бываць часцей”* [3, с. 22] – узноўленая барадулінская ісціна. Над сутнасцю яе нёўладарны час. *“Каб не страціць святое штосьці”*. Ці ж не матчын (а значыць – спрадвечны, святы) запавет *“Трэба дома бываць часцей”*? Перад намі, бы жывыя, паўстаюць усе драбніцы горкага ўдовінага лёсу маці паэта, якая на папялішчы ставіла новую хату, дарабляючы яе ўсё жыццё. Матыў вяртання да роднай хаты, матчынага парога праходзіць праз *“мацярынства мацярык нязнаны”*, калі ўсплывае ўспамін, як маці засцілае абрус (*“Нетаропка рагі распраўляе – / па парадку ўсе чатыры, / потым махры разблытвае, / і яны, ільняныя, мяккія, / чапляюцца за шурпатыя пальцы…”* [3, с. 41]). Можа быць, зусім невыпадкова вочы маці, праўдзіва-празрыстыя, як люстэрка, ранішнія, як першы снег, глядзяць на нас з вокладкі барадулінскай кнігі “Неруш” (1966). Бо маміны вочы – вочы Акуліны Андрэеўны – глядзелі на свет задуменна і строга, трывожна і празорліва. Ці, як сказаў бы сам паэт, *нерушава*. Бо зведала і ведала многае, бо вучыла жыць: *“Живи помаленьку, прывучайся жить у сьвете”* [4, с. 11]. Бо шчыравала-рупілася, як пчала. Бо

* Тут і далей лісты Р. Барадуліна падаюцца, як у арыгінале, на рускай і беларускай мовах.



**Рыгор Барадулін з мамай Акулінай Андрэеўнай.**

ці, якая так цешылася пашытай *"фасонистай тужурачкай"* замест аблюбаванага сынам зімовага "плашча": *"Бераги сваё здаровье, а не фасон"* [4, с. 13]. Якая ж прыгожая ў яе была мацярынская строгасць да хай сабе неабачлівага, на вецер кінутага сынавага радка *"И у гетых штанах вагон девак прывязу"*: *"Помни, сынок, не надень мне гразь на лицо"* [4, с. 68].

Непаўторная святасць Акуліны Андрэеўны – у яе доўгім, апраўдана крыўдлівым і натуральна бяскрыўдным маміным чаканні. Уся яе радасць – сынава *"пісьмо ласкавае"*. Не дачакаўшыся лістоў, лавіла чуткі пра сына ў знаёмых, па радыё, у трывожных снах, нават праз дотык да аўтобуса на Мінск… А чакала ў сутонні тужлівым зімамі і вёснамі, чакала адусюль. У чаканні – старэла, пры сустрэчы – маладзела тварам і душой, ззяла, як сонца. Здаецца, толькі маці вядома, што такое чаканне, сустрэча, развітанне… На парозе мамінае хаты. Так ёй чакалася-хацелася пабачыць сына, так прасіла выслаць фотаздымак, так ганарылася ягонай удзячнасцю: *"Кажаца, недажду таго шчасливага денёчка, той светлай минутки, каб мае вочы глянули на тибе, мой любимый сынок"* [4, с. 37]. *"Столька тибе, мой сынок, благадарнасьти, сколька на небе зорак, што ты помниш мой труд и маю жаласть"* [4, с. 41], *"гордасть мая, радасть мая незмерымая"* [4, с. 140].

хацела дагадзіць ва ўсім. Бо для яго яна была самай лепшай песняй: *"Ты, мама, у мяне прама пісьменнік"* [4, с. 44]. Свой жыццёвы вопыт і незвычайную чуласць да слова Акуліна Андрэеўна перадала ў спадчыну сыну, чаму паэт і называе яе *"стыхійна вялікім філолагам"*. Не без хвалявання, вельмі прачула-далікатна запрашала сына зазірнуць у мамін двор, мамін сад: *"Стала у нас очань красива, сирень растьветает, яблани тожа очань харашо тьветут, вяз папав, как памешчык, стаит, берозка твая, што паненка, вишнина тожа тветёт, сливки зелёненькие, очань красива, толька некаму глядеть. Папава игрушина на хутары очень красива тветёт, как никагда не тьвела"* [4, с. 43].

Вёска для Р. Барадуліна – цэлая школа філасофіі жыцця і паэзіі. Талент паэта – ад маці; менавіта з матчыным дыханнем, словам, спевам і плачам, урэшце, самім ладам жыцця перадалося Барадуліну-паэту зайздроснае адчуванне прыроднай раскаванасці народнага самабытнага слова. Ва ўзнёсла-матчыным *"Мой сынок, каласок, васілёк, / Баравое зеллейка, / Мой каласутанька…"* [3, с. 113] столькі было багавейнага напрарочана, столькі *"было зямлі і неба, / Лесу і мурагу"*, што сыноўняе сэрца *"біблію слова матулінага"* (менавіта свяшчэнна-непераўзыдзенае біблейскае) беражэ да скону, бо яно – маміна слова – хлеб для душы яго. У шматлікіх лістах да сына красамоўна льецца спеўна-набалелае: *"цалую тваю галовку"*, *"мой каласутанька"*, *"мой сакалутанька"*, *"мой шпачок чорненький"*, *"мой заботчик обо мне"*, *"мой сынок неацанимый"*, *"мой каласок милый"*, *"цалую тваю галовку милую, кудлатую"*, *"цалую материнским пацалуем"* і інш. Нельга не заўважыць мудрасць ма-

І можа быць, лепш за любога крытыка ацаніла яго першыя вершы: *"Мой сынок неацанимый, гетат верш прама с тваей жизни"* [4, с. 38]. Або: *"Уся ж мая радасть, усё маё шчасте, уся ж мая жизня – ты"* [4, с. 34], *"Год ат году будеш атвыкать, будеш писать, как прымусовку адбывать. Я тибе тагда забуду, как закроют глазы песком. Наш материнский долг"* [4, с. 48], *"Татова я сто пудов на сваих плечах несьти, толька б табе легче была. Ты не знаеш, как ты мне дораг и болен"* [4, с. 89], *"Мой сыночак, таких больш сынков нет, як на маю долю бог дав. Дякуй богу за тибе… А жаль у мине к табе неабыкнавенная. Лажусь, устаю, иду, а всё ты стаиш у маей галаве, усё малюсь за тибе"* [4, с. 195]… Што тут больш дадаць? У кожнай маці – свая, толькі ёй уласцівая самаахвярнасць, самаадданасць напоўніцу. У лістах маладога яшчэ студэнта Бара-

дуліна бруіць уласцівы (дарэчы, не толькі яму) юнацкі максімалізм, моладзевая бурапеннасць, усвядомленая годнасць за сябе і за землякоў: *"Ганарыся як маці: сын студэнт БДУ"* [4, с. 9], «*Я выступил* [на вечары адпачынку 1-га курса філфакаўцаў. – ***А. С.***, ***Н. Ш.***]. *Два раза на "бис" вызывали… Знай наших, ушачских!*» [4, с. 33]… Але ці так многа для маці гэта значыла (згадаем пра яе радасці і парады для сына: *"ничаво нет шчасливей мине… што ты будеш чалавекам… дужа не беры у галовку, пиши вершы меньшы"* [4, с. 22])?!. Для яе найперш – ён СЫН, хоць і *"чудик… неацанимый, всё ты помниш, всё ты цениш"* [4, с. 43], для яе ўся радасць – што сын *"немножка прыадет"* [4, с. 47], увесь клопат – *"што не должан мине падвесьти и сам сибе"* [4, с. 47], *"што не увижу тваё сонца, каторае ты мне будишь катить у хату* [жаніцца]*"* [4, с. 65], *"хоть бы пажить, пака женисся"* [4, с. 73]. У мацярынскім запавеце чуюцца ноткі страху страціць сына, набалелая крыўда-пакута за сваю адзіноту (*"знаеш, што у мине толька кошка друг дома"* [4, с. 57]), трывога за неадпісаныя сынам лісты: *"Халаднееш, мой сынок, ка мне, як к восени речка"* [4, с. 57], *"Каб ты мне сказав маей кровью письмо написать, я табе б написала"* [4, с. 131].

Споведзь маці, якая жаліцца на свой адпакутаваны лёс фактычна ў трох радках пісьма, набывае выбуховую сілу: *"Знаю тольки адну грязь кругом год, ниаткуль нет радасти, нихто маё гора не видит, нихто мае руки бальные, зношаные не падменит, и письма у сына нада выпрасить, як пад церквай капейку"* [4, с. 136]. Як жа трэба ўмець так мудра любіць, каб празорліва, строга вынесці сыну павучальны прысуд, як напамін, як незагойную праўдзівую ацэнку: *"Ты став нервный ат добрай жизни"* [4, с. 130]. А сын ведаў, што маці зразумее і даруе за нячастыя лісты. Бо ягоная маці любіла свайго сына да самазабыцця, навучыла любіць, шкадаваць, шчыраваць-спавядацца, урэшце, пісаць і прысвячаць вершы. Што да твораў пра маці, то іх Рыгор Барадулін напісаў багата: "Мама", "Вогнепаклонніца", "Не ведаючы тэорыі вольных вершаў", "Веды", "У адкрытым космасе", "Ашуканка", "Дзякуй! Даруй…", "Багіня", паэмы "Трыпціх", "Блакада", "Вяртанне ў першы снег", а таксама "Вушацкі словазбор", "Песьні Матчыны з Вушаччыны" і інш. Называў нязменна гэтым святым словам – *"мама"*, прычасціўся сабранымі лістамі за ўсе зямныя маміны ўрокі: *"Зязюлька мая баравая, зязюлька мая шэранькая, адна там кукуеш, адна там гаруеш… Няма нікога пацалаваць тваю галоўку, якую бяда і клопаты раней часу заінелі. Няма нікога пацалаваць твае залатыя шурпатыя рукі, якія пяшчотней за вусны дзіцяці-младзенца. З апошніх сіл б'ешся як рыбіна аб лёд, усё для сына, а сын гэты – свіння вялікая. Да гэтых пор не адпісаў двух слоў. Даруй, даруй, мая родная, мая мілая, мая дарагая. Было вельмі-вельмі некалі"* [4, с. 120]. Гэтае *"вельмі-вельмі некалі"* не мела, аднак, для маці аніякага апраўдання, але і не магла трымаць лютай крыўды тая, што не раз праслязілася ад сынавых прызнанняў: *"У мяне на ўсім белым свеце не будзе такой шчырухі, такога чалавека, які б мне так, як ты, і днём, і ноччу, і явай, і ў сне дабра зычыў… Цалую рукі твае, кожны палец, кожны кіпцюрок, кожную парэпінку, кожную маршчынку тваю. Цалую галаву тваю"* [4, с. 183]. У гэтых радках – непаўторная краса маці паэта Акуліны Андрэеўны, кожнай маці, існаванне якой – ахвярнае гарэнне.

Сёння мама паэта завітвае да яго ў сны з запытаннем: ці так жыве ў гэтым свеце? Мо і парупіўся Р. Барадулін надрукаваць ліставанне маці і сына, адчуваючы, што і там для маці няма спачыну. Балесна вымаўленае запозненае *"даруй"* нясе паэт як крыж, як найцяжэйшую ношу, бо вобраз маці абуджае ў чалавеку дзіцячую душу, адкрытую, непасрэдную, незацугляную. Бо дарога да МАМЫ скарачаецца: для яе мы заўсёды дзеці. Толькі маці ўмеюць вылечыць нашы грэшныя душы… Барадулінская кніга ліставанняў як шматкветны вянок удзячнасці ўсім маці – таксама пра гэта:

*Пакуль жыву я,*
*Жыве таксама*
*На гэтым свеце*
*Са мною мама.*
*Памру – зраблюся*
*Туманам сінім,*
*А застануся*
*Маміным сынам* [3, с. 125].

**Спіс літаратуры**

1. **Мама, маці, матуля…** : вершы / уклад. А. Канапелькі, В. Шніпа. – Мінск : Маст. літ., 2006. – 447 с.
2. **Быкаў, В.** Ад роднай зямлі / В. Быкаў // Трэба дома бываць часцей… : Выбраныя старонкі лірыкі / Р. Барадулін. – Мінск : Маст. літ., 1993. – 352 с.
3. **Барадулін, Р.** Слаўлю чысты абрус : выбранае / Р. Барадулін; прадм. А. Астраух. – Мінск : Беларусь, 1996. – 271 с.
4. **Паслаў бы табе душу…** : ліставанне Рыгора Барадуліна з мамай (1954 – 1971) / уклад. Н. Давыдзенкі, С. Шапрана. – Мінск : Лімарыус, 2009. – 276 с.

**Аліна САБУЦЬ,**
кандыдат філалагічных навук,
дацэнт кафедры беларускай літаратуры
Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы,

**Нона ШАНДРОХА,**
кандыдат педагагічных навук,
дацэнт кафедры беларускай мовы
Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.

*Аўтары ахвяруюць ганарар на развіццё часопіса.*

*Тэорыя літаратуры*

# КАТЭГОРЫЯ ФАНТАСТЫЧНАГА Ў СУСВЕТНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Эстэтычная катэгорыя, заснаваная на парушэнні межаў, правіл рэпрэзентацыі рэчаіснасці, вядомая сусветнай культуры як фантастычная. Улічваючы шырокую распаўсюджанасць дадзенага паняцця ва ўсіх сферах функцыянавання мастацтва, варта заўважыць, што найбольшае развіццё яно атрымала менавіта ў літаратуры, здольнай да надзвычай дакладных і разгорнутых артыкуляцый сэнсу.

Нягледзячы на доўгі перыяд бытавання ў прыгожым мастацтве згаданай з'явы, для многіх даследчыкаў асабліва актуальным паўстае пытанне яе эксплікацыі (максімальна падрабязнага, скрупулёзнага тлумачэння). Выключная ўвага аддаецца праблеме ідэнтыфікацыі названай раней разнавіднасці мімесісу з дапамогай такіх тэрмінаў, як мастацкі прыём і метад, а таксама жанр, від і род.

### ГІСТОРЫЯ РАЗВІЦЦЯ ФАНТАСТЫЧНАГА Ў ПРЫГОЖЫМ ПІСЬМЕНСТВЕ

Па словах расійскага даследчыка К. Фрумкіна, сёння вылучаюцца як мінімум тры асноўныя этапы развіцця фантастычнай традыцыі: "фантастыка фальклору, фантастыка рамантызму і сучасная фантастыка" [1, с. 3]. Відавочна, што адзначанае паняцце валодае пэўнай гістарычнай рэлятыўнасцю, залежыць ад таго, у якую эпоху выказваецца меркаванне пра фантастычнасць пэўнага вобраза ці сюжэта.

Тэарэтыкі зыходзяцца ў адным: узнікненне фантастыкі – заканамерны вынік духоўнага развіцця грамадства. Яе вытокі ў першабытным соцыуме, дзе адно з цэнтральных месцаў займала міфалагічная ментальнасць, якая ўяўляла з сябе сінтэз навуковай аналітыкі і мастацкай тыпізацыі. У міфе, адным з самых старажытных прадуктаў нематэрыяльнай дзейнасці чалавека, знешняя рэчаіснасць з яе характэрнымі заканамернасцямі персаніфікавалася ў вобразах багоў і герояў. Аднак трэба ўлічваць спецыфіку мыслення тагачасных людзей, бо, як слушна заўважае культуролаг А. Коўтун, "архаічны свет не ведае фантастыкі ва ўласным разуменні слова: для сучаснай яму свядомасці ўсё ў ім уяўляе з сябе абсалютную рэальнасць" [2, с. 5].

Большую цікавасць для навукоўцаў у дадзеным кантэксце ўяўляе час, калі старажытныя фальклорныя формы паступова адыходзяць ад практычных задач ірацыянальнага асэнсавання рэальнасці. Згаданая акалічнасць звязана, у першую чаргу, з далейшым развіццём цывілізацыі, пашырэннем і паглыбленнем скарбонкі ведаў homo sapiens пра навакольнае асяроддзе. Постміфатворчыя ўяўленні, рэалізаваныя ў вуснай народнай творчасці (напрыклад, у чароўнай казцы), сталі адной з першых крыніц літаратурнай фантастыкі.

Яркім прыкладам цеснага спалучэння вербальнага мастацтва з міфам з'яўляецца эпоха Антычнасці. Менавіта тады ў літаратуры былі сфарміраваныя дзве асноўныя формы бытавання катэгорыі фантастычнага – утопія і фантастычнае падарожжа. У творах "Аб гіпербарэйцах" Гекатэя Абдзерскага, "Святы спіс" Эўгемера, "Востраў сонца" Ямбула, "Адысея" Гамера і іншых прысутнічае шырокі зварот аўтараў да другаснай умоўнасці (у адрозненне ад першаснай, мэта якой – найбольш адэкватнае адлюстраванне рэчаіснасці), наўмыснага парушэння праўдападабенства. Акрамя таго, своеасаблівым генератарам цудоўнага выступае драматургічная тэхніка Арыстафана (камедыі "Мір", "Птушкі", "Жабы").

У гэты ж часназіраецца першая спроба адмысловай трактоўкі фантастычнага як адметнай некласічнай катэгорыі эстэтыкі. Так, Платон у дыялогу "Сафіст" вылучыў два асноўныя тыпы мастацкага вобраза – аўтэнтычны ("ікастычны", звязаны з канкрэтным аб'ектам рэальнасці) і ілжывы ("фантастычны", базісам якога выступае створаная аўтарам ілюзія).

Далейшае развіццё паэтыкі незвычайнага адбываецца ва ўмовах шырокага распаўсюджання ідэй сярэднявечнай схаластыкі і дагматызму. Адно з выключэнняў – рыцарскі раман, што амаль страчвае гістарычна-эпічны падмурак і дэманструе шырокае выкарыстанне казачных матываў (напрыклад, аповесці "Трышчан", "Бава", пераклады якіх былі досыць папулярнымі сярод беларусаў).

Заснаваная на ідэі творчай фантазіі канцэпцыя старажытнагрэчаскага мысляра была пераасэнсавана і адпаведна інтэрпрэтавана ў эпоху Рэнесансу (працы "Фіджына" Г. Каманіні, "Ідэя мастака, скульптара і архітэктара" Д. Белоры). Сведчаннем таму служаць шматлікія тэксты слынных творцаў Адраджэння: "Гарганцюа і Пантагруэль" Ф. Рабле, "Боская камедыя" Дантэ, а таксама мастацка-публіцыстыч-

ныя трактаты "Утопія" Т. Мора, "Горад сонца" Т. Кампанелы, "Новая Атлантыда" Ф. Бэкана і інш. Акрамя таго, як у "цёмныя вякі", так і ў перыяд аднаўлення антычнай традыцыі асаблівую ролю адыгрывае жанр жыція святых, дзе цудоўнае выконвае ярка выражаную функцыю рэпрэзентацыі экстраардынарных, але рэальных для чытача падзей.

Мастацтва барока і Асветніцтва завяршыла распачаты ў папярэднія часы працэс эстэтызацыі катэгорыі фантастычнага, падпарадкаваўшы яе выключна рацыяналістычным мэтам. Элементы незвычайнага выкарыстоўваюцца дзеля стварэння камічнага ці сатырычнага эфекту, ускладнення інтрыгі, маралізатарскай прапаганды ("Мікрамегас" Вальтэра, "Падарожжа Гулівера" Д. Свіфта, "Камедыя" К. Марашэўскага і інш.).

Інтэнсіўнае развіццё тэорыі і практыкі цудоўнага распачалося ў эпоху рамантызму. Адны з першых распрацовак у дадзенай галіне належаць Ш. Надзье ("Аб фантастычным у літаратуры") і В. Скоту ("Аб звышнатуральным у літаратуры"), якія здзейснілі на старонках сваіх даследаванняў спробу вытлумачэння фантастычнага метаду ў літаратуры. Аднак, нягледзячы на той факт, што патаемнае, містычнае былі для творцаў "і зместам, і формай, элементам і светаўспрымання, і паэтыкі" [3, с. 183] (Т. Чарнышова), вядомыя тагачасныя дзеячы падкрэслівалі другаснасць, службовую функцыю згаданай катэгорыі ў параўнанні з філасофскім, грамадска-палітычным зместам створаных імі тэкстаў.

Арганічнае спалучэнне ў мысленні рамантыкаў пачуццёвага і рацыяналістычнага пачаткаў пры пастаяннай барацьбе паміж імі прывяло да таго, што любы фантастычны вобраз, нават самакаштоўны, быў у той ці іншай ступені ўмоўным. Містыка выступала альбо сродкам ацэнкі свету, выяўлення яго заган і недахопаў, прадстаўленых у творах адкрыта, наўмысна перабольшана, з відавочнай тэндэнцыйнасцю, альбо своеасаблівым дэтэрмінантам яшчэ цьмяна разгаданай, канчаткова не выяўленай заканамернасці развіцця чалавечага соцыуму. Але ў любым выпадку фантастыка тых часоў з'яўлялася *сродкам*, а не *мэтай*.

У дадзеным кантэксце, акрамя выразнай блізкасці тэрмінаў *фантастыка* і *алегорыя*, актуальнай выступае акцэнталізацыя некаторых сучасных даследаванняў ("Прырода фантастычнага" Т. Чарнышовай, "Філасофія і псіхалогія фантастыкі" К. Фрумкіна і інш.) на ўнутранай тоеснасці катэгорыі цудоўнага ў літаратуры і такога віду мастацкай вобразнасці, як гратэск. Так, і фантастыцы, і гратэску ў аднолькавай ступені ўласцівыя алагізм, глыбокае адчуванне дзіўнага, "перакуленага" свету і іх здольнасць выяўляць асноўныя супярэчнасці рэчаіснасці. Істотным жа адрозненнем, на думку культуролага Т. Чарнышовай, з'яўляецца тое, што "для разумення фантастыкі вызначальныя рысы набывае гнасеалагічны момант – адносіны веры і няверы, для гратэску ён аказваецца неістотным" [3, с. 79].

Трансфармацыя фантастычнага разгортваецца ў вербальным мастацтве канца XIX – пачатку XX стст. Паралельна з ростам цікавасці да паэтыкі незвычайнага ў неарамантыкаў, сімвалістаў, сюррэалістаў адзначанае паняцце сцвярджае сябе як адметны і самастойны элемент сусветнага прыгожага пісьменства. Хуткімі тэмпамі фарміруюцца і замацоўваюцца ў наратыўнай практыцы яе першыя разнавіднасці – навуковая фантастыка (Ж. Верн, Г. Уэлс і інш.) і фэнтэзі (Д. Толкін, У. Ле Гуін і інш.).

Адбываецца прынцыповае адасабленне прафесійных фантастаў ад папярэдняй традыцыі цудоўнага. Абноўлены варыянт фантастычнай плыні абслугоўвае такія важныя акты чалавечага існавання, як "уцёк ад рэальнасці" [1, с. 6] і "пераадоленне рэальнасці" [1, с. 6] (К. Фрумкін). Паступова праходзіць даволі выразны падзел згаданай літаратурнай з'явы на "ўмоўную" і "безумоўную", што рэалізавалася ў межах пытання дыферэнцыяцыі дадзенай разнавіднасці мімесісу ў якасці прыёму і метаду; жанру, віду і часам роду.

### ФАНТАСТЫКА ЯК ПРЫЁМ І МЕТАД

Як слушна заўважае В. Рагойша, пад літаратурным метадам традыцыйна разумеюць сістэму "гістарычна абумоўленых творчых прынцыпаў, якімі мастакі, блізкія па сваіх ідэйна-мастацкіх пазіцыях, кіруюцца пры адборы, абагульненні і ацэнцы жыццёвых з'яў" [4, с. 50]. Прыём жа выступае структурным элементам вышэйназванага тэрміна, спецыфічным аўтарскім ходам для найбольш эфектыўнага ўвасаблення задумы.

На прыкладзе здзейсненага раней экскурсу ў гісторыю сусветнага прыгожага пісьменства было паказана, што фантастыка карысталася асаблівай папулярнасцю менавіта ў якасці адмысловага літаратурнага прыёму. Так, у межах разгледжаных культурных парадыгмаў (антычнай, сярэднявечнай, рэнесансавай, барочнай, асветніцкай, рамантычнай) цудоўнае выконвала выразна службовую функцыю трансляцыі той ці іншай ідэі ў прыхаваным, завуаляваным выглядзе, імкнулася да стварэння і выкарыстання

метафарычнага ладу ўмоўных вобразаў і сімвалаў часцей у іншасказальнай якасці.

Іншая сітуацыя склалася пры ўзнікненні так званай *чыстай фантастыкі* – свядомага, наўмыснага выяўлення выдуманых фактаў у літаратуры. У дадзеным выпадку размова ідзе пра спецыфічны мастацкі метад адлюстравання рэальнасці, калі фантастычнаму вобразу ці фантастычнай ідэі падпарадкоўваецца ўся структура твора.

Адпаведна з гэтым У. Чумакоў у працы "Фантастыка як літаратурна-мастацкая з'ява" падкрэслівае розніцу паміж фантастыкай *фармальнай* (прыёмам) і *зместавай* (метадам). Пад першай ён разумее тэксты М. Гогаля, М. Салтыкова-Шчадрына альбо Б. Брэхта, якія звязвалі элемент незвычайнага з такой агульналітаратурнай задачай, як узмацненне экспрэсіўнасці. Другое паняцце максімальна раскрылася ў вербальным мастацтве XX ст., у творчасці Г. Уэлса, Д. Толкіна, Д. Оруэла, С. Лема ды інш.

У выніку некаторыя даследчыкі прапаноўваюць адрозніваць *фантастыку* як прыём і *фантастычную літаратуру* як сукупнасць пэўных нарацый, створаных з дапамогай адпаведнага мастацкага метаду.

### ФАНТАСТЫЧНАЯ ЛІТАРАТУРА ПАМІЖ ЖАНРАМ, ВІДАМ І РОДАМ

У сучасным літаратуразнаўстве былі неаднаразова здзейсненыя спробы ідэнтыфікацыі фантастыкі ў якасці самастойнай з'явы прыгожага пісьменства на базе такіх тэрмінаў, як жанр, від і род.

Галоўнымі прычынамі ўзнікнення пэўных складанасцей можна лічыць адсутнасць трывалага і максімальна дакладнага размежавання вышэйназванай групы тэрмінаў, а таксама шматлікія разыходжанні наконт жанравай класіфікацыі мастацкіх твораў. Найбольш слушны, на нашу думку, прынцып дыферэнцыяцыі тэкстаў адпаведна з іх прыналежнасцю да пэўнага фармальна-зместавага класа ўнутры таго ці іншага роду.

Пры адзначаным падыходзе фантастыка ўспрымаецца хутчэй як своеасаблівая трансгістарычная эстэтычная катэгорыя, а не як асобная мінімальная адзінка эпасу (незалежна ад шырокага бытавання тэрміна *жанр* у асяроддзі шчырых аматараў фантастычнай літаратуры). Бо, шукаючы адказ на пытанне, якімі дакладнымі ўнутранымі і знешнімі якасцямі валодае згаданая разнавіднасць мімесісу, навукоўца здольны даць змястоўнае і сістэматызаванае тлумачэнне толькі на першую яго частку.

Тым не менш на працягу мінулага стагоддзя ў межах дадзенай з'явы была напісана велізарная колькасць твораў, што свабодна групуюцца адпаведна з канкрэтнымі зместава-фармальнымі паказчыкамі. Гэта дае падставы для вылучэння многімі літаратуразнаўцамі такіх новых жанраў, як ужо названыя раней навуковая фантастыка і фэнтэзі, а таксама антыўтопія, сацыяльная, філасофская, псіхалагічная фантастыка, альтэрнатыўная гісторыя і г. д. Дадзеная акалічнасць, у сваю чаргу, прывяла да вызначэння некаторымі даследчыкамі фантастыкі ў якасці асобнага літаратурнага віду і нават роду (як з'явы, што існуе па выключных, толькі ёй уласцівых правілах і ставіць перад сабой адметныя ад іншых задачы). Акрамя таго, складанасці выклікае і адносная "маладосць" названай літаратурнай з'явы (XX – XXI стст.), і некаторая яе неадпаведнасць той архаічнай класіфікацыі мастацкіх твораў, якая была вынайдзена задоўга да з'яўлення фантастычнай літаратуры.

Такім чынам, фантастычнае ў гісторыі сусветнай культуры выступае спецыфічнай некласічнай эстэтычнай катэгорыяй, заснаванай на прынцыпе дэканструкцыі агульнапрынятых сродкаў адлюстравання рэчаіснасці і шырокім выкарыстаннем у тэкстах элемента незвычайнага. У прыгожым пісьменстве дадзеная разнавіднасць мімесісу па-рознаму трактуецца даследчыкамі. З аднаго боку, згаданы тэрмін рэалізуецца праз паняцці мастацкага *прыёму* (пераважна ў дачыненні да вербальнага мастацтва часоў Антычнасці – канца XIX ст.) і *метаду* (у асноўным арыентуючыся на нарацыі XX – XXI стст.). З іншага боку, фантастычная літаратура разумеецца як агульны дэтэрмінант цэлага шэрагу жанраў, у якіх цудоўнае пераважае ў працэсе сюжэтабудавання і трансляцыі асноўнай ідэі твора.

**Спіс літаратуры**

1. **Фрумкин, К.** Философия и психология фантастики / К. Фрумкин. – М. : Эдиториал УРСС, 2004. – 240 с.

2. **Ковтун, Е.** Поэтика необычайного : Художественные миры фантастики, волшебной сказки, утопии, притчи и мифа (на материале европейской литературы первой половины XX века). – М. : Издательство Московского университета, 1999. – 310 с.

3. **Чернышева, Т.** Природа фантастического / Т. Чернышева. – Иркутск : Издательство Иркутского университета, 1985. – 336 с.

4. **Рагойша, В.** Паэтычны слоўнік / В. Рагойша. – Мінск : Беларус. навука, 2004. – 576 с.

**Марына АММОН,**
аспірантка Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны.

*Артыкул рэкамендаваны да друку доктарам філалагічных навук І. Штэйнерам.*

*На кніжную паліцу*

# “ШЛЯХ ДА БЭТЛЕЕМУ”

## ДРАМАТУРГІЯ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ СЯРГЕЯ КАВАЛЁВА

Вядомы перадусім як даследчык літаратуры, прафесар Сяргей Кавалёў найлепшым чынам выявіў сябе і ў мастацкай творчасці, прычым у такой адносна непапулярнай дзялянцы літаратуры, як дзіцячая драматургія. Яго творы стала займаюць месца і на старонках кніг, і на сцэнічных падмостках. Кніга “Шлях да Бэтлеему” (выдавецтва “Мастацкая літаратура”, 2009 г.) стала падсумаваннем вынікаў дзейнасці літаратара як драматурга. Ранейшы аўтарскі зборнік “Хохлік” (2002) выйшаў адносна невялікім накладам. Цяпер жа маем тыраж 2000 асобнікаў, што важна найперш для перыферыйных чытачоў і пастановачных калектываў, якім востра бракуе падобных матэрыялаў.

З заключных звестак пра п’есы відаць, што асабліва плённым для С. Кавалёва стаў пачатак 1990-х. Першы яго твор – так званая рыцарская п’еса. Як адзначае крытыка, вяртанне да ідэй і маралі рыцарства, да шляхецкага кодэкса гонару – гэта тое, што здатна стаць сучасным, бо “прага новага, культ героя – выратавальніка і абаронцы – жылі ў дзіцячым асяроддзі заўжды, гэтаксама як і мара пра рамантычнае каханне – у падлеткаў” [1, с. 12 – 13]. Пры захаванні агульнай канвы ў п’есах беларускіх аўтараў назіраюцца адметнасці ў канструяванні характараў. У п’есе С. Кавалёва **“Драўляны Рыцар”** (1987, упершыню апубл. у 1992 г.) малюецца ідэалізаваны вобраз – узор прадстаўніка рыцарскай культуры. Носьбіт найлепшых якасцей – звычайная драўляная цацка, якая характарызуецца недасягальнай для большасці людзей ступенню чалавечнасці.

Наступным досведам С. Кавалёва ў стварэнні дзіцячай п’есы сталі **“Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага ды Заблоцкага”**, напісаныя ў суаўтарстве з П. Васючэнкам (1990). Твор вельмі захапляльны. Партрэты “шляхетных паноў” маюць штрыхі дзіцячай наіўнасці і бязмежнага аптымізму, часам кемлівасці, часам жа ўпартасці. “Па сутнасці, – разважае Ф. Драбеня, – аўтары сцвярджаюць думку, уласцівую многім народным казкам: аб перавазе прадстаўнікоў сялянства над сваімі ўладарамі” [2, с. 7].

Зімовая казка **“Хохлік”** (1992) С. Кавалёва апавядае пра двух супрацьлеглых па маральных якасцях лесавічкоў. Карузлік імкнецца загубіць Дзяўчынку, што заблукала ў заснежаным лесе, аднак яе ратоўвае добры, наіўны ў сваім даверы Хохлік. Спачатку яна, падманутая ліслівай двухаблічнасцю Карузліка, сябруе з ім, недалюбліваючы свайго выратавальніка. Ды наступныя падзеі адкрываюць ёй вочы. Аўтар вучыць цаніць і бачыць добрае ў іншых.

На сучасным этапе папулярнай з’явай стаў пераклад на мову драматургіі народных казак ці аўтарскіх твораў. Драматургічныя пераасэнсаванні С. Кавалёвым вядомых твораў вылучаюцца сюжэтнай дынамікай і энергічнасцю характараў персанажаў. Так, у п’есе **“Заяц варыць піва”** (1991) галоўны герой чытае вершы пра сябе і па ходзе змяняе заяўленую назву твора (так называўся верш У. Караткевіча), бо яна не адпавядае рэчаіснасці, на “Птушыны суд” (так называлася казка). Падобныя прыёмы ўзніклі пад уплывам постмадэрнізму. Ад яго казка ўзяла пачуццё свабоды і раскаванасці [3]. Але п’еса мае і глыбокі сацыяльна-філасофскі змест.

Творчасць У. Караткевіча стала крыніцай яшчэ адной п’есы С. Кавалёва – **“Жабкі і Чарапашка”** (1991). На прыкладзе знешне непрывабнай – паводле меркавання самаўлюбёных Жабак – Чарапашкі аўтар паказвае, як важна жывой істоце мець побач кагосьці блізкага. Спатрэбіўся важкі аўтарытэт маэстра Салаўя, каб Жабкі ўбачылі вартасці Чарапашкі і прынялі яе ў сваю вясёлую кампанію.

Наступным разам С. Кавалёў звярнуўся да твораў Я. Баршчэўскага і стварыў яшчэ адну займальную гісторыю пра супрацьстаянне дабра і зла – **“Чарнакніжнік”** (1995). Сістэма вобразаў хоць і запазычана ў літаратурнага класіка, выглядае не зусім стандартна: Кот Варгін, які мусова прыслужвае ведзьмаку, мае белую поўсць, а Певень Парамон (што знёс яйка з Цмокам) наадварот – увесь чорны. Цмок жа «адмаўляецца служыць Чарнакніжніку і пачынае тварыць дабро, перш-наперш вызваляючы з няволі свайго “тату” – Парамона», што цалкам разыходзіцца з характарам персанажа ў творчасці Я. Баршчэўскага [4, с. 7].

Матэрыял для стварэння гумарыстычных п’ес у драматургаў карыстаецца вялікай папулярнасцю. Так, хрэстаматыйныя **Піліпка і Ведзьма** сышліся ў супрацьстаянні на старонках аднайменнай п’есы С. Кавалёва (1993). С. Юркевіч

яе слушна называе сімвалісцкай прыпавесцю "пра Жыццё і Смерць, дзе ўвасабленнем Жыцця, пазнавальнасці свету з'яўляецца хлопчык Піліпка, а ўвасабленнем Смерці – Ведзьма. Менавіта паміж імі адбываецца асноўны канфлікт. Урэшце Жыццё, Дабрыня – перамагаюць, а крылатыя гусі ў фінале ствараюць атмасферу ўзнёсласці, падымаючы героя да нябёсных вышынь" [4, с. 5].

На сучасным этапе адраджаецца тэматыка традыцыйнай батлейкі. **"Маленькі Анёлак"** С. Кавалёва (1993) мае арыгінальную форму – гэта мона-п'еса, «філасофская гісторыя маленькай незямной істоты Анёлка, які папрасіў Усемагутнага Бога прызначыць яго Апекуном Забытых Жывёл, іх Анёлам-ахоўнікам, таму што ён не разумее і баіцца людзей, бо апошнія, на яго думку, "шмат і мудрагеліста гавораць"» [4, с. 6].

П'еса С. Кавалёва **"Шлях да Бэтлеему"** (1997) створана па біблейскіх матывах (мае і другую назву – "Братка Асёл"). Аўтар дае арыгінальную інтэрпрэтацыю падзеям, стварае ўласную сістэму вобразаў, а галоўным героем робіць звычайнага Асла, якому наканавана выратаваць самога Божага Сына. Герой праходзіць свой шлях да Бога ў простым і пераносным сэнсе. Аўтар не абмежаваўся колам біблейскіх вобразаў, увёўшы ў п'есу персанажаў, чые характары сталі канцэптуальным дапаўненнем падзейнай панарамы. "Праз жывыя сутыкненні дзеючых асоб даводзіцца, што не хлебам адзіным жывы чалавек (сцэна з Парсюком), што не фізічная сіла, а духоўная моц аказваецца сапраўдным выратаваннем для чалавека (сцэна са Львом). Актуалізацыя хрысціянскіх пастулатаў адбываецца без ілжывага асучаснівання" [5, с. 137].

Дзве п'есы ў кнізе С. Кавалёва друкуюцца ўпершыню. Прасякнутая экзістэнцыялісцкімі матывамі казка **"Пацалунак ночы"** (2003), нягледзячы на happy end для галоўнага героя, мае агульную мінорную танальнасць. Барацьба за жыццё разгортваецца паміж хворым хлопчыкам Рыгоркам і лагерам злых сіл на чале з Хваробаю, Смерцю і Алхімікам, антыгуманныя намеры якіх ствараюць беспрасветную перспектыву для чалавецтва. Выратавальнікам выступае сам Рыгорка – валявы, маральна непахісны і смелы. Але яго якасцей для перавагі над злымі сіламі мала. І ён разумее, што без агульных намаганняў аднадумцаў зла не адолець. Псіхалагізм п'есы дасягаецца не за кошт ускладненасці мастацкіх характараў, што непрымальна для адрасаванага дзіцячай аўдыторыі твора, а дзякуючы іх зразумелай кантраснасці, што прыводзіць да канфліктнай напружанасці. Змрочнасць драматургічнай палітры твора падобная да тонаў п'есы "У чорным-чорным горадзе" М. Клімковіча і М. Шайбака (па матывах сучаснага дзіцячага фальклору). Не па-дзіцячаму гучыць голас памерлага Клауса: *"Кожны з нас аднойчы трапляе ў сітуацыю, калі трэба выбіраць: ратаваць жыццё іншага чалавека ці сваю ўласную скуру. Найчасцей мы проста не паспяваем зрабіць належнага выбару. А потым да смерці пакутуем і просім у Бога толькі аднаго: каб сітуацыя паўтарылася, і тады..."*

Тэма сяброўства становіцца асноўнай у казцы **"Пясчаны замак"** (2006). Выдуманыя С. Кавалёвым істоты Пясчанік, Гліннік і Вапнінка слабыя – і маральна, і фізічна – паасобку, але разам здольны супрацьстаяць жывёлам-зламыснікам, якія разбураюць іх будынкі, не проста знішчаюць вынікі архітэктурнага мастацтва герояў, а абясцэньваюць і ліквідуюць сэнс іх працы і жыцця.

Уменне Сяргея Кавалёва ствараць драматургічныя характары, займальныя калізіі забяспечыла яго п'есам поспех: яны заўсёды былі запатрабаваныя сцэнай (і не толькі беларускай), а таксама радыё- і тэлеэфірам. Займальнасць твораў не зменшыла іх гуманістычнага пафасу. Вобразы і арыгінальных твораў, і перароблены у п'есы настолькі моцныя і запамінальныя, што не могуць не выклікаць пачуццё эмпатыі ў чытача або гледача. Высокае майстэрства аўтара праяўляецца і праз тэматычна-жанравую разнастайнасць яго п'ес.

**Спіс літаратуры**

1. **Васючэнка, П.** Слова складальніка / П. Васючэнка // Сучасная беларуская драматургія : Традыцыі і наватарства; уклад. і прадм. П. Васючэнкі; пад агул. рэд. У. М. Сіўчыкава. – Мінск : Сэр-Віт, 2003.

2. **Драбеня, Ф.** Дзіцячая драматургія Сяргея Кавалёва / Ф. Драбеня // Літаратура і мастацтва. – 2010. – 12 сак.

3. **Возможности влияния современных жанров** : фантастика, фэнтези, сказка [Электронный ресурс]. – Режим доступа : http://zhurnal.lib.ru/h/hishnaja_p/01skazky.html.

4. **Юркевіч, С.** П'есы-казкі Сяргея Кавалёва / С. Юркевіч // Хохлік : зборнік п'ес для драм. і лялеч. тэатр. калектываў / С. Кавалёў. – Мінск : БелДІПК; Мазыр : ТАА ВД "Белы Вецер", 2002.

5. **Савіцкая, А. А.** Беларускі тэатр юнага гледача : Вопыт эстэтычнага выхавання / А. А. Савіцкая. – Мінск : Беларус. навука, 2008.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК,**
метадыст аддзела міжнароднай
і сацыякультурнай дзейнасці
Інстытута культуры Беларусі.



# МОВЫ РЫСЫ НЕПАЎТОРНЫЯ

*Таямніцы народнага слова*

Іван ЛЕПЕШАЎ

## ПАНЯЦЦЕ "ВОБРАЗНАСЦЬ МОЎНЫХ АДЗІНАК"

Многія аўтары даведнікаў, падручнікаў, навучальных дапаможнікаў, артыкулаў няправільна альбо занадта шырока разумеюць паняцце "вобразнасць" у дачыненні да прыказак, фразеалагізмаў і слоў.

Так, даючы азначэнне прыказцы, абавязкова называюць вобразнасць як адну з асноўных, адметных рыс прыказкі. У некаторых працах вобразнасць лічыцца "неад'емнай арганічнай часткай прыказкі" [1, с. 4]. У пяцітомным "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (т. 4, с. 435) прыказка азначаецца як "устойлівае вобразнае выслоўе павучальнага зместу". Школьнікам прапануецца завучваць, што "прыказкай называецца створанае народам лаканічнае, вобразнае выслоўе з павучальным зместам, якое мае прамы і пераносны сэнс" [2, с. 14].

У працах жа некаторых іншых вядомых даследчыкаў мімаходам зазначаецца, што ёсць прыказкі вобразныя і бязвобразныя. Так, у свой час (1892) на гэта звярнуў увагу А. Патабня: "Калі абагульненне не будзе змяшчаць у сабе следу свайго паходжання ад вобраза, мы атрымліваем іншы від прыказкі, а менавіта – бязвобразны выказ маральнага зместу, напрыклад: *Береги денежку на черный день*" [3, с. 98]. Яўхім Карскі таксама падзяляў прыказкі на вобразныя (*На чыім возе едзеш, таму песеньку спявай*) і бязвобразныя (*Багаты дзівіцца, чым худы жывіцца*) [4, с. 437]. Кандрат Крапіва ў вялікім артыкуле "Беларускія прыказкі" (1927) адзначыў, што "ёсць прыказкі бязвобразныя, напрыклад: *Хто лжэ, той і крадзе*; *Не дай убогаму, а патрэбнаму*; *Хто дбае, той і мае*" [5, с. 251].

Перш чым гаварыць пра паняцце "вобразнасць" і пра тое, як адрозніць вобразную прыказку ад бязвобразнай, варта сцісла спыніцца на цесна звязаным з вобразнасцю пытанні пра сэнсавую класіфікацыю прыказак. Калі іх аналізаваць з семантычнага боку, то тут выразна вылучаюцца тры групы.

У першую групу ўваходзяць прыказкі алегарычнага характару, г. зн. у іх гаворыцца пра адно, а маецца на ўвазе зусім іншае. Так, у прыказцы *Груган гругану вока не выдзеўбе* зусім не пра гругана і невыдзёўбванне вока ідзе размова; сэнс прыказкі – 'людзі, звязаныя якімі-небудзь агульнымі, звычайна карыслівымі, інтарэсамі, дзейнічаюць заадно і не здрадзяць, не зробяць кепскага адзін другому'. Сэнс прыказкі *Яблык ад яблыні недалёка падае* – 'свае недахопы ці станоўчыя рысы дзеці пераймаюць ад бацькоў'. У "Слоўніку беларускіх прыказак" [6] апісана 1500 найбольш ужывальных прыказак. Сярод іх на долю алегарычных, пераносных прыпадае 460 прыказак.

Другая група аб'ядноўвае прыказкі, у якіх няма поўнага пераасэнсавання ўсіх кампанентаў. Частка слоў такіх прыказак захоўвае сваё літаральнае значэнне. Да прыкладу, у прыказцы *Не такі чорт страшны, як яго малююць* іншасказальны сэнс маюць толькі кампаненты *чорт* і *малююць*; агульнае значэнне прыказкі – 'не так страшна на самай справе, як здаецца'. Захоўвае сваё літаральнае значэнне і слова *вучыць* у прыказцы *Яйцо курыцу вучыць*, яна абазначае 'малады, нявопытны вучыць старэйшага, вопытнага'. Такіх прыказак, у якіх не ўсе кампаненты пераасэнсаваліся, каля 800 (з ліку 1500 апісаных у "Слоўніку…").

Ёсць і трэцяя група прыказак (іх каля 260). Яны наогул ужываюцца толькі ў прамым значэнні і не патрабуюць тлумачэння. Агульны сэнс амаль кожнай такой прыказкі вынікае з прамых значэнняў яе слоў-кампанентаў, напрыклад: *Брат любіць сястру багатую, а мужык жонку здаровую*; *Век жыві – век вучыся*; *Вучыцца ніколі не позна*; *Госць госця ненавідзіць, а гаспадар абодвух*; *Добра ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць*; *Зяць любіць узяць*.

Вернемся цяпер да вобразнасці прыказак. Як вядома, слова *вобраз* шматзначнае, у мастацтве яно абазначае канкрэтна-пачуццёвую форму ўяўлення. Вобразнасць слушна атаясамліваецца з пераноснасцю, метафарычнасцю, фігуральнасцю. Пры метафарычным пераасэнсаванні пэўнае



*Іван Якаўлевіч Лепешаў* – *мовазнаўца. Доктар філалагічных навук (1985). Прафесар кафедры беларускай мовы Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Асноўная тэматыка навуковых даследаванняў – фразеалогія, мова мастацкай літаратуры, культура маўлення і стылістыка. Апублікаваў больш за 570 навуковых прац, у тым ліку 42 кнігі, сярод іх "Фразеалогія ў творах К. Крапівы" (1976), "Лінгвістычны аналіз літаратурнага твора" (1981), "Асновы культуры мовы і стылістыкі" (1989), "Фразеалогія сучаснай беларускай мовы" (1998), "Парэміялогія як асобны раздзел мовазнаўства" (2006), "Слоўнік фразеалагізмаў" (у 2 т., 2008), "Лінгвістычны аналіз тэксту" (2009) і інш.*

абстрактнае суджэнне, увасобленае ў прыказцы, перадаецца праз канкрэтныя вобразы, праз нагляднае ўяўленне пра каго- ці што-небудзь. Вобразнасць у дачыненні да прыказак – гэта сумешчанае бачанне дзвюх карцін. Так, пры ўжыванні прыказкі *Кашы маслам не сапсуеш*, якая абазначае 'неабходнае, карыснае ніколі не зашкодзіць', зыходны вобраз надзённа-харчовага паходжання, пакладзены ў аснову прыказкі, хоць і знаходзіцца як бы ў цені свядомасці, але не можа не прасвечвацца праз цэласнае парэмійнае значэнне.

Найбольшы каэфіцыент вобразнасці маюць тыя прыказкі, якія могуць быць супрацьпастаўлены адпаведнаму свабодна арганізаванаму сказу і на яго фоне ўспрымаюцца як разгорнутыя метафары. Усе прыказкі названай вышэй 1-й групы вобразныя. Сярод іх ёсць і такія, у аснове якіх – нерэальны, прыдуманы вобраз: *Адальюцца воўку авечыя слёзы*; *Выпрамлялі быку рогі, ды скруцілі шыю*.

Можна вылучыць некалькі тыповых семантычных мадэляў, па якіх арганізуецца супастаўленне розных з'яў. Напрыклад, ёсць шмат прыказак "жывёльнага паходжання", г. зн. такіх, якія дастасоўваюцца да чалавека, але ўзніклі праз параўнанне людскіх учынкаў, дзеянняў з паводзінамі жывёл, іх звычкамі і г. д. Вось толькі некалькі такіх прыказак: *Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць*; *Бадлівай карове бог рог не дае*; *Ваўка ногі кормяць*; *Два мядзведзі ў адной бярлозе не зімуюць*; *Сабака брэша – вецер носіць*; *Ведае кошка, чыё сала з'ела*; *На бязрыб'і і рак рыба*.

А гэта прыклады прыказак "птушынага паходжання": *Адна ластаўка вясны не робіць*; *Варона з куста, пяць на куст*; *Начная зязюля дзённую перакукуе*; *Пужаная варона куста баіцца*; *Старога вераб'я на мякіне не правядзеш*.

Ёсць таксама нямала прыказак "расліннага паходжання", напрыклад: *Ад крывога дрэва прамога ценю не бывае*; *І да грыба трэба нагнуцца*; *Пустазелле з поля вон*; *Скрыпучае дрэва доўга скрыпіць*; *Што пасееш, тое і пажнеш*.

Вельмі многія прыказкі алегарычнага характару склаліся на аснове сказаў, якія ў сваім першапачатковым сэнсе непасрэдна звязаны з канкрэтнымі назіраннямі чалавека за рознымі з'явамі прыроды: *З вялікага грому малы дождж бывае*; *Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць*; *На адным месцы і камень мохам абрастае*; *Ціхая вада грэблі рве* і інш.

Пад пераасэнсаванне падпалі сотні іншых выказванняў-сказаў з самых разнастайных сфер: *Бяздоннай бочкі не напоўніш*; *Дыму без агню не бывае*; *За чужой шчакой зуб не баліць*; *Золата і ў смецці блішчыць*; *Чужы кажух не грэе*; *Шыла ў мяшку не схаваеш* і г. д.

Прыказкі 2-й семантычнай групы таксама можна лічыць вобразнымі ці, лепей сказаць, часткова вобразнымі, бо ў іх няма скразнога пераасэнсавання. У адных выпадках непераасэнсаваным застаецца толькі адно слова; напрыклад, першае слова ў такіх прыказках: *Абяцаная шапка на вушы не лезе*; *Будзе і на нашай вуліцы свята*; *Восень на рабым кані едзе*; *Старой бабцы добра і ў шапцы*. Часам, наадварот, толькі адно слова ці прыназоўнікава-склонавае спалучэнне ўжыта фігуральна, астатнія захоўваюць сваё літаральнае значэнне: *Ад* ***торбы*** *і турмы не заракайся*; *Малако ў каровы* ***на языку***. Пераасэнсаванасць або непераасэнсаванасць кампанентаў камбінуецца і ў іншых разнастайных прапорцыях: *Гэта яшчэ толькі кветачкі, а ягадкі наперадзе*; *Куды іголка, туды і нітка*; *Адсохні тая рука, што сабе не спрыяе*; *Ажаніцца – не ўпасці: не ўстанеш, не атрасешся*; *Альбо дожджык, альбо снег, альбо будзе, альбо не*; *Мая хата з краю, нічога не знаю*. Асобныя словы ператвараюцца ў прыказкавыя кампаненты не толькі шляхам метафарызацыі, але і ў выніку метанімічнага ці сінекдахічнага пераносу: *Аддай рукамі, хадзі нагамі*; *Адна галава добра, а дзве яшчэ лепей*.

Усе прыказкі 3-й групы – бязвобразныя. Але яны, як і прыказкі дзвюх іншых груп, характарызуюцца ўстойлівасцю і ўзнаўляльнасцю, актыўна выкарыстоўваюцца ў маўленні як выказванні, за якімі стаіць аўтарытэт пакаленняў, што стварылі іх.

Звернемся цяпер да фразеалагізмаў. Іх нярэдка таксама агулам называюць вобразнымі сродкамі мовы. Іншы раз вобразнасць прызнаецца катэгарыяльнай прыметай фразеалагізмаў і найважнейшым фактарам іх замацаванасці ў мове. Да прыкладу, у адной працы фразеалагізмы характарызуюцца як "яркі сродак вобразнасці і выразнасці ў мове" [7, с. 26], у другой – як "вобразныя матываваныя адзінкі мовы" [8, с. 296], у трэцяй – сцвярджаецца, што фразеалагічныя

адзінкі “вобразна, дакладна і выразна перадаюць думку”, надаюць “вобразнасць маўленню”, утрымліваюць у сваёй сэнсавай структуры якісьці “вобразны складнік” [9, с. 67, 91].

На самай жа справе вобразнасць характэрна толькі для фразеалагічных адзінстваў – выразаў з жывой унутранай формай. Нагадаем, што ўнутранай формай называюць вобраз, які ляжыць у аснове наймення фразеалагічнай адзінкі, або вобразнае ўяўленне, якое спадарожнічае фразеалагічнаму значэнню.

Як ужо гаварылася вышэй, вобразнасць слушна вызначаюць як сумешчанае бачанне дзвюх карцін. Так, пры ўжыванні фразеалагізма *віць сабе гняздо*, што значыць ‘уладкоўваць сямейнае жыццё’, мы ўяўляем і зыходны вобраз “птушынага паходжання”, пакладзены ў аснову гэтага выразу.

Многія фразеалагізмы з цягам часу страчваюць унутраную форму, а з ёю і сваю былую вобразнасць. Як пісаў у гэтай сувязі Б. Ларын, «метафарычным ці вобразным фразеалагізм застаецца да таго часу, пакуль не разбураюцца суадносіны першага і другога сэнсавага плана, інакш кажучы, “прамога” і “пераноснага” значэння». І яшчэ: “Чым далей зайшла ўнутраная і знешняя дэфармацыя або перабудова першапачатковага выразу, тым меней вобразнасці, тым бляднейшае і больш адцягненае яго значэнне. Ну што, напрыклад, засталося ад былой вобразнасці ў ідыёме *як піць даць*, якая стала сінонімам прыслоўя *немінуча, абавязкова*?” [10, с. 155, 143].

Сучасны носьбіт беларускай мовы не адчувае ніякай матываванай сувязі паміж выразам *на ўсе застаўкі* і яго значэннем ‘спаўна, як толькі можна (рабіць што-н.)’: *Алесь, націсні там на ўсе застаўкі ў сельсавеце* (К. Чорны). А між тым на пачатку свайго жыцця фразеалагізм усведамляўся як вобразны і матываваны, бо звязваўся з аналагічным свабодным словазлучэннем, дзе *застаўкі* – ‘шчыты для затрымлівання вады, што пáдае на кола вадзянога млына’. Страта гэтым фразеалагізмам сваёй першапачатковай вобразнасці прывяла да таго, што ён, ужываючыся пры розных дзеясловах-суправаджальніках, развіў у сабе, апрача ўжо названага, яшчэ чатыры бязвобразныя прыслоўна-акалічнасныя значэнні: 1) вельмі гучна, голасна (храпці, захрапці): *храпуць на ўсе застаўкі* (А. Савіцкі); 2) вельмі хутка, імкліва (бегчы, ехаць і пад.): *пёр на ўсе застаўкі* (З. Бядуля); 3) вельмі моцна, празмерна (хваліць, расхвальваць): *на ўсе застаўкі расхвальваў* (В. Дайліда); 4) шырока, прыветліва (смяяцца, усміхацца): *на ўсе застаўкі ўсміхнуўся* (Я. Брыль).

З прыкладна 7000 фразеалагічных адзінак, апісаных у двухтомным “Слоўніку фразеалагізмаў” (2008), толькі каля 1800 выразаў супадаюць у гукавых адносінах з адпаведнымі свабоднымі словазлучэннямі і на іх фоне ўспрымаюцца як вобразныя, пераносныя, матываваныя. Сярод іх нямала “метафар, узятых з жывёльнага свету” (В. Вінаградаў), напрыклад: *віляць хвастом, абрэзаць крылы, асінае гняздо, мокрая курыца, апусціць крылы, трымаць вуха востра, падпілоўваць рогі, убірацца ў пер’е, падтуліць хвост, паказаць зубы, дойная карова, хадзіць на задніх лапках, клюнуць на вудачку*. Вось яшчэ некалькі прыкладаў на фразеалагічныя адзінствы, што склаліся са свабодных словазлучэнняў, якія адлюстроўваюць самыя разнастайныя жыццёвыя сітуацыі: *гладзіць па галоўцы, гнуць спіну, абіваць парогі, лёд растае, насіць на руках, раскрываць карты, ставіць знак роўнасці, мяняць пласцінку, парахня сыплецца* (з каго), *плысці супраць цячэння, сыходзіць са сцэны, правая рука, згусціць фарбы, камандаваць парадам*.

Як вобразныя адзінкі павінны разглядацца ў сваёй пераважнай большасці фразеалагізмы, структурна арганізаваныя як параўнальныя канструкцыі (а ўсяго іх больш за 350). Такія застылыя параўнанні ўспрымаюцца як выразы з жывой унутранай формай, у якіх асабліва яскрава адчуваецца сувязь паміж першаснай, канкрэтнай прыметай і фігуральным, абагульненым значэннем: *як агнём апякло, як гром з яснага неба, як дзірка ў мосце, як карова языком злізала, як нажом адрэзаў, як мокрае гарыць, як пугай па вадзе, як свае пяць пальцаў, як уюн на гарачай патэльні* і шмат іншых. Сярод застылых параўнальных зваротаў ёсць некалькі дзясяткаў фразеалагізмаў са страчанай, забытай вобразнасцю; гэта, напрыклад, такія выразы-зрашчэнні: *як Заблоцкі на мыле, як з крыжа зняты, як з рога дастатку, як лёду, як май змаяваў, як пiлiп з канапель, як серада на пятніцу, як фенікс з попелу*.

Вобразнымі трэба лічыць і такія фразеалагізмы, у аснове якіх нерэальны вобраз. Існуе не менш чым 300 фразеалагізмаў, узнікненне якіх – плён народнай фантазіі. У іх аснову пакладзены прыдуманыя, нерэальныя вобразы, вельмі многія з гэтых выразаў сэнсава алагічныя: *без году тыдзень, адмыкаць адамкнёныя дзверы, дзірка ад абаранка, грушы на вярбе, сабакам сена касіць, ад яйка адліць, выдраць лысаму валасы, голаму за пазуху, з жабіны прыгаршчы, смаловы дуб, кот наплакаў, як зайцу стоп-сігнал, касіць дугой, у сабакі вачэй пазычыць, кішкі марш іграюць, як босаму разуцца, як рыбе парасон, смажаны певень клюнуў* і г. д. Ёсць значная група вобразных фразеалагізмаў, заснаваных на гіпербале ці літоце: *з-пад сучкі яйцо ўкрадзе, утапіць у лыжцы вады, ад гаршка паўвяршка, кату па пяту, страляць з гарматы па вераб’ях, з рукамі адарваць, закідаць*

*шапкамі, матчына малако на губах не абсохла* і інш.

Хоць амаль усе з гэтых і падобных фразеалагізмаў не могуць быць супастаўлены з эквівалентнымі свабоднымі словазлучэннямі з-за немагчымасці іх утварыць, але ў іх адчуваецца выразны намёк на матывацыю, яны ўспрымаюцца як вобразныя, толькі з нерэальным вобразам у аснове іх назвы.

У вучэбным дапаможніку для студэнтаў-філолагаў [11, с. 75] сцвярджаецца, што "большасці фразеалагізмаў уласціва вобразнасць". Але з гэтым ніяк нельга згадзіцца. Па-першае, бязвобразнымі з'яўляюцца тысячы фразеалагічных зрашчэнняў – нематываваных выразаў, якія патрабуюць этымалагічнага аналізу, высвятлення матываў іх узнікнення. У іх, як пісаў Б. Ларын, "усе словы вядомыя, а сэнс цэлага застаецца няясным" [10, с. 153]: *куку ў руку* ('хабар'), *гады ў рады* ('занадта рэдка'), *пятая калона* ('варожая агентура ўнутры краіны'), *начная зязюля* ('жонка') і г. д. Па-другое, існуюць сотні такіх фразеалагічных адзінстваў, якія ніколі не мелі ўнутранай формы, бо ў іх складзе ёсць сэнсаўтваральны кампанент, напрыклад: *пад злосную руку* ('у стане злосці'), *на роўную нагу* ('як роўны з роўным'), *з лёгкім сэрцам*, *адбіваць хлеб* (у каго), *знаходзіць агульную мову* (з кім), *стаяць на сваім*. Усе яны хоць і бязвобразныя, але характарызуюцца экспрэсіўнай насычанасцю, выступаюць залацінкамі народнай мудрасці, ажыўляюць маўленне, робяць яго сакавітым і эмацыянальным, ёмістым і сціслым.

Вобразнасць уласціва таксама і словам. Але, зразумела, далёка не ўсім. Калі слова адназначнае, то яно бязвобразнае, хоць матыў узнікнення самой назвы ў многіх выпадках можа быць відавочным (скажам, *баравік, падасінавік*).

Першае значэнне полісемантычнага слова таксама заўсёды бязвобразнае. Яго называюць прамым, або асноўным, першасным, зыходным. Іншыя значэнні такога слова ў адных выпадках вобразныя, у другіх – бязвобразныя. Пакажам на прыкладзе, як утвараюцца вобразныя значэнні.

Найменшы элемент сэнсавай структуры слова называецца семай. Прамое, зыходнае значэнне назоўніка *мора* 'частка акіяна, адасобленая сушай, з гаркавата-салёнай вадой' змяшчае ў сабе шэраг сем. Пры метафарычным пераасэнсаванні зыходнага значэння ўвага акцэнтуецца на адной ці дзвюх семах, якія выходзяць на першы план і актуалізуюцца, засланяючы астатнія семы сэнсавай структуры. Вось якая семантычная сувязь (гл. табліцу) назіраецца паміж трыма значэннямі слова *мора* (яго другое слоўнікавае

**Табліца.**

| кантэкст | многа | вада | гаркавата-салёная | на вялікай прасторы | ва ўпадзіне | звязана з акіянам |
|---|---|---|---|---|---|---|
| *мора шуміць* | + | + | + | + | + | + |
| *мора лясоў* | + | - | - | + | - | - |
| *мора слоў* | + | - | - | - | - | - |

значэнне – 'вялікая прастора чаго-н.', трэцяе – 'вялікая колькасць каго-, чаго-н.').

Пры ўжыванні назоўніка *мора* ў 2-м і 3-м значэннях выразна адчуваецца іх вобразнасць. Гэтыя значэнні ў даведніках маюць памету *перан.*, што атаясамліваецца з 'метафарычным, вобразным, фігуральным'.

У шматлікіх іншых выпадках вытворныя значэнні полісемантычнага слова не ўспрымаюцца як вобразныя. Так, *вішня* абазначае і 'садоваягаднае дрэва', і 'плод гэтага дрэва', *бульба* – 'агародная расліна', 'падземныя клубні гэтай расліны' і 'страва з клубняў гэтай расліны', *конь* мае тры значэнні, *аперацыя* – шэсць значэнняў, а *вучыць* – сем значэнняў (з адценнямі), але ніводнае значэнне ці адценне гэтых слоў слушна не пазначаецца ў слоўніках паметай *перан.* У слове *ісці* з 63 значэнняў (з адценнямі) толькі пяць маюць памету *перан.*, у слове *браць* з 53 – толькі адно, у слове *біць* з 28 – толькі тры, у слове *корань* з 9 (з адценнямі) – толькі адно.

"Значэнні слоў, што ўзнікаюць як пераносныя, з цягам часу могуць страчваць гэтую якасць. Пры частым ужыванні пераноснае значэнне становіцца прывычным, семантычная яго двухпланавасць сціраецца, яно становіцца адным з асноўных прамых значэнняў" [12, с. 110]. Такія былыя пераносныя значэнні называюць мёртвымі, акамянелымі, сцёртымі метафарамі (***корань*** *слова*), метаніміямі (*уважлівая* ***аўдыторыя***), сінекдахамі (*ем* ***вішню***). Ужо даўным-даўно ў кантэкстах *дождж ідзе, сонца заходзіць, вецер вые* дзеясловы перасталі ўспрымацца як вобразныя, пераносныя, хоць, як пісаў Васіль Вітка, "той, хто першы так сказаў, быў паэтам" [13, с. 103].

У мастацкіх жа творах слова, уключыўшыся ў сістэму вобразаў, даволі часта зазнае значныя пераўтварэнні, атрымлівае сэнсавае прырашчэнне, выклікае шэраг дадатковых асацыяцый. У такім разе маем справу з індывідуальна-аўтарскай рэалізацыяй патэнцыяльных магчымасцей слова – з яго новым значэннем ці адценнем. Гэта звычайная з'ява ў мастацкім кантэксце. Вось толькі некалькі прыкладаў.

Слова *прапіска* ў вершы Аркадзя Куляшова "Я хаце абавязаны прапіскаю…" атрымала вобразнае значэнне 'жыццё': *…мільярд прапісак – у маўклівы прысак.* Слова *прадмова* ў трылогіі Якуба Коласа "На ростанях" выкарыстана са значэннем 'непрыемны пачатак': *Перад тым,*

*як адбіць гадзіны, гадзіннік колькі хвілін трашчаў, рыпеў, як калодзежны журавель на марозе, і пасля такой прадмовы звінеў прыемным металічным звонам.* У літаратурнай мове дзеяслоў *адпяваць* мае адзінае значэнне ‘спраўляць над нябожчыкам абрад адпявання’, а ў Рыгора Барадуліна – свежае, арыгінальнае ўжыванне гэтага слова: *Адпяваюць паяльнай лямпай чорнага вепрука* (“Нясвіж па-восеньску”). І яшчэ: *Пераспелае бабіна лета адпяваюць манахі-гракі* (“Лінія перамены дат”). У першым прыкладзе *адпяваюць* – ‘смаляць (толькі што заколатага вепрука)’, у другім – праз параўнанне гракоў з манахамі – гэта ‘развітваюцца (з бабіным летам)’.

Усё гэта таксама вобразныя значэнні, толькі не слоўнікавыя, а індывідуальна-аўтарскія.

**Спіс літаратуры**

1. **Аксамітаў, А. С.** Лексіка беларускіх прыказак XIX ст. у сувязі з агульнай праблемай фразеалогіі / А. С. Аксамітаў. – Мінск : Выд-ва АН БССР, 1958.

2. **Беларуская літаратура** : падручнік для 5 класа / пад рэд. В. А. Ляшук. – Мінск : Асар, 2003.

3. **Потебня, А. А.** Из лекций по теории словесности. Басня. Пословица. Поговорка / А. А. Потебня // Теоретическая поэтика / А. А. Потебня. – М. : Высш. шк., 1990.

4. **Карский, Е.** Беларусы / Е. Карский. – Мінск : Кнігазбор, 2001.

5. **Крапіва, К.** Зб. тв. : у 4 т. / К. Крапіва. – Мінск : Дзяржвыд БССР, 1963. – Т. 4.

6. **Лепешаў, І. Я.** Слоўнік беларускіх прыказак / І. Я. Лепешаў, М. А. Якалцэвіч. – Мінск : Беларус. навука, 2002.

7. **Янкоўскі, Ф. М.** Беларуская фразеалогія / Ф. М. Янкоўскі. – Мінск : Нар. асвета, 1981.

8. **Аксамітаў, А.** Прыказкі і прымаўкі / А. Аксамітаў. – Мінск : Беларус. навука, 2000.

9. **Ляшчынская, В.** Аспекты вывучэння фразеалагізмаў у сістэме навучання беларускай мове / В. Ляшчынская // Роднае слова. – 2009. – № 2. – С. 91 – 93; № 3. – С. 67 – 68.

10. **Ларин, Б. А.** История русского языка и общее языкознание / Б. А. Ларин. – М. : Просвещение, 1977.

11. **Сучасная беларуская літаратурная мова** : лексікалогія, фанетыка, арфаграфія. – Мінск : Выш. шк., 1993.

12. **Кузнецова, Э. В.** Лексикология русского языка / Э. В. Кузнецова. – М. : Высш. шк., 1982.

13. **Вітка, В.** Дзеці і мы / В. Вітка. – Мінск : Маст. літ., 1977.

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2011 год

ЖНІВЕНЬ

**1 жніўня –** 90 гадоў з дня нараджэння Барыса Дакутовіча (1921 – 2002), беларускага і расійскага рэжысёра

**2 жніўня –** 110 гадоў з дня нараджэння Іллі Мурамцава (1901 – 1968), беларускага і расійскага спевака, заслужанага артыста Беларусі

**4 жніўня –** 335 гадоў з дня нараджэння Дамініка Рудніцкага (1676 – 1739), беларускага і польскага паэта, фалькларыста, драматурга, тэолага

**5 жніўня –** 115 гадоў з дня нараджэння Леаніда Маркевіча (1896 – 1980), кампазітара, дырыжора, заслужанага артыста Беларусі

80 гадоў з дня нараджэння Паўла Дзюбайлы (1931 – 1995), крытыка і літаратуразнаўцы

75 гадоў з дня нараджэння Пятра Захарава, мастака тэатральна-дэкаратыўнага мастацтва, жывапісца

**9 жніўня –** 85 гадоў з дня нараджэння Янкі Запрудніка (сапр. Сяргей Вільчыцкі), вучонага-гісторыка, палітолага, публіцыста, паэта, крытыка, грамадска-палітычнага дзеяча. Жыве ў ЗША

75 гадоў з дня нараджэння Яўгена Міклашэўскага, паэта, празаіка, перакладчыка

**10 жніўня –** 215 гадоў з дня нараджэння Ігната Легатовіча (1796 – 1867), беларускага і польскага паэта, педагога

75 гадоў з дня нараджэння Міколы Навіцкага, літаратуразнаўцы, перакладчыка, крытыка, паэта

**11 жніўня –** 155 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Дабравольскага (1856 – 1920), беларускага і рускага этнографа, фалькларыста, краязнаўцы, лексікографа, публіцыста

**12 жніўня –** 100 гадоў з дня нараджэння Клаўдзіі Калітоўскай (1911 – 2004), артысткі балета, педагога, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

**13 жніўня –** 70 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Грышчанкі, артыста балета

**14 жніўня –** 75 гадоў з дня нараджэння Івана Шпакоўскага (1936 – 2008), літаратуразнаўцы, крытыка

**15 жніўня –** 180 гадоў з дня нараджэння Вінцэся Каратынскага (1831 – 1891), беларускага і польскага паэта, публіцыста, перакладчыка

120 гадоў з дня нараджэння Таццяны Лапацінай (1891 – 1980), дзеяча самадзейнага мастацтва, кампазітара-аматара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**16 жніўня –** 70 гадоў з дня нараджэння Святланы Катковай, мастака манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, жывапісца

**18 жніўня –** 115 гадоў з дня нараджэння Макара Краўцова (сапр. Касцевіч; 1891 – 1939), дзеяча беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, паэта, публіцыста, перакладчыка

75 гадоў з дня нараджэння Ніны Гаўрош, мовазнаўцы

70 гадоў з дня нараджэння Сямёна Букчына, празаіка, крытыка, публіцыста

**19 жніўня –** 90 гадоў з дня нараджэння Аляксандры Манаенкавай (1921 – ?), мовазнаўцы. Выехала ў Расію

70 гадоў з дня нараджэння Мікалая Ткачова, жывапісца

**20 жніўня –** 90 гадоў з дня нараджэння Ціхана Панцюшэнкі (Панцюшанкі), празаіка

75 гадоў з дня нараджэння Яўгена Крупенькі (1936 – 1990), паэта, перакладчыка

**21 жніўня –** 105 гадоў з дня нараджэння Макара Паслядовіча (1906 – 1984), празаіка, перакладчыка, драматурга

80 гадоў з дня нараджэння Юліі Канэ, крытыка, літаратуразнаўцы. З 1991 г. жыве ў Ізраілі

70 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Машэнскага, дырыжора, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

50 гадоў з дня нараджэння Вітаўта (Віктара) Чаропкі, празаіка

*Заканчэнне на с. 93.*

*Скарбы мовы*

# ПАРАЎНАЛЬНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ Ў ТВОРАХ НАШАНІЎЦАЎ

Сёння не сустрэнеш ніводнага пісьменніка, у творчым запасе якога не было б такога вобразнага сродку, як параўнанне. Гэтыя яркія канструкцыі амаль заўсёды поліфункцыянальныя, на іх – вялікая сэнсавая і стылістычная нагрузка. Так было і ў тыя часы, калі наша беларуская літаратура і мова (яе стылі) толькі зараджаліся.

Як сродак рэалізацыі ідэйна-мастацкай задумы аўтараў параўнанні выяўляюць істотныя бакі вобразна-асацыятыўнага мыслення пісьменнікаў, выконваюць складаную мастацка-эстэтычную функцыю, а ва ўзаемадзеянні з іншымі паэтычнымі сродкамі (эпітэтамі, метафарамі) набываюць і дадатковыя сэнсавыя адценні.

Параўнанні аўтараў-нашаніўцаў разнастайныя паводле сэнсавых функцый, марфалагічнага выражэння, структуры і граматычнай сувязі.

Асноўная функцыя параўнальных зваротаў – супаставіць, параўнаць якасці, уласцівасці, дзеянні паяснёнага прадмета, асобы з іншымі прыметамі, дзеяннямі. Супастаўляючы тыя ці іншыя з'явы, прадметы, прыметы і дзеянні, аўтар з дапамогай параўнання можа іх наглядна адлюстраваць, больш дакладна ахарактарызаваць, даць ім вобразнае азначэнне для таго, каб найбольш поўна паказаць прадмет параўнання. У такім выпадку параўноўваецца адзін прадмет, асоба з іншымі:

– у праяўленні дзеяння: *Адна тольки кветка,* ***як сонцэ*** *цьвила* (Ц-ка. Тры кветки. 1908. № 3)*. *А на дубах,* ***як шапкі тые,*** */ Чарнеюць гнёзды бусленые* (Якуб Колас. Лесьнікова пасада. 1912. № 28-29). *Снег блішчыць,* ***як халодная сталь*** (Максім Багдановіч. Зімовая дарога. 1910. № 6);

– у ступені валодання тымі ці іншымі якасцямі, уласцівасцямі: *Глянеш толькі ім* [дзяўчатам] *ў ачыцы, /* ***Як ад мёду*** *пьян* (В. Коротынскі. Тугá на чужой старане. 1912. № 49-50). *Нясе ваду да сіня мора, / Усюды роўна,* ***як струна*** (Янук Журба. На берагу Дзьвіны. 1909. № 28-29).

Параўноўваецца прымета, якая абазначае якасць, уласцівасць прадмета (асобы), з іншым прадметам, найбольш тыповым носьбітам ці выразнікам гэтай прыметы (якасці, уласцівасці): *Блишчасты месяц,* ***як кружок залаты,*** *стаяў ужо высока над лесам* (К. Альбуцки. Чорт. 1906. № 3). *Ведай, брат малады, што ў грудзях у людзей / Сэрцы цьвёрдыя* ***бытцам с каменьня*** (Максім Богдановіч. Песьняру. 1910. № 15).

Параўнанні на старонках газеты "Наша Ніва" выконваюць разнастайныя сэнсавыя функцыі. Яны служаць для характарыстыкі знешнасці чалавека, яго паводзін, стану, асаблівасцей псіхікі: ***Як маліны****, яе губкі, / А твар,* ***як лілея****, /* ***Як дзьве зоркі****, яе вочы, / Гляне – сьвет яснее* (Янка Купала. Бондароўна. 1913. № 29). *Сініе вочкі дзяўчынкі блішчаць і вабяць,* ***як два васілёчкі ў полі****, а вялікіе й таемные,* ***як паўночнае неба*** (Язэп Лёсік. Першынка. 1914. № 13). *Даждаўся Лявон, што яго пацеха – Марыська выцягнулася ў гару,* ***як тая маладая, гладкая бярозка*** (Ядвігін Ш. Бярозка. 1910. № 4). *Добрая была маладая паня, кволая ўся. Усё на цыпачках хадзіла,* ***як анёл****. Тоненькая такая,* ***як саломінка*** (Янук Журба. Прыгонная душа. 1912. № 22). *Із падводнаго палацу / пагуляць на сонных хвалях, / ў бляску месяца купацца / выляцеў русалак рой, / мглой сярэбранай адзеты; / вочы сініе,* ***як неба, / як-бы зорачкі*** *блішчаць* (К. Буйло. Русалкі. 1910. № 31). *На іх* [вочы Амількі] *глядзіш,* ***як у цёмны калодзісь****, або на дно цёмнай вады, дзе адбіваюцца і зоры, і неба, і хмары* (Язэп Лёсік. Першынка. 1914. № 13). *Старшына стаяў белы,* ***як сьнег****, згорбиуся у две пагибели,* ***як свины татка*** (Тамаш Булава. Выбары старшыны. 1906. № 1).

Дакладныя, сэнсава і эмацыйна напоўненыя параўнальныя звароты характарызуюць душэўны стан чалавека, раскрываюць яго патаемныя думы, мары, надзеі, веру ў шчасце: ***Як вецер, як птушка****, дзе сонцэ, дзе зоры, / Так рвецца, нясецца ў даль думка мая* (Янка Купала. Мая думка. 1910. № 36). *Што ж вы* [думкі] *неспакойна / Кружыцесь,* ***як пчолы*** (Якуб Колас. Думкі. 1910. № 11). *А думкі снуюцца,* ***як нітка с кудзелі****, / А толькі ня сьветлы,* ***як лён*** (Канстанцiя Буйло. У бязсонную ноч. 1910. № 29). *Асьветліцца* [думка] *ў сьлёзах,* ***як сьвечка ў крышталі*** (Янка Купала. Мая думка. 1910. № 36). *Вартуе вольных птушэк крыкі / Мая душа,* ***як ястрэб дзікі*** (Максім Богдановіч. Мая душа. 1910. № 8).

Канструкцыі з параўнальнымі зваротамі характарызуюць грамадскае жыццё, дзейнасць людзей, іх цяжкае становішча, змаганне за лепшую долю: *Так і ты, народ наш бедны, /* ***Як вярбіна****, проці волі, / Доўга носіш пояс медны, / Гнешся ты,* ***як крыж у полі*** (Якуб Колас. Вярбіна. 1909. № 2).

* Ілюстрацыйныя прыклады падаюцца з захаваннем графікі і арфаграфіі газеты "Наша Ніва".

*Там жыве… і наш брат-славянін, сэрцэ каторагo для госьця,* ***як адчыненая брама*** (Ядвігін Ш. Лісты з дарогі. 1910. № 31). *Мы маўчали,* ***як немые…*** */ Мы хадзили,* ***як у ночы,*** */ Серад муки, серад зла* (Якуб Колас. Мы маўчали, як немые… 1908. № 21). *На думках братніх,* ***як на скрыпцэ,*** */ Ты* [беларус] *песьні выгалась свае* (Янук Купала. Песьняру-Беларусу. 1909. № 25). *Такая прынуда,* ***як труд и навука,*** */ Ци-ж можэ нам сил недадаци?* (Янук Купала. Вучыся!.. 1907. № 27). *Ци за грэх чужы я / Вышаў ў сьвет бяз долі, /* ***Як забыты колас / На мужычым полі*** (Якуб Колас. Пытанне. 1907. № 35).

Сярод такіх параўнанняў асобна вылучаюцца канструкцыі, што характарызуюць родны край – то як прыгожы, непаўторны, шчымліва блізкі, дарагі, то як забіты, загнаны, “выкляты богам”: *Родная наша старонка /* ***Сьветлай зарою*** *гарыць* (Альбэрт Пауловіч. 10 наябра. 1909. № 46). *Хочэцца крыкнуць: гэй, край мой каханы, / Будзь мне,* ***як маци,*** *будзь родным мне ты!* (Алесь Гарун. Начные думки. 1908. № 23). *Ясна, сьвяточна ў красы ўбярыся* [старонка], */* ***Птушкай свабоднай*** *сягні ў вышыну* (Янка Купала. Выйдзі. 1912. № 19-20). *Роицца тольки нязведаны край, / Повен то шчасьця, то жаласьци, плачу, / То зло-хмурливы, то сьветлы,* ***як рай*** (Алесь Гарун. Начные думки. 1908. № 23). *Хваляй шырокай разлілась,* ***як морэ,*** */ Родны наш край затапіло* (Максім Б-віч. Край мой радзімы, як выкляты богам… 1909. № 38).

Спецыфічнае ўжыванне параўнальных канструкцый у пейзажных замалёўках. У такіх параўнаннях няма абстрактнасці; яны надаюць апісанням прыроды рэльефнасць, даюць магчымасць убачыць і адчуць паэзію ў звычайным, на першы погляд, будзённым, знаёмым. Параўнанні адухаўляюць прыродныя з’явы, дапамагаюць чытачу ўспрымаць пейзажныя замалёўкі як часцінкі свету колераў, гукаў, у якім жыве чалавек. Малюнак такі яркі, што чытач быццам бачыць зялёны аксамітны луг, лебядзіную бель снежнага покрыва, адчувае сум у голасе ветру, музыку першага грому, радасць у вясновым журчанні вады, непрытульнасць дажджавых хмар, сіратлівасць адзінокага коласа, тужлівасць восеньскага поля: *І першы гром, /* ***Як музыка,*** */ Таёмна так / Пракоціцца* (Якуб Колас. Весна. 1910. № 13). *Сасна адзінока стаіць, / Абкутаўшысь лёдам і снегом, /* ***Як белай адзежынай,*** *спіць* (Максім Богдановіч. У поўночным краю на кургане… 1909. № 44). *За хвалей хваля узлетае / На жоўты ілісты пясок – / І рассыпаецца с шурханьнем, /* ***Як той бурлівы ручаёк*** (Янук Журба. На берагу Дзьвіны. 1909. № 28-29). *Прыйшла ты* [весна] *да нас – ясная,* ***як неба,*** *і,* ***як неба,*** *сіняя* (Потулянка. Весна. 1909. № 18). *Залегла* ***як пасьцель*** */ Лебедзіная бель* (Янук Купала. Сьнег. 1909. № 49). ***Злоснай непагодай*** */ Быць зіме ня вечна; / Ўюзе не завеяць / Ясных дзён вясны!* (Я. Журба. Уюга завывае… 1912. № 7). *Зьяюць хмурки ў пазалоци, /* ***Як агнём палаюць.*** */ За гарою циха-циха / Песьни замираюць* (Якуб Колас. Хлебароб. 1908. № 12). *Між лісточкаў гарацьь каплі рос,* ***як гарачые сьлёзы*** (Констанція Буйло. На магілках. 1911. № 34). *Низеньки ядловец / Чахне,* ***як у няволи*** (Якуб Колас. Дарога. 1906. № 4). *Сонцэ з верху,* ***як агнішча,*** */ Прыпекае ў цемя* (Альбэрт Пауловіч. Ракі. 1909. № 42). *Шкода сьветлай ручаінкі / Ў берэгах пешчаных, / Што,* ***як срэбра,*** *быстра льецца / Памеж гор, курганоў* (Якуб Колас. Родные вобразы. 1909. № 33). ***Як брыльянты,*** *разсевае / Ночка летняя расіцу, / Туманамі спавівае / Луг зялёны над крыніцай* (Янка Купала. Летняя раса. 1911. № 35). ***Як мары,*** *белые бярозы / Пад сіневой начной стаяць* (Максім Богдановіч. Зімой. 1911. № 1).

Асаблівую значнасць у пейзажных апісаннях набываюць параўнанні, у якіх аб’ект параўнання – неадушаўлёны прадмет, а прадмет параўнання – чалавек. У такім выпадку аб’ект параўнання адухаўляецца, быццам ажывае, набывае рысы, уласцівыя чалавеку. Падабенства жывога і нежывога ўзмацняецца метафарычнымі дзеясловамі і прыметнікамі – эпітэтамі: *Узняўся вецер, дзьмухнуў, і лісьці,* ***як хворые, зьзяблые людзі,*** *туляцца ў канаўкі… хаваюцца ў траву, шэпелява,* ***бытцам бяззубые старцы,*** *нечага ціха, ціха жаляцца* (Власт. Апаўшые лісьці. 1910. № 40). *І хмары,* ***як дзеці заклятай нуды,*** */ Пярэсцяць і смуцяць так неба ўсягды* (Цішка Гартны. Восень. 1909. № 48). *Сонейко… узіралася на яго* [жолуд] *і пеставало сваім цяплом,* ***бы тая маці*** (Тарас Гушча. Зло не заўсёды – зло. 1912. № 24). *Праціўны вецер лез у вочы / І плачэм пеў,* ***як дзіцянё*** (Янка Купала. Прарок. 1912. № 51). *Садок быў, праўда, невялічкі: / Дзьве вербіны, ды тры дзічкі / Ды між верб ліпка зеленая, /* ***Як бы іх ўнучка маладая*** (Якуб Колас. Лесьнікова пасада. 1912. № 28-29). *На дварэ хлявок дзіравы, /* ***Як дзед*** *пахіліўся* (Дзяніс Валынец. Дом бедака. 1909. № 48).

Некаторыя параўнанні ў пейзажных замалёўках на першы погляд здзіўляюць простасцю і будзённасцю, аднак праз нечаканыя асацыяцыі дапамагаюць убачыць наваколле інакш, чым звычайна. І гэта ў значнай ступені забяспечвае метафарычнасць паяснёнага слова, наяўнасць вобразных азначэнняў-эпітэтаў як пры паяснёным слове, так і ў самой параўнальнай канструкцыі: *Круг кругом – зялёнае, пекнае, –* ***як***

***дарагі аксаміт***, *– морэ зелені* (Цішка Гартны. Думкі. 1909. № 28-29). *Весна, весна – дзяňкі любые – / Так дарагі, так мілы час. / Чаму,* ***як леты маладые****, / Так скора пакідаеш нас?!* (Стары Улас. Прамчаўся май… 1909. № 27). *А асінкі-пашаптушкі? Кіўні толькі ёй веткай, а яна,* ***як тая соромлівая панночка****, затрасецца ўся і лісточкамі цябе абсыпе…* (Ядвігін Ш. Дуб-Дзядуля. 1909. № 20).

Параўнальныя звароты дапамагаюць выразна апісаць насельнікаў прыроды, асабліва частыя яны пры апісанні птушак: *Пяе-залівается рэзвы, звонкі жаваранак, верціцца,* ***як лёгкае пёрка ў паветры*** *і* ***бытцам весяліцца*** (Цішка Гартны. Думкі. 1909. № 28-29). *Насіліся чайкі над морэм,* ***як белые сьнежные ком'я*** (Максім Богдановіч. Над морэм. 1910. № 42). *І птушчына песьняй на гібкай галіне / Зальецца* ***вясёлым званком*** (Юзя Шчупак. Сасонка. 1909. № 17). *Ўсьлед ястрэбу доўга, я доўга глядзеў…* ***як маленькаю мушкай*** *у паветры вісеў* (Ф. Чарнышэвіч. Ястрэб. 1910. № 41).

Параўнальныя звароты марфалагічна выражаюцца рознымі часцінамі мовы:

– назоўнікамі назоўнага склону: *А вецер ім* [бярозам] *бязбожные напевы / То ціха шэпчэ, то гудзіць,* ***як звер*** (Янка Купала. Па шляху. 1914. № 9). *Бачыш людзі,* ***як бяздомкі****, / Ходзяць скрозь без ўласных хат* (Алесь Гарун. Муляру. 1913. № 34). *Ты ў сваім вянку цярністым / Убачыш міртавы вянок / І важна слаўлен песьнярыста, / На той сьвет зойдзеш,* ***як лісток*** (Янук Купала. Песьняру-Беларусу. 1909. № 25);

– назоўнікамі ўскосных склонаў: *Блеск ідзе,* ***як бы з агню****, / С таго стрэмя залатога* (Алесь Гарун. Шчасьце Мацея. 1910. № 25). *Вецер цісьнецца ў плот, /* ***Як на дудах****, у шчэпках заводзіць* (Янка Купала. Ноч за ночкай. 1910. № 37). *Засьляпіўшы шапкай вочы, / Нос уткнуў у бурку, / Смашна спиць* [Супронка], *аж усхлипае, /* ***Як кот у пячурку*** (Альбэрт Пав-ич. На начлезе. 1908. № 23). *Зрываліся* [дубы] *цераз буры, –* ***як пад тапаром****, шмат нашых клалася* (Ядвігін Ш. Дуб-Дзядуля. 1909. № 20). *І абрусам стол засланы, /* ***Як у сьвята****, да зямлі* (Якуб Колас. Вылечыу!.. 1910. № 1).

Параўнанні, выражаныя назоўнікамі меснага ці вінавальнага склонаў, адносяцца да дзеяслова і маюць акалічнасныя значэнні – спосабу дзеяння, месца, часу: *Крыж пахилиўся,* ***як кветка ў буру*** (Якуб Колас. Могилки. 1906. № 2). *Цяпер и вы загаварылі, / З апекай выйшли,* ***як з зямли*** (Янук Купала. Ворагом Беларушчыны. 1908. № 12). *Вось час за часінай,* ***як дзень за дзянёчкам*** */ Ідзе і ідзе* (Піліпоў. І дзень за дзянёчкам. 1912. № 22). *Завалаклося ўсё неба хмарамі, мурусіць дожджык,* ***як праз сіта*** (Добранец. Жэртва. 1914. № 28). *Низеньки ядловец / Чахне,* ***як у няволи*** (Якуб Колас. Дарога. 1906. № 4).

На старонках "Нашай Нівы" шырока ўжываюцца параўнанні, выражаныя назоўнікам творнага склону – так званы *творны параўнання*. Такія параўнанні адносяцца да дзеяслова і характарызуюць якасць, інтэнсіўнасць дзеяння. Сэнсавая і эмацыйная напоўненасць, вобразнасць творнага параўнання, актыўнасць яго ўжывання на старонках газеты тлумачыцца ўплывам вуснай народнай творчасці – песень, казак, легендаў: *Абедзьве* [матка і Гануля] ***птушкай*** *гатовы былі ляцець за ім* [Грыгорам] (Власт. Лебедзіная песьня. 1910. № 32). *Гдзе* ***пацеркай белай*** *Вільля прабегае, / Гдзе Вільня між гораў гняздо сабе вье* (Ц-тка. З Чужыны. 1909. № 2). *Птушкі шчабечуць, а ты маўчалівы, / Глядзіш* ***чужаніцай*** *адзін* (Якуб Колас. Адзінота. 1911. № 39). *І ліецца* ***хваляй*** *песьня – ціхі, ясны гымн вясьне* (Максім Богдановіч. Маёвая песьня. 1910. № 21). *Мягкі сьнег летае* ***пухам*** */ І канца яму німа* (Якуб Колас. Зіма. 1910. № 5). *Чорные хмары* ***гарамі*** *праносяцца / І дожджык ліе нудны, мерны* (А. Шкірыч. Блізіцца восень. 1913. № 34).

Надзвычай вобразныя параўнанні, у якіх аб'ект параўнання – прыродная з'ява ці неадушаўлёны прадмет, а прадмет параўнання – назоўнік творнага склону, развіты метафарычнымі азначэннямі-эпітэтамі. Аб'ект параўнання ў гэтых сказах нярэдка персаніфікуецца: *Плакала восень, і дробные сьлёзы яе цяклі* ***сцюдзёнай расой*** *па вокнах, сьценах, стрэхах* (Цішка Гартны. Завяўшая краса. 1911. № 39). *Там* ***быстраю хвалею*** *рэчка плыве, / У даліне між цёмнага лесу, / Прытаіўся высокі зялёны курган / Пад плакучых бярозак завесай* (Констанція Буйло. Курган. 1910. № 34). *Ўюцца думкі* ***смутным роем****, / Хочуць выбіцца на сьвет* (Якуб Колас. Ўюцца думкі, томяць грудзі. 1909. № 46). ***Цёмнаю сцяною*** */ Вакол лес стаіць* (М. Арол. Над Нёманам. 1910. № 43).

На другім плане параўнанні, выражаныя прыметнікамі: *У думцэ,* ***як жывая****, / Стаіць родна хатка* (З. Дубовік. З чужыны. 1909. № 17). *Морэ атуляло белымі брызгамі рыбацкую хацінку і выло,* ***як непрытомнае*** (Змітрок Бядуля. Акорды мора. 1914. № 45).

У творах нашаніўцаў ужываюцца параўнанні, выражаныя вышэйшай ступенню параўнання прыметнікаў у спалучэнні з назоўнікамі роднага ці вінавальнага склонаў з прыназоўнікамі *за, ад* ці без іх: *Ён* [спеў] ***глыбей за морэ****, / Ён* ***вышэй ад гор****, / Ён* ***цямней ад хмары****, / Ён* ***сьвятлей ад зор*** (Змітрок Бядуля. Мой сьпеў. 1911. № 1). *І за час гэты жонцы-малодцы /* ***Горэй рэдзькі*** *агорк*

[Савасьцей] *быў зусім* (Альбэрт Пауловіч. Трывога жонкі. 1913. № 3).

Сярод раўназначных параўнанняў найбольш ужывальныя параўнанні, выражаныя займеннікамі: *І на месяц* [гусляр] *глядзіць,* ***як сам,*** *белы* (Янка Купала. Курган. 1912. № 25). *Ніхто не ўмее гэтак хутка і роўна жаці,* ***як яна*** [Таклюся]; *ніўкога сноп ня выйдзе гэткім тугім і зграбным,* ***як у яе*** (К. Лейко. Таклюся-сухотніца. 1912. № 26). *Трох сыноў дала судзьбіна / Да майго парога, / А такіе – сын у сына, / Як нідзе,* ***ні ў кога*** (Янка Купала. На Дзяды. 1912. № 48).

Своеасаблівыя паводле функцыі параўнанні – колькасна-іменныя спалучэнні: *Ды дзьве пярэзімкі – цялушкі / Йшлі згодна парай,* ***як дзьве дружкі*** (Якуб Колас. Раніца ў нядзельку. 1912. № 39). ***Як дзьве зоркі,*** *яе* [Бандароўны] *вочы, / Гляне – сьвет яснее* (Янка Купала. Бондароўна. 1913. № 29). *Пад рукамі яго* [лесуна], *разважаючы сум, /* ***Бытцам тысячы крэпка нацягнутых струн,*** */ Тонкаствольные сосны звіняць* (Максім Богдановіч. Чуеш гул… 1910. № 30).

У мастацкіх і публіцыстычных творах “Нашай Нівы” ўжываюцца параўнанні, выражаныя дзеясловамі: *Ноги ня слухали Янки и шли сами,* ***як хацели*** (Тарас Гушча. Соцки падвёў. 1907. № 30); дзеепрыметнікамі: *Василь стаў перабираць нагами па глыбокаму сьнегу,* ***як спутаны*** (Лесавік. Васіль Чурыла. 1907. № 35), *Иван спаў,* ***як забіты*** (К. Альбуцки. Чорт. 1906. № 3), *Поп пабялеў и стаяў,* ***як укопаны,*** *тольки губы яго дрыжали* (Тарас Гушча. Соцки падвёў. 1907. № 30); прыслоўямі: *А ешчэ нідаўна,* ***бытцым учора,*** *праз гэтае самае вакно цешылася* [Гануля] *зеленьню і краскамі* (Цішка Гартны. Завяўшая краса. 1911. № 39).

Значнае месца на старонках газеты займаюць параўнанні, якія прыйшлі ў мастацкія і публіцыстычныя творы з гутарковай мовы, з фальклорных крыніц і перадаюцца сёння як гатовыя паэтычныя формулы. У лінгвістычнай літаратуры іх кваліфікуюць як сталыя, традыцыйныя. Гэта натуральна і зразумела, бо паэтычныя нормы беларускай літаратурнай мовы (як лексічныя і стылістычныя) складваліся і фарміраваліся на аснове жывой народнай мовы: *Адказ нягодны / Цяпнуў,* ***як абухам*** (Альбэрт Пауловіч. Сыноўская апека. 1909. № 45). *Гасьцей шмат, поўна,* ***як селядцоў у бочцы*** (Галубок. Горкі агрэст. 1913. № 5). *Гэта-ж татка! Абдзёрты, абарваны – дрыжыць ад холаду,* ***як асінавы ліст*** (Зьмітрок Бядуля. Шалёны. 1912. № 11). *І зіма,* ***як дым,*** *прапала!* (Якуб Колас. Весна. 1909. № 18). *Каля варот, у куточку,* ***як каліна,*** *стаяла Гануля* (Власт. Лебедзіная песьня. 1910. № 32). *К маладзіцам і дзяўчатам /* [пан Патоцкі] *лезе* ***смоллю*** *ў жарты* (Янка Купала. Бондароўна. 1912. № 29). *Толькі грошы йшлі* ***як сьліна,*** */ Йшлі, а помачы німа* (Якуб Колас. Вылечыу!.. 1910. № 1). *Я прымушэны цяжкім лёсам сваім,* ***як птушка ў клетцы,*** *сядзець дзень і ноч у цесных халодных сценах…* (Цішка Гартны. Адвечоркам. 1910. № 21).

Параўнанні, зафіксаваныя на старонках “Нашай Нівы”, неаднастайныя паводле структуры і граматычнай сувязі з паяснёным словам. Вылучаюцца адзіночныя і развітыя (разгорнутыя) параўнанні.

Адзіночныя параўнанні выражаны адной самастойнай часцінай мовы (пераважна назоўнікам): *Выйдзі з сэрцэм,* ***як с паходняй,*** */ Ад кусточка да кусточка / Асьвяці мой хорам годне!* (Янка Купала. У купальскую ноч. 1911. № 25-26). *А сьлёзы грызуць вочы ўсім,* ***як соль*** (Янка Купала. Маё цярпеньне. 1915. № 1). *А ў страю ніхто так* ***стрункай*** *не патрапіў стаяць,* ***як Грыгор*** (Власт. Лебедзіная песьня. 1910. № 32). *Прыбіралі* [Бандароўну], ***як да шлюбу,*** */ У белю і вэлёны* (Янка Купала. Бондароўна. 1913. № 29).

Развітыя (разгорнутыя) параўнанні ўключаюць дапасаваныя да назоўніка азначэнні, выражаныя прыметнікамі, дзеепрыметнікамі (дзеепрыметнымі зваротамі), абагульнена-якаснымі займеннікамі: *Каля пасады лясьніковай / Цягнуўся* ***гожаю падковай*** */ Стары высокі лес цяністы* (Якуб Колас. Лесьнікова пасада. 1912. № 28-29). *Нідалёка на ганку хлопец на гармоніцы грае – устаюць, аджываюць успаміны мае,* ***бытцым анёлы белые*** (Зьмітрок Бядуля. Міньятуры. 1912. № 35). *Душа пылала* ***дзіўным жарам,*** */* ***Бы з зораў выснутая ніць,*** */ Што сьвет магла-б сваім пажарам / Абвіць і к сонцу ўваскрасіць* (Янка Купала. Прарок. 1912. № 51-52). *И пахавали Мацея,* ***як якога пана*** (Бронись. Злые нявестки и хитры дзед. 1908. № 4). *Каго доля-ведзьма ад самай калыскі / Кідала па сьвеце,* ***як той лісьць*** *вятрыска* (Янка Купала. Я ад вас далёка… 1910. № 33). *Мацi дачку разважае, / Сябе цешыць стара: / Жальей к сэрцу падступае, /* ***Як бы тая хмара*** (Якуб Колас. Доля батрачки. 1908. № 11). *Навальніца,* ***як цёмны аграмадны птах,*** *уцекала далей* (Галубок. Навальніца. 1911. № 15). *Слова,* ***як цудоўнае лекарства*** *– бальзам, павінна лечыць падупаўшые у хваробі душы і сэрцы* (І. Піліпаў. Гутаркі. 1908. № 14).

У склад разгорнутых параўнальных канструкцый нярэдка ўваходзяць недапасаваныя азначэнні, выражаныя склонавай формай назоўнікаў з прыназоўнікамі ці без іх: *Йшла мая ў даль дзіва-сіла, /* ***Як-бы хвалі Нёмну*** (Янка Купала. На Дзяды. 1912. № 48). *Над зямлёй плыў бляск,* ***як скурка / Печэнаго раку*** (Альбэрт Пав-ич. На начлезе. 1908. № 23). *На сонцы капелькі прай-*

*шоўшаго нідаўна дажджу, –* ***як сьлязінкі дзяцей****, варушаць тваё сэрцэ* (Добранец. Жэртва. 1914. № 28). *Якоў сьпіць, раскінуў ногі, / Ляжыць, як завала, / Язык вытнкуў цераз зубы, /* ***Як вужака джала*** (Альбэрт Пауловіч. Ракі. 1909. № 42).

Кампанентамі разгорнутых параўнанняў могуць выступаць адначасова дапасаваныя і недапасаваныя азначэнні, а таксама акалічнасці, выражаныя назоўнікамі ўскосных склонаў: *Сьветлая хмарка,* ***як цихая думка шчасьця****, циха и спакойна неслася ў неби* (Ганна Крум. У горадзи. 1907. № 23). *И кроў старога дзеда чырвоными капелькоми падала на снег, а слёзы,* ***як раса перэд заходом сонца****, апошни раз выступили на яго сухих вочах на сусклони апошних дзён яго жыцця* (Лесавик. Бунт. 1906. № 6). *Віхор завывае,* ***як люты зьвер на прывязі*** (В. Л. Мары. 1910. № 19).

Разгорнутыя параўнанні нярэдка маюць пры сабе даданыя азначальныя сказы, што адносяцца да назоўніка – прадмета параўнання. Яны паглыбляюць змест параўнання, робяць яго больш дакладным і эмацыйным: *Аткрасавалі багатыры,* ***як тые краскі, што красавалі тут калісь*** (Галубок. Мінуўшчына. 1911. № 23). *Горка на сьвеці мне жыць адзінокім / І думаць, як усім ты чужы, /* ***Бытцым той камень, што ў полі шырокім / Спрадвеку ляжыць на мяжы*** (Якуб Колас. Адзінота. 1911. № 39). *Пяюць начлежнікі… Шчыры напевы іх і поўны задумы,* ***як цёмнае неба, каторае навісло над імі*** (С. Плаўнік. Пяюць начлежнікі… 1910. № 39). *Юрка… бытцам збудзіўся з глыбокага сну. Пахіліўся на адзін бок, на другі,* ***бытцам малады дубок, катораго даткнуў налёт ветру*** (Дзядзька Пранук. Страх. 1909. № 2). *Бачыла* [Гануля] *сонцэ… бачыла,* ***як тая восенная краска, што зацьвітае а поўдні****…* (Цішка Гартны. Завяўшая краса. 1911. № 39). Параўнанні – дзейсны сродак вобразнасці ў мастацкіх тэкстах, што асабліва выразна відаць, калі ў сказе некалькі параўнальных канструкцый характарызуюць той самы аб'ект параўнання ці адносяцца да розных аб'ектаў, прычым гэта могуць быць адзіночныя і разгорнутыя параўнанні: *У небе хмаркі ўжо дзянные / Плылі,* ***як гускі маладые, / Чародкай белай*** *над лугамі* (Якуб Колас. Раніца ў нядзельку. 1912. № 39). *Рассыплюцца* [хвалі] ***пухам****, разсеюцца* ***пылам****, / Зноў выскачаць к небу* ***гарой*** (Янка Купала. Над Іматрай. 1910. № 30). *Я хацеў-бы* ***ясным сонцэм*** */ На зямлю з гары спусьціцца. / Я хацеў-бы* ***громамбурай*** */ Пранясьціся ў ноч глухую… / Я хацеўбы* ***песьняй волі*** */ Прабудзіць ад сну стварэньня* (Ф. Чарнышэвіч. Жаданьне. 1911. № 50). *Дажывае стара маці, /* ***Сірацінаю*** *у хаці / Ў соннай волі, у чорнай долі, /* ***Як та груша сярод поля*** (Я. Купала. Адступнік. 1914. № 18). *І на маю душу / Леглі вы* [думкі] ***туманом****, / Закруціўшысь* ***роем****, /* ***Смутным караваном*** (Якуб Колас. Ўюцца думкі, томяць грудзі. 1909. № 46).

З паяснёным словам параўнальныя звароты звязваюцца пераважна з дапамогай злучнікаў *як, што, чым, быццам, нібы, бы, як бы, як быццам*, у залежнасці ад чаго акрэсліваецца характар параўнанняў, адносіны аб'екта і прадмета параўнання. Канструкцыі са злучнікам *як* пашыраны на старонках газеты; яны паясняюць аб'ект шляхам параўнання ці супастаўлення яго з іншымі прадметамі: *Божые зорки,* ***як соромяжливые дзеўчатки****, пазирали на зямлю* (Тамаш Булава. Дудар. 1906. № 4). *Тольки плаваюць на воли / Кучы хмар,* ***як валакно*** (Якуб Колас. Восень. 1908. № 24). *І цешацца людзі,* ***як дзеці*** (Янка Купала. Сёмуха. 1911. № 20). Рэдка ўжываюцца параўнальныя звароты са злучнікам *што*, які мае значэнне, блізкае да злучніка *як*: *Лезе пан да Бондароўны, / Увесь гарыць,* ***што ў жару*** (Янка Купала. Бондароўна. 1913. № 29).

Параўнальныя канструкцыі звязваюцца злучнікамі *бы, бытцам* (*бытцым*), *як бы, як бытцам* тады, калі прадмет параўнання ўяўны, нерэальны, часам фантастычны: *Па-над белым пухам вішняў,* ***бытцам сіні аганёк****, / Б'ецца, ўецца быстры, лёгкі сінекрылы матылёк* (Максім Багдановіч. Маёвая песьня. 1910. № 21). *Ідуць сабе гады, ідуць, /* ***Бы карагод*** *бяз конца* (Алесь Гарун. Ідуць гады. 1913. № 5). *Стой! Здаецца, вунь зірнула, /* ***Як бы зорка, як бы сонцэ!*** (Янка Купала. У купальскую ноч. 1911. № 25-26). *Сіні туман,* ***бытцам дым****, разсцілаецца па зямлі* (Ф. Чэрнышэвіч. Восень. 1910. № 42). [Месяц] *ўвесь чырвона-жоўты,* ***бытцым / Пугачова вока*** (Максім Богдановіч. Вечэр. 1911. № 33). У адзінкавых выпадках ролю параўнальнага злучніка можа выконваць часціца *маўляў*: *Бяжыць яснасць, пекны конь, / Ўвесь гарыць,* ***маўляў агонь*** (Алесь Гарун. Шчасьце Мацея. 1910. № 25).

Аналіз параўнальных канструкцый, выбраных з мастацкіх і публіцыстычных тэкстаў "Нашай Нівы", дае падставу сцвярджаць: параўнанні пісьменнікаў-нашаніўцаў разнастайныя паводле зместу, сэнсавай функцыі, структуры, марфалагічнага выражэння, спосабаў уключэння ў кантэкст. Удалае, прадуманае параўнанне дазваляе аўтару лаканічна і трапна перадаць душэўны стан працаўніка-беларуса, паказаць яго сацыяльнае становішча, яго адносіны да роднага краю, да месца і ролі ў грамадстве.

**Ніна ГАЎРОШ**,
кандыдат філалагічных навук,
**Ніна НЯМКОВІЧ**,
кандыдат філалагічных навук.

*Малады даследчык прапануе*

# ДЗЕЯСЛОВЫ З ПРАДМЕТНЫМІ СЕМАМІ

Важная функцыя мовы – назапашванне ведаў пра свет [1]. Сапраўды, кожнае слова адлюстроўвае вопыт людзей, у кожным слове фіксуюцца істотныя для народа паняцці. Зразумела, што мова па-свойму імкнецца ахапіць усю разнастайнасць праяў таго асяроддзя, у якім жыве чалавек. Нягледзячы на значную ўніверсальнасць ва ўспрыманні свету, лексічны фонд кожнай мовы ўнікальны, бо мова ствараецца канкрэтным калектывам людзей (народам), які жыве на канкрэтнай тэрыторыі, і адлюстроўвае індывідуальны вопыт гэтага калектыву. Таму побач са словамі, якія без асаблівых праблем можна перакласці на іншыя мовы, у кожнай мове ёсць і адметныя, толькі ёй уласцівыя лексемы.

Безумоўна, значная частка такой безэквівалентнай лексікі – гэта назвы рэалій, характэрных для ўмоў пражывання толькі аднаго народа (пэўныя прадметы побыту, сацыяльныя інстытуты і г. д.). Але ці могуць быць "нацыянальна афарбаванымі" дзеясловы? А калі могуць, то што надае ім такую афарбоўку?

У школе дзеяслоў звычайна азначаецца як часціна мовы, якая "абазначае дзеянне ці стан як працэс і выражае гэтае значэнне ў катэгорыях часу, ладу, асобы, ліку, роду, трывання, стану, пераходнасці / непераходнасці" [2]. Аднак некаторыя дзеясловы ў сваім значэнні ўтрымліваюць інфармацыю не толькі пра адцягненае ўяўленне аб характары пэўнага дзеяння або стану, але і пра ўдзельнікаў гэтага дзеяння або носьбітаў стану. Такія дзеясловы, як *быць, рухацца, гучаць* і падобныя, валодаюць даволі абстрактнай семантыкай (перадаюць агульную ідэю існавання, руху, гучання), у выніку чаго яны могуць спалучацца з вялікай колькасцю назоўнікаў, што абазначаюць усе прадметы, апрадмечаныя з'явы і ўласцівасці або прадметы, здольныя перамяшчацца ў прасторы ці ўтвараць гук (*ёсць чалавек, кветка, стол, музыка, пачуцце*; *рухаецца сонца, чалавек, машына, мяч* і г. д.). Іншыя ж дзеясловы валодаюць больш канкрэтнай семантыкай і ўказваюць не толькі на агульны характар дзеяння, стану, працэсу, але і на пэўныя ўласцівасці ўдзельнікаў сітуацыі або падзеі. Так, дзеяслоў *жыць* указвае не проста на факт існавання прадмета, а на факт існавання жывёльнага арганізма, дзеяслоў *расці* – на факт існавання расліны; дзеяслоў *цячы* абазначае не нейкі абстрактны рух, перамяшчэнне, а рух вадкасці, *бегчы* – спецыфічны рух некаторых жывёл, чалавека. Як бачым, семантыка дзвюх груп дзеясловаў адрозніваецца ступенню сваёй абстрактнасці / канкрэтнасці. Узнікае пытанне, ад чаго залежыць гэтая ступень.

Даследчыкі даўно звяртаюць увагу на тое, што семантыка дзеяслова вызначаецца складанасцю і неаднароднасцю. Акрамя даволі абстрактных працэсуальных сем*, такіх, як 'станаўленне', 'быційнасць', 'дзеянне', 'стан', 'адносіны' і падобных, для значнай часткі дзеясловаў характэрны больш канкрэтныя субстанцыяльныя семы, якія ўказваюць на ўдзельнікаў сітуацыі і на іх прыкметы – функцыянальныя, колькасныя, якасныя [3]. Працэсуальныя семы перадаюць агульнае, адцягненае ўяўленне пра дзеянне або стан, у той час як субстанцыяльныя семы суадносяць дзеяслоў (а значыць, і абазначанае ім дзеянне) з імёнамі прадметаў (удзельнікамі сітуацыі). І менавіта ад ступені канкрэтнасці субстанцыяльных сем залежыць ступень канкрэтнасці самога дзеяслова і, адпаведна, яго спалучальнасныя магчымасці [4].

Субстанцыяльныя семы могуць быць вельмі абстрактнымі, у выніку чаго дзеяслоў здольны спалучацца з усімі словамі пэўнай часціны мовы (напрыклад, дзеясловы *існаваць, змяняцца, знаходзіцца* спалучаюцца з усімі назоўнікамі, бо яны абазначаюць фундаментальныя ўласцівасці ўсяго існага і таго, што ўяўляецца як існае). Субстанцыяльныя семы ў дзеясловаў тыпу *расказваць, вянуць, есці, знасіцца, ціхэць* накладаюць катэгарыяльныя абмежаванні на спалучальнасць. Так, першы дзеяслоў вымагае, каб у суб'ектнай пазіцыі пры ім знаходзіўся персанальны назоўнік (*бабуля, хлопец, сусед, дырэктар расказвае*), другі – назва расліны (*рамонкі, бярозкі, агуркі вянуць*), трэці – адушаўлёны назоўнік (*жанчына, бык, кошка есць*), чацвёрты – назва артэфакта, у прыватнасці адзення (*кашуля, сукенка, нагавіцы знасіліся*), і г. д. Як бачым, субстанцыяльныя семы ў названых дзеясловах вызначаюцца большай канкрэтнасцю, у выніку чаго гэтыя дзеясловы валодаюць параўнальна абмежаванымі спалучальнаснымі магчымасцямі. І, нарэшце, існуюць дзеясловы, здольныя спалучацца толькі з некалькімі семантычна блізкімі імёнамі або ўвогуле з адным імем-партнёрам, што сведчыць пра максімальную ступень канкрэтызацыі субстанцыяльных сем: *цяліцца* (пра карову, самку аленя, лася), *каціцца* (пра авечку, казу), *кацяніцца* (пра кошку), *курлыкаць* (пра жураўлёў), *яхкаць* (пра сабаку), *стручкавацца* (пра гарох, фасолю, боб і пад.), *стралкавацца* (пра цыбулю, радыску, рэдзьку і пад.) і г. д.

* **Сема** – мінімальная адзінка плана зместу.

Дзеясловы, здольныя спалучацца з абмежаванай колькасцю семантычна блізкіх імёнаў або толькі з адным імем-партнёрам, прынята называць **дзеясловамі з прадметнымі семамі** [5].

Фактычна, дзеясловы з прадметнымі семамі не проста абазначаюць дзеянне або стан, а называюць цэлую сітуацыю і семантычна набліжаюцца да сказаў. Напрыклад, дзеяслоў *кукарэкаць* нават без сінтаксічных пашыральнікаў выклікае ў свядомасці носьбіта беларускай мовы карціну "певень утварае гук *ку-ка-рэ-ку*", а дзеяслоў *жарабіцца* – "кабыла нараджае жарабя". Прычым прадметныя семы могуць указваць не толькі на непасрэднага ўтваральніка дзеяння, але і на аб'ект, на які гэтае дзеянне скіравана, на інструмент, з дапамогай якога яно ажыццяўляецца і г. д. Так, ужо ў самім значэнні дзеяслова *хамутаць* закладзена інфармацыя, што нехта (асоба) адзявае на каня, кабылу хамут, а дзеясловы *пілаваць* і *рэзаць* адрозніваюцца семай інструмента (у першым выпадку піла, у другім – востры прадмет). Узнікае пытанне, чаму дзеясловы тыпу *кукарэкаць, жарабіцца*, якія з семантычнага пункту гледжання з'яўляюцца фактычна самадастатковымі, не выкарыстоўваюцца ў якасці самастойнага прэдыкатыўнага ядра сказа (**на двары кукарэкае, *у нас ажарабілася* і пад.). Гэтыя выразы любым носьбітам мовы ўспрымаюцца як структурна няпоўныя, хоць іх агульны сэнс зразумелы. Тут узнікае пэўнае супярэчанне: з аднаго боку, чалавек у працэсе пазнання новай з'явы імкнецца даць ёй максімальна ёмістае (адна)слоўнае азначэнне (што ў агульных рысах адпавядае закону эканоміі моўных сродкаў), а з іншага боку, у мове існуюць традыцыйныя базавыя мадэлі, паводле якіх будуюцца сказы і якія абапіраюцца на законы мыслення. Для беларускай мовы асноўныя мадэлі – гэта "суб'ект – прэдыкат" і "суб'ект – прэдыкат – аб'ект", таму натуральнымі выглядаюць сказы *На двары кукарэкае* (прэд.) *певень* (суб.) і *У нас ажарабілася* (прэд.) *кабыла* (суб.), у якіх і суб'ект, і прэдыкат выражаны на сінтаксічным узроўні [а ў апошнім выпадку на марфемным узроўні выражаны яшчэ і аб'ект, параўнайце: *у нас а**жараб**ілася кабыла* ≈ *у нас кабыла* (суб.) *прывяла* (прэд.) *жарабя* (аб'ект)]. Такім чынам, у семантычным плане дзеяслоўныя прадметныя семы ў сказе фактычна збыткоўныя, але яны, абумоўліваючы спалучальнасныя магчымасці дзеяслова, выконваюць важную ролю ў сінтаксічнай арганізацыі выказвання. Прадметныя семы ўзмацняюць міжслоўную сувязь паміж дзеясловамі і іх акружэннем. Гэтыя семы можна параўнаць з выемкамі і выступамі ў пазлах: адзін пазл павінен адпавядаць іншаму, інакш цэласны малюнак не атрымаецца (так, выказванне **ў нас ашчанілася кабыла* страчвае сэнс, бо няма адпаведнасці паміж прадметнымі семамі дзеяслова і яго іменным акружэннем).

Як бачым, прадметныя семы выконваюць важную сінтаксічную функцыю. Але не менш істотную ролю яны іграюць і ў парадыгматычнай арганізацыі дзеяслоўнай лексікі. Такія дзеясловы, як *шчаніцца, жарабіцца, цяліцца, каціцца, кацяніцца* або *квакаць, кракаць, гагатаць, курлыкаць* фактычна з'яўляюцца квазісінонімамі, розніца паміж якімі абумоўлена толькі розніцай у прадметных семах, бо ўласна працэсуальны элемент іх значэння супадае (у першым выпадку – 'жывёла нараджае іншую жывёлу', у другім – 'жывёла ўтварае гук'), што дазваляе аб'ядноўваць іх у межах асобных лексіка-семантычных груп. Ступень канкрэтнасці прадметнай семы таксама ўплывае на ўнутраную арганізацыю лексічнай сістэмы дзеясловаў. Дзеясловы з агульным працэсуальным значэннем, але рознай ступенню канкрэтызацыі прадметнай семы звычайна знаходзяцца ў гіпа-гіпеfinalнімічных (рода-відавых) адносінах. Дзеяслоў з больш абстрактнай (абагульненай) прадметнай семай выступае ў ролі гіпероніма (родавага абазначэння) у дачыненні да дзеясловаў з канкрэтызаванай прадметнай семай. Напрыклад, дзеяслоў *прывесці* 'нарадзіць (пра жывёл)' з'яўляецца гіперонімам для дзеясловаў *шчаніцца, жарабіцца, цяліцца, каціцца, кацяніцца* менавіта дзякуючы таму, што ў яго семантыцы няма спасылак на канкрэтныя віды жывёл (*кошка прывяла кацянят, карова прывяла цяля* і г. д.). У сваю чаргу, яшчэ на больш высокай ступені ў гэтай іерархіі можна размясціць дзеяслоў *нараджаць*, прадметныя семы якога прадугледжваюць магчымасць яго спалучэння не толькі з назоўнікамі, што абазначаюць самак жывёл, але і са словам *жанчына* або назоўнікамі, якія характарызуюць жанчын паводле іх прафесіі, узросту, сацыяльнага становішча і г. д. (напр., *сланіха нарадзіла сланяня*; *жанчына нарадзіла хлопчыка*; *настаўніца нарадзіла дачку* і пад.).

І, нарэшце, дзякуючы сваёй арыентацыі на пазамоўны свет прадметныя семы здольныя надаваць дзеясловам нацыянальную спецыфіку. Уся справа ў тым, што аналагічныя дзеянні могуць перадавацца ў мове з дапамогай больш абстрактных або канкрэтных дзеясловаў. Параўнайце: *карова ацялілася* і *мядзведзіца нарадзіла медзведзянят*. Чаму ў беларускай мове ёсць асобны дзеяслоў, які абазначае працэс нараджэння каровай цяляці, але няма дзеяслова, які абазначаў бы працэс нараджэння мядзведзіцай медзведзянят? Адказ знайсці не складана, бо ў мове фіксуюцца толькі найбольш важныя для пэўнага народа паняцці [6]. З гэтага вынікае, што аналіз дзеясловаў з прадметнымі семамі здольны паказаць, якія рэаліі былі (і ёсць) важнымі для народа, на штó звярталася

асаблівая ўвага. Напрыклад, у беларускай мове для абазначэння працэсу цвіцення раслін выкарыстоўваюцца чатыры дзеясловы: *цвісці, квітнець, красаваць, гарэць*. Калі першыя два дзеясловы не спецыялізаваны адносна назваў раслін і фактычна з'яўляюцца стылістычнымі сінонімамі, то два апошнія ўтрымліваюць больш канкрэтныя прадметныя семы. Дзеяслоў *красаваць* абазначае працэс цвіцення злакавых раслін, а дзеяслоў *гарэць* – цвіценне агуркоў, гарбузоў і пад. Спецыялізацыя гэтых дзеясловаў абумоўлена, напэўна, дзвюма асноўнымі прычынамі: 1) ступенню важнасці названых культур у сельскай гаспадарцы і 2) адметнасцю іх цвіцення (так, цвіценне злакаў знешне мала нагадвае цвіценне большасці кветкавых раслін, а агуркі, гарбузы, наадварот, вылучаюцца сярод іншых агародных раслін яркім колерам кветак, падобных да агеньчыка).

Як бачым, дзеясловы з прадметнымі семамі здольныя шмат расказаць даследчыку пра погляды народа на навакольны свет. Аналіз усіх дзеясловаў з прадметнай семай 'расліна' дапаможа выявіць, якія веды пра свет раслін захоўваюцца ў дзеяслоўнай семантыцы і якія расліны мелі асаблівую значнасць для людзей. Аналіз дзеясловаў з прадметнай семай 'жывёла' можа раскрыць некаторыя аспекты ўспрымання жывёл беларусамі, аналіз дзеясловаў з семай 'натурфакт' – погляды на прыродныя з'явы і г. д. Таму такі аналіз вельмі важны. Але сам па сабе ён не дае ўяўлення пра нацыянальную спецыфіку беларускіх дзеясловаў. Нацыянальная спецыфіка раскрываецца ў параўнанні. Прывядзем толькі некалькі прыкладаў. У беларускай мове (з улікам дыялектаў) існуе больш за 480 (!) дзеясловаў, якія абазначаюць працэс утварэння жывёлай пэўнага гуку, прычым прадметныя семы ў большасці гэтых дзеясловаў даволі канкрэтныя, што, верагодна, абумоўлена адносна выразнымі адрозненнямі паміж гукамі асобных відаў жывёл (пра адносны характар адрозненняў сведчыць той факт, што ў розных гаворках адзін і той жа дзеяслоў, матываваны гукаперайманнем, можа абазначаць утварэнне гуку рознымі жывёламі. Напрыклад, дзеяслоў, *кракаць* у адных гаворках абазначае гукавую характарыстыку качкі, а ў іншых – вароны, гусі, жабы). Сярод такой вялікай колькасці дзеясловаў сустракаюцца тыя, якія складана перакласці на іншыя мовы семантычна тоеснымі дзеясловамі. Нават на фоне роднаснай славацкай мовы*, што належыць да заходнеславянскіх моў, беларуская мова вылучаецца такімі дзеясловамі, як *курлыкаць* (пра жураўлёў), *клекатаць* (пра буслоў), *кігікаць* (пра кнігавак), *бугаць* (пра чапляў) і некаторымі іншымі, для якіх няма тоесных адпаведнікаў у славацкай мове. У сваю чаргу, у беларускай мове няма дзеясловаў, адпаведных славацкім дзеясловам *čurikať* 'ствараць працяглы пранізлівы гук' (пра дзятлаў), *pinkať* 'ствараць гукі, якія нагадваюць гукі *ni*' (пра берасцянку), *podspodákať* 'ствараць характэрныя гукі' (пра перапёлку) або *híkať* 'ствараць гукі, падобныя да гука *ia*' (пра асла). Часам аднаму дзеяслову ў пэўнай мове адпавядае адразу некалькі дзеясловаў у іншай, што абумоўлена рознай канкрэтнасцю прадметных сем. Так, славацкі дзеяслоў *bľačať* 'ствараць высокія пранізлівыя гукі' (пра авечку, казу) у залежнасці ад кантэксту можа быць перакладзены на беларускую мову дзеясловамі *бляяць, бэкаць, мэкаць* і некаторымі іншымі. Дадзеныя прыклады выразна паказваюць, што прадметныя семы сапраўды надаюць дзеясловам нацыянальную спецыфіку.

Такім чынам, дзеясловы з прадметнымі семамі з'яўляюцца надзвычай цікавым класам дзеясловаў, якія ў сваёй семантыцы не толькі ўтрымліваюць адцягненае ўяўленне пра характар дзеяння або стану, але і ўказваюць на ўдзельнікаў сітуацыі або іх прыкметы. Семантычна такія дзеясловы набліжаюцца да сказаў. Прычым прадметныя семы не толькі ўказваюць на пазамоўныя рэаліі, але і выконваюць важную сінтаксічную ролю – абумоўліваюць лексічную спалучальнасць дзеяслова з іменнымі словамі. Акрамя таго, ступень канкрэтнасці прадметных сем уплывае на фарміраванне гіпа-гіпеؑранімічных (рода-відавых) адносін паміж дзеясловамі адной лексіка-семантычнай групы. Нарэшце, прадметныя семы могуць надаваць дзеясловам выразную нацыянальную спецыфіку, якая раскрываецца ў выніку аналізу асобных груп дзеясловаў з прадметнымі семамі.

**Спіс літаратуры**

1. **Міхневіч, А.** Функцыі мовы і маўлення і праблемы беларуска-рускага двухмоўя / А. Міхневіч // Выбраныя працы. – Мінск, 2006. – С. 108.
2. **Беларуская мова** : падруч. для 10 – 11 кл. агульнаадукац. шк. з рус. мовай навучання / В. Несцяровіч [і інш.]. – Мінск, 1999. – С. 71.
3. **Гайсина, Р.** К семантической типологии глаголов русского языка / Р. Гайсина // Семантические классы русских глаголов. – Свердловск, 1982. – С. 16 – 20.
4. **Важнік, С.** Кантрастыўны сінтаксіс польскай і беларускай моў / С. Важнік. – Мінск, 2008. – С. 189 – 201.
5. **Михайлова, О.** К вопросу об изучении глаголов с предметными семами / О. Михайлова // Проблемы глагольной семантики. – Свердловск, 1984. – С. 65.
6. **Почепцов, О.** Языковая ментальность : способ представления мира / О. Почепцов // Вопросы языкознания. – М., 1990. – № 5. – С. 111.

**Павел РААГО,**
аспірант Інстытута мовы і літаратуры
імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі.

* Выбар славацкай мовы ў якасці мовы для параўнання абумоўлены прафесійнымі інтарэсамі аўтара.

*Гістарычны слоўнік распавядае*

# *БАНЯ, ЛАЗНЯ, ВАННА…*

## НА МАТЭРЫЯЛЕ ПОМНІКАЎ СТАРАБЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА

На старонках "Хронікі" М. Стрыйкоўскага – старабеларускага рукапісу пачатку XVII ст. – сярод іншых змешчаны такі аповед: "тоs же с҃тыs андреs апстол <…> коли до словꙗнов приплынул а там зашол где тепер новгород великиs, где коли люд которыs ведлуг своих ѡбычаев мыючихсꙗ в лазнꙗх ѡбачил барзо се томȣ дивовал, а кгды ѡттамтолꙗ през варазскȣю землю зашол кȣ своеs братии апостолом до римȣ, повѣдил им тамтыи новины мовꙗчи видѣл есми в словенских землꙗх барзо реч дивнȣю иж там люди еще живые сами себе по вси дни мȣчат, мают абовѣм з дерева збȣдованые нѣꙗкие бани, в которых сȣт немалаꙗ великост камѣнꙗ, и починены з них печи <…> ѡдни з людеs ѡных тое камѣне ȣставичне ѡгнем роспалꙗют так аж ꙗкъ сам ѡгон чирвоно бȣдет, где теж завжды вs ѡных банꙗх полно ест людȣ нагог, которыи сꙗ ѡбливают кислым а горꙗчим квасом, а биютсꙗ теж сами молодыми розками, так аж заледво сꙗ дрȣгиs з бани з дȣшею вырвет. А ѡхолодившисꙗ трохȣ зимною водою, потом зновȣ бегут до бани и зновȣ также сꙗ мȣчат, ꙗко и первеs" (Стрыйк., 435б – 436). Тут, у невялікім па памеры ўрыўку, невядомы старажытны аўтар ужыў побач лексемы *лазня* і *баня.*

Як сведчыць матэрыял картатэкі "Гістарычнага слоўніка беларускай мовы" (далей ГСБМ), у старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове існаваў шэраг найменняў месца або спецыяльнага памяшкання для мыцця. Сярод іх найбольшай частотнасцю вылучаліся словы *баня* і *лазня*.

Лексема *баня* ў агульнаўсходнеславянскі перыяд мела наступныя значэнні: 1) 'крыніца, цёплая мінеральная крыніца, возера'; 2) 'месца або пасудзіна для ўмывання'; 3) 'пабудова, памяшканне для мыцця, лазня'; 4) 'хрышчэнне, хрысціянскі абрад'.

Словам *баня* ў старабеларускай пісьменнасці называлася 'вялікая гліняная, шкляная, скураная або металічная пасудзіна, якая ўжывалася для захавання вадкіх і сыпкіх рэчываў і для культавых патрэб': "возложила на служебницу свою Абру флѧжку вина, и баню олеѧ" (Скар. КЮ, 16б); "котловъ малыхъ чотыри панви две, бани великие двѣ" (АВК, XXII, 156, 1565); "Начините теж начинꙗ з чистог золота кадилницȣ длꙗ каженꙗ бани. коновки. ȣчините теж ѡлтар" (Бельск., 50б).

Лексема *баня* зафіксавана таксама ў значэннях 'саляная капальня': "Слатина: Росȣлъ, окно где вода солонаѧ, сs котрои сѧ сол родитъ, банѧ, вежа" (Бяр., 149); 'хрысціянскі абрад хрышчэння': "Хс҃ поведаеть, ос҃тлъ ее омылs банею, то естъ крещеніемъ с҃тго дх҃а, и въ слове или гл҃омъ" (Будны, 160б).

У значэнні 'лазня' лексема *баня* ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове ўпершыню зафіксавана ў 1489 г.: "слȣги… разожгоша баню стоꙗщȣю на краи ѡзера" (Чэцця, 144). На думку даследчыкаў, з такой семантыкай слова *баня* вядома толькі ўсходнеславянскім і паўднёваславянскім мовам (гл.: Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Мінск, 1978, т. 1, с. 305). У тэкстах рэлігійнага зместу адзначана ўжыванне лексемы *баня* ў пераносным значэнні: "кр҃щеніа або покȣты банею грѣхи омыемѡ" (Каліст, II, 35б).

Існуе меркаванне, што лексема *лазня* са старажытных часоў была пашырана на паўднёвым захадзе ўсходніх славян (гл.: Филин Ф. П. Происхождение русского, украинского и белорусского языков. Л., 1972, с. 571). Першая яе фіксацыя ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове датуецца 1494 г. Вылучаюцца наступныя значэнні лексемы *лазня*, звязаныя з працэсам мыцця: 1) 'лазня': "лазня новая драницами крыта зъ присѣнкомъ" (АВК, XIV, 77, 1563); 2) 'мыццё ў лазні': "також лазнею вычищаетсѧ животъ некоторым ѡздравеють" (Арыст., 220); 3) 'ванна і працэс мыцця ў ёй': "Несифора… в коштовнשии лазни мываласѧ розмаитых зол в неs накладши длꙗ роскошное вони" (Царств., 74б – 75). Лексема *лазня* служыла таксама намінацыяй лячэбна-прафілактычнага сродку: "з порады лѣкаров готовано емȣ лазню або ваннȣ" (Бельск., 265); будана, шалаша: "гъде подданые въ пущахъ нашыхъ лазни для ходовъ мають, пры таковыхъ лазняхъ абы конечъно быдла и собакъ не ховали, чого имъ врадникъ и лесничый боронити мають" (КПД, 576, 1557).

Цікавы той факт, што ў першым з названых значэнняў лексема *лазня* выступае ва ўсіх жанрах старабеларускага пісьменства: "лазни не мають топити и дровъ возити" (КЗ, 545, 1494); "лазен не маем, на слонцу се согреваем, а от росы небесной бываемы покропени" (Бельск., 178б); "чистую водȣ пил, а хлѣбъ свѣжиs ел и в лазни сѧ ѡбъмыт моглъ" (Зб. 82, 152б); у другім і трэцім значэнні яна зафіксавана ў рэлігійных і свецка-мастацкіх творах; у значэнні 'будан, шалаш' выяўлена толькі ў дзелавых тэкстах.

Лексема *ванна* ўпершыню зафіксавана ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове ў 1571 г. У ГСБМ засведчаны наступныя значэнні дадзенай лексемы: 1) 'ванна': "ѡдного днѧ Трыщан мылсѧ у ванне ув-одной коморе" (Трыст., 38); 2) 'купель, вялікая адкрытая пасудзіна, што выкарыстоўваецца пры царкоўным абрадзе хрышчэння': "ꙗкожъ на завтрии… крещена была ȣ ваннѣ погруженна и названа во с҃томъ кр҃щеніи именем Елена" (Барк.,

157 – 157б); 3) ‘лазня; памяшканне, прызначанае для прыняцця лячэбных ваннаў’: “вˢ ваннахъ або вˢ теплицахъ дла оулжена болю мытиса имъ позволаетъ” (Каліст, I, 59); 4) ‘лячэбна-прафілактычны сродак’: “ксенжна… ваннꙋ собѣ казала чинит не с простои воды, але з росы” (Зб. 259, 517).

У значэнні ‘лазня’ ў помніках старабеларускага пісьменства адзначаны таксама намінацыі *мылня* (першая фіксацыя 1510 г.): “мытиса в водах теплых сладких. а не седети много оу мылни. дабы не высоушити сырости. але подобаеть дабы разгрел живот ѿт мылни” (Арыст., 57б); *отмывальня / одмывальня* (першая фіксацыя 1552 г.): “заставши его Іѡаннъ бгослов ꙋ ѿтмывальни, а вѣдаючи ꙗко сына божіего хульникъ естъ, не хотѣлъ са тамо мыти” (Будны, 36б); “пляцъ подле и посполу лежачий… концомъ… другимъ также ку одмывальни и ку реце Вильни, завели” (АВК, XX, 91, 1593).

Адзінкавую фіксацыю ў картатэцы ГСБМ мае намінацыя *мывница* ‘лазня’: “onomu ze iduszczu do mywnicy mytsia oni ze usmotrywsze sobi wremia, tako ieho ubisza” (Бых., 484).

Лексема *умова*, верагодна, таксама называе месца, прыстасаванне для мыцця: “Вироѻˢ: Стꙋднѣ, або оумовы, аб чистост, циприс” (Бяр., 257).

Спарадычна ў дзелавых тэкстах сустракаюцца памяншальныя формы некаторых з разгледжаных лексем: *ваненка* ‘памяншальнае ад *ванна*’: “ув ызбе белой… лихтаровъ малыхъ мосендзовыхъ тры, лятарня одна, ваненка мосендзова одъна” (АВК, XX, 136, 1598); *лазенька* ‘памяншальнае ад *лазня*’: “ушодши у ворота великіе по лѣвой сторонѣ пекарня старая зъ сѣньцами, далѣй лазенька малая новая” (АСД, IV, 301, 1593).

Цікавы адзінкавы выпадак ужывання ў значэнні ‘лазня (невялікая)’ лексемы *спижаренка*: “напротивку пекарни свѣтлица служная, двери и оконницы на завѣсахъ… одъ тое свѣтлицы спижаренка простая, то есть лазня” (АВК, IX, 4, 1618). Само слова *спижарня* ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове абазначала харчовы склад, кладоўку, а *спижаренка* можа разглядацца як ‘памяншальнае ад *спижарня*’: “отъ того дому вышедши по лѣвой сторонѣ спижаренка, гдѣ хлѣбъ ховаютъ” (АВК, XIV, 359, 1590).

У картатэцы ГСБМ зафіксаваны таксама намінацыі, вытворныя ад *лазня* і *мылня*, напрыклад: *лазеночный* ‘які адносіцца да лазні’: “штабы на завесы до всего будынку лазеночного дали ковать пуды чотыры и фунты два” (ИЮМ, XII, 111, 1698); *лазичный* ‘прыметнік ад *лазня*’: “отъ Пенъки, арендара лазичного, дошло за рокъ тысеча семъсотный шелегами зол. триста осемнадцать” (ИЮМ, XIV, 4, 1700); *лазнище* ‘месца, дзе была лазня’: “тыи околы и лазнище панъ воевода войту… отдалъ” (АСД, I, 17, 1536); *повлазни* ‘палавіна лазні’: “продал и вечне пустил половицу дома своего… то ест избу, сени и с коморкою, повлазни” (ИЮМ, XXXII, 95, 1578); *прилазникъ* ‘прылазнік’: “тамъ же по правой руцѣ лазня зъ прилазникомъ” (АВК, XIV, 508, 1594); *примилникъ* ‘прылазнік’: “другую яму против лазни у примилнику, со пшоницою и з ечменем” (ИЮМ, XXIV, 456, 1663).

Лексема *лазникъ* мае адзінкавую фіксацыю ў значэнні ‘ўладальнік або даглядальнік лазні’: “жродло дла ѡчищеніа ест хс҃, котори дла зглажена вшелакихъ змазъ дш҃евъныхъ лазникомъ” (Зб. 259, 529). У дзелавых тэкстах у гэтым значэнні шырока выкарыстоўваецца паланізм *лазебникъ*: “за роскazанемъ п. войта, уступили лазебнику золот. девять, которыхъ не отдалъ за лазню” (ИЮМ, XIV, 104 – 105, 1700) і вытворны ад яго прыметнік *лазебный* у наступных значэннях: 1) ‘які адносіцца да лазні’: “железа на печъ лазебную дали пудовъ два” (ИЮМ, XII, 111, 1698); 2) (у значэнні назоўніка) ‘тое, што і *лазебникъ*’: “двема лазебнымъ Василцомъ 3 дякла ржи въ Городне” (КЗ, 229, 1486), адну фіксацыю мае назоўнік *лезебниковичъ* ‘сын уладальніка лазні’: “Михалъ Яновичъ лезебниковичъ самъ” (ПВЛ, 137, 1528).

Такім чынам, у старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове існавалі наступныя сінанімічныя найменні спецыяльнага месца для мыцця, лазні – *баня, ванна, лазня, мывница, одмывальня, отмывальня, мылня, умова*, аднак ва ўжыванні, па колькасных паказчыках, пераважала лексема *лазня*. Пра пашырэнне дадзенай намінацыі сведчыць і наяўнасць у старабеларускай мове пэўнай колькасці вытворных ад яе найменняў.

У сучаснай беларускай літаратурнай мове для абазначэння спецыяльнага памяшкання, дзе мыюцца і парацца, выкарыстоўваецца толькі лексема *лазня*, у народных гаворках працягвае ўжывацца лексема *баня* (*байня*) побач з *лазня*.

**Скарачэнні**

**АВК** – Акты, изд. Виленскою археограф. комиссиею для разбора древних актов, т. I – XXXIX. Вильна, 1865 – 1915; **Арыст.** – Арыстоцелевы вароты канца XVI ст. (рук. НБ Беларусі); **АСД** – Археограф. сб. документов, отн. к истории Северо-Западной Руси, т. I – XI. Вильна, 1867 – 1890; **Барк.** – Баркалабаўскі летапіс к. XVI – пач. XVII ст. (рукапіс ДГМ, Масква); **Бельск.** – “Хроніка” М. Бельскага пач. XVII ст. (рук. РНБ, СПб.); **Будны** – “Катэхізіс” С. Буднага (Клецк, 1562); **Бых.** – Летапіс па спісе Быхаўца к. XVI – пач. XVII ст. (ПСРЛ, т. XVII. СПб., 1907); **Бяр.** – “Лексікон” П. Бярынды (Куцеін, 1653); **Зб. 259** – Зб. павучанняў с. XVII ст. (рук. БАН Літвы); **Зб. 82** – Зб. павучанняў с. XVII ст. (рук. БАН Літвы); **ИЮМ** – Ист.-юр. материалы, извлеченные из архивных книг губ. Витебской и Могилевской, вып. I – XXXII. Витебск, 1871 – 1906; **Каліст** – “Евангелле вучыцельнае” Каліста (Еўе, 1616); **КЗ** – Литовская метрика. Кн. записей (РИБ, т. XXVII. СПб., 1910); **КПД** – Литовская метрика. Кн. публичных дел (РИБ, т. XXX. Юрьев, 1914); **ПВЛ** – Литовская метрика. Переписи войска литовского (РИБ, т. XXXIII. Пг., 1915); **Скар. КЮ** – “Библия руска” выд. Ф. Скарыны 1516 – 1519 гг. Кн. Юдзіф; **Стрыйк.** – “Хроніка” М. Стрыйкоўскага пач. XVII ст. (рук. РНБ, СПб.); **Трыст.** – “Аповесць аб Трыстане” каля 1580 г. (рукапіс Бібліятэкі імя Э. Рачынскага ў Познані); **Царств.** – “О царствах, краинах и розных землях” к. XVI – пач. XVII ст. (рук. ДГМ, Масква); **Чэцця** – Чэцця 1489 г. (рук. БАН Украіны, ДА/415л.).

**Эльвіра ЯРМОЛЕНКА,**
старшы навуковы супрацоўнік
аддзела гісторыі беларускай мовы
Інстытута мовы і літаратуры
імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі.

*Слова ў мастацкім радку*

# ДЫЯЛЕКТНАЯ ЛЕКСІКА Ў ПАЭЗІІ ІНАКЕНЦІЯ АНЕНСКАГА Ў КАНТЭКСЦЕ “БЕЛАРУСКАЙ ТЭМЫ”

Паэтычная спадчына выдатнага рускага паэта сярэбранага веку Інакенція Аненскага (1855 – 1909) служыць невычэрпнай крыніцай натхнення як для аматараў паэзіі, так і для літаратуразнаўцаў*. Яна вызначаецца тонкасцю раскрыцця душэўнага свету, шчырасцю лірычнага перажывання.

Філолаг-класік па адукацыі, І. Аненскі выкладаў старажытныя мовы, антычную літаратуру і рускую славеснасць, быў дырэктарам гімназій у Кіеве, Пецярбургу, потым у Царскім Сяле, дзе працаваў да апошніх дзён. Яго дасканалае веданне Антычнасці і старажытных моў (у тым ліку старажытнаяўрэйскай і санскрыту) спалучалася з цікавасцю да тагачаснай літаратуры і жывой гутарковай мовы. І. Аненскі ўспрымаўся сучаснікамі як пераважна “кабінетны” вучоны (паводле ўспамінаў сына, найбольш прывычная для сваякоў поза пісьменніка – “сагнуты над пісьмовым сталом”). Ён не ўдзельнічаў у этнаграфічных экспедыцыях, але ў яго вершах можна знайсці дыялектныя словы. Менавіта праз дыялектызмы ў творчасці паэта адлюстравана “беларуская тэма”.

У паэзіі Інакенція Аненскага мы знаходзім абласныя словы, што ўжываюцца ў рускіх народных гаворках. Большасць з іх сустракаецца ў літаратурнай беларускай мове: *тристе́н* (бел. *трысце́н*), *гра́ба́р* (бел. *грабар*), *гру́да* (бел. *гру́да*), *дед* (бел. *дзяды*).

Паўстаюць пытанні: адкуль І. Аненскі ўзяў гэтую лексіку, да якой мясцовасці яна належыць, чым абумоўлены яе беларускі характар? Наконт гэтага можна выказаць меркаванні, заснаваныя на вядомых фактах біяграфіі паэта.

Большая частка жыцця І. Аненскага прайшла ў Пецярбургу, на працягу 1879 – 1891 гг. ён штолета (акрамя 1890 г.) знаходзіўся з сям’ёй у жончыным маёнтку ў Бельскім павеце Смаленскай губерні. У апошнія гады жыцця (1906 – 1909) І. Аненскі займаў пасаду інспектара Санкт-Пецярбургскай навучальнай акругі. У гэты перыяд ён ex officio наведваў Паўночны Захад Расіі. Таму можна выказаць меркаванне, што прысутныя ў яго паэзіі абласныя словы ўжываліся тады ў сумежных з Беларуссю паўночна-заходніх расійскіх губернях.

Каб праверыць гэтую гіпотэзу, звернемся да дыялекталагічных слоўнікаў, а таксама іншых крыніц.

У санеце “Желанье жить” сустракаецца абласное слова *тристен*. У заўвазе яно расшыфроўваецца як “трехстенный сарай”. З кантэксту зразумела, што гаворка ідзе пра прыбудову для захоўвання сена:

Кто сенинкой играет в **тристене**,
Кто седою макушкой копны.
Что ни есть беспокойные тени,
Все кладбищем луне отданы [1, с. 180].

Назоўнік *тристен* семантычна ў асноўным адпавядае беларускаму *трысцен* (прыбудова да хаты з трох сцен, выкарыстоўваецца як сенасховішча): *Ляксандра з Кірылам ляжалі на высокім* ***трысцене****, укапаўшыся ў свежанакладзенае пахучае сена* [5].

Лексічная адзінка *тристен* не зафіксавана ў слоўніках рускай літаратурнай мовы. Беларускае слова *трысцен*, якое не мае аднаслоўнага рускага эквіваленту, уключана ў “Слоўнік беларускай безэквівалентнай лексікі (у рускамоўным дачыненні)” І. Шкрабы [10]. Відаць, гэта спецыфічна беларускае слова, бо яно не мае адпаведнікаў у блізкароднасных славянскіх мовах. Так, у беларуска-ўкраінскім слоўніку *трысцен* перакладаецца як “трістінна прибудова” [2, с. 612].

У вершы “Развившись, волос поредел…” сустракаецца абласное слова *груда́* (параўн. бел. *гру́да* ‘замёрзлая, засохлая зямля’) з маркіраваным націскам на апошнім складзе:

Так что ж под зиму, как листы,
Дрожишь, о сердце, ты…
Гляди, как черная **груда́**
Под саваном тверда [1, с. 178].

У слоўніку рускіх народных гаворак зафіксавана дыялектнае слова *гру́да* (замёрзлая гразь на вуліцы, дарозе), адзначаецца, у прыватнасці, яго распаўсюджанне ў Ціхвінскім павеце Наўгародскай губерні, Рослаўскім павеце Смаленскай губерні (1852) [8, с. 158].

Гэтая лексічная адзінка, як і *тристен*, не мае ў рускай літаратурнай мове аднаслоўнага эквіваленту.

Абласное слова *дед* у значэнні ‘пустазелле з учэпістымі суквеццямі-шышкамі’ (рус. ‘репей’) ужываецца ў вершы “Ветер”:

* Паасобныя вершы І. Аненскага перакладзены на беларускую мову: **Аненскі, І.** Вясновы раманс; Што шчасце? / І. Аненскі; пер. з рус. І. Багдановіч // Братэрства. – Мінск : Маст. літ., 1986. – С. 180 – 181; **Аненскі, І.** Паміж сусветаў / І. Аненскі; пер. з рус. В. Зуёнак // Галасы з-за небакраю : Анталогія паэзіі свету ў беларускіх перакладах XX ст. – Мінск : Лімарыус, 2008. – С. 372; **Аненскі, І.** Ліра гадзінніка; Аметысты / І. Аненскі; пер. з рус. У. Стасюк // ЛіМ. – 2010. – 18 чэрв. – С. 15.

Но мне милей в глуши садов
Тот ветер теплый и игривый,
Что хлещет жгучею крапивой
По шапкам розовым **дедо́в** [1, с. 63].

Гэтая лексічная адзінка ўключана ў “Словарь русских народных говоров”, адзначаецца яе распаўсюджанне ў Пскоўскай губерні (1852), Ельнінскім павеце Смаленскай губерні [8, с. 328]. Этымалогія слова прыведзена ў слоўніку М. Фасмера. Расліна атрымала сваю назву “з-за калючак, якія нагадваюць няголеную бараду старога” [9, с. 494].

У беларускай мове слова *дзяды* ўжываецца толькі ў форме множнага ліку, а ў рускай існуе апазіцыя: адзіночны лік – множны лік (*репей – репьи*)*. Таму ўжыванне І. Аненскім формы множнага ліку (*дедов*, параўн. бел. *дзядоў*) з маркіраваным націскам на апошнім складзе таксама ўспрымаецца як беларускамоўны ўплыў.

Абласное слова *грабар* (землякоп) сустракаецца ў вершы “Палимая огнем недвижного светила…”:

Палимая огнем недвижного светила,
Проклятый свой урок отлязгала кирьга
И спящих **грабаров** с землею сколотила,
Как ливень черные, осенние стога [1, с. 60].

Лексема *грабар*(*ь*) запазычана з беларускай (украінскай) мовы, у сваю чаргу, праз польскае *grabarz* з с.-в.-ням. *grabaere* (параўн. н.-в.-ням. *Gräber*) [3, с. 46; 9, с. 449]. У “Словаре русских народных говоров” адзначаецца, у прыватнасці, яе распаўсюджанне ў Смаленскай губерні (1877) [8, с. 102]. Пацвярджэнне знаходзім у апавяданні “Юдоль” М. Ляскова: *Сараишко этот сгородили для себя смоленские “копачи” или “**грабари**”…* [6, с. 130]. У слоўніку У. Даля адзначана, што гэтае слова запазычана з беларускай мовы: *Так и сами себя называют белорусские землекопы, и у нас также зовут их **грабарями*** [4, с. 361].

Беларускія землякопы вызначаліся асаблівай працавітасцю і трываласцю: *Нездарма яшчэ ў даўніну беларусы лічыліся незаменнымі на такіх цяжкіх работах, як земляныя (грабарства)…* (У. Караткевіч) [10, с. 66]. Таму можна выказаць меркаванне, што яны былі запатрабаваныя ў сумежных расійскіх губернях.

Дыялектная лексіка і, разам з тым, уплыў беларускай мовы ў паэзіі І. Аненскага не вычэрпваюцца толькі назоўнікамі. Так, у калыханцы “Без конца и без начала”, стылізаванай пад народную мову, сустракаюцца дыялектныя дзеяслоўныя формы, а таксама звароты, уласцівыя беларускай мове:

**Ходи**, Васька, ночевать,
Колыбель со мной качать!..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Выйду, встану в ворота,
**Встрену** серого кота… [1, с. 191].

Параўнаем з беларускімі *хадзі* ў значэнні ‘прыходзь’, *стрэну* (*сустрэну*) ад *стрэць* (*сустрэць*).

Выдатны філолаг, І. Аненскі чуйна ўспрымаў і адлюстроўваў у творчасці асаблівасці жывой гутарковай мовы. У яго паэзіі сустракаецца лексіка рускіх народных гаворак, якая часткова перасякаецца з беларускай літаратурнай мовай і адлюстроўвае падобныя рэаліі прыроды і побыту. Частка лексічных адзінак не мае ў рускай літаратурнай мове аднаслоўных эквівалентаў. Аб’ём абласной лексікі невялікі, але тым больш каштоўнае кожнае з гэтых слоў. Калі ўлічваць невялікі колькасны аб’ём лірыкі Інакенція Аненскага (каля дзвюх з паловай сотняў вершаў), то ўдзельную вагу і значэнне дыялектызмаў у яго паэзіі можна лічыць даволі істотнымі. Разгледжаныя дыялектызмы ствараюць мікракантэкст, у якім выяўляецца “беларуская тэма”, з’яўляюцца каштоўным дыдактычным матэрыялам для вывучэння блізкароднасных моў у лінгвакультуралагічным аспекце.

* Параўнаем з вершам “Любить – идти, – не смолкнул гром…” Б. Пастарнака ў перакладзе Р. Барадуліна: “Как с маршем, бресть с **репьём** на всем…” (“*Брысці ў **дзядах** на шлях рабін…*”) [7, с. 80 – 81].

**Спіс літаратуры**

1. **Анненский, И. Ф.** Стихотворения и трагедии / И. Ф. Анненский. – Л. : Сов. писатель, 1990.

2. **Білорусько-україньский словник.** – Київ : Довіра, 2006.

3. **Галай, В.** *Гарбар, грабар, гандляр* : Назвы асоб паводле дзейнасці / В. Галай // Роднае слова. – 2010. – № 4. – С. 46 – 48.

4. **Даль, В. И.** Толковый словарь живого великорусского языка : в 4 т. / В. И. Даль. – М. : ОЛМА-ПРЕСС, 2004. – Т. 1.

5. **Зарэцкі, М.** Мар’я. Апавяданне / М. Зарэцкі [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу : http://knihl.com/zarecki/marja.html. – Дата доступу : 26.04.2010.

6. **Лесков, Н. С.** Юдоль / Н. С. Лесков // Собр. соч. : в 12 т. – М. : Правда, 1989. – Т. 3.

7. **Пастарнак, Б. Л.** Гарэла свечка… : выбр. вершы / Б. Л. Пастарнак; пер. з рус. Р. Барадулін. – Мінск : Маст. літ., 1990.

8. **Словарь русских народных говоров.** – 2-е изд. – СПб. : Наука, 2002. – Вып. 7.

9. **Фасмер, М.** Этимологический словарь русского языка : в 4 т. / М. Фасмер. – М. : Астрель : АСТ, 2003. – Т. 1.

10. **Шкраба, І. Р.** Слоўнік беларускай безэквівалентнай лексікі (у рускамоўным дачыненні) / І. Р. Шкраба. – Мінск : БелЭн, 2008.

**Уладзімір СТАСЮК,**
даследчык мовы і літаратуры.

Аляксандр РОГАЛЕЎ

# *МІР*

*Працяг. Пачатак у №№ 1, 2.*

Адно з найбольш аўтарытэтных дарэвалюцыйных выданняў – кніга “Россия. Полное географическое описание нашего Отечества. Т. IX: Верхнее Поднепровье и Белоруссия” (СПб., 1905) – паведамляла пра сённяшні гарадскі пасёлак Мір Карэліцкага раёна наступнае: “Старажытнае мястэчка Мір размешчана ў мясцовасці гарыстай, бязлеснай, але ўраджайнай… У мінулым Мір быў населеным і гандлёвым пунктам і меў умацаваны замак… Першапачатковая гісторыя мястэчка невядомая, а паданне пра заснаванне яго лівонскімі рыцарамі наўрад ці праўдападобнае… Першае ўпамінанне пра Мір звязана з 1395 г., калі лівонскія рыцары, якія падтрымлівалі князя Свідрыгайлу ў барацьбе з князем Вітаўтам, разбурылі ў ліку іншых гарадоў і Мір”.

Сапраўды, першапачатковая гісторыя Міра губляецца ў глыбіні стагоддзяў. Гэты населены пункт узнік ля водна-волакавага шляху, які злучаў прыпяцкую і нёманскую водныя сістэмы. Таму яго ўзнікненне трэба звязваць, безумоўна, не з крыжаносцамі, лівонскімі рыцарамі, а з перасяленчым рухам славянскіх груп, якія асвойвалі тэрыторыю Беларусі пераважна па рэках. Такім чынам, можна меркаваць, што гісторыя Міра пачалася значна раней за XIV ст. Пра гэта сведчыць і само найменне гарадскога пасёлка.

Звычайна назву *Мір* звязваюць са словам *мір* ‘адсутнасць варожасці, вайны’. Сёй-той лічыць, што тут, у наваколлях Міра, калісьці было заключана перамір’е паміж крыжаносцамі і літоўскімі князямі. Але ёсць і яшчэ адно значэнне слова *мір* – ‘вясковая абшчына, грамада’. Дарэчы, мірскія старажылы з улікам менавіта гэтай семантыкі тлумачаць назву свайго мястэчка.

Магчыма, у далёкія ад нас часы пэўная славянская група, якая спынілася на месцы будучага Міра, якраз і ўяўляла сабой сямейную абшчыну, бо старажытныя славяне асвойвалі новыя тэрыторыі менавіта патрыярхальнымі сем’ямі.

Аднак не выключана, што назва пасялення *Мір* усё ж такі звязана не з сацыяльным тэрмінам *мір*, а з абазначэннем воднага аб’екта – рачулкі, якая працякае праз Мір. Сёння гэтая рэчка (правы прыток Ушы, сістэма Нёмана) вядома як Міранка. На наш погляд, славянская абшчына, якая заснавала Мір, прынесла назву рэчкі з сабой з поўдня. А паколькі перасяленцы-славяне перамяшчаліся па рэках, спыняліся на рачных берагах і арыентаваліся ў прасторы ў значнай ступені з дапамогай рачных найменняў, назва *Мір* спачатку была прыстасавана да рэчкі, а потым перанесена на пасяленне.

Пра паўднёвае паходжанне першых мірскіх жыхароў сведчыць, напрыклад, той факт, што ў Славеніі, на паўднёвых ускраінах моўнага славянскага арэала, тапанімічныя даведнікі фіксуюць дзве рэчкі пад назвамі *Міра* і *Мірна*. Спрадвечнае значэнне такіх назваў можна вызначыць як ‘ціхая, спакойная рака’. Аналагічна разумелася, як можна меркаваць, і назва той рачулкі, на якой стаіць гарадскі пасёлак Мір.

Сказанае не азначае, што заснавальнікі Міра прыйшлі з тэрыторыі сучаснай Славеніі. Проста яны паходзілі з таго паўднёвага рэгіёна (хутчэй за ўсё, дунайска-днястроўскага), дзе фарміраваліся і засвойваліся агульныя для розных груповак славян культурныя і моўныя факты.

У Міры ёсць таксама Мірскае возера. Але яно, як сцвярджаюць мясцовыя краязнаўцы, штучнае. Згодна з паданнем, у даўнія часы на месцы возера рос сад. Аднак адзін з мірскіх князёў аднойчы чамусьці загадаў высекчы дрэвы і выкапаць вадаём. Возера выкапалі, але неўзабаве князь памёр. Гавораць, што ён быў пакараны менавіта за знішчэнне цудоўнага саду ў квецені.

# *РАКАЎ*

Гэтая вёска Валожынскага раёна стаіць на старадаўнім гандлёвым шляху, які злучаў Мінск з Валожынам і Ашмянамі. Менавіта той дарозе абавязаны Ракаў сваім росквітам у XV – XIX стст. У пісьмовых крыніцах Ракаў згадваецца якраз з XV ст.

У XVII ст. Ракаў меў пэўны час статус горада і лічыўся даволі значным гандлёвым цэнтрам, а ў XIX ст. быў мястэчкам і цэнтрам воласці Мінскага павета. Пра гістарычныя і архітэктурныя славутасці Ракава ёсць даволі падрабязныя звесткі ў гістарычных даведніках, але дапісьмовая гісторыя населенага пункта вывучана меней.

Бясспрэчна, што паселішча ўзнікла не ў XV ст. З’яўленне паведамленняў пра Ракаў было звязана з сухапутным гандлёвым шляхам. Заснаванне ж яго адбылося на іншым важным шляху – водным.

Ракаў стаіць на рацэ Іслач, у самых яе вярхоўях. Вытокі Іслачы (сістэма Нёмана) знаходзяцца на паўднёвы ўсход ад вёскі. Тут жа бярэ пачатак і рака Пціч (сістэма Прыпяці). У старажытнаўсходнеславянскі час вярхоўі гэтых рэчак злучаў волак. Такім чынам, Ракаў узнік каля злучэння нёманскага і прыпяцкага басейнаў.

Размяшчэнне пасялення мела стратэгічнае значэнне. Першапачатковым прызначэннем Ракава, на нашу думку, былі ахова і кантраляванне водна-волакавага шляху з Іслачы ў Пціч і ў адваротным кірунку.

Яшчэ ў жалезным веку тут існавала гарадзішча (на левым беразе Іслачы, за 500 метраў на поўдзень ад мястэчка). Мяркуюць, што на гарадзішчы жылі балты, носьбіты культуры штрыхаванай керамікі. Гэта – правобраз Ракава больш новага часу. На гарадзішчы ў пачатку XVI ст. быў узведзены замак з бастыёнамі, валамі, равамі.

Сама назва *Ракаў* таксама можа сведчыць пра ваенны, абарончы характары першапачатковага пасялення. Прасцей за ўсё яе тлумачыць у сувязі з асабістым імем *Рак* і разумець як ‘населены пункт, заснаваны Ракам’. Імя *Рак* уваходзіла ў пэўную тэматычную групу сістэмы асабістых імёнаў старажытных славян.

Але гістарычныя факты, пра якія ішла гаворка, прымушаюць шукаць іншае магчымае тлумачэнне геаграфічнай назвы. Ёсць грэчаскае слова *акра* ‘вяршыня, пагорак’; ‘крэпасць, абарона, пристанішча, сховішча’. З ім звязана старадаўняе славянскае слова *ра́ка* ў значэнні ‘грабніца, магільня’.

Звужэнне значэнняў гэтага слова ў царкоўнаславянскіх тэкстах у параўнанні з грэчаскім аналагам не павінна бянтэжыць. У жывой гутарковай мове маглі захоўвацца іншыя значэнні слова *ра́ка*, у прыватнасці ‘крэпасць, сховішча’. Таму назву *Ракаў* можна разумець наступным чынам: ‘пасяленне з крэпасцю, сховішчам’; ‘абарончы пункт’.

Не выключана і яшчэ адно тлумачэнне. Назва *Ракаў* можа ўяўляць сабой трансфармацыю балцкага геаграфічнага тэрміна *ракува* ‘яр, вільготная даліна ракі’; ‘высокае месца, схіл гары’, вядомага сёння ў літоўскай мове.

Магчыма, што геаграфічная назва ўзнікла яшчэ ў час пражывання балтаў у гарадзішчы, пабудаваным на ўзвышшы ў пойме Іслачы. Потым славяне запазычылі назву ў балтаў і перанеслі яе з гарадзішча на сваё пасяленне, пры гэтым пераасэнсавалі, надаўшы ёй сучасны фанетычны выгляд.

## *ЧАШНІКІ, ЧАШКАЎШЧЫНА, ЧАШКІ, ЧАША…*

Назву *Чашнікі* на тэрыторыі Беларусі носіць не толькі райцэнтр Віцебскай вобласці, але і вёска Горацкага раёна Магілёўскай вобласці. Гістарычных звестак пра гэтыя населеныя пункты нямнога, галоўным чынам яны датычацца горада Чашнікі, вядомага ў пісьмовых крыніцах з XVI ст.

Так, “Живописная Россия…” (т. 3, ч. 2: Беларускае Палессе. СПб., М., 1882, с. 388) паведамляе, што каля Чашнікаў 23 студзеня 1564 г. адбылася кровапралітная бітва паміж войскамі, якія ўзначальвалі, з аднаго боку, князь Мікалай Радзівіл, а з другога – князь Пётр Шуйскі. Аднак можна сцвярджаць, што Чашнікі (сённяшні горад, былое мястэчка Віцебскай губерні) узніклі задоўга да гэтай даты і існавалі ўжо ў XV ст.

Менавіта з XV ст. распаўсюджваюцца геаграфічныя назвы таго структурна-словаўтваральнага тыпу, да якога належыць і назва *Чашнікі*.

Яна ўяўляе сабой так званае родавае абазначэнне, якое не выдзяляе якога-небудзь аднаго чалавека з населенага пункта, а называе адразу ўсіх людзей (заснавальнікаў, першапасяленцаў), паколькі ўсе маюць аднолькавае прозвішча ці адну і тую ж мянушку.

У дадзеным выпадку гаворка павінна ісці пра мянушку *чашнік*, што ў дачыненні да ўсіх першых жыхароў адпаведнага населенага пункта выступала ў функцыі так званай калектыўнай мянушкі і мела форму *чашнікі* ‘людзі, якія…’. Сапраўды, якое значэнне магла мець такая мянушка пры яе ўзнікненні?

Вядомы тапаніміст, географ В. Жучкевіч у свой час пісаў пра тое, што мясцовае паданне звязвае найменне *Чашнікі* з “чашным” (ганчарным) промыслам. Такім чынам, калектыўная мянушка *чашнікі*, якая па асацыяцыі стала найменнем месца пасялення пэўнай групы людзей, першапачаткова магла датычыцца тых, хто займаўся чашным рамяством.

Гэтак жа можа тлумачыцца і назва вёскі Чашнікі Горацкага раёна. Тут трэба заўважыць, што назва менавіта дадзенага населенага пункта неабавязкова магла ўзнікнуць у XV – XVI стст., калі, хутчэй за ўсё, узнікла назва горада Чашнікі. Геаграфічныя найменні адпаведнага тыпу ўзнікалі і пазней, у XVII – XVIII стст.

Прапанаванае тлумачэнне назвы *Чашнікі* – не адзіна магчымае. Напрыклад, з 1409 г. у Вялікім Княстве Літоўскім вядома пасада чашніка, які павінен быў наліваць вялікаму князю напоі ў посуд, што падносіў да гаспадара падчашы. Пасада з цягам часу стала намінальнай. У паветах існавалі павятовыя чашнікі (Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 6, кн. 2. Мінск, 2003, с. 165).

Цікава параўнаць слова *чашнік* са словам *чашніца* ‘кладоўка (камора) каштоўнага посуду, начыння’. Можна меркаваць, што нейкі чашнік атрымаў зямлю, на якой пабудаваў маёнтак, сядзібу. Дзеці, унукі, г. зн. усе яго нашчадкі, сталі называцца *чашнікамі*. Гэтак жа зваліся і ўсе іх падданыя (слугі, дваровыя). Месца пасялення таксама атрымала назву *Чашнікі*.

Мянушка *Чашнік* і прозвішча *Чашнікаў*, якое ўзнікла на аснове мянушкі, былі вядомыя ў розных мясцінах Усходняй Славіі. С. Весялоўскі, аўтар кнігі “Ономастикон: древнерусские имена, прозвища и фамилии” (М., 1974, с. 347), называе прозвішча *Чашнікаў*, якое меў у сярэдзіне XV ст. у Волагдзе нейкі Рыгор Юр’евіч Чашнікаў. У гэтай жа кнізе згадваюцца “маскоўскія госці” (купцы?) Чашнікавы (XVI ст.) і сяло Чашнікава пад Масквой.

Сярод беларускіх вядомыя прозвішчы *Чашын*, *Чашук*, *Чашун*, *Чашынскі*, *Чашэйка*… Перавага прозвішча *Чашэйка* сярод першапасяленцаў абумовіла ўтварэнне назвы *Чашэйкі*, якую маюць вёскі Іўеўскага і Лідскага раёнаў Гродзенскай вобласці. Дадзеная назва мае літоўскі словаўтваральны элемент *-эйк*. Гэтак жа можна сказаць і пра прозвішча *Чашэйка*, што “нарадзілася” ва ўмовах славяна-літоўскага, беларуска-літоўскага моўнага ўзаемадзеяння.

Перавага прозвішчаў *Чашун*, *Чашко* сярод заснавальнікаў пасяленняў паслужыла падставай для з’яўлення на карце Беларусі такіх “родавых найменняў”, як *Чашуны* (вёска Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці) і *Чашкі* (пасёлак Глыбоцкага раёна гэтай жа вобласці).

Заўважым, што прозвішчы *Чашук*, *Чашун*, *Чашэйка*, *Чашко* не звязаны са словам *чаша*. Іх руская форма *Чешейко* (*Чешко*, *Чешук* і г. д.) гаворыць пра нейкае зусім іншае паходжанне. Напрыклад, нецаркоўнае мужчынскае імя *Чашко* (*Чешко*) часта сустракаецца ў помніках рускага пісьменства XVI ст. Усе згаданыя прозвішчы па сваёй структуры ўказваюць на нашчадкаў нейкага чалавека, імя ці мянушка якога мелі аснову *Чэх-*. Значэнне гэтай асновы прыкладна вызначаецца як ‘баец, задзіра’.

Назва вёскі *Чашын* (Уздзенскі раён Мінскай вобласці) утварылася ад прозвішча *Чаша* ці *Чашын* і мае значэнне прыналежнасці (*Чашын* ‘вёска, якая належыць чалавеку па прозвішчы *Чаша*, *Чашын*’).

У назве вёскі *Чашкаўшчына* Пастаўскага раёна адлюстравана верагодная мянушка *Чашка* ці прозвішча *Чашкаў*. Пры ўзнікненні назва *Чашкаўшчына* мела значэнне ‘вёска і ўсе наваколлі (угоддзі), якія належалі чалавеку з мянушкай *Чашка* ці з прозвішчам *Чашкаў*’.

Нарэшце, у назве вёскі *Чаша* Клецкага раёна Мінскай вобласці, на наш погляд, ніякага прозвішча і ніякай мянушкі не адлюстравана. Гэтая назва, як можна меркаваць, з’яўляецца метафарай і ўказвае на асаблівасці рэльефу (напрыклад, глыбокую лагчыну, западзіну круглай формы) вакол населенага пункта.

# ХОЙНІКІ

Горад Хойнікі, раённы цэнтр Гомельскай вобласці, упершыню згадваецца ў 1512 г. як вёска Брагінскага графства ў Вялікім Княстве Літоўскім. Дакладны час заснавання пасялення невядомы. Лічыцца, што першаснай формай назвы населенага пункта была форма *Хвойнічак*. Пазней, відаць, пасля 1569 г., калі пасяленне стала ўласнасцю князёў Вішнявецкіх, з’явілася паланізаваная форма *Хойнікі* з меркаванай папярэдняй уласнабеларускай формы *Хвойнікі*. *Хвоя* ў беларускай мове і беларускіх гаворках мае значэнне ‘сасна’. Такім чынам, *хвойнічак* – гэта ‘невялікі сасоннік’.

Слова *хвойнік* тыпалагічна падобнае на *алешнік*, *ляшчыннік*, *ельнік*, агульныя назоўнікі са значэннем ‘від лесу, сукупнасць адной пароды дрэў, кустоў, раслін’.

Можна думаць, што вёска Хвойнічак, з якой пачыналіся сучасныя Хойнікі, узнікла побач з невялікім сасновым лесам ці непасрэдна ў гэтым лесе, а сам хвойнічак (хвойнік) быў выразнай прыкметай усёй навакольнай мясцовасці, бо інакш яго абазначэнне не было б пакладзена ў аснову геаграфічнай назвы.

Пад уплывам польскай мовы слова *хвойнік* стала вымаўляцца як *хойнік*. З’яўленне ж множнага ліку – *Хойнікі* – стала магчымым, на наш погляд, у выніку пераасэнсавання назвы. Калі вёска была малой, найменне *Хвойнічак* для яе было цалкам прыдатным. Па меры росту пасялення, асабліва тады, калі ў ім быў узведзены замак (першая палова XVII ст.), узнікла патрэба змяніць папярэднюю назву, якая мела выразна адчувальнае памяншальнае адценне значэння.

Простая замена назвы *Хвойнічак* на *Хвойнік* была немагчымай, бо непажаданая аманімія геаграфічнага наймення і агульнага слова, ад якой аб’ектыўна трэба было пазбавіцца, станавілася яшчэ больш выразнай.

Таму назву сталі ўжываць у множным ліку, што пераводзіла яе ў разрад слоў, якія абазначаюць асоб паводле іх месцазнаходжання, пражывання: *хойнікі* – ‘людзі, якія жывуць у пасяленні і ў замку, размешчаных побач з хваёвым лесам’. Менавіта так мы “чытаем” гэтую знешне, здавалася б, не вельмі складаную геаграфічную назву.

*Працяг будзе.*

*Крытыка і бібліяграфія*

# СУР'ЁЗНА ПРА КАМІЧНАЕ

**Рагаўцоў, В. І.** Слоўнік пра камічнае : мовазнаўчы аспект / В. І. Рагаўцоў. – Магілёў : МДУ імя А. А. Куляшова, 2010. – 172 с. – Тыраж 100 экз.

Шматпланавая катэгорыя камічнага здаўна з'яўляецца аб'ектам даследавання розных навук – эстэтыкі, логікі, псіхалогіі, літаратуразнаўства і лінгвістыкі. Камічнае ў мастацтве выяўляецца ў трох асноўных відах – іроніі, гумары і сатыры. Пры апісанні ж камічнага, пранікненні ў яго сутнасць, у тое, як яно ствараецца і дасягаецца, выкарыстоўваюцца сотні агульнапрынятых і індывідуальна-аўтарскіх тэрмінаў – аднаслоўных і састаўных. Сярод іх і такія, напрыклад, як "актуалізатар камічнага", "інтэнсіфікатар камічнага".

Новая праца Васіля Рагаўцова – гэта першы ў беларускай лексікаграфічнай практыцы даведнік, дзе грунтоўна разгледжаны асноўныя тэрміны, звязаныя з камічным і вербальнымі (слоўнымі, маўленчымі) сродкамі яго выражэння. Тут тлумачыцца больш за 200 тэрмінаў па тэорыі камічнага (яго сутнасць, віды, сродкі, прыёмы і спосабы вербальнага выражэння), якія найбольш часта выкарыстоўваюцца ў навуковай і вучэбнай літаратуры.

Класіфікуючы тэрміны і іх аднясенне да таго ці іншага разраду, групы, класа, аўтар улічвае найбольш абгрунтаваныя і пашыраныя пункты гледжання. Для наймення асобных з'яў (паняццяў) уведзены больш дакладныя, на нашу думку, тэрміны: напрыклад, "фразеалагічная алюзія", "апорны кампанент зеўгматычнай канструкцыі", "цытатная алюзія". Або прапануецца і абгрунтоўваецца тэрмін "ідыялектныя клішэ" – замест неакрэсленых і нярэдка ўжывальных "выразы-фаварыты", "стылістычныя пашпарты", "характарыстычныя", "улюбёныя" словы ці выразы. З наяўных беларускамоўных тэрмінаў-дублетаў аўтар слушна аддае перавагу тым, якія адпавядаюць асаблівасцям беларускага тэрмінаўтварэння і ўсталяваліся або ўсталёўваюцца ў сучаснай лінгвістычнай і лінгваметадычнай літаратуры: *эмацыйны, намінацыйны, парэмійныя, перыфразавыя* (каламбуры) і інш.

У слоўнікавых артыкулах закранаецца шэраг дыскусійных пытанняў. Так, паняцце "каламбур" нярэдка атаясамліваюць з паняццем "гульня слоў". Аўтар паказвае, што другое паняцце больш шырокае, чым першае. Скажам, у сказе "Пабіцца мог ён з *мухаю*, калі бываў *пад мухаю*" (П. Шыбут) перад намі каламбур як сродак камічнага, у сказе ж "А гром вераснёўскі ў *бабіным леце* – як тры адгалоскі аб страчаным *леце*" (В. Зуёнак) зусім не ставіцца мэта стварыць камічны эфект. Паказана таксама, у якіх выпадках каламбур выступае як троп, у якіх – як стылістычная фігура, а ў якіх спалучаюцца асаблівасці абодвух паняццяў.

Тэарэтычная частка слоўнікавага артыкула змяшчае не толькі тлумачэнне загалоўкавага тэрміна, але і сціслыя звесткі пра сутнасць адпаведнага паняцця, яго дзейснасць, тыпы ці разнавіднасці пэўнага паняцця і г. д. Даюцца ілюстрацыі з драматургічнага маўлення. Даведнік завяршаецца "Паказальнікам тэрмінаў", дзе для зручнасці карыстання "Слоўнікам…" сумяшчаюцца алфавітны і алфавітна-гнездавы прынцыпы.

На адным з пададзеных у даведніку тэрмінаў хацелася б спыніцца асобна. Як адзін са сродкаў стварэння камічнага эфекту апісаны аказіяналізмы, або аўтарскія наватворы. Яны падзяляюцца на некалькі тыпаў, і кожны з іх разгледжаны ў асобным слоўнікавым артыкуле: аказіяналізмы лексічныя, марфалагічныя, фразеалагічныя, афарыстычныя, сінтаксічныя і разнатыпныя. Як разнавіднасць афарыстычных аказіяналізмаў падаюцца парэмійныя аказіяналізмы, г. зн. індывідуальна-аўтарскія прыказкі, створаныя ў маўленні для дасціпнага наймення адпаведнай жыццёвай сітуацыі. Гэта праілюстравана прыкладамі з твораў У. Галубка, А. Петрашкевіча, З. Дудзюк і інш. Ёсць тут і прыклад з п'есы К. Крапівы "Партызаны", у адным з эпізодаў якой (перад прыходам польскіх акупантаў у вёску) кулак Маргун пытаецца ў Батуры: "А табе ж чаго баяцца? Гэта ж вашы… Ты ж паляк, здаецца?" Батура адказвае, "загадкава падміргваючы", іранічным рыфмаваным выказам-неалагізмам: "Не пазналі сваіх нашы, бярозавай далі кашы".

Да гэтага варта дадаць, што хоць амаль усе індывідуальна-аўтарскія ўтварэнні, аднойчы выкарыстаныя ў мастацкім творы і адзіна неабходныя, незаменныя і эфектыўныя там, як бы асуджаны быць вечнымі неалагізмамі, аднак памянёная прыказка-наватвор з п'есы "Партызаны" зрабіла крок па дарозе ў літаратурную мову. Яна, без спасылкі на яе аўтара, выкарыстана з тым жа сэнсавым зместам ('бывае, што даводзіцца цярпець пабоі ці іншыя непрыемнасці не ад чужых людзей, а ад сваіх жа'), напрыклад, у кнізе У. Калесніка "Доўг памяці": "Неўзабаве па нашай пазіцыі пачала прыстрэльвацца [наша] артылерыя. Андрэй [камандзір]… не ведаў страху. Ён і цяпер пачаў смяяцца з таго, што *не пазналі сваіх нашы, даюць бярозавай кашы*". Калі ўжывальнасць наватвораў (слоў, фразеалагізмаў, прыказак) «выходзіць за межы аўтарскага тэксту, – пісаў А. Бабкін у манаграфіі "Русская фразеология, ее развитие и источники" (Л., 1970, с. 78), – іх месца ў тлумачальных слоўніках бясспрэчнае».

Няма сумнення, што гэты "Слоўнік…", кваліфікавана падрыхтаваны В. Рагаўцовым з улікам найноўшых даследаванняў пра камічнае і яго маўленчае выражэнне, будзе карысным не толькі для навуковых супрацоўнікаў, аспірантаў, студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ, але і для настаўнікаў, пісьменнікаў, журналістаў і інш.

**Іван ЛЕПЕШАЎ,**
доктар філалагічных навук, прафесар.

Віктар ІЎЧАНКАЎ

# “*НЕ* АБО *НІ*?” ці ПРАВАПІС *НЕ* (*НЯ*) І *НІ*

*Працяг. Пачатак у №№ 1 – 5.*

Відаць, мала хто не задаваў сабе пытанні: “*Не* ці *ні*?” або “*Не* асобна ці разам?” Колькі за гэтым стаіць удач і няўдач! Гэтую “слабінку” знаходзім у працах вучняў і студэнтаў, у важных і не зусім паперах, напісаных і падпісаных рознымі людзьмі. Сапраўды, амаль гамлетаўскае пытанне!

“Мне не трэба ні славы, ні хлеба, / Асудзіце на безліч нягод…” – пісаў Пімен Панчанка ў вершы “Родная мова”. У радках выразна адчуваецца адмоўе (*не трэба*) і ўзмацненне (*ні славы, ні хлеба*), ёсць слова *нягод*, якое без *не* (*ня*) не ўжываецца. На гэтых крытэрыях і грунтуюцца асноўныя нормы ўжывання часціц *не* (*ня*), *ні* і іх правапіс.

У новай рэдакцыі правілы кардынальна не памяняліся. Аднак адпаведныя параграфы ўдакладнены і па-новаму структураваны.

*Не* (*ня*) пішацца разам:

калі без *не* (*ня*) слова не ўжываецца: *небарака*, *неруш*, *неслух*, *невук*, *немаўля*, *невідзімка*, *незабудка*, *нечысць*, *нелюдзім*, *нехрысць*, *нядзеля*, *нявестка*, *нягода*, *нястача*, *нябыт*, *нявер’е*, *нязгрэба*, *нядбальства*; *ненавідзець*, *непакоіцца*, *нездаровіцца*, *недамагаць*, *няможацца*, *няволіць*; *непахісны*, *непарушны*, *незабыўны*, *нелюдзімы*, *нехлямяжы*, *нечуваны*; *няспынна*, *няўцям*, *няшчадна*, *нельга*, *няма*;

з назоўнікамі, калі адмоўе прыдае слову без гэтай часціцы значэнне супрацьпастаўлення, адмаўлення: *неспецыяліст*, *нечалавек*, *неметал*, *нятэрмін*, *нелінгвіст* і інш., напрыклад: *розніца паміж тэрмінамі і нятэрмінамі*, *кніга прызначана ў асноўным для неспецыялістаў*, *нелінгвісту гэтыя тэрміны могуць быць незнаёмыя*;

з прыметнікамі і прыметнікавымі прыслоўямі на *-о* (*-а*), калі спалучэнне іх з *не* служыць не для адмаўлення якога-небудзь паняцця, а для выражэння новага, супрацьлеглага паняцця: *невысокі* (нізкі), *нешырокі* (вузкі), *недалёкі* (блізкі), *неспакойны* (які хвалюецца), *невялікі* (малы), *нелегальна* (падпольна, скрыта), *нямнога* (мала) і інш., а таксама з прыслоўем *няйначай* (абавязкова). Наяўнасць паясняльных слоў, як правіла, не ўплывае на напісанне разам *не* з прыметнікамі: *незнаёмы нам аўтар*, *невядомыя навуцы факты*, *непрыгодны для будоўлі матэрыял*, *няправільныя ў многіх адносінах вывады*;

у дзеяслоўнай прыстаўцы *неда-*, якая абазначае неадпаведнасць патрэбнай норме: *недалічваць* (мець менш, чым трэба), *недаацэньваць* (ацэньваць ніжэй, чым належыць), *недаважваць* (адважваць менш, чым патрабуецца), *недагледзець* (дзіця), *недавыканаць* (выканаць менш за норму), *недамерваць* (адмерваць менш, чым трэба). Ад дзеясловаў з прыстаўкай *неда-* адрозніваюцца дзеясловы з прыстаўкай *да-*, якія спалучаюцца з *не* і абазначаюць не даведзенае да канца дзеянне: *не давучыцца да канца*, *не дачакацца цябе*, *не даскочыць да берага*, *не дасядзець да канца*, *не дагледзець фільм*;

з дзеепрыметнікамі, пры якіх адсутнічаюць паясняльныя словы ці супрацьпастаўленне: *неасушаныя* (балоты), *нержавеючая* (сталь), *нечаканы* (прыход), *непрыбраны* (пакой), *незачыненыя* (дзверы), *няходжаная* (сцежка); але: *не засеянае жытам поле*, *не асушаныя да гэтага часу балоты*. *Не* (*ня*) пішацца разам з поўнымі дзеепрыметнікамі і прыметнікамі пры наяўнасці пры іх слоў *вельмі*, *надта*, *зусім*, *выключна*, *абсалютна*, *незвычайна* і інш.: *вельмі неабдуманы ўчынак*, *выключна неспрыяльнае надвор’е*, *абсалютна непрымальная прапанова*, *зусім някепскі вынік*, *надта няласкавы прыём*;

з займеннікамі, калі на часціцу *не* падае націск і паміж *не* і займеннікам няма прыназоўніка, і з падобнымі займеннікавымі прыслоўямі: *нéхта*, *нéшта*, *нéкага*, *нéчага*, *нéкаму*, *нéчаму*; *нéйкі*, *нéйчы*, *нéкалі*, *нéкуды*, *нéяк*, *нéкалькі*, *нéдзе*, *нéадкуль*; але: *не адкуль*, *не адтуль* (пры націску на займеннікавым прыслоўі);

у прыслоўях: *нечакана*, *неабсяжна*, *неўзабаве*, *незадоўга*, *неўпапад*, *непадалёк*, *неўзаметку*, *няўцям*, *нехаця*, *нельга*; у прыназоўніку *нягледзячы на*; у часціцах *няўжо*, *няхай*, постфіксе *-небудзь* (*як-небудзь*, *хто-небудзь*) і слове *няма*.

# ЯК *НЕ* З *НѢ* АБ'ЯДНАЛІСЯ, ці НАПІСАННЕ ЧАСЦІЦЫ *НЕ* АСОБНА

Асобнае напісанне часціцы *не* з рознымі словамі мае адметныя рысы. Сфера выкарыстання гэтай часціцы вельмі шырокая, тым больш што ў ёй гістарычна зліліся два амонімы: *не* і *нѣ*. Апошняе паходзіць з адмоўнай формы дзеяслова *быць*, бо раней ён існаваў у станоўчай форме *быць* і адмоўнай – *нѣсть* з *не есть*. Пасля рэформы рускага правапісу 1917 – 1918 гг., у выніку якой быў ліквідаваны ѣ (яць), адмоўная часціца *не* і дзеяслоўная форма ў трэцяй асобе адзіночнага ліку *нѣ* (*нѣсть)* супалі. Форма *нѣсть* устарэла і сёння прадстаўлена ў беларускай мове як *не*, напрыклад, у ролі адмоўнага адказу на пытанне: – *А вы, уласна кажучы, хто? Інжынер? – Не. Настаўніца* (І. Шамякін), а ў рускай – як *нет*.

З узгаданай вышэй акалічнасцю і звязаны ў сучасных мовах – беларускай, рускай і ўкраінскай – кантэкстуальныя напісанні: *неспецыяліст*, *нечалавек*, *неметал*, *нятэрмін*, *нелінгвіст*, *невысокі* (нізкі), *нешырокі* (вузкі), *недалёкі* (блізкі), *неспакойны* (які хвалюецца), *невялікі* (малы), *нелегальна* (падпольна, скрыта), *нямнога* (мала) і інш. Калі паспрабаваць усвядоміць розніцу напісанняў, то перад намі адкрыецца карціна: *Ён мне не* (не ёсць) *пры́яцель* і *Ён мне* (ёсць) *не́прыяцель*; *Ён не* (не ёсць) *высокі* і *Ён* (ёсць) *невысокі* (нізкі). Такая розніца выразна прасочваецца ў суседняй польскай мове, дзе дзеяслоўная звязка *jest* вельмі распаўсюджана.

З падобнымі гістарычнымі пераўвасабленнямі звязаны цяжкасці напісання разам і асобна часціцы *не*. Нават у стабільным правіле часам можна заблытацца. Напрыклад, даволі вядомае для ўсходнеславянскіх моў правіла пра напісанне *не* з дзеясловамі з'яўляецца ўніверсальным. Беларус, рускі, украінец ведае, што *не* з дзеясловамі пішацца асобна: *не змагчы*, *не праслаўляць*; *не мочь*, *не прославлять*; *не змогти*, *не прославляти*. Аднак у некаторых сітуацыях назіраем, што гэта не зусім так. Выключым з поля зроку нормы пра напісанне дзеясловаў, якія без *не* не ўжываюцца (*ненавідзець*), і дзеясловы з прыстаўкай *неда-* (*недаважваць*) і разгледзім адну нестандартную сітуацыю.

Аўтару гэтых радкоў давялося аднойчы даслаць у рэдакцыю найаўтарытэтнейшай беларускамоўнай газеты краіны артыкул пад назвай "Айчыннаму мовазнаўству нестае фундаментальнасці і аналітызму". Матэрыял быў аператыўна надрукаваны. Аднак чаканага эфекту не прынёс, бо аўтарскае *нестае* было выпраўлена на *не стае*. Гэта дазволілі зрабіць сучасныя слоўнікі. Напрыклад, "Арфаграфічны слоўнік" М. Лобана, М. Судніка (Мінск, 1971, с. 183) дзеяслоў *неставаць* (*часу нестае*) падае ў адно слова, у пазнейшых выданнях – у два. У "Беларуска-рускім слоўніку" (1988, т. 1, с. 794) дзеяслоў *неставаць* перакладаецца на рускую мову як *недоставать*. У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (т. 5, кн. 1, с. 294) фіксуецца форма *ставаць, стае* ў значэннях: 1) хапаць чаго-н. для каго-, чаго-н.: *Кніг не ставала* (М. Лужанін); 2) мець магчымасці, сілы, здольнасці рабіць што-н.: *Як колькі моцы стае*. Такім чынам, мусім канстатаваць, што два дзеясловы *не стае* і *нестае* маюць розныя значэнні. Аўтарам узгаданага артыкула падкрэслівалася, што айчыннаму мовазнаўству не *не хапае* фундаментальнасці і аналітызму, а *нестае*, значыць яны ёсць, але не ў поўнай меры, недастаткова праяўляюцца, у неадпаведнасці з патрэбнай нормай. Канечне, выбраная газетай форма магла закрануць "гонар акадэмічнага мундзіра", што і назіралася на рэдакцыйным форуме. Хоць аўтару не хацелася катэгарычна ўпікаць сваіх калег і вінаваціць іх у адсутнасці фундаментальнасці і аналітызму. Яшчэ раз пераконваешся, наколькі слова патрабуе да сябе пільнай увагі, і перасцерагаешся ад скажэнняў нюансаў сэнсу. Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што не ўсе мовазнаўцы бачаць семантычную розніцу ў словах *нестае* і *не стае* (напрыклад, гл.: Роднае слова, 2010, № 7, с. 59).

У новай рэдакцыі "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" вызначаны асноўныя правілы напісання часціцы *не* асобна. Яна пішацца асобна:

з дзеясловамі і дзеепрыслоўямі: *не бачыў*, *не ведаў*, *не буду рабіць*, *не бяры*, *не рабі*, *не курыць*; *не ведаючы куды*; *рабіць не спяшаючыся*; *сказаць не падумаўшы*;

са словамі іншых часцін мовы, калі ёсць або падразумяваецца супрацьпастаўленне: *не шчасце, а адно гора з вамі*; *любога колеру, толькі не жоўтага*; *заходзіць да нас, але не часта*; *не два – больш*; *не каму, а вам будзе лепш*; *не пашкоджаны, але не працуе нешта*; *вада не гарачая – ледзь цёплая*; *не далёка – зусім блізка*;

з поўнымі дзеепрыметнікамі, калі пры іх ёсць паясняльныя словы: *да канца не вырашанае пытанне*, *не пакінутая без увагі парада*, *даўно не стрыжаны*, *цалкам не ўпэўнены*;

з дзеепрыметнікамі ў кароткай форме: *у пакоі* (*было*) *не прыбрана*, *твае правы* (*былі*) *не парушаны*, *дзверы не зачынены*;

з прыметнікамі, прыслоўямі, калі ў якасці паясняльнага слова выступае займеннік або займеннікавае прыслоўе, якія пачынаюцца з *ні*: *нікому не патрэбны*, *ніхто не галодны*, *ні да чаго не здольны*;

з прыметнікамі і прыслоўямі з паясняльным словам, якое мае ацэначнае значэнне якасці:

*далёка не лепшы вынік*, *сёння дзень зусім не горшы за мінулы*, *не спелы яшчэ яблык*;

з нязменнымі словамі *не трэба*, *не варта*, *не шкода*, *не супраць*, якія выступаюць у якасці выказніка;

з усімі словамі, часткі якіх пішуцца праз злучок: *паступіў не па-сяброўску*, *зроблена не палюдску*, *не навукова-папулярны фільм*;

асобна пішуцца часткі выразу *не раз*: *Не раз прыходзілася яму хадзіць праз гэты лес*;

у зваротах *не хто іншы, як*; *не што іншае, як*; *не хто іншы, а*; *не што іншае, а*, у складзе якіх ёсць адносныя займеннікі *хто*, *што* і азначальны займеннік *іншы* (*хто іншы*, *што іншае*), якія ў спалучэнні з *не* з'яўляюцца адмаўленнем іх сумеснага значэння: *не хто іншы ўзяў, як ён*; *не хто іншы, а толькі ён*; *гэта не што іншае, як вапна*; *гэта не што іншае, а толькі нейкі звярок прашмыгнуў*; але: *ніхто іншы не быў, толькі ён*; *нішто іншае не цікавіць яго, адно толькі кнігі*.

## *АДМОВІЦЬ НЕЛЬГА СЦВЕРДЗІЦЬ*, ці ПРАВАПІС ЧАСЦІЦЫ *НІ*

У правапісе сустракаюцца даволі складаныя тэмы, якія патрабуюць асэнсавання нюансаў значэння слова. Напрыклад, *ні* адмаўляе ці сцвярджае нешта. А *не*? Як распазнаць выразы *ні адзін* і *не адзін*? А беларускае *ніводзін*? Паспрабуем разабрацца ў напісанні часціцы *ні*, хоць зрабіць гэта будзе няпроста.

Ненацiскная часціца *ні* можа ўваходзіць у склад адмоўных займеннікаў (*ніхто*, *нішто*, *ніякі* і інш.) і адмоўных прыслоўяў (*нідзе*, *ніадкуль*, *ніколі* і інш.). Часціца *ні* ўжываецца ў сказах з адмоўным выказнікам: ***ні** да кога **не хадзіў**, **ні** за чым да вас **не звяртаўся***. У беларускай і рускай мовах трэба адрозніваць спалучэнні займеннікаў і прыслоўяў з часціцай-прыстаўкай *не* ў безасабовых (інфінітыўных) сказах з выказнікам без *не*. Параўнаем: ***няма да каго** звярнуцца – **не к кому** обратиться*, ***няма чаго** туды хадзіць – **незачем** туда ходить*, ***няма дзе** быць – **негде** быть*. Аднак сустракаюцца адхіленні ад прыведзенага правіла: *застацца ні з чым*, *лічыць ні за што*. У рускай мове такіх адступленняў больш: *спорить не к чему* (у значэнні 'не для чего', 'незачем') і *лекарство уже ни к чему* (у значэнні выказніка 'ненужно'). Беларускія ж адпаведнікі – *няма чаго спрачацца* і *лекі ўжо не патрэбны*.

Адмоўны выказнік можа адсутнічаць у сказе, але падразумявацца: *Што гэта за "дыплом", Баран – ні "мя", ні "бэ"…* (Кандрат Крапіва); *Ні месяца на небе. Ні зорак залатых.*

Існуюць цяжкасці ў распазнаванні часціц *не* і *ні*. Трэба адрозніваць выразы: *ні адзін* (ніводзін), *ні адна* (ніводная), *ні адно* (ніводнае) у значэнні 'ніхто' і *не адзін*, *не адно*, *не адна* ў значэнні 'шмат'. Параўнаем: *Цікава, што **ні адзін** з іншых родаў за ўсю гісторыю ВКЛ **не займаў** столькі дзяржаўных пасад, як род Пацаў* (Новыя падарожжы дылетанта. Сталічнае тэлебачанне: http://www.ctv.by/tvprogram/~news=37989) і *Што два, то не адзін* (Народная газета: http://www.ng.by/ru/issues?art_id=40093). З адзначанага можна зрабіць вывад, што спалучэнне з часціцай *ні* ўжываецца, як правіла, у звязцы з адмоўным выказнікам: ***ні** разу* (*ніколі*) *з ёю **не сустракаўся***, але: ***не** раз з ёю сустракаўся*.

Трэба адрозніваць напісанне адмоўных займеннікаў і прыслоўяў (*ніхто*, *нідзе*) і асобнае напісанне часціцы *ні* з адноснымі займеннымі словамі (*ні хто*, *ні дзе*) у дадзеных сказах: *Ніхто нічога не прасіў, ніхто нічога не загадваў, ніхто нідзе не быў. – Я не ведаю, ні хто чаго прасіў, ні дзе хто быў, ні што загадваў*. Даволі часта такія памылкі дапускаюцца пры выкананні тэставых заданняў: "Да каго я **ні** звяртаўся, **не хто ні** мог сказаць, **нідзе** быў карэспандэнт, **нідзе** быў рэдактар". Правільна: *Да каго я **не** звяртаўся, **ніхто не** мог сказаць, **ні дзе** быў карэспандэнт, **ні дзе** быў рэдактар*.

Асаблівай увагі патрабуюць незалежныя клічныя і пытальныя сказы з адмоўнай часціцай *не* (часта са словам *толькі*) і даданыя сказы з уступальным адценнем значэння, у якіх часціца *ні* выкарыстоўваецца для ўзмацнення сцвярджальнага сэнсу. Параўнаем: *Куды толькі Сымон не звяртаўся!* (маецца на ўвазе 'звяртаўся ў шматлікія месцы') і *Куды толькі Сымон ні звяртаўся, усюды сустракаў абыякавасць*.

Бывае складана распазнаць у даданых сказах спалучэнні *хто б ні*, *што б ні*, *дзе б ні* (у складзе якіх ёсць часціца *ні*, што прымыкае да суадноснага слова) і спалучэнні *хто б не*, *што б не*, *дзе б не* (у складзе якіх ёсць часціца *не*, што адносіцца да выказніка). Параўнаем: *Доктар дапамагаў усім, хто б да яго ні звяртаўся. Відаць, сярод вяскоўцаў няма нікога, хто б да доктара не звяртаўся за парадай. Дзе б ты ні быў, памятай, сынок… На нашай зямлі няшмат знойдзецца сямей, дзе б не было ахвяр вайны.*

Часціца *ні* пішацца ў клічных сказах са сцвярджэннем нечага 'ўсё роўна кім'. Напрыклад: – *Хто вам гэта паведаміў? – А хто б ні паведаміў!*

У новай рэдакцыі "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" вызначаны асноўныя выпадкі напісання часціцы *ні*.

*Ні* пішацца разам:

у займенніках, калі *ні* не аддзелена ад займенніка прыназоўнікам: *ніхто*, *нішто*, *нікога*, *нічога*, *ніякі*, *нічый*, *ніякаму*, *нічыйго*, *нічыім*; але: *ні ў кога*, *ні ў якім*, *ні ў якія*, *ні да чаго*, *ні да каго*;

у прыслоўях *ніколі*, *нідзе*, *нікуды*, *ніадкуль*, *ніяк*, *нікольні*, *нічуць*, а таксама ў вытворных словах: *нічыйны*, *ніштаваты*, *ніякавата*, *ніякаватасць*;

у слове *нібы* (*нібыта*).

*Ні* пішацца асобна перад выказнікам у дадатных частках складаных сказаў, калі служыць для ўзмацнення сцвярджальнага значэння: *Як ні гне мароз, ні гладзіць, але нічога не парадзіць* (Якуб Колас); *Дзе б ні быў я, Мінскам ганаруся*; а таксама ва ўстойлівых узмацняльных зваротах: *што ні кажы*; *з кім бы то ні было*; *што б там ні было*.

**Увага!** *Ні* пішацца асобна ў выразах: *ні кроку далей!*; *на вуліцы ні (ані) душы*; *што ні кажы, а ехаць давядзецца*; *ні мур-мур*; *хто б там ні быў*; *які б там ні быў*; *як бы там ні было*; *што б там ні было*; *ні ў якім разе*; *ні за што (на свеце)!*; *ні за якія грошы!*; *як бы ні было*; *які б ні быў*; *куды ні кінь*; *ні ўстаць ні сесці*; *ні ўзад ні ўперад, ні туды ні сюды*; *ні тое ні сёе*; *ні з таго ні з сяго*; *ні села ні пала*; *ні рыба ні мяса*; *ні за што ні пра што*; *без дай прычыны ні*; *адкуль ні вазьміся*; *ні жывы ні мёртвы*; *ні больш ні менш*; *ні складу ні ладу.*

*Працяг будзе.*

*Кладзі слова ў лад*

# КАБ НА СЛЫХ БЫЛО ПРЫЕМНА

Электронныя сродкі масавай інфармацыі для большасці людзей – найаўтарытэтнейшая крыніца звестак у сучасным свеце. СМІ, дарэчы, для многіх і эталон мовы. Пачутаму слову верацьа, што ўскладае дадатковую адказнасць на тых, хто рыхтуе эфір.

Галоўная задача журналіста, рэдактара СМІ – максімальна даступна і дакладна данесці інфармацыю да слухача, гледача самай шырокай разнаўзроставай аўдыторыі. Таму вельмі важна, працуючы ў СМІ, быць асобай дасведчанай і ўважлівай.

Практыка ж паказвае, што не ўсё ідэальна ў эфіры, у тым ліку і з пункту погляду мовы.

Мы спынім сваю ўвагу на мілагучнасці маўлення, таму што станоўчая або адмоўная ацэнка сказанага залежыць у многім ад "абгорткі", гэта значыць выбару сродкаў для паведамлення інфармацыі, асабліва ў вуснай форме.

Вуснае і пісьмовае маўленне, на першы погляд, падпарадкоўваюцца абсалютна аднолькавым правілам. Аднак пры пільным іх вывучэнні можна ўпэўніцца, што гэта не зусім так.

Калі мы чытаем, то, напрыклад, аднолькавыя склады, якія сустрэліся побач, можам нават не заўважыць, асабліва калі такі збег не выклікае пабочных асацыяцый: *Спартсмены гато**вы вы**ступіць на Алімпійскіх гульнях.* А паспрабуйце вымавіць гэты сказ. Збег аднолькавых складоў будзе "рэзаць вуха". Таму ў падобных выпадках асабліва пільнымі павінны быць работнікі электронных СМІ.

Прывядзем колькі прыкладаў такой немілагучнасці з тэкстаў радыёпраграм і прапануем шляхі вырашэння праблемы.

• Бывае, што побач апынаюцца **два аднолькавыя склады**: ***на на**радзе*, ***пра Пра**метэя*. Каб пазбегнуць такога паўтору, неабходна замяніць прыназоўнікі *на* і *пра* сінанімічнымі: ***падчас на**рады*, ***аб Пра**метэю*.

Сустрэліся і паўторы тыпу ***адн**ак **адн**ойчы*, *мно**га га**доў*. Выпраўляем такія памылкі таксама падборам блізказначных слоў: ***але адн**ойчы*, ***шмат га**доў*.

• *Бліз**ка ко**жнаму з нас.* У такім выпадку *блізка* лепш зрабіць поўным прыметнікам, дадаўшы галосны, каб не было **збегу падобных складоў**: *Бліз**кае ко**жнаму з нас.*

*…**Бо бы**лі выпадкі*, *…дзеянні а**бо бя**здзейнасць*. У гэтых кантэкстах *бо* і *або* лепш замяніць на сінонімы *таму што* і *ці*: *…**таму што бы**лі выпадкі*, *…дзеянні **ці бя**здзейнасць*.

*Зя**ця ці** зя**цё**ў* – у гэтым спалучэнні побач увогуле тры падобныя склады. Варта замяніць злучнік *ці* на блізказначны: *зя**ця або** зяцёў*.

• Часам сустракаецца збег складоў, якія цяжка вымавіць без даволі працяглай паўзы: *Паслуга платная, і даступна**я я**на абанентам усіх мабільных апаратараў*. У гэтым выпадку праблема вырашаецца так: *даступн**а я**на*.

Трэба адзначыць, што не заўсёды ўдаецца пазбавіцца ад непажаданага збегу складоў (*ехаць **па па**купкі*). Бывае, што змены, выпраўленні супярэчаць граматыцы або сэнсу, у такіх выпадках прыярытэт лепш аддаць сэнсу і граматыцы і пакінуць збег.

Тым, хто збіраецца абраць прафесію журналіста радыё ці тэлебачання і хто ўжо ў гэтай прафесіі, варта пільна сачыць за сваім маўленнем. Калі яно мілагучнае, уся ўвага слухачоў (гледачоў) будзе накіраваная на сэнс сказанага і не стане адцягвацца на маўленчыя памылкі.

**Вераніка БАНДАРОВІЧ,**
кандыдат філалагічных навук.

Святлана ВАСІЛЕВІЧ

# ТЭСТ ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

### Частка А

**А1.** Устанавіце адпаведнасць паміж падкрэсленымі літарамі і гукамі, якія яны абазначаюць. Адзначце нумар правільнага адказу.

А. Абезджу; В. знесці;
Б. з палёў; Г. з песні.

1) [з’]; 4) [ж];
2) [з]; 5) [с’].
3) [с];

1) А2Б3В1Г5; 4) А4Б3В1Г5;
2) А4Б5В2Г3; 5) А4Б2В1Г5.
3) А3Б4В2Г5;

**А2.** Адзначце пары слоў, у якіх націск служыць для адрознення іх лексічнага значэння:

1) ка́пнуць – капну́ць; 4) ля́сы – лясы́;
2) зага́сіць – загасі́ць; 5) па́ста – паста́.
3) сту́ліць – стулі́ць;

**А3.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару *а*:

1) др_вотня; 4) д_ўгакрылы;
2) д_браахвотна; 5) адр_сат.
3) м_ватворчы;

**А4.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару *я*:

1) абн_славіць; 4) жыцц_ўстойлівасць;
2) здзіўл_ны; 5) сённ_шні.
3) пам_ць;

**А5.** Адзначце прыклады, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару *ў* (нескладовае):

1) паглядзеў _ніз;
2) на _сю моц;
3) індывіду_м;
4) святочна-_знёслы;
5) чытаць “Новую зямлю” _ перакладзе.

**А6.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць апостраф:

1) кан_юнктывіт; 4) Дз_якаў;
2) батал_ён; 5) пяцібор_е.
3) вандроў_е;

**А7.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць дзве літары:

1) А_а (лл); 4) дзесяціго_зе (дд);
2) а_егчы (бб); 5) з радас_ю (цц).
3) адушаўлё_ы (нн);

**А8.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару *ж*:

1) кале_скі; 4) _жаць;
2) лядзя_; 5) прэсты_.
3) пераво_чык;

**А9.** Адзначце словы, у якіх напісанне вылучаных арфаграм заснавана на фанетычным прынцыпе:

1) Купа*лл*е; 4) *не* выдумаў;
2) *в*одгук; 5) поз*на*.
3) падра*д*чык;

**А10.** Адзначце словы, у якіх вылучаныя марфемы –канчаткі:

1) спазненн*е*; 4) задума*емся*;
2) мыц*ца*; 5) збок*у*.
3) сонечн*ым*;

**А11.** Адзначце антонімы:

1) жар – халодны;
2) многа – мала;
3) па-маладому – па-старэчы;
4) рэальнасць – фантазіраваць;
5) сабалёвы – сабаліны.

**А12.** Адзначце словазлучэнні, у якіх вылучаныя назоўнікі маюць правільныя склонавыя канчаткі:

1) грыбы з *бярэзніка*; 4) сустрэча ў *замку*;
2) прыгоды *лёсу*; 5) з *прыдзірай* Ленай.
3) сабрана ў *летапісу*;

**А13.** Адзначце словы, якія трэба пісаць праз злучок:

1) агра_лабараторыя; 4) байдарка_двойка;
2) віцэ_прэзідэнт; 5) Гусь_Хрустальны.
3) гоф_маршал;

**А14.** Адзначце словазлучэнні з адноснымі прыметнікамі:

1) звонкі голас;
2) беларускія лёгкаатлеты;
3) вучэбная кніга;
4) мядзведжы бярлог;
5) мядзянае лісце.

**А15.** Адзначце складаныя прыметнікі, якія трэба пісаць разам:

1) кругла_твары; 4) чыста_вымыты;
2) залаціста_жоўты; 5) нова_сібірскі.
3) мала_вядомы;

**А16.** Адзначце сказы з дзеясловамі загаднага ладу.

1) Слабому працягні руку, сляпому пакажы дарогу, падай акраец жабраку, суцеш малога і старога.

2) Глаша нарадзілася і вырасла ў Задольшчыне.

3) Так бы сядзець, маўчаць і глядзець на зачараваны азёрны прастор.

4) Не спыняйцеся, ногі, на пад’ёмах і схілах, углядайцеся, вочы, у новыя небасхілы!

5) Няхай дзіця ўбачыць, адкрые для сябе родныя вобразы прыроды, сваёй зямлі.

**А17.** Адзначце сказы, у якіх ёсць безасабовыя дзеясловы.

1) Прывялая канюшына пахла густа і чуць душнавата.

2) Грукатала артылерыя.
3) Закарцела прайсціся басанож.
4) Мне зноў не пашанцавала.
5) Дома не сядзелася.

**А18.** Адзначце сказы, у якіх вылучаныя словы трэба пісаць асобна.

1) *З_нізу* гэты лес кашлаты меў зелянюсенькія шаты.
2) Авалодаць крэпасцю *з_ходу*, як меркавала нямецкае камандаванне, ворагу не ўдалося.
3) Васіль аж дрыжаў: *па_вар'яцку* часта і шалёна закалацілася сэрца.
4) Ён бачыў, як мякка лілося запозненае святло з акна драўлянага доміка, аднесенага *ў_глыб* двара.
5) Няма *на_што* глядзець.

**А19.** Адзначце сказы, у якіх вылучаныя словы напісаны правільна.

1) Адзінокія птушыныя галасы *не ўтульна* гучалі ў гэтым урачыстым халодным маўчанні, якое перад прыходам зімы ўсё глыбей агортвала лес.
2) З мора вады *не выліць*, з песні слова *не выкінуць*.
3) На стале стыў *не даедзены* сняданак.
4) *Недаязджаючы* да вёскі, грузавікі спыніліся.
5) Тэзісы абароны былі *няўмольныя* і *неабверджаныя*.

**А20.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць *ні*.

1) Ён _ хвіліны не раздумваючы, не памятаючы самога сябе, вопрамеццю выскачыў з кабіны і патупаў у цемру.
2) Ад завеі _ было відаць агнёў нават недалёкіх вёсак.
3) Матчына слова маё! Я ў цябе не прашу _ славы, _ ўзнагароды.
4) Лёня _ можа _ прыйсці сёння.
5) Вялікая спякота, у бáрах і на танцпляцоўках збіраюцца людзі, каб ледзь _ да раніцы адводзіць душу.

**А21.** Адзначце словазлучэнні, у якіх сувязь паміж словамі – беспрыназоўнікавае кіраванне:

1) адрамантаваць тэлевізар;
2) выйшаў з хаты;
3) жаданне не адстаць;
4) заняць пасаду;
5) наша краіна.

**А22.** Устанавіце адпаведнасць паміж вылучанымі ў сказах словамі і іх сінтаксічнай роляй. Адзначце нумар правільнага адказу.

А. *Добра* пад бярозай!
Б. Адзін з сошкаю, а *сямёра* з ложкаю.
В. Дол *на грудку* штогод засеяны шышкамі.
Г. Ідзём у гэты свет з адкрытым сэрцам *адчуць* дыханне ветру і травы.

1. Дзейнік.
2. Выказнік.
3. Азначэнне.
4. Акалічнасць.
5. Дапаўненне.

1) А2Б1В3Г4;
2) А4Б1В5Г2;
3) А4Б1В3Г5;
4) А2Б1В5Г4;
5) А4Б1В5Г3.

**А23.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску абавязкова ставіцца працяжнік.

1) А найважнейшая тут мэта _ звярнуць з дарогі і да цёткі зайсці на час які кароткі.
2) Глыбіня басейна _ чатыры метры.
3) Адметнае дрэва _ дуб!
4) Возера ў сонечны дзень _ нібы люстэрка.
5) Станцыя _ хоць куды.

**А24.** Адзначце сказы, у якіх знакі прыпынку пры аднародных членах пастаўлены правільна.

1) Былі і радасці і хваляванні тут, узлёты і трывогі, мой родны, вечна юны інстытут, пачатак вашай і маёй дарогі.
2) Валодзька як сядзеў, так і не падымаўся.
3) Чалавеку, які ўлюблёны ў свой край, дарага ўсё: свіст тоненькай травінкі над схаваным між купін птушыным гняздом, ласіны след на заснежанай лясной палянцы, усплёск рыбіны на азоранай вадзе сцішанага возера.
4) У сінюю, бязмежную далеч бегла чыгунка.
5) Вось ужо дзе экзотыка і адпачынак, і спорт – усё разам.

**А25.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць коску.

1) Але хуткая вада круціць яго ва ўсе бакі_ як лёгкую трэску.
2) Гэта быў не хто іншы_ як Паўлюкоў Міхась.
3) "Псалтыр" вечна будзе жыць у гісторыі Беларусі_ як адна з самых дарагіх і непаўторных рэліквій.
4) Па-над белым пухам вішняў_ быццам сіні аганёк_ б'ецца, уецца шпаркі, лёгкі, сінякрылы матылёк.
5) Валодзька стаяў_ як зачараваны_ і ўсміхаўся.

**А26.** Адзначце сказы, у якіх набраныя курсівам словы трэба вылучыць знакамі прыпынку.

1) *Цёплы, насычаны вільгацію і пахамі траў* ветрык мякка абдзімае твар.
2) Ён *сялянскі сын* добра ведаў цану дажджавой кроплі.
3) Прысесці не было на чым, і яна чытала *стоячы*.
4) *Замест адказу* матчыны пальцы даволі блізка знаёмяцца з Міколкавым вухам.
5) А там *за возерам* пралегла роўненька чыгунка.

**А27.** Адзначце сказы, у якіх ёсць пабочныя словы, што трэба вылучыць коскамі.

1) Аказваецца брат прывёў да нас незнаёмага госця.
2) Без сям'і гаварыў Сухамлінскі не можа быць паспяховага выхавання.
3) Таму і сёння ў беларускіх сібіракоў ці сібірскіх беларусаў якая розніца! парэчкі называюцца

толькі парэчкамі, журавіны – толькі журавінамі, бульба – толькі бульбаю, а хата – толькі хатаю.

4) Усміхайцеся мае сябры гаварыце шумна, без упынку!

5) Адным словам пачатую справу трэба канчаць.

**А28.** Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць коску.

1) Апошні перавал_ і ўнізе вялізнаю дугою рассыпаліся тысячы агнёў.

2) Без канца можна ехаць па вясковых дарогах_ і не перастаць любавацца ўсім наваколлем.

3) Але матылёк быў адзін на цэлым свеце_ і толькі за ім цікавалі карычневыя вочы хлапчука.

4) У нядзелю, на досвітку, прыпаўзлі з захаду нізкія хмары_ і пачаўся страшэнны лівень.

5) Чужому навучайся_ ды свайго не цурайся.

**А29.** Адзначце складаназалежныя сказы, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць коску.

1) Адарвецца ад галінкі ліст і доўга шамаціць па сучках_ пакуль не ляжа на халодную асеннюю зямлю.

2) Бабёр плыў да самага берага, дзе пачыналася топкае_ і куды яны не любілі выходзіць.

3) Вышываны кісет там, дзе горы_ на святой зямлі грузін, каб ты ведаў, што і ў горы ты на свеце не адзін.

4) Яна думала, што_ каб Пеця быў недзе тут недалёка, у родным краі, і ваяваў сярод гэтага высокага жыта, у якім так лёгка схавацца, ці вунь у тым лесе, што відзён за Дняпром, то на душы ўсё было б куды спакайней.

5) Хоць і змяркалася, але я заўважыў_ што пад сценамі лесніčоўкі бялелі кветкі сунічніку.

**А30.** Адзначце бяззлучнікавыя сказы, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць двукроп’е.

1) Агледзеўшыся, зразумеў_ мінулай ноччу ў авёс наведваўся мядзведзь.

2) Госць на парог_ гаспадыня за пірог.

3) Раптам Ганна з жахам крыкнула, ускочыла_ між купін паўзла гадзюка.

4) Аляксей азірнуўся_ перад ім стаяў пяхотны старшына з загарэлым вясёлым тварам.

5) Плынь спакойная, чыстая_ на паверхні плавалі спрытныя маляўкі.

**А31.** Адзначце, які знак прыпынку прапушчаны пры афармленні простай мовы.

Колас нават на жарт сказаў дзеду Талашу:
Ану, давай паспрабуем, хто каго перацягне!

1) Двукроп’е; 4) кропка;
2) коска; 5) пытальнік.
3) працяжнік;

## Частка Б

**Б1.** Устанавіце адпаведнасць паміж назоўнікамі і іх характарыстыкамі.

А. Апілкі. В. Мачаха.
Б. Дабро. Г. Машкара.

1. Асабовы назоўнік.
2. Не мае формы адзіночнага ліку.
3. Назоўнік мужчынскага роду.
4. Зборны назоўнік.
5. Абстрактны назоўнік.

**Б2.** Знайдзіце састаўны колькасны лічэбнік і запішыце яго ў форме роднага склону:

1) дзевяноста; 4) утрох;
2) шэсцьсот сорак восьмы; 5) дваццаць.
3) пяцьдзясят чатыры;

**Б3.** Узнавіце сэнсавую адпаведнасць паміж беларускімі і рускімі фразеалагізмамі. Запішыце правільны адказ.

А. Нести ахинею. В. Паче чаяния.
Б. Не тут-то было. Г. Взять в толк.

1. Дзе там. 4. Малоць лухту.
2. Чаго добрага. 5. Дабраць розуму.
3. Несці крыж.

**Тэкст для заданняў Б4 – Б8**

1) Лес жыў звычайным зімовым жыццём. 2) І сляды гэтага жыцця можна было бачыць і тут, і там. 3) Вырабляючы на снезе самыя мудрагелістыя петлі, некуды праскакаў заяц. 4) Спяшалася, а таму, можа, не зусім старанна *замяла* за сабой сляды хітрая лісіца. 5) Цяжка і самавіта пратупаў у гушчар воўк. 6) Барабаніў гучна, заўзята ў сухаверхае дрэва дзяцел. 7) З галінкі на галінку пырхалі, аб нечым пісклява размаўлялі берасцянкі.

8) Не спыняючыся, Анісім бег і бег па дзіковых слядах. 9) Хлёсткія галінкі дрэўцаў балюча сцябалі яго па твары, па руках. 10) Ногі *спатыкаліся* аб пні і карэнне. 11) Але Анісім *нават* не заўважаў гэтага.

**Б4.** Ад асновы вылучанага ў 10-м сказе дзеяслова ўтварыце дзеепрыслоўе і запішыце яго.

**Б5.** Вызначце часцінамоўную прыналежнасць вылучанага ў 11-м сказе слова. Адказ запішыце ў форме назоўнага склону.

**Б6.** Знайдзіце ў тэксце аднасастаўны сказ. Вызначце яго від. Адказ запішыце ў форме назоўнага склону.

**Б7.** Дапішыце сказ.

Сродкамі сувязі 10-га і 11-га сказаў з’яўляюцца…

**Б8.** Вызначце, якім спосабам утворана вылучанае ў 4-м сказе слова. Адказ запішыце ў форме назоўнага склону.

**АДКАЗЫ**

**Частка А: А1.** 4; **А2.** 1, 4, 5; **А3.** 4, 5; **А4.** 1, 3, 5; **А5.** 2, 4, 5; **А6.** 1, 5; **А7.** 2, 4; **А8.** 1, 5; **А9.** 1, 2, 5; **А10.** 1, 3, 4; **А11.** 2, 3; **А12.** 2, 4, 5; **А13.** 2, 4, 5; **А14.** 2, 3; **А15.** 1, 3, 5; **А16.** 1, 4, 5; **А17.** 3, 4, 5; **А18.** 2, 4, 5; **А19.** 2, 5; **А20.** 1, 3; **А21.** 1, 4; **А22.** 1; **А23.** 1, 2, 5; **А24.** 2, 3; **А25.** 1, 2, 4; **А26.** 2, 4, 5; **А27.** 1, 2, 5; **А28.** 3, 5; **А29.** 1, 3, 5; **А30.** 1, 3, 4; **А31.** 3.

**Частка Б: Б1.** – А2Б5В1Г4; **Б2.** – пяцідзесяці чатырох; **Б3.** – А4Б1В2Г5; **Б4.** – спатыкаючыся; **Б5.** – часціца; **Б6.** – безасабовы; **Б7.** – злучнік, займеннік; **Б8.** – прыставачны.

*Рыхтуемся да алімпіяды*

# АНАЛІЗ МАСТАЦКАГА ТВОРА

## ЭКСТРАЛІНГВІСТЫЧНЫ КАМЕНТАРЫЙ МАСТАЦКАГА ТЭКСТУ

Пры аналізе мастацкага твора, пры напісанні водгуку часам недастаткова правесці толькі літаратуразнаўчы і лінгвістычны аналіз тэксту. Калі ў тэксце сустракаюцца разнастайныя геаграфічныя, этнакультурныя, грамадска-гістарычныя рэаліі пэўнай эпохі і іх найменні, то цэласны, комплексны аналіз твора не абыдзецца без так званага экстралінгвістычнага каментарыя.

Экстралінгвістычны (ад лац. *extra* – звыш, паза, *lingua* – мова) каментарый – гэта вытлумачэнне тых жыццёвых рэалій, абставін, гістарычных падзей, што згадваюцца ў творы, розных бакоў жыцця людзей той эпохі, якая апісваецца аўтарам. Экстралінгвістычны каментарый дапамагае асэнсаванню як асобных частак тэксту, дэталей, так і ўсяго тэксту. Паспрабуем паказаць гэта на прыкладзе паэтычных твораў вядомых аўтараў, у тым ліку твораў, якія прапаноўваліся для напісання водгукаў на абласных і рэспубліканскіх алімпіядах па беларускай мове і літаратуры для школьнікаў.

Узгадаем верш “Слуцкія ткачыхі” Максіма Багдановіча. У гэтым невялікім творы паказана паднявольная праца беларускіх жанчын, узятых у панскі двор ткаць паясы, прыгажосць роднай прыроды, перададзена ўсёпераможная сіла любові да Радзімы, непадуладнасць, неўміручасць народнага мастацтва.

Максім Багдановіч убачыў слуцкія паясы падчас першай паездкі ў Вільню ўлетку 1911 г. (прыгадаем, што верш “Слуцкія ткачыхі” быў напісаны ў 1912 г.). Як сведчыў бацька паэта, яны ўразілі Максіма – ён па некалькі разоў пераглядаў іх.

Нам вядома з гісторыі, што слуцкія паясы ткалі на фабрыцы (персіярні) М. Радзівіла ў Слуцку ў 1758 – 1844 гг. Яны былі высокай якасці і набылі шырокую вядомасць, сталі ўзорам для іншых вытворцаў паясоў.

Спачатку адзінымі работнікамі, якія ткалі на слуцкай фабрыцы ўзоры на паясах, былі персы і туркі. І толькі потым ужо сталі “вербаваць” мясцовых ткачоў – або з прыгонных, або з мяшчан. Менавіта яны пачалі ўключаць у персідскія арнаменты элементы мясцовай флоры – васількі, незабудкі і інш. Гісторыя захавала імёны некаторых майстроў – мужчынскія імёны, а не жаночыя. Таму невыпадкова ўзнікае пытанне, чаму Максім Багдановіч даў свайму вершу назву “Слуцкія ткачыхі” і адлюстраваў працу паднявольных слуцкіх дзяўчат (у першай рэдакцыі верша чытаем : “Ад родных ніў, / ад роднай хаты / У панскі двор дзеля красы / Яны, бяздольныя, узяты / Ткаць залатыя паясы”), маладых жанчын, мацярок, адарваных ад дзяцей, сям’і (у другой рэдакцыі верша чытаем: “Ім не пабачыць роднай хаты, / Не ўчуць ім дзетак галасы, / Яны у панскі двор узяты / Ткаць залатыя паясы”). Думаецца, аўтар не мог не ведаць, што складанай тэхнікай выпрацоўкі шаўковых (залатабітных, срэбрабітных) паясоў займаліся мужчыны. Але менавіта праз жаночыя вобразы – вобразы дзяўчат, маладых жанчын – паэту ўдалося найбольш яскрава, выразна паказаць лёс паднявольных людзей, іх гора і смутак, павялічыць кантраст паміж бязрадасным жыццём у няволі і радаснымі малюнкамі роднай прыроды, адарванасць ткачых ад родных хат, сям’і, мацярок ад дзяцей і тым самым узмацніць сацыяльную завостранасць твора, а таксама душэўную пранікнёнасць, глыбокую сардэчнасць.

Дарэчы, абедзве рэдакцыі верша “Слуцкія ткачыхі” цудоўныя і цяжка сказаць, якая з іх лепшая. Першая, напэўна, больш лірычная, другая больш сацыяльна завостраная. Адна рэдакцыя дапаўняе другую і паказвае (асабліва пры іх параўнальным аналізе), як удумліва, уважліва працаваў М. Багдановіч над паэтычным словам, над мовай і ідэйным зместам твора.

Экстралінгвістычны каментарый дапамагае асэнсаваць некаторыя радкі яшчэ аднаго з самых палымяных, высокапатрыятычных твораў М. Багдановіча – верша “Пагоня”. Прыгадаем радкі з твора: “Толькі ў сэрцы трывожным пачую / За краіну радзімую жах, – / Ўспомню Вострую Браму святую / І ваякаў на грозных канях”.

У тэксце сустракаемся з такім паняццем, як *Вострая Брама святая*. Што гэта за Брама і чаму аўтар называе яе святой?

Вострая Брама – адна з дзевяці брам гарадской сцяны ў Вільні (Вільнюсе), якая захавалася да нашых дзён. Архітэктурнае збудаванне абарончага значэння пачатку XVI ст. Назву атрымала ад вуліцы клінападобнай формы, вострая вяршыня якой упіралася ў браму. У 1617 г. пад Вострай Брамай была пабудавана капліца, куды перанеслі цудатворны абраз Маці Божай Вастрабрамскай. Веданне гэтых фактаў абумоўлівае разуменне, асэнсаванне паняцця *Вострая Брама святая*.

У другой і апошняй строфах верша “Пагоня” чытаем: “Страдаўняй Літоўскай Пагоні / Не разбіць, не спыніць, не стрымаць”.

Каб асэнсаваць змест твора, яго назву, неабходна раскрыць значэнне (значэнні) слова *Пагоня*, з якім сустракаемся ў вершы не адзін раз:

1) ‘праследаванне таго, хто ўцякае’; 2) ‘адзін чалавек або група людзей, якія праследуюць каго-небудзь’; 3) перан. ‘моцнае жаданне атрымаць што-небудзь, дабіцца чаго-небудзь; імкненне да чаго-небудзь’ (ТСБМ, т. 3, с. 497). Акрамя таго, нам вядома, што слова *пагоня* ўжываецца яшчэ з адным значэннем – ‘дзяржаўны сімвал, герб Вялікага Княства Літоўскага з другой паловы XIII ст.’ (выява ўзброенага рыцара на кані).

Назва “Літоўская Пагоня” – не чужая, не суседняя, яна нарадзілася на зямлі нашых продкаў. Вядома, што існаваў варыянт рукапісу верша “Пагоня”, дзе рукою аўтара было напісана “Старадаўняй Крывіцкай Пагоні…”.

У вершы М. Багдановіча слова *пагоня* – ключавое, апорнае, яго семантыка значна шырэйшая за кожнае са значэнняў, што прыводзяцца ў тлумачальных слоўніках. Нават ведаючы ўсе гэтыя значэнні, не кожны зразумее змест страфы, твора, калі не ўлічыць экстралінгвістычныя фактары, не раскрые сэнсавую напоўненасць такіх слоў, як *старадаўняя*, *літоўская* (*крывіцкая*) *пагоня*.

Вобразы Пагоні, Старадаўняй Літоўскай Пагоні – сімвалічныя, яны дапамагаюць аўтару перадаць боль, трывогу за Маці-Краіну, за яе лёс і адначасова веру ў тое, што ніхто не зможа спыніць, стрымаць той сілы, якая пераможа ўсё на сваім шляху.

У якасці прыкладу разгледзім таксама верш “Праметэй” Максіма Танка:

*Каторы дзень я,*
*Збіўшыся з дарогі,*
*Ішоў па горных кручах і разлогах,*
*На паратунак страціўшы надзею.*
*І раптам знекуль голас Праметэя:*
*– Каго сюды нягода прывяла,*
*Дзе толькі чуць*
*Мой стогн*
*Ды крык арла.*

*А, чалавек!*
*Скажы, як там на доле:*
*Ці людзі задаволеныя доляй?*
*Ці згода і любоў жыве між імі?*
*Ці маеш цешыцца дзяцьмі сваімі?*
*Ці дорыць шчодрая зямля дары?*

*Ці ў хатах мірны мой агонь гарыць?*
*Чаму маўчыш?*
*Скажы, няўжо дарма я*
*Тысячагоддзі ў путах паміраю,*
*І мой агонь,*
*Вам дадзены, гаротным,*
*Для свету стаў пагрозаю смяротнай?*

*Маўчыш!*
*Ну што ж, вяртайся на свой дол…*
*Зноў, бачыш,*
*Кружыць нада мной*
*Арол.*

Пры аналізе гэтага твора нельга не ўзгадаць старажытную міфалогію. Паводле яе, Праметэй (грэч. ‘празорца’) – гэта тытан, які ненавідзеў тыранію, змагаўся за праўду, стаў на бок людзей у іх спрэчках з багамі, жорстка пакараны, пайшоў на пакуты, што цягнуліся тысячагоддзямі. Менавіта Праметэй прынёс людзям агонь і навучыў карыстацца ім. Таму гэты культ цесна звязаны з культам агню, старажытныя паданні прыпісваюць Праметэю выратаванне чалавечага роду ад пагібелі, ад гневу самога Зеўса. Выраз *праметэеў агонь* стаў абазначаць імкненне дасягнуць высокіх мэт, змагацца з засіллем зла. Веданне гэтых фактаў дапамагае правільна асэнсаваць галоўную думку твора, яго ідэйны змест.

Дададзім, што да вобраза тытана-змагара з даўніх часоў звярталіся паэты, мастакі, скульптары, кампазітары. І гэта невыпадкова: Праметэй – адзін з самых яркіх, высакародных персанажаў у грэчаскай міфалогіі, ён не страціў сваё значэнне праз стагоддзі. Пацвярджэннем таму – аднайменны твор Максіма Танка.

Экстралінгвістычны каментарый абавязкова павінен папярэднічаць і цэласнаму, комплекснаму аналізу верша “Песня кулікоў” таго самага аўтара. Гэты твор быў напісаны М. Танкам у канцы 1936 г. і адносіцца да так званага давераснёўскага перыяду творчасці паэта. Для таго каб зразумець яго ідэйны змест, нават проста асобныя радкі твора, неабходна прыгадаць некаторыя звесткі з гісторыі. Перыяд 1926 – 1936 гг. – час актыўных гістарычных падзей у Заходняй Беларусі: палітыка паланізацыі, забарона выкарыстання беларускай мовы ў афіцыйна-справавой і адукацыйнай сферах, настойлівая барацьба беларускага працоўнага люду за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне (прыгадаем косаўскі расстрэл 1927 г., кобрынскае вызваленне сялян 1933 г., паўстанне нарачанскіх рыбакоў 1935 г.). Менавіта пасля выступлення нарачанскіх рыбакоў супраць забароны ўрадам Польшчы свабодна лавіць рыбу ў возеры Нарач і быў напісаны верш “Песня кулікоў”. Водгулле гэтых гістарычных падзей знаходзім у радках твора:

*Час такі нядобры. З першых дзён марозу*
*Маладых нямала ў турмы павялі,*
*Шмат разоў, напэўна, шэрыя бярозы*
*След іх белым цветам ў полі замялі.*
*Каб далі вучыцца нам на мове роднай,*
*Ўсе мы дамагаліся грудзьмі…*

*Што мужык на працы?*
*Кажаш, у астрозе? Дзесяць год далі?!*

*– Я, стары, таксама з-пад страхі сялянскай,*
*Быў і там, дзе сёння твой гарue сын…*
*Шмат слядоў пакінуў на дарогах гразкіх,*
*На скрыпучых струнах белых палазін…*

Не абысціся без экстралінгвістычнага каментарыя і пры аналізе верша радкоў "Дуб філаматаў у Варончы" Алега Лойкі:

*Ды як не кожны кронаю не юнай*
*У неба ўзносіў ён напеў крылаты,*
*Галіны напінаючы, як струны,*
*Становячыся дубам-філаматам.*

Узгадаем, што філаматамі (ад грэч. *philomathes* 'аматар ведаў') называлі членаў тайнага таварыства Віленскага ўніверсітэта, якое існавала ў 1817 – 1823 гг. і аб'ядноўвала моладзь з Беларусі, Літвы і Польшчы. Яго членамі былі А. Міцкевіч, Я. Чачот, Т. Зан, А. Петрашкевіч, Ю. Яжоўскі, Ф. Малеўскі і інш. Асновай іх дзейнасці было культурна-асветніцкае развіццё: вывучэнне культуры беларускага народа, збіранне песень, паданняў, легендаў, апісанне абрадаў і звычаяў і інш. Цягам часу філаматы выпрацоўваюць і праграму палітычнай барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, выступаюць супраць феадальных абсалютысцкіх парадкаў.

Вобраз дуба ў вершы А. Лойкі сімвалічны, яго гісторыя цесна пераплятаецца з лёсамі філаматаў і таварыства ("Няхай і паваліла бліскавіца, / Распалавініўшы яго ў дзікунскім гневе…"). Але "прарасшы на стагоддзі" і ўзнёсшы свой "напеў крылаты", ён, гэты дуб, "як і любы з магутных не загіне, / Каб скрыпкай стаць для новых Паганіні". Дуб філаматаў у Варончы – сімвал магутнасці, велічнасці і ў той жа час нескаронасці лёсу, абставінам, сімвал повязі часоў і пакаленняў, талентаў і геніяў, няспыннага руху гісторыі.

Патрабуюць свойго каментарыя, асэнсаванне і такія паняцці і найменні, як *Альбуць* у вершы "Дарога ў Альбуць", *Белая Вежа* ў вершы "Роздум" Сяргея Законнікава, *квадры* (*маладзік, поўня, сход, ветах*) у вершы "Квадры" Адама Глобуса, *Оксфард*, *Луўр*, *Сарбона*, *Эйфель*, *Манмартр*, *Калізей*, *Палата* ў вершы "Ізноў цягнік памкнуўся на Парыж…" Навума Гальпяровіча, *Валапас* у вершы "Старэюць людзі, дрэвы і кусты…" Раісы Баравіковай.

Вядома, кожны чытач разумее, успрымае мастацкі тэкст з пазіцыі ўласнага вопыту, ведаў, але, зразумела, што лягчэй будзе ўспрымаць тэкст той, хто мае добрыя "фонавыя" веды, багаты чытацкі досвед і агульную навуковую падрыхтоўку. Для таго каб пазбегнуць павярхоўнага ўспрымання твора, яго зместу, важна ўлічваць тую гісторыка-філалагічную інфармацыю, якая можа быць у гэтым творы, і ўмець даць ёй адпаведны экстралінгвістычны каментарый.

**Наталля ЛОБАНЬ,**
кандыдат філалагічных навук,
дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства
БДПУ імя М. Танка,
**Аляксандр МЯЦЕЛЬСКІ,**
выкладчык кафедры беларускага мовазнаўства
БДПУ імя М. Танка.

*Метадыст прапануе*

Вера ЛЯШУК

# ВЫВУЧЭННЕ ТВОРЧАСЦІ АЛЯКСЕЯ ДУДАРАВА Ў ВЫПУСКНЫМ КЛАСЕ

*Заканчэнне. Пачатак у № 5.*

### "ЧОРНАЯ ПАННА НЯСВІЖА"

На першым уроку па вывучэнні гэтага твора Аляксея Дударава будуць вырашацца тыя ж задачы, што і на ўроку па п'есе "Князь Вітаўт". Можна гэтак жа даць класу кароткія звесткі пра жыццёвы і творчы шлях драматурга. Новай будзе частка ўступных заняткаў, звязаная са зместам паэмы і адметнасцю гістарычнага матэрыялу, пакладзенага ў яе аснову. Звесткі можна знайсці ў працах "Чорная дама Нясвіжскага замка" і "Нясвіж і Радзівілы" К. Шышыгінай-Патоцкай. Калі гэтыя працы даступны вучням, то можна асобным старшакласнікам прапанаваць падрыхтаваць паведамленні на тэмы: «Гістарычная аснова п'есы "Чорная панна Нясвіжа"», "Легенда пра Чорную даму Нясвіжа", "Прататып Бжэнкі". У адваротным выпадку адпаведную інфармацыю трэба будзе падрыхтаваць настаўніку. У аснову драматычнай паэмы "Чорная панна Нясвіжа" Аляксея Дударава пакладзена гісторыя кахання караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта Аўгуста і Барбары Радзівіл, яе каранацыя і смерць.

Барбара – дачка Юрыя Радзівіла. На 15-м годзе жыцця яе выдалі замуж за трокскага ваяводу Станіслава Гаштольда. Шлюб не быў шчаслівым і цягнуўся ўсяго 5 гадоў. Муж Барбары рана памёр. У 20 гадоў яна засталася ўдавою. Яе лічылі самай прыгожай жанчынай Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага. Смуглявая бландзінка

мела цудоўнай прыгажосці рукі, дзівоснага колеру вочы. Знешняя прыгажосць спалучалася з незвычайнай абаяльнасцю, элегантнасцю, сапраўднай каралеўскай высакароднасцю. Жыгімонт гатовы быў страціць карону, але захаваць каханне Барбары.

Пасля смерці жонкі Жыгімонт, на той момант вялікі князь літоўскі, праводзіў час у Вільні. Дом Барбары стаяў побач з каралеўскім замкам. Каралевіч хадзіў да яе, зрабіўшы таемны пераход. Пра ўзаемаадносіны Жыгімонта Аўгуста і Барбары загаварылі па ўсёй Рэчы Паспалітай. Сваякі прыгажуні з гэтай сітуацыі вырашылі атрымаць свае палітычныя дывідэнды. Радзівілы, Мікалай Чорны і брат Барбары Мікалай Руды, запатрабавалі ад Жыгімонта або ажаніцца з іх сваячкай, або не сустракацца з ёй. Той паабяцаў, што спыніць спатканні з каханай, аднак слова не стрымаў. Радзівілы запатрабавалі неадкладнага шлюбу. Жыгімонт згадзіўся, але папрасіў, каб шлюб быў тайнай да яго каранацыі.

Калі кароль памёр, яго спадчынніка тэрмінова выклікалі ў Кракаў. Маці ўжо шукала яму новую жонку, калі высветлілася, што ён жанаты. Бона Сфорца, маці Жыгімонта, робіць усё, каб Сойм не каранаваў Барбару. Каралеву падтрымліваюць прыдворныя. Толькі настойлівасць Радзівілаў, вернасць Жыгімонта Барбары перамаглі. У канцы 1550 г. адбылася каранацыя, але дні літоўскай прыгажуні былі ўжо злічаны. Яна дажывала іх у пакутах. Апоўдні 8 мая 1551 г. Барбара памерла. Два тыдні Жыгімонт не даваў пахаваць яе, увесь час быў каля катафалка, плакаў і цалаваў жонку. Перад смерцю Барбара папрасіла пахаваць яе ў Вільні, горадзе свайго дзяцінства. Душэўны боль не пакідаў караля да канца яго жыцця. Гэтыя падзеі знайшлі адлюстраванне ў п'есе "Чорная панна Нясвіжа" Аляксея Дударава. Аднак не толькі яны. Яшчэ і легенды.

Легенда пра Чорную даму Нясвіжа жыве больш за чатыры стагоддзі. І ў нашы дні вераць у прывід Нясвіжскага замка. Быццам бы ў 15 хвілін на першую таямнічая жаночая постаць пачынае абход пакояў. Яна плача па сваім загубленым жыцці і вялікім каханні, а праз пяць гадзін знікае. Гэта Барбара Радзівіл, якую кахаў Жыгімонт Аўгуст, а Сойм каранаваў. Маці даручыла таемнаму агенту атруціць нявестку. Ён прыгатаваў замест лекаў атруту, якая павольна звяла жанчыну ў магілу.

Кароль пасля смерці Барбары так сумаваў, што вырашыў з дапамогай алхімікаў выклікаць яе душу на спатканне. Тыя выклікалі прывід. Калі ён з'явіўся, то Жыгімонт забыўся на сваю клятву не дакранацца да прывіду, кінуўся да яго са словамі: "Басенька мая!" З таго моманту душа Барбары блукае сярод людзей. У знак жалобы па загубленым каханні перад жывымі яна заўсёды з'яўляецца ў чорным адзенні. Адзін з алхімікаў прадказаў Жыгімонту сустрэчу з жанчынай, вельмі падобнай да Барбары. Ёю аказалася кракаўская мяшчанка Барбара Гжанка. Жыгімонт нават збіраўся ажаніцца з ёю, але да шлюбу не дажыў.

Пасля смерці каханай жонкі кароль вырашыў увекавечыць яе ў творы мастацтва. Лічыцца, што абраз Маці Божай Вастрабрамскай у Вільні напісаны з партрэта Барбары Радзівіл. Спецыялісты знаходзілі ў выяве Божай Маці выразнае падабенства з ліцвінскай прыгажуняй. Віленская Мадонна не мае дзіцяці на руках. Барбара не пакінула нашчадкаў. У Мадонны на першым плане рукі. Імі таксама славілася прыгажуня з роду Радзівілаў. Добра было б, каб настаўнік паказаў выяву абраза класу.

Праблему аналізу паэмы "Чорная панна Нясвіжа" можна акрэсліць так. Настаўнік просіць скласці пытанні па гэтым творы, якія ён прааналізуе, сістэматызуе, вызначыць тыя, што сталі асабіста важнымі для кожнага вучня, каб раскрыць іх на ўроку-аналізе.

*Заданне на дом.* Скласці план драматычнай паэмы "Чорная панна Нясвіжа", запісаць яго ў сшыткі.

На ўроку-аналізе па творы настаўніку трэба вырашыць такія мэты: дапамагчы вучням усвядоміць аўтарскі погляд на праблему кахання, пазнаёміць з тэарэтычным паняццем *гістарычная драма*; выхоўваць у вучняў беражлівае стаўленне да кахання.

Твор складаецца з трох частак: "Смерць", "Каханне", "Вечнасць". У загалоўках акрэслены філасофскія праблемы. Назва першай часткі сэнсава супрацьпастаўляецца трэцяй, апошняя адмаўляе сутнаснае ў першай: смерць абазначае спыненне жыцця. Вечнасць – тое, што не мае пачатку і канца. А паміж імі каханне як найвялікшае пачуццё. Адметнасць кампазіцыі паэмы – парушэнне храналогіі падзей. Па логіцы твор павінен пачынацца часткай "Каханне", потым – частка "Смерць" і завяршацца трэцяй – "Вечнасць". У рэмарках аўтар надзвычай дакладны ў пазначэнні часу і месца дзеяння. Другая частка пачынаецца рэмаркай: "Вільня. 1543 год. Сад перад замкам Барбары Радзівіл". Гэтая дата – пачатак кахання Барбары і Жыгімонта. Перад часткай "Смерць" стаіць дата: "Нясвіж. Лета 1551 года. Замак Радзівілаў". Час і месца дзеяння ў частцы "Вечнасць" тады ж і тамсама, што і ў папярэдняй, толькі праз месяц.

Звернем увагу на назву паэмы. У якім значэнні тут выкарыстана слова *панна*? У кантэксце твора яно не абазначае маладую дзяўчыну з прывілеяваных колаў грамадства. Адзначым, што ў нясвіжскай легендзе яна названа дамай. Аляксей Дудараў не пайшоў за легендай і ў слова *панна* ўклаў ацэначнае значэнне. Праз яго перадаюцца аўтарскае стаўленне да гераіні, завастраецца ўвага на яе паэтычнасці, узнёсласці. Барбара жыве каханнем, у гэтым яе сутнасць. Пачуццё Барбары надавала сэнс жыццю Жыгімонта. Усё гэта знікла, калі каханай не стала. Барбара памерла фізічна, а кароль – духоўна.

*Хто вінаваты ў смерці закаханых?* Гэта каралева Бона, сваякі Барбары Радзівілы, гэта і Мнішак, тайны пасланец каралевы Боны. На жаль, яны не адчуваюць, які грэх узялі на душу, як і таго, што гэты грэх яшчэ паглыбляюць, падмяняючы Барбару Бжэнкай, арыгінал – дрэннай копіяй, пазбаўленай высокіх пачуццяў. Бжэнка – лялька ў руках каралевы Боны і выканаўцы яе волі Мнішка. Кракаўскай распусніцы было забаронена нават гаварыць і набліжацца да людзей, дазвалялася толькі спяваць любімую Барбарай беларускую народную песню “На моры вутачка купалася…”, усміхацца і ўсхліпваць.

*Які след у душах Радзівілаў і Мнішка пакінула трагедыя Барбары?* Мікалай Чорны і Мікалай Руды ўражаны сілай, глыбінёй і самаахвярнасцю кахання караля, яго болем па памерлай Барбары, але ўсяго праз месяц у іх на першы план выйшлі прагматычныя зацікаўленні, задаволеная пыха, што менавіта сястра стала каралевай. Радзівілы ўключаюцца ў злавесны спектакль з Бжэнкай, распрацаваны каралевай Бонай. Яго бяздумна, нават цынічна, рэалізоўвае Мнішак, не адчуваючы пагрозы для сябе.

Другая частка паэмы “Чорная панна Нясвіжа” пачынаецца маналогам Барбары. *Што зведала адна з найпрыгажэйшых жанчын роду Радзівілаў, “чаго не зведаць людзям”?* Барбара перажыла незвычайнае ўсёпаглынальнае каханне, якое стала яе сутнасцю і сэнсам жыцця.

*Якім было каханне прыгажуні з роду Радзівілаў і караля Жыгімонта Аўгуста?* Вялікае шчасце Барбары і вялікая трагедыя ў тым, што яе абраннік аказаўся вартым яе кахання. Для Жыгімонта Барбара не проста жанчына выключнага харастра, а тая адзіная, што дорыць шчасце і радасць існавання. Каханне для іх само па сабе найвялікшая каштоўнасць, у ім не існуе ніякіх прагматычных інтарэсаў, што найбольш пераканальна гучыць у дыялогу перад вянчаннем:

“Жыгімонт. Прымі нас, Усялітасцівы Божа…

Барбара. Прымі, як непадзельнае – Адно…

Жыгімонт. Прымі, як непадзельнае – Адно…

Барбара. Прымі нас, Усялітасцівы Божа…

Жыгімонт. Адна Душа. Адно Жыццё і Кроў.

Барбара. Ты ёсць Любоў, і мы цяпер – Любоў.

Жыгімонт. Ты ёсць Любоў, і мы цяпер – Любоў.

Барбара. Адна Душа, адно Жыццё і Кроў”.

*Чаму трагічнасць кахання Барбары і Жыгімонта паглыблялася, узмацнялася іх сацыяльным становішчам і нацыянальнасцю?* Жыгімонт – спачатку каралевіч, а затым кароль. У шлюбах венцаносных асоб не каханне правіла баль. На першы план выходзілі дзяржаўныя інтарэсы, палітычная мэтазгоднасць. Мела рацыю каралева Бона, калі гаварыла Барбары, што “каля трона не жыве каханне… А без кахання дзеці цяжка нараджаюцца… А калі народзіцца, дык хваравіты, кволы, худасочны… Па ўсёй Еўропе на пасадзе сядзяць убогія… Тыя, хто народжаны без кахання… і яны змушаны дзеля дзяржаўных інтарэсаў нараджаць сваіх дзяцей з нялюбымі… Выраджэнне, заняпад…” Такі лёс наканаваны і Жыгімонту. Усё ўскладнілася тым, што Жыгімонт пакахаў ліцвінку, якая заўсёды падкрэслівала сваё паходжанне ды была яшчэ з роду Радзівілаў. Звышзадачай для каралевы было не дапусціць іх набліжэння да каралеўскага пасаду. Для Радзівілаў жа Барбара была казырнай картай у барацьбе за прыярытэт Літвы ў Рэчы Паспалітай. Закаханым усё гэта было чужым. Яны проста кахалі. Са шкадаваннем Мікалай Руды канстатаваў: “Сястра не хоча быць каралевай. Яна хоча кахаць і быць каханай”. Ніякія аргументы маці не пераканалі і Жыгімонта. Ён катэгарычна заяўляе: “Мне Польшча без Барбары не патрэбна!”, “Я лепей адракуся ад кароны, чым ад яе”. Калі Жыгімонт быў гатовы вырачыся каралеўскага пасаду, то Барбара заплаціла за сваё каханне жыццём.

*Чаму толькі пасля размовы з Бонай Барбара прымае атруту, прысланую той праз Мнішка?* Барбара доўга супрацьстаяла націску, не хацела верыць, што яе любы гуляў з ёю ў каханне, быў няшчырым. Яна пратэставала супраць пазіцыі сваякоў здрадзіць Жыгімонту. Барбара не паставілася з даверам да расповедаў Мнішка пра любоўныя прыгоды Жыгімонта, які, маючы італьянскі тэмперамент, нібыта гатовы быў закахацца ў любую спадніцу, хоць атруту ад пасланніка Боны ўзяла. Яна не вельмі ўслухоўвалася ў тое, што гаварыла каралева пра дзяржаўныя

цяжкасці і абавязкі венцаноснай асобы перад тронам у стварэнні сям'і. Прыгажуні з роду Радзівілаў важна было пачуць праўду пра любоўныя прыгоды Жыгімонта. Барбара настойліва дапытваецца ў Боны: "Гэта праўда, што каралевіч Жыгімонт сам… сам паехаў да габсбургскай прынцэсы Кацярыны? Гэта праўда, што ён збіраецца стаяць перад ёй на каленях і казаць, што яна найцудоўнейшая ў свеце і што ён яе любіць?.." Бона ў адказ запэўнівае Барбару, што гэта праўда, і дадае: "Магу паклясціся на Бібліі…" У гэтым адказе каралевы была і мана, бо яна не сказала пра мэты візіту Жыгімонта ў Вену і пра прычыну, чаму гатовы перад прынцэсай стаць на калені і гаварыць ёй кампліменты. Жаданне каралевы паклясціся на Бібліі было для Барбары найвышэйшым аргументам сапраўднасці яе слоў. Выходзіць, яна памылілася ў Жыгімонце, выходзіць, што яна не каханая. Значыць, і жыць няма сэнсу: "Божа! Божа! Божа! / Пякельны жах з маёй душы здымі, / Даруй ты мне… і грэшную прымі…"

Далей Барбара прамаўляе тыя ж паэтычныя радкі, якімі пачыналася другая частка паэмы: "Баль адшумеў, і ціша наваккол…"

*Чаму Барбара, даведаўшыся праўду пра прычыну візіту Жыгімонта ў Вену, просіць у яго даравання і называе сябе грэшніцай?* Віна і бяда жанчыны ў тым, што яна ўсумнілася ў шчырасці і моцы кахання свайго абранніка, паверыла ў хлусню. Яе грэх у тым, што яна здзейсніла самагубства, прыняўшы атруту. Барбара была каранавана як жонка Жыгімонта насуперак жаданню Боны. У час гэтай працэдуры ў каранацыйных касцюмах закаханыя прамаўляюць тыя ж словы, якія гучалі пры тайным вянчанні. Яны дапоўнены толькі словамі Барбары: "Адна Душа, адно Жыццё і Кроў… / Няхай Твой грозны гнеў нікога не кране, / Даруй усім і ўжо апошняй – мне".

У час каранацыі жанчына ўжо ведала, што выпітая ёю атрута робіць сваю чорную справу, што дні яе шчасця з Жыгімонтам злічаны: "Я злу паверыла і грэшнай болей стала, / І не зямны, нябёсаў строгі суд / Абвесціць справядлівы свой прысуд… / Мой любы, ты даруй мне… / І мне не трэба раю… / Ніколі ад цябе не адыду, / Нават тады, калі ў нябыт сыду…"

*Чаму апошняя частка паэмы "Чорная панна Нясвіжа" называецца "Вечнасць"? Які сэнс заключаны ў такой назве?* Каханне Барбары і Жыгімонта было для абаіх бязмерным, усёпаглынальным і ўсёзамяняльным, яно не магло стаць мінулым. Убачыўшы караля пасля смерці жонкі ў Нясвіжскім парку, Мнішак усклікнуў: "Як ён кахаў яе!" Радзівіл Чорны запярэчыў прыдворнаму: "Ён не кахаў! Ён і цяпер кахае… Яшчэ мацней…" Сіла кахання такая моцная, такая палкая, што вярнула Барбару з таго свету, прымусіла стаць прывідам, ператварыцца ў Чорную панну, каб не дазволіць нікому падмяніць яе. Гэтага яна, абранніца Жыгімонта, нікому не магла дазволіць.

Паэма заканчваецца дыялогам Чорнай панны і Жыгімонта. У вусны прывіду ўкладзены тыя самыя словы, якія прамаўляла Барбара пасля балю ў парку каля яе віленскага палаца, дзе пачалося іх каханне. Гэтыя словы ў творы паўтараюцца тройчы і сведчаць пра неўміручасць кахання прыгажуні з роду Радзівілаў і караля Жыгімонта. Невыпадкова сучаснікі і наступнікі называлі іх пачуццё каханнем стагоддзя.

"Чорная Панна. Баль адшумеў і ціша навакол.

Жыгімонт. Каханая…

Чорная Панна. У чорным небе дрэмле ясны месяц.

Жыгімонт. Барба-а-а…

Чорная Панна. Абліты цьмяным срэбрам лес і дол.

Жыгімонт. Любая…

Чорная Панна. І болей не чутно птушыных песень.

Жыгімонт. Родная…

Чорная Панна. Усімі зоркамі мяне цалуе ноч.

Жыгімонт. Адзіная…

Чорная Панна. Ласкавы ветрык лашчыць, лашчыць грудзі…

Жыгімонт. Не пакідай мяне…

Чорная Панна. І гладзіць цемра мне павейкі воч.

Жыгімонт. Не пакідай…

Чорная Панна. Я зведаю… чаго не зведаць людзям.

Жыгімонт. Не пакідай…"

Пасля гэтага дыялогу Чорнай панны і Жыгімонта змешчана рэмарка драматурга: "Знікаюць у цемры". Знікаюць разам, каб жыць (цяпер дзякуючы і Аляксею Дудараву) у нашай памяці, у нашых душах, каб мы ўсведамлялі, што такое сапраўднае каханне, якое ўзвышае Яе і Яго, раскрывае іх хараство, высакароднасць, вернасць.

*Чаму для каралевы Боны было такім ненавісным каханне і шлюб сына з Барбарай?* Прычын тут шмат. Бона не любіла і баялася Радзівілаў, іх уплыву на грамадска-палітычнае жыццё ў Рэчы Паспалітай у час, калі не спынялася ўнутранае змаганне паміж Польшчай і Літвой за прыярытэтнае месца кожнай у дзяржаве. Барбара – ліцвінка. Яна годна несла любоў да той зямлі, дзе нарадзілася, дзе яе карані. Для Боны

Літва – дзікунскі край і яе насельнікі – дзікуны. Каралева заўсёды падкрэслівала ліцвінскасць Барбары. “Нікчэмнасць дзікае Літвы”, “літоўская змяя” – вось толькі некаторыя азначэнні-ацэнкі, дадзеныя Бонай абранніцы сына. У іх выявілася і пагарда яе, італьянкі, да Літвы і ліцвінаў, дзе моцнымі былі паганскія звычаі, якіх прытрымліваліся не толькі сяляне, не толькі шляхта, але і магнаты. Была тут зайздрасць адной жанчыны да другой: прыгажосць Барбары ні ў каго не выклікала сумнення, ды і самой Боне, як вынікае з тэксту твора, не давялося перажыць такога пачуцця. Была тут і звычайная рэўнасць маці, калі сын сталее, а тая, што дала яму жыццё, адыходзіць на другі план. Бона ў адчаі вымушана прызнаць: “Яна адабрала яго ў мяне, яна адабрала яго ў Польшчы”. Сынава спасылка на Божы запавет “Ад маці-бацькі трэба адысці, і ўсёй душой да жонкі прырасці” – слабое суцяшэнне для Боны. Каралева і маці ўступае ў змаганне за караля і сына, каб навязаць яму свой выбар, нават не ўсведамляючы, што гэта заведамы пройгрыш: “Я сына ад цябе абараню! / Перад табой сцяна агню паўстане, / Або адыдзеш прэч, або цябе не стане”.

Бона не здольна зразумець, што Жыгімонту не трэба яе абарона.

*Якая мастацкая роля прыдворнага Мнішка ў паэме “Чорная панна Нясвіжа”?* Гэты персанаж пры Боне выконвае ролю тайнага агента і рэалізатара яе самых ганебных намераў і ўчынкаў. Для Мнішка характэрны цынізм, ілжывасць, гнюснасць і карыслівасць. Ён сочыць за каралевічам і інфармуе Бону. Прыдворны не вызначаецца маральнасцю і за грошы гатовы на любую подласць. Невыпадкова менавіта яго Бона выбірае для выканання свайго жахлівага плана – атруціць Барбару. Адзначым, што плата за гэта ў Мнішка вырасла са ста да дзевяцісот дукатаў. Бона накінула яшчэ сто за маўчанне. Яна менавіта яму даручае і авантуру з Бжэнкай. Мнішку гэтая авантура каштавала жыцця. Праз вобраз прыдворнага раскрываецца народны погляд на подласць, зло, карыслівасць, выказаны ў прыказцы: “Хто некаму яму капае, той найперш сам у яе трапляе”. Гэта зразумела нават Бжэнка. Яна пачала прасіць вызваліць яе ад выканання жудаснай ролі пры Жыгімонце. Не ўзяўшы ні капейкі, яна пакідае Нясвіж пехатой, каб толькі быць як мага далей ад таго месца, дзе чыніцца зло. Мнішак гэтага не зразумеў, таму менавіта яго першым карае прывід Барбары.

Твор “Чорная панна Нясвіжа” Аляксея Дударава вызначаецца вострым канфліктам, напружанасцю і драматызмам развіцця: змаганне ідзе паміж тымі, хто выступае носьбітам такога кахання, важнейшага за якое нічога няма на свеце, і тымі, хто яму супрацьстаіць. Да першых належаць Жыгімонт і Барбара. Другія прадстаўлены ў п’есе каралевай Бонай і выканаўцамі яе волі.

*Якое месца ў гэтым змаганні належыць сваякам Барбары Мікалаю Чорнаму і Мікалаю Рудому?* Хоць прыгажуня з роду Радзівілаў аднаму з іх прыходзіцца роднай, другому – стрыечнай сястрой, у іх да яе няма сваяцкіх пачуццяў. Браты Радзівілы жорсткія, бяздушныя ў адносінах да Барбары і пры яе жыцці, і пасля яе смерці. Сястру выкарыстоўваюць у палітычных мэтах. Праз яе яны плануюць закласці дынастыю венцаносцаў Радзівілаў, тым самым узвялічыць ролю Літвы ў Рэчы Паспалітай. Каралева Бона бароніць інтарэсы Польшчы, не лічачыся з пачуццямі сына, тое самае робяць і Радзівілы з сястрой. Яны з Бонай антыподы і аднадумцы. Радзівілы спачатку імкнуцца дамагчыся шлюбу Барбары з Жыгімонтам, а пазней – прызнання яе каралевай. Ва ўсіх учынках Радзівілы бязлітасныя і цынічныя. Сваю пазіцыю яны тлумачаць абаронай гонару роду, хоць гэта відавочная хлусня.

У заключэнні ўрока трэба пазнаёміць клас з тэарэтычным паняццем *гістарычная драма*. Для драмы характэрны напружаны канфлікт. На працягу вывучэння гэтага твора мы ў большасці выпадкаў называлі яго паэмай (такое вызначэнне даў аўтар). *Ці правамерна лічыць гэты твор драмай?* П’еса мае ўсе прыкметы драмы: напружанае скразное дзеянне, выразны канфлікт і яго развіццё, асэнсоўванне рэчаіснасці праз размовы дзейных асоб, адсутнасць прамых аўтарскіх ацэнак за выключэннем некаторых рэмарак, раскрыццё персанажаў твора праз учынкі, дзеянні, мову і ўзаемаадносіны.

*Прачытайце аўтарскую рэмарку “Дзейныя асобы” ў п’есе “Чорная панна Нясвіжа”. Чым найперш вызначаюцца вобразы твора?* Думаецца, вучні адзначаць, што большасць герояў п’есы – гэта гістарычныя асобы: Жыгімонт Аўгуст – польскі кароль, Барбара – магнатка Вялікага Княства Літоўскага, Радзівіл Чорны – нясвіжскі князь, Радзівіл Руды – ваявода, родны брат Барбары, Бона Сфорца – польская каралева, маці Жыгімонта. Нямногія з герояў п’есы выдуманы пісьменнікам па законах мастацкага праўдападабенства. Дадамо таксама, што ў аснову твора пакладзены канкрэтныя гістарычныя падзеі.

*Заданне на дом.* Падрыхтаваць вуснае разгорнутае выказванне на тэму «Праблема кахання і яе раскрыццё ў п’есе “Чорная панна Нясвіжа” Аляксея Дударава», а таксама ведаць, што разумеецца пад гістарычнай драмай.

Вольга ПРАСКАЛОВІЧ

# НАВУЧАННЕ ШКОЛЬНІКАЎ КУЛЬТУРАТВОРЧАСЦІ НА АСНОВЕ ЖАНРАВАГА ПАДЫХОДУ

## ЭПІЧНЫЯ ТВОРЫ

З улікам таго, што ў літаратурнай адукацыі вылучана новая парадыгматыка – арыентацыя на творчы падыход – далучэнне вучняў да розных формаў вучэбнай крэатыўнай дзейнасці набывае асаблівае значэнне. У беларускай методыцы літаратурнага навучання да апошняга часу адсутнічаюць спецыяльныя сістэмныя даследаванні ў галіне арганізацыі вучэбна-творчай дзейнасці школьнікаў. Толькі ў асобных публікацыях вучоныя (А. Белая, А. Бельскі, В. Івашын, М. Лазарук, М. Мішчанчук, В. Ляшук, В. Русілка, В. Руцкая, Л. Цітова і інш.) разглядаюць навучанне розным формам мастацкай творчасці з пазіцый асобасна арыентаванага, дзейнаснага падыходаў.

У адпаведнасці з канцэпцыяй літаратурнай адукацыі навучанне беларускай літаратуры на II ступені агульнай сярэдняй адукацыі павінна спалучаць жанравы падыход да пабудовы курса літаратуры з дзейнасным падыходам да арганізацыі вучнёўскай культуратворчасці. Родавымі і жанравымі асаблівасцямі твораў у значнай меры тлумачацца і методыка іх вывучэння, і спосабы творчай інтэрпрэтацыі.

У артыкуле прадстаўлены толькі адзін невялікі "фрагмент" гэтага працэсу – навучанне сямікласнікаў культуратворчасці пры вывучэнні празаічных твораў (раздзел "Цікавае і захапляючае ў звычайным, паўсядзённым"*).

Вучні могуць быць далучаны да літаратурна-мастацкай дзейнасці праз творчыя заданні, творчыя прыёмы, прадыктаваныя жанравай прыродай эпасу.

Традыцыйна методыкай прадугледжваюцца і шырока выкарыстоўваюцца ў практыцы літаратурнага навучання наступныя віды вучэбна-творчай дзейнасці школьнікаў: чытанне (выразнае, выбарачнае, каменціраванае, па асобах); складанне партытуры чытання невялікага эпічнага твора (або ўрыўка з яго); параўнанне ўласнай інтэрпрэтацыі з чытаннем майстрамі мастацкага слова; складанне плана твора і яго асобных закончаных сэнсавых частак; складанне характарыстык (індывідуальных, параўнальных, групавых) персанажаў; матывацыя ўчынкаў і высвятленне псіхалагічнага стану, думак і перажыванняў герояў; аналіз эпізоду, вобраза-персанажа, пейзажу, інтэр'ера, кампанентаў кампазіцыі; пераказы [сціслы, выбарачны, падрабязны, творчы, у межах творчага пераказу такія яго віды, як замена прамой мовы ўскоснаю, першай асобы трэцяю і наадварот (апошні від творчай дзейнасці называюць пераказам са зменаю асобы апавядальніка)]; мастацкае расказванне; стылістычны эксперымент; параўнанне некалькіх пунктаў погляду на твор ці на пэўны вобраз; абгрунтаванне ўласнай іх ацэнкі; тэматычнае, праблемнае, гісторыка-літаратурнае, тэарэтыка-літаратурнае параўнанне двух твораў; параўнанне літаратурнага твора з яго інтэрпрэтацыяй у іншых відах мастацтва; падбор і аналіз ілюстрацый да пэўнага эпізоду, твора; прайграванне ролі ілюстратара кніг; ацэнка спектакля або кінафільма (паводле вывучаемага твора) у жанры водгуку, рэцэнзіі; падрыхтоўка даклада (рэферата) з выкарыстаннем літаратуразнаўчых крыніц і інш.

У якасці прыёмаў, якія стымулююць літаратурную творчасць вучняў, можна прапанаваць складанне і расказванне апавядання; "дапісванне" сюжэта; разважанне пра далейшы лёс літаратурных герояў; стварэнне пейзажных і партрэтных замалёвак; напісанне старонак дзённіка (лістоў) літаратурнага героя, прадмоў (пасляслоўяў), анатацый да прачытанага твора; стварэнне кадраплана, сцэнарыя п'есы паводле эпічнага твора, мультымедыйных адукацыйных прадуктаў; абарона любімага твора ў форме ілюстрацыйнага аповеду** і г. д.

---

* **Лазарук, М.** Беларуская літаратура : вучэб. дапам. для 7-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / М. Лазарук, Т. Логінава. – Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2010. – 304 с.

** Заслугоўвае ўвагі ў гэтых адносінах вопыт М. Жуковіча [гл.: **Жуковіч, М.** Сучасныя педагагічныя тэхналогіі на ўроках беларускай мовы і літаратуры : дапам. для настаўнікаў устаноў, якія забяспечваюць атрыманне агул. сярэд. адукацыі / М. Жуковіч. – Мінск : Аверсэв, 2007. – 157 с. – (Бібліятэка настаўніка)].

*"Роднае слова" працягвае друкаваць часопісны варыянт раздзелаў дапаможніка "Вопыты літаратурнай творчасці: практыкум для 7 класа" **Вольгі Праскаловіч**, які рыхтуецца да друку. Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1 за 2011 г.*

*Камплект творчых заданняў да раздзела "Чарадзейная сіла мастацтва" апублікаваны ў №№ 1, 2 за 2011 г. Тэарэтычныя пазіцыі методыкі навучання відам літаратурна-творчай дзейнасці ў аспекце жанравага падыходу разгледжаны аўтарам на старонках часопіса "Роднае слова" № 4 за 2011 г. Практычная рэалізацыя методыкі навучання відам літаратурна-творчай дзейнасці ў аспекце жанравага падыходу на прыкладзе вывучэння паэтычных твораў прадстаўлена ў № 5 за 2011 г.*

*Поўнафарматны варыянт распрацоўкі і дадаткаў да яе можна знайсці на нашым сайце: www.rs.unibel.by.*

Пры гэтым важна, каб вучні разглядалі такія заданні перш за ўсё як спробу наблізіцца да загадак прозы, законаў яе стварэння.

### ЗМІТРОК БЯДУЛЯ. "НА КАЛЯДЫ К СЫНУ"

• Прачытайце ўзор кадраплана* "Паход Тэклі ў горад. Сустрэча" і самастойна складзіце свой варыянт (або падрыхтуйце серыю малюнкаў з падабранымі да іх цытатамі).

• У апавяданні "На Каляды к сыну" З. Бядулі вылучаюцца тры асноўныя эпізоды: 1) вясковае жыццё ўдавы Тэклі; 2) па дарозе ў горад да сына; 3) доўгачаканая сустрэча або марныя надзеі маці.

Паспрабуйце (на выбар):

а) зрабіць драматызацыю трэцяга эпізоду. Для гэтага вызначце дзейных асоб, змест рэмарак да першага дзеяння, першай і наступных з'яў гэтага дзеяння і г. д. Запішыце і аформіце сваю работу, якую пажадана выконваць у супрацоўніцтве;

б) скласці відэаролік на адзін з трох ключавых эпізодаў. Заданне пажадана выконваць у творчых групах.

Прыкладны план-алгарытм стварэння відэароліка: інтэр'ер (дэкарацыі), дзейныя асобы (партрэт, адзенне, жэсты, міміка), апісанне дзеянняў, кароткі змест дыялогаў, музычнае афармленне.

• Падрыхтуйце сцэнарый аднаго з урыўкаў твора, прытрымліваючыся наступных парад: аднавіце ў памяці змест эпізоду, па якім складаецца сцэнарый; вызначце дзейных асоб, удакладніце інфармацыю пра дзейных асоб (знешнасць, узрост, сацыяльнае становішча, паводзіны персанажа); апішыце месца, дзе і калі будзе адбывацца дзеянне; прадумайце дыялогі і маналогі дзейных асоб; складзіце тэксты рэмарак і рэплік герояў; выпішыце характарыстыкі дзейных асоб, зробленыя аўтарам; прадумайце дэкарацыі, касцюмы, музычнае афармленне і шумавыя эфекты.

• Зрабіце інсцэніроўку ўрыўка (на выбар) з апавядання**. Наладзьце калектыўнае абмеркаванне інсцэніроўкі, падрыхтуйце вусны калектыўны водгук.

### ЯНКА БРЫЛЬ. "СІРОЧЫ ХЛЕБ"

• З якімі фактамі біяграфіі Я. Брыля вы пазнаёміліся ў папярэдніх класах? Якія факты яго біяграфіі можна аднавіць з наступных слоў самога пісьменніка: «Данік з "Сірочага хлеба", вядома, не я, а тып, або заяўка на яго, мілы сябар майго дзяцінства, якога я зляпіў з многіх знаёмых хлопчыкаў, дадаўшы трохі свайго. Свайго найбольш – у Данікавай закаханасці ў польскую настаўніцу, якая была, якую я любіў, можа, нават мацней, чым напісаў пра гэта»***.

• Правядзіце міні-даследаванне і падрыхтуйце тэзісы вуснага выказвання па пытанні: "Чым блізкія лёсы самога пісьменніка і яго героя Даніка Мальца?"

• Уявіце, што вам трэба распавесці пра асобу Янкі Брыля: а) недасведчанаму слухачу, які чуе гэтае імя ўпершыню; б) дасведчанаму суразмоўцу, напрыклад свайму аднакласніку. Зрабіце два варыянты накідаў сваіх расповедаў. Чым будуць адрозніваца гэтыя варыянты?

• Прыміце ўдзел у віктарыне.

1) Дзе і калі адбываюцца падзеі ў аповесці?

2) Назавіце галоўнага героя твора.

3) Якія настаўнікі былі ў Даніка Мальца?

4) Хто быў Даніку Мальцу сапраўдным сябрам і духоўным настаўнікам?

5) Хто такі Мікола Кужалевіч?

6) Якія творы з беларускай і польскай літаратуры чытала дзецям пані Мар'я?

7) Якую кнігу пані Мар'я падарыла Даніку?

8) За што Данік быў выключаны са школы?

• Разгадайце крыжаванку.



Пытанні да крыжаванкі:

1. Да якога жанру можна аднесці твор Янкі Брыля "Сірочы хлеб"?

2. Як звалі любімую настаўніцу Даніка?

3. Пра каго гаварыла ўся вёска: "Панскі падлізак"?

---

* **Логінава, Т.** Беларуская літаратура ў 7 класе : дапам. для настаўнікаў, якія забяспечваюць атрыманне агул. сярэд. адукацыі, з бел. і рус. мовамі навучання / Т. Логінава, Т. Мароз. – 2-е выд., перапрац. – Мінск : Сэр-Вит, 2007. – 336 с. – (Майстэрня настаўніка).

** Кадрапланы, сцэнарый, прапанаваныя аўтарамі дапаможніка для настаўнікаў, з'яўляюцца своеасаблівым алгарытмам выканання такіх заданняў і выконваюць пры гэтым функцыю эталонаў для вучнёўскай літаратурна-мастацкай самадзейнасці.

*** **Брыль, Я.** Думы ў дарозе / Я. Брыль // Пяцьдзясят чатыры дарогі : аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў / склад. Я. Казека. – Мінск, 1963. – С. 62.

4. Якую крыўдную мянушку меў Данік?
5. Як звалі маці Даніка?
6. Якую мянушку далі вучні Дулембу?
7. Кнігу якога пісьменніка падарыла пані Мар'я Даніку? Назавіце прозвішча.
8. Які твор Цёткі чытала пані Мар'я вучням?
9. Як звалі старэйшага сябра Даніка?

*Словы-памочнікі:* Мар'я, Зося, Прус, жабрак, Цаба, аповесць, павук, Мікола, "Міхаська".

#### ІВАН НАВУМЕНКА. "ЖУЛЬ ВЕРН"

• Знешні партрэт герояў І. Навуменкі ў творы адсутнічае. Вусна (пісьмова) намалюйце партрэт хлопцаў-аднакласнікаў, раскажыце, якімі яны вам бачацца. Звярніце ўвагу на дэталі, што дапамагаюць вам "дамаляваць" іх партрэт. Як вы думаеце, чаму ў апавяданні няма дэталёвых і падрабязна выпісаных партрэтаў дзейных асоб?

• Уявіце вобраз аўтара-апавядальніка па наступнай самахарактарыстыцы: "…люблю фантазію і таямнічасць…"

• Пазнайце герояў па наступных апісаннях і ўпішыце прапушчанае слова.

а) "…Чырванашчокі мацак ___, які лятаў зімой у расхрыстаным кажушку, а засопшыся, праганяў смагу кавалкам лёду", "грыз лёд, як цукар", мог нават босым гадзіну гуляць па лёдзе, і "ніякая хвароба яго не брала", "насіўся па замерзшай рачулцы на сваіх дзеравяшках з ранку да вечара і, здаецца, мог бы там і начаваць", "але варочацца пад вечар дамоў ___ прымушалі некаторыя прычыны: трэба было пад'есці, які б смачны ні быў сіняваты лёд са срабрыстымі вочкамі застыглых у ім бурбалак, але без падмацавання бульбай ___ жывот ныў і бурчаў, а ногі пачыналі пруцянець…" "На навуку ___ налягаў не вельмі і ўрокі вучыў збольшага. Таму ў яго заўсёды было многа вольнага часу, якім ён распараджаўся як хацеў". "___ ляніва ўставаў з самай задняй парты, за якой ён сядзеў, і медзведзяватай паходкай ішоў праз увесь клас да карты". ___ лічыў слабейшых за сябе "непаўнацэннымі, і ___ без лішняй далікатнасці заўсёды аб гэтым напамінаў" і насміхаўся з іх, "рагатаў на ўсё горла".

б) ___ старанна вучыўся, вельмі любіў чытаць. Кнігі для яго былі найлепшымі сябрамі. Асабліва ___ падабаліся кнігі пра падарожжы, у якіх герояў "вядзе ў нябачаны свет нейкая нястрымная прага да новага, нязведанага, неапісанага". Такімі былі кнігі французскага пісьменніка Жуля Верна, дзякуючы якому "рана пачаў вандраваць па свеце. Для гэтага не трэба было ні караблёў, ні цягнікоў, ні цягавітых мулаў. Хапала адной фантазіі".

в) "Нічога асаблівага не знаходзіў я ні ў яго знешнасці, ні ў адказах, ні нават у ведах. ___, на першы погляд, выглядаў бесклапотным рагатуном, якому проста шанцавала". Вылучала ___ з ліку іншых "нястрымная і ненасытная цікаўнасць".

***Дзённік назіранняў***

• Прыгадайце кульмінацыйны момант у творы і падкрэсліце, пры дапамозе якой мастацкай дэталі перададзены стан душы героя ў гэтай сцэне. Прасачыце, як пры дапамозе апісанняў перажыванняў, эмацыянальных станаў, пераходаў настрою пісьменніку ўдалося перадаць напружанасць падзей: адразу, як "Рэю быў нанесен удар у самае сэрца", "яго спецыяльна зачэплівалі, падкалвалі, але ён маўчаў, як быццам не было ні кнігі, ні палявання за ёй". Андрэю было вельмі крыўдна, да слёз: "…ледзь-ледзь задрыжала яго верхняя губа, і ён адвярнуўся, каб не паказаць сваіх слёз". Андрэй усё ж такі трымаўся мужна, выклікаючы павагу хлопцаў: "…з усімі тымі, хто памагаў выкрадаць Жуля Верна, ён размаўляў, як і раней, і ў голасе не чулася ні пагрозы, ні злосці. Гэтая высакароднасць з боку Рэя неяк абяззбройвала".

• У апавяданні "Жуль Верн" восем раздзелаў. Прыдумайце кожнаму з іх назву.

• Аповед у творы вядзецца ад імя аўтара, аднаго з галоўных герояў апавядання. Акрамя яго яшчэ ёсць два героі – суседскі хлопец Кірыла Бомзель і Андрэй Камінскі.

Падрыхтуйце творчы пераказ са зменаю асобы апавядальніка. Перакажыце ад імя Андрэя Камінскага (скарочана – Рэй або Комін, як звалі яго ўсе ў класе).

Пазнаёмцеся з памяткаю "Што трэба ведаць, каб зрабіць пераказ, памяняўшы асобу апавядальніка":

па-першае, ведаць погляды на жыццё, пераканання, думкі, усю біяграфію таго персанажа, ад імя якога будзеш пераказваць;

па-другое, неабходна ўяўляць, як ставіцца літаратурны герой да тых (таго), пра каго (што) будзе расказваць.

• Напішыце працяг апавядання пасля слоў: "Кірыла, дужы мой сусед, працуе настаўнікам, як і я. Шляхі нашы разышліся даўно, і, зрэшты, я мала аб ім ведаю…", уявіўшы, як мог бы скласціся лёс Кірыла Бомзеля.

• Самастойна прачытайце апавяданне "Настаўнік чарчэння" І. Навуменкі. Чым падобныя вобразы настаўнікаў з апавяданняў "Жуль Верн" і "Настаўнік чарчэння". Знайдзіце ў тэкстах апісанні іх знешнасці. Якія мастацкія дэталі дапамагаюць зразумець характары Антона Антонавіча і Апалінарыя Феакціставіча?

***Дзённік назіранняў***

• Паспрабуйце вызначыць, з дапамогай якіх сродкаў знешняй экспрэсіі – усмешак, позіркаў, жэстаў, інтанацый – пісьменнік раскрыў вобразы персанажаў:

а) Антон Антонавіч Струк – "географ таропка ўвайшоў у клас, шпурнуў на стол туга напакаваны жоўты партфель і, узяўшы рукі ў бокі,

арлiным позiркам акiнуў прыцiхлыя рады пяцiкласнiкаў”;

б) Апалiнарый Феакцiставiч – “з разгубленай усмешкай закрываў класны журнал”, “голас у яго быў слабы, прыглушаны, ён дрыжаў i зрываўся, але старога слухалi з затоеным дыханнем”, “падабалася ўзрушанасць старога настаўнiка, якi, хвалюючыся, вымаўляў незразумелыя звонкiя словы…”

Як праведзены аналiз дэталей знешняй экспрэсii дапамог вам зразумець хараство душ Навуменкавых герояў, асэнсаваць галоўнае, што яднала гэтых настаўнiкаў?

• Уявiце, што вам даручана аформiць вокладку кнiгi Iвана Навуменкi, у якой былi б змешчаны апавяданнi “Жуль Верн” i “Настаўнiк чарчэння”. Апiшыце, як выглядала б гэтая вокладка i чаму. Растлумачце, чаму вам бачыцца менавiта такая вокладка.

• Падрыхтуйце вусны (або пiсьмовы) разгорнуты адказ на праблемнае пытанне: “Якiм я бачу галоўнага героя апавяданняў Iвана Навуменкi?”, карыстаючыся лiтаратуразнаўчымi крынiцамi i сваiмi назiраннямi над вобразамi ў вывучаных i самастойна прачытаных творах пiсьменнiка. У якасцi эпiграфа выкарыстайце словы лiтаратуразнаўцы Л. Пiскун: “Навуменкаўскi герой iнтэлектуальна ўзброены: ён любiць кнiгi, разумее каштоўнасць ведаў…”

• Падрыхтуйце (на выбар) вуснае / пiсьмовае мiнi-сачыненне “Мой любiмы герой з апавяданняў Iвана Навуменкi”, у якiм ахарактарызуйце героя i выкажыце сваё стаўленне да яго; вуснае / пiсьмовае сачыненне-разважанне на тэму “Мой любiмы настаўнiк”.

***Дзённiк назiранняў***

• Паназiрайце за дэталямi знешняй экспрэсii – усмешка, выраз вачэй, позiрк, мiмiка, жэст, iнтанацыi – родных, знаёмых, таварышаў па класе, настаўнiкаў. Як гэтыя знешнiя дэталi дапамагаюць вам выявiць душэўны (унутраны) стан чалавека, яго перажываннi, думкi. Падкрэслiце, пры дапамозе якiх знешнiх дэталей партрэта (вочы, рукi i да т. п.) вам удалося выявiць пераходы настрою? перажываннi людзей? Паспрабуйце знайсцi дакладныя словы, каб перадаць гэтую гаму пачуццяў.

• Прачытайце са “Слоўнiка эпiтэтаў беларускай мовы”* мастацкiя азначэннi знешнiх дэталей партрэта (вочы, твар, позiрк, усмешка i да т. п.) i выкарыстайце iх у сваiм вусным (пiсьмовым) сачыненнi з элементамi апiсання знешнасцi вашых родных (мацi, бацька, сястра, брат), знаёмых, сяброў, настаўнiкаў (на выбар). Выберыце з прыведзеных азначэнняў тыя, якiя абазначаюць аб’ектыўныя прыметы i могуць быць выкарыстаны ў любым стылi.

Напрыклад, вочы: блакiтныя, вiльготна-цёмныя, вiльготныя, вiшнёва-чорныя, залатыя, калючыя, карыя, незвычайна ясныя, светлыя, сiнiя, чорныя, чысцютка-сiнiя, шэра-сiнiя, шэрыя, шэрыя з зелянiнкай, яркiя, ясныя, амаль бясколерныя, выцвiлыя, пабляклыя, празрыстыя i г. д.

***Алгарытм сачынення-апiсання знешнасцi чалавека.***

1. Уступ.

Агульнае ўражанне ад прадмета апiсання, якое перадае асноўную думку.

2. Галоўная частка, у якой раскрываецца асноўная думка.

Састаўныя часткi апiсання знешнасцi: а) фiгура, пастава, выгляд, валасы, вочы, нос i г. д.; б) дзеяннi, рухi, звязаныя з характарыстыкай састаўных частак апiсання.

3. Заключэнне. Вывад пра чалавека, знешнасць якога апiсваецца.

• Перад вамi партрэт хлопчыка, якi ўбачыў добры ўчынак**.

Як вы рэагуеце на такiя ўчынкi? Паспрабуйце з дапамогай малюнка слоўнага (вобразнай, схематычнай, графiчнай вiзуалiзацыi) стварыць свой партрэт у момант назiрання за дабрынёй. Назавiце мастацкiя азначэннi, з дапамогай якiх можна апiсаць знешнасць добрага чалавека.

• Падрыхтуйце выразнае чытанне ўрыўка, якi найбольш вам спадабаўся, папярэдне распрацаваўшы маўленчую партытуру тэксту.

#### МIКОЛА ЛУПСЯКОЎ. “МЭРЫ КЭТ”

• Аповед у творы вядзецца ад iмя галоўнага героя Антона Бубнова. Падрыхтуйце творчы пераказ са зменаю асобы апавядальнiка. Перакажыце ад свайго iмя першы раздзел апавядання.

• Складзiце план апавядання i прыдумайце назвы кожнай часткi.

• Цi можна назваць наступныя радкi: а) “Я люблю таксама восень з яе першымi яснымi днямi, дажджом, з першымi замаразкамi i маразамi. А зiма! А першы снег! А iней на дрэвах i лёд на рацэ! I конь, запрэжаны ў санi, што iмчыцца некуды далёка па дарозе!”; б) “Я люблю вясну, калi з трэскам ломiцца на рацэ лёд i гаманкiя поўныя воды нясуць крыгi” лiрычнай прозай? вершам у прозе? Абгрунтуйце сваю думку. Паспрабуйце трансфармаваць (пераўтварыць) радкi, празаiчныя па форме, у паэтычныя.

• У апавяданнi “Мэры Кэт” расказваецца пра ўзаемаадносiны дзяцей, школьнае жыццё, першае каханне. Выпiшыце са зборнiкаў прыказак, афарызмаў выказваннi пра сяброўства, каханне.

---

* **Гаўрош, Н. В.** Слоўнiк эпiтэтаў беларускай мовы / Н. В. Гаўрош; пад рэд. Ф. М. Янкоўскага. – Мiнск, 1991.

** Iлюстрацыйны матэрыял змешчаны на сайце часопiса. – *Заўвага рэд.*

• Падрыхтуйце вуснае маналагічнае выказванне паводле афарызмаў (на выбар):

“Дзе праўда, там і шчасце” (прыказка);

“Шчасце людзей заключаецца ў тым, каб любіць справу, якую яны павінны рабіць” (К. Гельвецый);

“Ёсць два жаданні, здзяйсненне якіх можа скласці сапраўднае шчасце чалавека, – быць карысным і мець спакойнае сумленне” (Л. Талстой);

“Найвышэйшае шчасце ў жыцці – гэта ўпэўненасць у тым, што вас любяць, любяць дзеля вас саміх” (В. Гюго);

“Шчасце ёсць справа лёсу, розуму і характару” (М. Карамзін);

“Першы твой абавязак заключаецца ў тым, каб зрабіць шчаслівым самога сябе. Калі ты сам шчаслівы, ты зробіш шчаслівым і іншых” (Л. Феербах);

“Цаніце кожнае імгненне, кожны дзень жыцця – мо гэта і ёсць самая галоўная навука, сапраўднае шчасце” (В. А. Моцарт).

***Літаратурная гульня “Мантаж тэксту з россыпу слоў”.***

• З прапанаваных слоў “зманцiруйце” (г. зн. падбярыце і аб’яднайце часткі ў адно цэлае) тэксты прыказак пра каханне; запішыце іх, правільна расстаўце знакі прыпынку.

1. і нас калі любілі быў час
2. да травінкі хінецца вясной і травінка
3. рай мілым і ў шалашы з
4. і кашаль не схаваеш каханне
5. цешацца мілыя сварацца толькі
6. не сэрцу загадаеш
7. любіць той таго каго хто чубіць і

Праверце сябе:

1. Быў час, калі любілі і нас.
2. Вясной і травінка да травінкі хінецца.
3. З мілым рай і ў шалашы.
4. Каханне і кашаль не схаваеш.
5. Мілыя сварацца – толькі цешацца.
6. Сэрцу не загадаеш.
7. Хто каго любіць, той таго і чубіць.

• Падбярыце паэтычны або празаічны твор на тэмы (на выбар) “Сяброўства”, “Юнацтва”, “Каханне” і падрыхтуйце яго выразнае чытанне. Калі ёсць магчымасць, арганізуйце конкурс чытальнікаў.

***Памятайце!***

Чытанне твора (або ўрыўка) павінна быць выразным. Раскрыйце перажыванні герояў, перадаўшы аўтарскае стаўленне да іх, паказаўшы пісьменніцкую эмацыянальную ацэнку падзей.

• Ацаніце чытанне таварыша, зрабіце лагічны і інтанацыйны аналіз, вызначце, ці ўдалося чытальніку (з дапамогай якіх сродкаў?) перадаць характары герояў, іх думкі, пачуцці.

• Каханню прысвячалі вершы, карціны, рамансы. Сёння шырока вядомыя рамансы М. Рымскага-Корсакава, П. Чайкоўскага, М. Мусаргскага, С. Пракоф’ева, Г. Свірыдава. Праслухайце (па магчымасці) адзін з іх. Разгледзьце рэпрадукцыі карцін “Дзяцінства” С. Гарачава, “Дзяцінства” Э. Рымаровіч, “Юнацтва” М. Казакевіч (дадатак 11)*. Перадайце словамі (алоўкамі, фарбамі) вобразы, што з’явіліся ў вас пад уплывам розных відаў мастацтва. З дапамогай якіх сродкаў паэт, кампазітар, мастак дапамагае нам адчуць душэўны стан герояў? Пры дапамозе якіх спосабаў-прыёмаў Мікола Лупсякоў здолеў перадаць нам стан галоўнага героя? Якая мелодыя, на ваш погляд, можа дапамагчы адчуць перададзены ў апавяданні “Мэры Кэт” настрой эмацыянальнай прыўзнятасці ад пачуцця першага кахання?

#### АБАГУЛЬНЯЛЬНЫЯ ЗАДАННІ ДА ЎСЯГО РАЗДЗЕЛА

• Падрыхтуйцеся да вуснага (або пісьмовага) сачынення на тэму “Твор, які б я раіў прачытаць”, “Твор (апавяданне, аповесць), які дапамог мне лепш разабрацца ў сабе (сваіх таварышах, бацьках і г. д.)”.

• Напішыце разгорнутую анатацыю твора, які вам найбольш спадабаўся.

***Памятка.***

У анатацыі павінна быць наступная інфармацыя:

а) кароткія звесткі пра аўтара; б) сцісла, але аб’ёмна перададзены змест твора; в) аргументы, чым кніга будзе цікавая чытачу. Тэкст анатацыі мае быць не толькі пазнавальным, але і займальным, арыгінальным, каб зацікавіць патэнцыяльнага чытача.

• Распрацуйце эмблему прозы (схема, малюнак, герб, калаж, музычная кампазіцыя і г. д.).

• Складзіце сінквейн “Проза”.

***Слоўнік да задання***

*Сінквейн* – вершаваная форма (пяцірадкоўе), складзеная па пэўнай схеме:

1) ключавое паняцце;

2) два азначэнні, якія характарызуюць гэтае паняцце;

3) тры дзеясловы, якія паясняюць тэму;

4) фраза з чатырох слоў;

5) слова – сінонім да ключавога паняцця.

Прыкладны варыянт.

*Празаічны твор.*
*Падрабязны, цікавы.*
*Расказвае, паказвае, апісвае.*
*Адзінства мовы, сюжэта, кампазіцыі.*
*Эпас.*

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

---

* Ілюстрацыйны матэрыял змешчаны на сайце часопіса. – *Заўвага рэд.*

# КОМПЛЕКСНАЯ РАБОТА ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ І ЛІТАРАТУРЫ

## ЧАЦВЁРТЫ ЭТАП XXVII РЭСПУБЛІКАНСКАЙ АЛІМПІЯДЫ ШКОЛЬНІКАЎ

### IX КЛАС

**Заданне 1.** Даследчыкі адзначаюць, што побач з дзеканнем і цеканнем ёсць яшчэ і беларускае "секанне" і "зеканне". Растлумачце гэтую фанетычную з'яву, прывядзіце адпаведныя прыклады.

Максімальная колькасць балаў – 3.

**Заданне 2.** Вызначце лексічнае значэнне беларускіх і рускіх слоў у прыведзеных парах і ўкажыце тую з іх, лексічнае значэнне слоў у якой супадае ў абедзвюх мовах.

Максімальная колькасць балаў – 3.

| | |
|---|---|
| адсек – отсек | |
| люты – лютый | |
| вазок – возок | |

Лексічнае значэнне слоў супадае ў пары ______.

**Заданне 3.** Падбярыце беларускія адпаведнікі да запазычаных слоў.

Максімальная колькасць балаў – 7.

| | |
|---|---|
| прыярытэт | |
| сінхронны | |
| траўма | |
| вібрыраваць | |
| фіяска | |
| традыцыя | |
| контур | |

**Заданне 4.** Спалучыце нумары тоесных украінскіх і рускіх выразаў (напрыклад, 1 – 4) і падбярыце да іх беларускія адпаведнікі.

Максімальная колькасць балаў – 5.

| № п/п | Украінская мова | № п/п | Руская мова |
|---|---|---|---|
| 1. | Кожний Івась має свій лас. | 1. | С волками жить – по-волчьи выть. |
| 2. | Між який народ попадеш, того і шапку надівай. | 2. | Чем богаты, тем и рады. |
| 3. | Гірка праця – солодкий відпочинок. | 3. | В тесноте, да не в обиде. |
| 4. | Що маємо, тим і вітаємо. | 4. | Делу время, потехе час. |
| 5. | Хоч не пишно, та затишно. | 5. | На вкус и цвет товарищей нет. |

Правільны адказ: ______________________.

| Тоесная пара | Беларускі адпаведнік |
|---|---|
| | |
| | |
| | |
| | |
| | |

**Заданне 5.** Знайдзіце памылкі ў выказваннях, растлумачце, чым яны выкліканы. Запішыце выказванні правільна.

Максімальная колькасць балаў – 5.

1. Суд высветліў, што меў месца папярэдні зговар падсудных.

2. Двух цудоўных коней прывёў бацька на падворак.

3. Слаўную веху мы будзем адзначаць у наступным годзе.

4. На доччын дзень нараджэння прыйшлі ўсе яе сябры.

5. Мы перанеслі бульбу кошыкамі ў тры заходы.

**Заданне 6.** Назавіце часціну мовы па прыведзеным вызначэнні і запішыце яе граматычныя формы.

Максімальная колькасць балаў – 4 (1 – за названую часціну мовы, 3 – за граматычныя формы).

Гэтая часціна мовы ўказвае на асобу ці прадмет, якія ўтвараюць дзеянне самастойна, без чыёй-небудзь дапамогі ці ўдзелу.

Гэта ________ . Яе граматычныя формы: _______ .

**Заданне 7.** Складзіце са слоў два варыянты сказаў, у якіх прыметнікавы зварот адасабляецца і стаіць: 1) перад азначаемым словам; 2) пасля азначаемага слова.

Максімальная колькасць балаў – 4.

Бярозы, купчастыя, лясы, песціла, сінявокая, цеплыні, і, ласкі, далёкія, і, поўная, смуга.

1. ______________________________.

2. ______________________________.

**Заданне 8.** Узнавіце тэкст, уставіўшы прапушчаныя словы. Абгрунтуйце свой выбар.

Максімальная колькасць балаў – 5 (2 балы – за правільна ўстаўленыя словы, да 3 балаў – за абгрунтаванне).

На ўзбалотках,  
Выспах жураўліных  
Восень  
Прадавала журавіны.  
Поўнымі кашамі  
Прадавала…

Таргаваўся найпершым _______________,  
Ён прыглядваўся доўга, прымерваўся –  
Шкадаваў залатовак новых,  
Самай лепшай чаканкі, кляновых.  
Але ўсё ж раскашэліцца мусіў:  
– Забірай да лістка,  
Не скуплюся!..

Таргаваўся _______________ дасведчаны,  
Ён ад золата ззяў, бы расквечаны.  
Але знаў, што нядоўга такое –  
Захадзілі вятры талакою.  
Той – лагодны,  
А гэты сцюдзёны,

Як сустрэнуцца, –
Вэрхал шалёны!
Аніхто з іх не хоча паддацца.
Пачынаюць скубціся, ганяцца.
Абшарпаюць у мэтлух сарочкі,
З рук чырвонцы апошнія выхапяць,
Імі сцежкі празяблыя выгацяць.

____________________ жа,
Покуль дабіраўся, –
На імхі
Туман густы паслаўся.
Каб на доле ўбачыць журавінку,
Трэба прыглядацца безупынку.
Бедным не палічыш ____________________,
Золата ў яго
Заўжды багата.
Ён, як той купец,
Што меў кладоўкі,
Па зямлі рассыпаў залатоўкі,
І вятрыска іх,
Нібыта смецце,
Варушыў і размятаў па свеце.

Паводле М. Чарняўскага.

Абгрунтаванне: ____________________.

**Заданне 9.** Знайдзіце і закрэсліце два "лішнія" элементы ў кожным пераліку літаратуразнаўчых тэрмінаў і паняццяў. Адказ абгрунтуйце.

Максімальная колькасць балаў – 6 (па 1 бале за правільна вызначаныя тэрміны, 1 бал – за абгрунтаванне).

1. Партрэт, паэма, пейзаж, дыялог, апісанне, раман.

2. Жыцце, рэнесансны гуманізм, хаджэнне, летапіс, пераклады Бібліі, павучанне.

Абгрунтаванне: ____________________.

**Заданне 10.** Ніжэй пададзены тры цытаты. Дзве з іх узятыя з аднаго вядомага вам твора, трэцяя – з іншага. Прачытайце, адкажыце на пытанні.

Максімальная колькасць балаў – 8.

**Цытата 1:** «Доўга я гадаў і думаў, як сябе зваць, ці то палякам, ці то літоўцам, бо слова "тутэйшы" мне нексць не смакавала. І так колькі гадоў я хістаўся то на ту, то на другую старану, аж пакі не папала ў мае рукі "Дудка" Мацея Бурачка: яна то мне сказала, што хто гаворыць па-тутэйшаму, па-мужыцку, значыцца, ён гаворыць па-беларуску, а хто гаворыць па-беларуску, той беларус. Прачытаўшы тую "Дудку", я сказаў: "Дзякуй табе, Мацей Бурачок!"»

**Цытата 2:** «Братцы мілыя, дзеці Зямлі-маткі маёй! Вам афяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, да і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя "мужыцкай" завуць, а завецца яна беларускай».

**Цытата 3:** "Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек перад сананнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Пазнаюць людзей па гаворцы, ці па адзежы, хто якую носе; ото ж гаворка, язык і ёсць адзежа душы".

**Пытанні і заданні:**

1. Назавіце нумары цытат з аднаго тэксту.
2. Хто яго аўтар?
3. Як называецца тэкст, прадстаўлены дзвюма цытатамі?
4. У якой кнізе быў надрукаваны ўпершыню?
5. У якім годзе?
6. Якім псеўданімам была падпісана кніга?
7. Назавіце прафесію аўтара па-за літаратурнай творчасцю.
8. Хто з'яўляецца аўтарам трэцяй, не звязанай з вызначанымі ў папярэдніх заданнях, цытаты?

### ВОДГУК НА МАСТАЦКІ ТВОР

* * *

Як засмяецца сонца зямлі золатам раніцы – абзавецца горад кіпучай радасцю. Упартыя гудкі заводаў праспяваюць шырокую песню, мацней крыкнуць станцыі горлам машын, весела бразне недзе жалеза. Гэта так абзавуцца на зямлі людзі, і самі агорнуцца на новы дзень сваімі жыццёвымі думкамі.

Над глухімі кварталамі – вузкімі вуліцамі і малымі дамамі – крык гарадской раніцы пракоціцца зычней; у ім як бы жаданне схваціцца ў жартаўлівай барацьбе з гулкасцю палявой цішы, што падышла да самага горада. Тут ад яго хутчэй заварушацца людзі. Спяшаючы, яны адзяюцца. Галасы іх не так моцна зычаць, як у гэты час у вёсках, – можа, гэта густата сцен тут іх з'ядае…

Шырокі двор на рагу пятай ад канца горада вуліцы ажывае. З правага боку двара, з адчыненых заўсёды дзвярэй каменнага жоўтага дома выходзяць яшчэ заспаныя людзі. На процілеглым баку двара, у нізкім дзеравяным доме скрыпяць шэрыя дзверы. З ганка спускаецца адзін, выходзіць за вароты, хутка ідзе ў канец вузкіх вулачак, дзе чутно – спяваюць колы вагонаў і паравікі крычаць жалезам. І ва ўсёй постаці яго нешта такое, што гаворыць як бы аб нейкім захапленні ўсім.

Малады дзень спелым яблыкам глянуў на зямлю, наліў вастратою паветра, аблашчыў усё. А ў яго, маладога, з'яўляецца на твары ўсмешка.

Кузьма Чорны.

З апавядання "Бяздонне (Малюнак)", 1925.

### ДАВЕДКІ

**Заданне 1.**

Гэта шапялявае вымаўленне мяккіх зычных [с"], [з"] перад галоснымі [е], [ё], [я], [і], [ю]: сена, сёння, зямля, зіма і інш.

**Заданне 2.**

Правільны адказ: *адсек – отсек*: супадае ў 1-м значэнні ‘ізаляваная частка памяшкання’; 2-е – не супадае (бел.: адз. л., зак. трыв., пр. ч. дзеяслова *адсякаць*);

*люты – лютый*: лексічнае значэнне не супадае (бел. ‘1. злы, бязлітасны; 2. другі месяц года’; рус. – толькі 1-е значэнне);

*вазок – возок*: лексічнае значэнне не супадае (бел. ‘1. памянш. да *воз*; 2. лёгкія, спецыяльна абсталяваныя для выезду сані’; рус. – толькі 2-е значэнне).

**Заданне 3.**

Прыярытэт – *перавага*; сінхронны – *адначасовы*; траўма – *раненне*; вібрыраваць – *дрыжаць*; фіяска – *няўдача, паражэнне*; традыцыя – *звычай*; контур – *абрыс, межы*.

Каментарый: Дапускаюцца сінанімічныя эквіваленты, максімальна набліжаныя па сэнсе да прыведзеных адказаў.

**Заданне 4.**

Нумары тоесных пар: 1 – 5, 2 – 1, 3 – 4, 4 – 2, 5 – 3.

1. Кожний Івась має свій лас = На вкус и цвет товарищей нет = *Дзеду міла, а ўнуку гніла*; *Каму – як балота, а каму – як залота* і інш.

2. Між який народ попадеш, того і шапку надівай = С волками жить – по-волчьи выть = *Шыць – з шаўцамі, а выць – з ваўкамі*; *Сярод ваўкоў жыць – па-воўчы выць* і інш.

3. Гірка праця – солодкий відпочинок = Делу время, потехе час = *Перш папрацуй, а тады й патанцуй*; *Годзе цалавацца, пара і на хлеб старацца* і інш.

4. Що маємо, тим і вітаємо = Чем богаты, тем и рады = *Чым хата багата, тым і рада* і інш.

5. Хоч не пишно, та затишно = В тесноте, да не в обиде = *Цесна сядзець, ды добра глядзець* і інш.

Каментарый: 0,5 бала – за правільнае суаднясенне ўкраінскага і рускага выразаў; 0,5 бала – за правільны беларускі адпаведнік.

**Заданне 5.**

1. Суд высветліў, што меў месца папярэдні *згавор* падсудных.

2. Двух цудоўных *канéй* прывёў бацька на падворак.

3. Слаўную *вяхý* мы будзем адзначаць у наступным годзе.

4. На *даччы́н* дзень нараджэння прыйшлі ўсе яе сябры.

5. Мы перанеслі бульбу кошыкамі ў тры *заходы*.

Каментарый: У сказах 1, 2, 3, 4 памылкі выкліканы парушэннем акцэнталагічных норм сучаснай беларускай мовы, у 5 – неразмежаваннем акцэнталагічных паронімаў (*зáхад* – ‘апусканне сонца за гарызонт’, ‘напрамак свету’; *заход* – ‘асобнае дзеянне з тых, што паўтараюцца, могуць паўтарацца’).

**Заданне 6.**

Гэтаму вызначэнню адпавядае азначальны займеннік *сам* (*сама, само, самі*).

Граматычныя формы:

| | | |
|---|---|---|
| Н. *сам* | *само* | *сама* |
| Р. *самога* | *самой* | |
| Д. *самому* | *самой* | |
| В. *самога* | *само* | *самýю (-ý)* |
| Т. *самім* | *самой (-ою)* | |
| М. *(аб) самім* | *самой* | |

**Заданне 7.**

1) *Сінявокая смуга, **поўная цеплыні і ласкі**, песціла далёкія лясы і купчастыя бярозы.*

2) ***Поўная цеплыні і ласкі**, сінявокая смуга песціла далёкія лясы і купчастыя бярозы.*

**Заданне 8.**

Правільныя адказы: Верасень, Кастрычнік, Лістапад, Лістапада.

Каментарый: Назвы месяцаў у гэтым кантэксце (жанр казкі) з’яўляюцца імёнамі казачных герояў, таму павінны быць напісаны з вялікай літары; у адваротным выпадку варта знізіць колькасць балаў.

Абгрунтаванне: У якасці абгрунтавання могуць быць прыведзены наступныя аргументы: цэнтральны персанаж казкі – Восень, адпаведна яна “ўзаемадзейнічае” з асеннімі месяцамі; паслядоўна апісваюцца змены ў прыродзе, характэрныя для восені (у верасні – “новыя”, нядаўна пажаўцелыя кляновыя лісты; кастрычнік – увесь расквечаны золатам, з пераменлівым, ветраным надвор’ем; у лістападзе залатое лісце ўсцілае зямлю і вецер разносіць яго); адпаведныя назвы месяцаў падтрымліваюць рытмічны малюнак тэксту, ствараюць рыфму (*Верасень – прымерваўся*; *Лістапада – багата*).

**Заданне 9.**

1. *Паэма, раман* (вызначэнні жанру; іншыя словы абазначаюць спосабы і прыёмы раскрыцця мастацкага зместу ў творы).

2. *Рэнесансны гуманізм, пераклады Біблії* (характэрныя для эпохі Адраджэння; іншыя паняцці характарызуюць жанравую сістэму літаратуры Сярэднявечча).

**Заданне 10.**

1) 2 і 3; 2) “Прадмова”; 3) Францішак Багушэвіч; 4) “Дудка беларуская”; 5) 1891; 6) Мацей Бурачок; 7) адвакат (дапушчальныя таксама адказы *юрыст*, *судовы справавод*, *прысяжны паверaны*; такія звесткі сустракаюцца ў розных літаратуразнаўчых крыніцах); 8. Цётка (Алаіза Пашкевіч); магчымыя іншыя адказы пра псеўданімы Цёткі.

Каментарый: Апошняе пытанне выходзіць за межы Праграмы, таму з’яўляецца факультатыўным.

*Працяг будзе.*

Падрыхтавалі
**Вячаслаў РАГОЙША,**
**Аляксандр РАДЗЕВІЧ,**
**Ірына САВІЦКАЯ.**





*Вяртанне да вытокаў*

Анатоль СТАТКЕВІЧ-ЧАБАГАНАЎ

# РЭУТЫ ГЕРБА "ГАЗДАВА"



**Герб "Газдава" роду Рэутаў.**

Старажытны род Рэутаў пакінуў значны след у гісторыі Полацкай зямлі.

Як вынікае з архіўных матэрыялаў, карані яго ідуць з *"года тысяча дзевяностага, аднак ён павінен быць больш старажытным"*. Вядома, што ў XVIII ст. вылучылася мінская галіна роду, прадстаўнікі якой жылі каля Слуцка. Гэта мае прамыя продкі.

Падчас даследавання мне пашанцавала: у метрычных кнігах пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царквы, што добра захаваліся з канца XVIII ст., знайшоўся важны запіс: *"7 кастрычніка 1817 года бралі шлюб жыхар засценка Іздрашава, прыхаджанін чыжэўскай Пакроўскай царквы Самуіл Якаўлеў Корбут, 20-ці гадоў, і дачка жыхара засценка Залессе Аляксандра Рэута, Ірына, 15-ці гадоў. Сведкі – Павел Тарынскі і Якаў Рэут"*. Шлюб Самуіла і Ірыны быў засведчаны святаром Мацвеем Шпілеўскім у пагосцкай Срэценскай царкве.

Самуіл Якаўлевіч Карафа-Корбут – прадзед маёй бабулі Марыі Аляксандраўны.

*Часопісны варыянт выбраных раздзелаў з кнігі "Я – сын Ваш"* ***Анатоля Статкевіча-Чабаганава*** *друкуецца з № 4 за 2010 г.*

Знайшоўся запіс і пра нараджэнне будучай жонкі Самуіла Ірыны Аляксандраўны Рэут. Чамусьці пры хрышчэнні 13.07.1802 г. у пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве святаром Сцяпанам Прорвічам мая пра…прабабуля названа Аленай, хоць усё жыццё яе звалі Ірынай. Відаць, што быў пэўны недагляд і з боку хросных бацькоў дзяўчынкі – Мацвея Крышэвіча і Алены Тарынскай.

Ірына Рэут, у шлюбе Карафа-Корбут, пражыла ўсяго 34 гады, памерла ад ліхаманкі. Паспела нарадзіць ажно васьмярых дзяцей, і апошнім з іх быў мой прапрадзед Платон Самуілавіч Карафа-Корбут, пра што ёсць запіс у адной з метрычных кніг пагосцкай царквы Слуцкага павета: *"18 лістапада 1831 года нарадзіўся і ахрышчаны Платон. Бацькі: дваране засценка Залессе Самуіл Якаўлеў Корбут і Ірына Аляксандраўна (Рэут)"*.

Сярод продкаў Ірыны – Саламаніда Томкаўна Геталт, якая паходзіла, як і графы Тышкевічы, са знакамітага кіеўскага баярскага роду Каленікавічаў-Мішкавічаў. З гэтага роду ў другой палове XV ст. і ў пачатку XVI ст. выйшлі некалькі першаіерархаў праваслаўнай царквы: Грыгорый [Паўлавіч] – мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі, Іван [Каленікавіч] – архімандрыт Кіева-Пячэрскага манастыра (яго жонкай была княгіня Агаф'я Глінская), Яўфімій [Акушкавіч] – архіепіскап Полацкі, Анастасія – ігумення Полацкая (яе мужам быў Дзебра Каленікавіч, які загінуў у бітве з татарамі ў 1509 г.).

У XIV ст. род Каленікавічаў-Мішкавічаў уваходзіў у найбліжэйшае акружэнне вялікага князя Свідрыгайлы.

Род Рэутаў герба "Газдава" прызнаны ў дваранстве пастановай Віцебскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 11.02.1819 г., зацверджаны ўказам Герольдыі № 3496 ад 28.05.1828 г., дзе сказана: *"…происхождение сих же Реутов с 1420 года, в котором по составленному смотровому регистру и во время производимой Ягеллою ея критиками войны, Реуты упоминаются, а именно от Богдана Реута 1773 года генваря 28 дня в выводовом определении Полоцкого провинциального земского суда помещенные, каковые изъясняются 1580 года привиллегия короля Баторего*

*после забратия архива, во время нападения, по прошению полоцких послов гг. Оникия Корсака подкомория и Юрия Котовицкого чиновников полоцких с изъяснением причин пропажи всех крепостей воеводства Полоцкого в церкви Святой Софии сложенных, пожалованная при всех правах и свободах дворянских…*"

У той жа пастанове гаворыцца пра шматлікія ўладанні Рэутаў на Полаччыне, Віцебшчыне, Смаленшчыне, у Літоўскіх землях і нават у Кароне Польскай. Мелі яны адзіны герб "Газдава", які быў вядомы з 1140 г., атрыманы ў Польшчы за рыцарскія справы.

Гісторыя паходжання герба "Газдава" адносіцца да часоў Уладзіслава I (1080 – 1102), караля польскага. Тады жыў рыцар, у бітвах загартаваны, па імені Газдава. Сам кароль здзіўляўся яго адвазе і мужнасці і заўсёды памятаў пра яго подзвігі, а аднойчы за чарговы геройскі ўчынак пажалаваў простаму рыцару дзве сярэбраныя лілеі (сімвал каралеўскай улады) з тым, каб яны вечна ўпрыгожвалі яго герб, ахінаючы сваім нябесным святлом. Вось так і выглядае герб "Газдава": дзве лілеі – уверх і ўніз скіраваныя, звязаныя жоўтым паскам, складзеныя так канцамі, што адна з іх вылучаецца ў чырвоным полі, у нашлемніку – пяць паўлінавых пёраў і на іх таксама лілея…

У XVI – XVII стст. Рэуты вылучаліся значнымі пасадамі і мелі вялікі ўплыў на Полаччыне. Яны лічылі, што іх род паходзіць ад Монарта [Міхаіла] – харунжага вендзенскага, які меў шматлікія заслугі перад Айчынай, за што атрымаў прывілеі і ўзнагароды, у тым ліку і ад караля Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя. Знаходзіўся ў спісе рэвізіі полацкай шляхты за 1552 г.: "*Поведили люди двора Черевятского… Они жъ поведали… тые земли сынъ пана Станислава Глебовича, Миколай, продал заменину Полоцкому Михаилу Ревуту, а тот Ревутъ продалъ небожъчыку князю Конъстантыну Острожскому*".

Як відаць з тэксту, Монарт меў яшчэ адно імя – Міхаіл. Яго сыны таксама ўзгадваліся ў тым жа спісе рэвізіі: "*Подле тое городня… пановъ Михайловичов Реутовичов с Прудины*".

Аднаго з сыноў Міхаіла Рэута назвалі Анзельмам. Гэта вынікае з дакументаў дваранскага сходу, але з першакрыніц-метрык ВКЛ вядома, што ў яго было яшчэ адно імя – Грыгорый, бо ўжо яго сын згадваецца як Багдан Грыгор'евіч. Багдан быў шчаслівым бацькам шасці сыноў. Як вядома з дакументаў таго часу, яны былі "*абаронены зямельнай уласнасцю, якая дасталася як па бацькоўскай, так і па мацярынскай лініі, – маёнткі Рукшэнічы, Глыбокае, Хральковічы, Здановічы, Латыголь, Прудзіны, Сліяшчыніцы, Жарнікі, Вайлевічы, Дубеі, Сверзна, Набярэзне і Крупы ў Полацкім ваяводстве*".




**Справа Мінскага дваранскага сходу пра дваранскае паходжанне роду Рэутаў герба "Газдава".**

Багдан Рэут з жонкай Саламанідай Томкаўнай з Геталтаў пакінулі названыя маёнткі ў спадчыну сынам Грыгорыю, Раману, Мікалаю, Фёдару, Андрэю і Васілю. Пра жонку Багдана можна яшчэ дадаць, што яна была ўнучкаю Геталта (Андрэя) Каленікавіча, прапраўнучкаю Каленіка Мішкавіча, намесніка звенігародскага, пуціўльскага і северскага ў часы кіравання князя Свідрыгайлы.

Сыны Рэута неаднаразова судзіліся з Полацкім езуіцкім калегіумам за возера Цётча ў Полацкім ваяводстве, а яшчэ мой продак Мікалай разам з братамі аспрэчваў у 1592 г. у Полацкага езуіцкага калегіума правы на валоданне Спаскім Глыбокім. Гэтая частка сяла Глыбокае, па дэкрэце караля Стэфана ад 22.03.1584 г., раней належала полацкаму Спаскаму манастыру. Справу разглядаў кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт III, які пацвердзіў права на карыстанне езуітамі гэтай часткай сяла, але загадаў удакладніць межы і пэўную колькасць зямлі вярнуць Рэутам. Пры разглядзе гэтай справы прысутнічалі канцлер ВКЛ Леў Сапега і пісар ВКЛ Яраш Валовіч: "*А так мы, г(о)с(по)д(а)ръ, прослухавши тое справы, выдечы то, ижъ стороны колеиумъ Полоцко-*

**Старонка з сямейнага спіса шляхты Слуцкага павета за 1796 г., дзе пазначаны Ян Станіслававіч Рэут з жонкай Тэафілай Макавецкай – дзед і бабуля Ірыны Аляксандраўны Карафа-Корбут (Рэут).**

*го досыть достаточне право показалосе на село Спаское Глубокое, и сама то сторона сознавала, ижъ в тое село Глубокое не въступуютьсе, с тое прычины тое село Спаское Глубокое водле першого дэкрету продка нашого вечными часы до колеиумъ Полоцкого присужаемъ, и на увезанье в тое село Глубокое дворенина нашого тамъ зъсылаемъ. Ино ижъ спор былъ межи сторонами, естли бы тые вси селища, которые меновите в манъдате нашомъ [о]писаны, до того села Спаского Глубокого належали, [я]ко жъ з выписовъ [о]тъ [о]йцовъ езуитовъ покладаныхъ показалосе то, ижъ ихъ имъ Рэутове боронили, с тыхъ причинъ узнанье тое самое розницы на комисары нашы [о]тъсылаем, которые тамъ зъехавши на перед мають того догледети, если тые селища в манъдате нашомъ [о]писаны суть села Спаского Глубокого, и если Рэутове ку кривъде [о]тъцовъ езуитовъ вступуютьсе в то, што дєкретомъ продка нашого славное памети корол[я] его м(и)л(ос)ти Стэ[ф]ана звышъ помененымъ до колеиумъ Полоцкого присужоно, и за ихъ добровольнымъ поступеньемъ в держанье водле листу ув[а]жчого, перед нами покладаного, подано было, и, досмотревъши того, мають ихъ в томъ розъсудити и въси иные розницы зъ стороны кгрунтовъ и пожитковъ того села Спаского Глубокого межи ними успокоити. Што про паметь до книгъ нашыхъ канъцл[е]рэйскихъ естъ записано. На што и сесь дэкретъ под печатью нашою [о]тъцомъ езуитомъ Колеиумъ Полоцького выданъ естъ. Писанъ у Варшаве на Сойме вальномъ, Лета [о]тъ нарожєнь[я] сына Божэго тисеча п[я]тьсот деветьдес[я]тъ второго м(е)с([я])ца [о]ктебра деветънадцатого дн[я].*

*Левъ Сапега, канъцлер Великог(о) Кн[я]з(ства) Литовского [Я]рошъ Воловичъ, писарь".*

Адзін з сыноў Багдана Рэута, Раман, быў асабліва вядомай асобай. Пра яго згадваецца ў Баркулабаўскім летапісе: *"Того ж року 1585. У пост Филипов у пущи Сидоровской его милость князь Богдан Соломерецкий побил лосей десять великих, а вепров диких великих осмь, где тепер село Сутоки и Махова. Того ж року Василей Сескович з уряду зьехал, а пан Роман Ревут на вряд Баркулабовский наехал".*

Сёння, абапіраючыся на шматлікія дакументы тых часоў, мы можам зразумець, чаму Рамана прызначылі баркулабаўскім старастам. Пэўна, таму, што, акрамя ўласных якасцей, ён быў блізкім родзічам Баркулаба Корсака, чыя маці, Мар'я Геталт, гаспадыня Баркулабава, даводзілася цёткай маці Рамана, Саламанідзе Томкаўне Геталт.

Праз пяць гадоў Раман Рэут па прывілеі караля Жыгімонта III атрымаў пасаду падстолія Полацкага ваяводства: *"Жыкгимонтъ Третий Божъю м(и)л(о)стью король польский [о]знаймуемъ симъ листомъ нашымъ всимъ, кому бы то ведати належало. Ижъ мы, г(о)с(по)д(а)ръ, маючы ласкавый взгл[я]дъ на веръные и цнотъливые служъбы земенина нашого воеводъства Полоцкого Романа Реута, которые [о]нъ з молодости летъ своих продъком нашымъ, королемъ их м(и)л(о)сти польскимъ и великимъ кн([я])земъ литовъскимъ, такъ же и Речы Посполитой, никоторое потребы военъное не мешкиваючы и не литуючы здоровъ[е] и маетъности своее, зъ себе [у]казовалъ, а хотечы ему знакъ ласки нашое г(о)с(по)д(а)ръское [о]казати и въ перодъ до служъбъ нашых г(о)с(по)д(а)ръских и земъских тымъ хутъливъшого способити, дали есьмо и симъ листомъ нашымъ ему даемъ вр[а]д земъский подстольство у воеводстве Полоцъком. Маеть Романъ Реутъ тымъ вр[а]домъ подстольскимъ въ воеводъстве Полоцъкомъ справовати и местъце свое часу соймиковъ водъле права заседати, и [о] потребах Речы Посполитое зданье свое подавати, такъже тежъ всякое учъстивости и владзы, тому враду належачое, ужывати ажъ до живота своего альбо до лепъшого [у]патрень[я] нашого г(о)с(по)д(а)ръского. И на то дали есьмо Роману Реуту, подстолему нашому, сей нашъ листъ с подписомъ руки нашое г(о)с(по)д(а)ръское, до ко-*

*торого на тверъдость и печать нашу прытиснути есьмо росказали. Писанъ у Варъшаве, Лета Божъего нарожень[я] тисеча п[я]тъсотъ деветъдес[я]того, м(е)с([я])ца маръца двадцать второго дн[я].*

*Подпис руки г(о)с(по)д(а)ръское [Я]рошъ Воловичъ, писар".*

Займаючы значныя пасады ў Полацкай і Віцебскай землях, Раман Рэут неаднаразова згадваецца ў шматлікіх дакументах той пары. Вядома, што яго жонкай была Гелена са знакамітага роду Садоўскіх.

Брат Рамана, Мікалай, як і іх бацька Багдан, быў багаты на нашчадкаў і меў чацвярых дзяцей: Валяр'яна, Канстанціна, Яраша, Андрэя, майго прамога продка, і дачку Марыну.



**Фрагмент з метрычнай кнігі пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царквы Слуцкага павета, дзе 13 ліпеня 1802 г. зафіксавана нараджэнне Алены (Ірыны) Карафа-Корбут (Рэут), бабулі Аляксандра Платонавіча Карафа-Корбута.**

Захаваўся тастамент, пакінуты Марынай Рэут, што пацвярджае выпіс з актавай кнігі Полацкага земскага суда ад 23.02.1623 г.: *"Во имя Оица и Сына и Светого Духа, Бога в троицы единого станъсе ку вечнои памети воля его светая, амин. Я, Марина Миколаевъна Реутовна Стефановая Новицкая, земянка г(оспо)д(а)рская воеводства Полоцког(о), будучы на сей час от пана бога всемогущого хоробою объложоною навежоная, а ведаючы о том зъ словъ самог(о) г(о)с(по)да Исуса Христа, Бога избавителя своег(о), иж онъ нас напоминаючи мовит рачыт, абы есмо завжды готовыми были, кгды ж не ведаемъ часу, а ни годины, я теды хотечы готовость свою отказать. А будучы еще пры зупольном розуме и доброи здровой памети своеи на прод душу мою поручаю пану Богу всемогущому в руки его святые и Хрысту сыну Божому збавителеви и одкупителеви своему, которыи для нас грешных вольную на кресте муку принят рачылъ. А тело мое грешъное, ижъ естъ зъ земли сотворено в землю знову отдано быти маетъ…"*

У адпаведнасці з тастаментам, Марына наказала мужу Стэфану Навіцкаму пахаваць яе па грэчаскім (праваслаўным) абрадзе, адпісала мужу пяцьдзясят коп літоўскіх грошай, а сыну Грыгорыю і дочкам Крысціне і Галене – сто коп грошай літоўскіх, якія яны павінны былі падзяліць паміж сабою пароўну.

Сын Мікалая Рэута, мой продак Андрэй, жыў у Полацкім ваяводстве, удзельнічаў у полацкіх сеймах, што пацвярджаецца загадам караля Жыгімонта ў 1615 г. прыбыць у Полацк на сейм. Цікавы той факт, што за рыцарскую годнасць і подзвігі "ў час Маскоўскай вайны" прывілеем польскага караля Уладзіслава IV у 1635 г. Андрэй Рэут атрымаў маёнтак Уткіна ў Смаленскім ваяводстве.

Андрэю таксама пашчасціла на сыноў, якіх у яго было чацвёра. Аднаго са спадчыннікаў назвалі Станіславам, ён стаў родапачынальнікам галіны Рэутаў, што асталявалася пад Слуцкам. Вядома, што Станіслаў удзельнічаў у баявых дзеяннях пад Навагрудкам, і ў той час у яго прапалі дакументы "от нападения вражеских войск в году 1732-м". Станіслаў пакінуў пасля сябе трох сыноў – Яна, Дамініка і Грыгорыя.

З трох братоў прамыя адносіны да нашага роду мае Ян. З пасямейных спісаў шляхты Слуцкага павета за 1796 г. стала вядома, што разам з жонкай Тэафілай са знакамітага роду Макавецкіх Ян жыў у засценку Залессе і быў прыхаджанінам пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царквы. У іх было пяцёра сыноў: Аляксандр, Грыгорый, Даніэль, Ян і Якуб. Менавіта ім і іх дзецям выпаў гонар абжываць мінскія землі, якія яны набылі ў Ігуменскім і Слуцкім паветах ад "народжанага Масальскага і генерала Быстрама".

Вядома, што 30 студзеня 1799 г. Аляксандр Янавіч Рэут вянчаўся ў яроміцкай Раство-Багародзіцкай царкве з дваранкай засценка Мардвілавічы Ефрасінняй Крукоўскай. У іх было восем дзяцей, трэцяй з якіх 13 ліпеня 1802 г. нарадзілася мая пра…прабабуля Ірына Рэут.

…Вось такімі паўсталі перад намі жыццёвыя лёсы некаторых прадстаўнікоў слаўнага роду Рэутаў. Няпростымі былі дарогі, што прывялі іх з берагоў Дзвіны і віцебскага Паазер'я на Случчыну, якая стала роднай.

*Пераклад з рускай мовы.*

*Працяг будзе.*

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

*Светлыя імёны Беларусі*

# "НЯСІЦЕ НАРОДУ ПРЫГАЖОСЦЬ І НЕ ПАТРАБУЙЦЕ ЎЗНАГАРОДЫ"

## ДА 125-ГОДДЗЯ БЕЛАРУСКАГА МАСТАКА МІКАЛАЯ МІХАЛАПА

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 4, 5.*

У пачатку 1930-х гг. у Беларусі ўзнікла ідэя стварэння ў Мінску Дзяржаўнай карціннай галерэі, на пасаду яе дырэктара быў запрошаны М. Міхалап. Многія тады здзіўляліся: як прыкладнік, малавядомы па выставах мастак (М. Міхалап пасля 1915 г. рэдка выстаўляўся) заслужыў такое. На гэтую ролю яго, хутчэй за ўсё, прапанавалі М. Керзін і Я. Купала, якія добра ведалі пецярбургскія музеі і былі дасведчаныя ў гісторыі мастацтваў. На пачатку 1930-х у Мінск прыязджаў Б. Эпімах-Шыпіла, магчыма, ён таксама рэкамендаваў свайго былога гурткоўца. Як бы там ні было, але дырэктарам Дзяржаўнай карціннай галерэі стаў вельмі годны і шырока адукаваны чалавек.

Мікалай Пракопавіч хутка ўключыўся ў новую працу, рацыянальна размеркаваў сілы і сродкі калектыву, прадумаў структуру, скіраванасць, перспектывы музея і пачаў іх ажыццяўляць. Сучаснаму чалавеку цяжка ўявіць ва ўсёй паўнаце складанасць пачатковай збіральніцкай працы ў тыя часы, пазбаўленыя сённяшняй інфармацыі пра помнікі, метадычных распрацовак, навуковых цэнтраў, факультэтаў музеязнаўства і г. д. Арганізатару музея прыходзілася ўсё браць на сябе. Набліжанасць да мастацкіх каштоўнасцей нярэдка спакушае слабых людзей. Да М. Міхалапа гэта не адносілася ні ў якой ступені: ён быў сумленны, надзейны, як скала, і бескарыслівы, як святы.

Сярод супрацоўнікаў новага музея працавалі С. Палеес, А. Васілеўская, А. Аладава, А. Бразер. Карцінная галерэя месцілася на вуліцы Карла Маркса, 29. У асобным будынку каля Архіерэйскага дома знаходзіўся фонд скульптуры, якім апекаваўся Ф. Выхадцаў.

Ва ўстанове функцыянавалі тры аддзелы: беларускай даўніны, народна-прыкладнога і сучаснага выяўленчага мастацтва. З экспазіцыйных меркаванняў у залах жывапісу магла стаяць дэкаратыўная ваза, у аддзеле даўніны – народныя рэліквіі. Творы мастацтва XVIII – XIX стст. не мелі строгага падзелу па нацыянальнай прыналежнасці. Шчодры дар маскоўскіх і пецярбургскіх музеяў даў месца антыкварнай мэблі, фарфору, бронзавым свяцільнікам рускіх майстроў. У валоданне карціннай галерэі перайшлі экспанаты былога гістарычнага музея, палаца Паскевічаў у Гомелі.

Пасля ўз'яднання Беларусі ў 1939 г. пачалася апрацоўка новых паступленняў з Нясвіжскага замка. У Нясвіж М. Міхалапа як дырэктара музея прывезлі на ацэнку і адбор экспанатаў з тых, што былі ў наяўнасці. Радзівілы перад вераснёўскімі падзеямі ў Нясвіжы не жылі, таму чакаць жылой атмасферы ў замку было цяжка. Перад М. Міхалапам адчынілі дзверы ў залы, і ён убачыў сцены з фамільнымі партрэтамі, зброяй, бібліятэку. Найперш накіраваўся да месца захоўвання слуцкіх паясоў і пазней з вопісам адаслаў іх у Мінск. Былі ўзятыя таксама партрэты, некаторыя ўзоры зброі. Потым яны знаходзіліся ў фондах галерэі і налічвалі каля трох тысяч пазіцый.

Лёс Дзяржаўнай карціннай галерэі Беларусі складваўся няпроста. Калекцыя старадаўніх карцін, мэблі і ўпрыгожанняў мела вялікую мастацкую і матэрыяльную каштоўнасць. Не менш важным у мастацкім плане быў збор народных тканін, ільняных ручнікоў, ваўняных посцілак і дываноў, а таксама разьбы і керамікі. М. Міхалап цудоўна разумеў гэтае мастацтва і збіраў экспанаты з веданнем і любоўю. Сярод калекцыі фарфоравых ваз была адна і яго работы… Асноўная ж увага наведвальнікаў галерэі звярталася на карціны тагачасных беларускіх мастакоў, на іх ідэйнасць, рэалістычныя вартасці. І. Ахрэмчык, Я. Зайцаў, А. Тычына, Л. Лейтман, А. Грубэ і многія іншыя мастакі і скульптары рэгулярна выстаўлялі свае працы і ставіліся да М. Міхалапа з павагай.

Урачыстае адкрыццё галерэі адбылося ў 1939 г. і было прымеркавана да 30-годдзя ўтварэння БССР. На ім прысутнічаў і Я. Купала.

Члены Саюза мастакоў у тыя гады актыўна вялі дыскусіі па праблемах рэалізму і фармалізму ў мастацтве. Напрыклад, М. Керзін пасля выставы 1935 г. крытычна выказаўся пра становішча скульптуры, у якой аддаваў перавагу творам "акадэмічнага" кірунку. Ён асуджаў павярхоўнае перайманне розных плыняў, крытыкаваў А. Бразера за імпрэсіяністычную змазанасць формаў, скульптуры "Чырвонаармеец" і "Пяцігодка ў чатыры гады" А. Грубэ – за прымітывізм. І, наадварот, бачыў станоўчае ў пабудове партрэта М. Міхоэлса таго ж А. Бразера, хваліў скульптуру "Рыбалоў" маладога А. Аўчыннікава… Міка-

лай Пракопавіч па магчымасці не ўступаў у вострыя дыскусіі, роўна ставіўся да ўсіх мастакоў і выражаў сваю пазіцыю працай. Трэба аддаць належнае яго вытрымцы і такту: з прыроджанай далікатнасцю ён змог роўна весці "музейны карабель" сярод "рыфаў" творчай барацьбы.

Мастацкае жыццё рэспублікі ў канцы 1930-х гг. развівалася ўсё актыўней. Тэатры ставілі спектаклі беларускіх аўтараў розных школ. Музычная культура магла ганарыцца буйнамаштабнымі творамі сімфанічнай музыкі Я. Цікоцкага і В. Залатарова, літаратура – творчасцю Я. Купалы, Я. Коласа і многіх іншых творцаў. Плён беларускага мастацтва з поспехам дэманстраваўся на ўсесаюзных аглядах. Карцінная галерэя рэспублікі таксама працавала ў сучасным рытме і ўдасканальвалася ў адпаведнасці з патрабаваннямі жыцця.

Нечаканая вайна 1941 – 1945 гг. перапоўніла краіну страшнымі бедствамі, смерцю, разбурэннямі, пераадоленне іх наступстваў доўжылася дзесяцігоддзі. Гітлераўскае нашэсце на ўсходнеславянскія землі, ад якіх нічога каштоўнага не павінна было застацца, раскідала і карцінную галерэю. Для М. Міхалапа наступілі чорныя дні: ён адзін застаўся пад бомбавым дажджом і не мог захаваць калекцыі свайго музея. Ва ўсіх пачалася бітва за існаванне, а ў яго яшчэ і за скарбы галерэі. Вядома, нельга параўноўваць жыццё народа і творы мастацтва, якія заўсёды знішчаюцца вайной. Няма такіх слоў, каб спаўна выказаць удзячнасць жыхарам нашай рэспублікі за мужнасць і патрыятызм, з якімі яны адстойвалі будучыню краіны. Аднак некаторыя тады павялі сябе па-здрадніцку, чым прадвызначылі і лёс беларускага музея. Карцінная галерэя Беларусі загінула не ад снарадаў і бомбаў і не ад рабаўнікоў-захопнікаў, якім удалося пагрэць рукі на іншых каштоўнасцях, а ад нядбайнасці і безадказнасці ўлад. Музейныя фонды проста кінулі на выпрабаванне лёсу, і яны практычна перасталі існаваць.

Падзеі першых дзён вайны былі такімі горкімі для М. Міхалапа, што ён доўга не мог пра іх успамінаць. Пачаліся масавыя ўцёкі людзей з Мінска. Дырэктар галерэі са сваімі супрацоўнікамі яшчэ быў у поўнай гатоўнасці ахоўваць багацці і змагацца за музей. Як усе людзі старой загартоўкі, ён мысліў ідэальнымі паняццямі патрыятычнага абавязку і ставіў грамадскія інтарэсы вышэй за асабістыя. Музейны калектыў асцярожна пакаваў экспанаты з выставачных залаў, клапаціўся, каб кожнаму з іх была дадзена суправаджальная дакументацыя. Аднак раптоўна М. Міхалап зразумеў, што эвакуіраваць іх ніхто не збіраўся. Усведамленне факта духоўнай здрады было невыносным. Спачатку ўсё было запланавана як след, а потым пачаўся



***Мікалай Міхалап*. Ваза "Бульба".** 1950-я гг. Фаянс.

абвал, на людзей абрынуўся страх за сябе, свае сем'і, маёмасць, і яны прымалі ўсе меры для іх выратавання. Цэнтр горада хутка пусцеў, асірацела і вуліца К. Маркса, дзе стаяў музей. Драматычны тэатр імя Янкі Купалы быў на гастролях і таксама нічым не мог дапамагчы. Упраўленне культуры і Камісарыят асветы ў Мінску замаўчалі назаўсёды, і пра транспарт для перапраўкі музейных грузаў не было з кім размаўляць.

Мікалай Пракопавіч у апошні раз абышоў пустыя залы галерэі, замкнуў уваходныя дзверы і паныла накіраваўся дадому, дзе яго чакала хворая Надзея Іванаўна. Яны пешкі пакідалі Мінск, дайшлі да Сцяпянкі, потым на цягніку дабраліся да Масквы без якога-небудзь багажу. М. Міхалап толькі ўзяў з сабой шкларэз, каб можна было зарабіць на кавалак хлеба, працуючы шкляром. Перад ад'ездам мастак раздаў усе свае рэчы суседзям і сваякам, а кераміку закапаў у патаемных месцах, праўда, потым ніводнай з тых схованак не знайшоў…

Да 1944 г., калі Мінск быў вызвалены ад фашыстаў, Міхалапы жылі ў пасёлку Краж пад Самарай, дзе Мікалай Пракопавіч працаваў настаўнікам малявання і чарчэння. У сціплых жывапісных творах мастака, выкананых у тыя часы, можна заўважыць уласцівае М. Міхалапу суперажыванне стану прыроды, а таксама тонкія і вельмі падобныя да беларускага пейзажу тоны і матывы. За межамі Беларусі ён адчуваў сябе

адзінокім і думаў толькі пра вяртанне. Хуткасць рэагавання М. Міхалапа на падзеі канца вайны і неадкладны пераезд у Мінск толькі пацвярджаюць гэта.

Цяжкасці ваенных гадоў, працяглая неўладкаванасць і ўзрост былі, відаць, прычынамі таго, што ў Мікалая Пракопавіча не стала патрэбных сіл для барацьбы за музей. Працуючы ў архітэктурным упраўленні навуковым сакратаром, ён мог больш аддаваць увагі сваёй асноўнай прафесіі мастака.

Пасля 1945 г., на жаль, пачаліся нападкі на М. Міхалапа з боку некаторых былых паплечнікаў, якія вярталіся ў горад з розных канцоў краіны. Абвінавачвалі за нібыта спустошаную ім карцінную галерэю. Нехта падазраваў у прысваенні каштоўнасцей, продажы слуцкіх паясоў, змове з рабаўнікамі. Дакаралі нават за тое, што не абараняў музейныя калекцыі са зброяй у руках. Стаўшы ахвярай акалічнасцей, мастак на нейкі час ператварыўся ў безабаронную мішэнь для нядобразычліўцаў…

У пасляваенны перыяд М. Міхалап праявіў сябе ў зусім новай сферы: арганізацыі мастацкай прамысловасці, якую сам і ўзначаліў як кіраўнік адпаведнага аддзела Дзяржбуда БССР. Гэта яшчэ адна "залатая старонка" ў яго біяграфіі. Фактычна, з яго імем звязана станаўленне ўсёй беларускай мастацкай прамысловасці як сістэмы высокавытворчых устаноў – прыйшлі новыя тэхналогіі, змяніліся формы працы. У 1950 – 1960-я гг. М. Міхалап вёў вялікую працу і як арганізатар, і як мастак, асабліва важныя яго намаганні па рэфармаванні Мінскага фарфора-фаянсавага завода, мэблевых прадпрыемстваў, стварэнні дывановых камбінатаў.

Ён сам выконваў вельмі многа праектаў для керамічных прадпрыемстваў, што спецыялізаваліся на выпуску будаўнічых матэрыялаў. Сярод вырабаў былі фасонныя дэталі для агароджаў, у якіх тады рэспубліка, пазбаўленая ліцейных заводаў, мела вострую патрэбу. Агароджа з керамічных чатырохлопасных труб стаяла шмат гадоў каля Батанічнага саду і стадыёна інстытута фізкультуры, надаючы адметнасць паркаваму ландшафту. Рабіў таксама пакаёвыя вентыляцыйныя рашоткі з керамікі, іншыя будаўнічыя дэталі. У выніку стаў працаваць у аддзеле будаўнічых матэрыялаў, навукова-даследчых прац і інфармацыі Упраўлення па справах архітэктуры, займаў пасаду старшага архітэктара гэтага аддзела. Абліцоўванне сцен новых крам керамікай, упрыгожванне светлавых мачтаў узорамі слуцкіх паясоў і многае іншае ажыўляла архітэктурнае асяроддзе Мінска.

Жаданне працаваць і ўпрыгожваць побыт выяўлялася нават у тым, што мастак бясплатна аддаваў свае малюнкі майстрам-ганчарам камбінатаў, каб яны рабілі не толькі просты гліняны посуд, а і больш разнастайныя, сучасныя, прыемныя для вока рэчы. Напрыклад, выточваліся на крузе са звычайнай чырвонай гліны розныя круглыя скрыначкі для жаночых упрыгожанняў і швейных прылад.

Паколькі ні фарбаў, ні ліцейных формаў, ні палівы цагельні не мелі, то выпуск вырабаў станавіўся ўсё больш праблематычным. Не хапала і мастакоў, каб наладжваць вытворчасць. Грубаватыя тэракотавыя рэчы, упрыгожаныя малюнкамі па матывах слуцкіх паясоў, адставалі па якасці ад фабрычных, і М. Міхалап пачаў прымаць усе меры для таго, каб змяніць штатны расклад прадпрыемстваў, запоўніць іх прафесіяналамі.

Яшчэ ў самым пачатку 1950-х гг. ён ездзіў у аднаўленае Ленінградскае вышэйшае мастацка-прамысловае вучылішча для адбору спецыялістаў-прыкладнікоў для працы ў Мінску. Першай прыбыла выпускніца факультэта керамікі Н. Клішэвіч, якой тут жа было даручана афармленне жылых дамоў на мінскай плошчы Перамогі. Яе маёлікавыя пано з галубамі на сінім фоне дагэтуль упрыгожваюць будынкі плошчы. На жаль, занадта вялікая розніца ва ўмовах жыцця пасляваеннага Мінска і горада на Няве не затрымлівала спецыялістаў надоўга і яны пакідалі Беларусь – праблема кадраў заставалася.

У 1953 г. па запрашэнні М. Міхалапа ў Мінск прыехаў адзін з найлепшых выпускнікоў Ленінградскага вышэйшага мастацка-прамысловага вучылішча – мастак-мэбельшчык І. Харламаў, які пакінуў немалы след у мастацкай прамысловасці рэспублікі. Яго праекты выконваліся на беларускіх мэблевых фабрыках, экспанаваліся на Усесаюзных выставах мэблі. І. Харламаў ездзіў разам з М. Міхалапам на абследаванне мэблевых прадпрыемстваў, разам з ім выпрацоўваў меры па іх рэканструкцыі для вытворчасці сучасных вырабаў. Пасля разбуральнай вайны жыхары Беларусі былі пазбаўлены самага неабходнага, насельніцтва мела патрэбу літаральна ва ўсім: ад фаянсавага посуду да мэблі, тканін і саміх дамоў. Прыходзілася пачынаць усё з пачатку.

Мастак І. Харламаў падтрымліваў кантакты з бабруйскай мэблевай фабрыкай, гомельскім докам, барысаўскай фабрыкай музычных інструментаў, каб выкарыстоўваць усе іх рэсурсы для напрацоўкі новых узораў. І на пачатку 1960-х гг. беларускія эксперыменты нечакана моцна загучалі на конкурсах самых буйных знаўцаў і майстроў мэблі.

Асобнай увагі заслугоўвае супрацоўніцтва М. Міхалапа з Мінскім фарфоравым заводам,

якому мастак аддаў нямала творчых сіл. Ён ніколі не быў у штаце прадпрыемства і не атрымліваў ад яго ніякіх сродкаў, таму пасля сыходу калег, памочнікаў і сведак імя М. Міхалапа на заводзе забылася. Мікалай Пракопавіч пачынаў працаваць з яго рабочымі, калі там не было ніводнага мастака, і навучаў лепцы і фармоўцы мастацкіх вырабаў тых, хто меў да гэтага схільнасці. Блізкім сябрам стаў І. Конюх, які потым выконваў у матэрыяле і творчыя працы М. Міхалапа па дамоўленасці з дырэкцыяй. У тыя часы грашовыя разлікі і афіцыйныя дамовы не мелі вялікага значэння, і многае рабілася проста па-сяброўску…

Мастак быў упэўнены, што мясцовая вытворчасць павінна рабіць уласныя мастацкія рэчы, мець самастойную тэматыку. У сярэдзіне 1950-х гг. М. Міхалап стварыў дзве вялікія вазы: "Беларусь савецкая" і "Бульба". Першая рыхтавалася да дэкады беларускага мастацтва ў Маскве 1955 г. і адпавядала афіцыйнай тэматыцы. На яе Саюз мастакоў нават выдаткаваў пэўныя сродкі.

"Беларусь савецкая" была буйным па памерах вырабам з фаянсу, у мастацкую аснову якога пакладзены кратар – самая багатая і прыгожая форма вазы ў Антычнай Грэцыі. У гады заахвочвання класічных прыёмаў кампазіцыі ў архітэктуры і мастацтве яна стала выкарыстоўвацца ў фарфоравай вытворчасці і архітэктуры малых формаў. Яе можна бачыць у аздобе агароджы галоўнага праспекта Мінска каля Свіслачы. Савецкія юбілейныя даты ўжо не абыходзіліся без такога роду твораў. М. Міхалап стварыў свой варыянт афіцыйнага падарунка, у якім не толькі ўдала абмінуў навязлівыя партрэтныя выявы, але і сказаў прачулае слова пра родную Беларусь узорамі на тэму яе прыроды.

Ваза "Беларусь савецкая", як звычайна ў М. Міхалапа, – гэта сапраўды аповед пра аб'ект выявы. Большую частку сценак вазы займаюць жытнія каласы, на доўгіх сцяблінках, яны цягнуцца ўверх стройнымі радамі і нагадваюць поле. Ніжэй густа пераплятаецца канюшына, любімая расліна мастака, якой быў прысвечаны асобны твор – "Ваза з канюшынай". Па сутнасці, ваза "Беларусь савецкая" ўяўляе тыповую карціну Беларусі і па колеры таксама адпавядае яе пейзажам. Далікатныя празрыстыя акварэльныя фарбы перадаюць і няяркае сонца летняга дня, і спакой на палях, што падштурхоўвае да маўклівага роздуму. Чалавек і прырода, паэзія мірнага жыцця – вось сапраўдны змест твора. Мастак застаўся верны сваім творчым прыхільнасцям.

Вялікая ваза "Бульба" носіць некласічны характар і цалкам пабудаваная на перайманні натуральнай формы. "Бульбіна" гладкая, роўная і па-свойму пластычная, на ёй нават відаць дзенідзе "вочкі", размешчаныя ў пэўным чаргаванні. Працуючы над формай, М. Міхалап тварыў у адпаведнасці з логікай росту расліны – унізе закапаныя клубні, уверсе кветкі…

Пры найбліжэйшым разглядзе сюжэтаў падобнай міхалапаўскай керамікі няцяжка выявіць у ёй сувязь з творамі мастацкай спадчыны. Кітайскія пасудзіны, напрыклад, нярэдка рабіліся ў выглядзе пладоў (чайнікі-персікі, вазы-гарбузы і інш.). Вядомы такія рэчы і сярод фарфоравых мініяцюр заводаў Чэлсі ў Англіі. Там рабілі ігольніцы, флаконы для парфумы, табакеркі ў форме кветак, букетаў і г. д. Увогуле, у XVIII ст. у мастацтве еўрапейскага фарфору такіх прыкладаў вельмі многа. Атрымліваецца, што такія вазы М. Міхалапа, як "Бульба", "Жолуд" або "Кукуруза", па сутнасці, з'яўляюцца варыянтамі традыцыйных прыёмаў, але выкананымі смела і ў непаўторна беларускай, індывідуальна-аўтарскай манеры. Напрыклад, ваза "Кукуруза" атрымалася вытанчанай, з выразным сілуэтам. Яе высокае верацёнападобнае тулава на колцавай ножцы заканчвалася трохлопасцевым раструбам, нібы ў кукурузнага катаха, які распускаецца кветкамі. Гэтая форма прынцыпова новая і цалкам самастойная.

Мастак трапятліва ставіўся да ўзораў слуцкіх паясоў і імкнуўся развіваць гэтую тэму ў афармленні керамікі. Калекцыя "літых" залатых і сярэбраных паясоў з бліскучымі ніткамі на светлым фоне пакінула вечны след у яго памяці. Аднак М. Міхалап не капіраваў арнаменты слуцкіх паясоў, ён творча развіваў іх прынцыпы ў самых розных варыяцыях. Менавіта яму належыць ідэя спалучыць старадаўні ўзор з фарбамі беларускай прыроды ў сталовым посудзе.

Незабыўнае стаўленне М. Міхалапа да людзей, з усімі ён абыходзіўся па-бацькоўску. Яго дачка, Вольга Мікалаеўна, выйшла замуж за ўдаўца з двума дзецьмі, якія цяжка перажывалі смерць роднай маці. Сям'я мастака прыняла іх як родных, а Вольгу Мікалаеўну нельга было назваць мачахай: яна да канца дзён заставалася сапраўднай маці. Дзеці і ўнукі адплацілі тым жа: любоўю і клопатам. Дзякуючы менавіта іх намаганням цалкам захаваўся архіў М. Міхалапа. А сам ён, сціплы, з вечнымі інструментамі, цалкам выканаў запаветы свайго настаўніка Месмахера: "Нясіце народу прыгажосць і не патрабуйце ўзнагароды". Ці гуляў са сваімі сабачкамі, ці ішоў на рынак, ён заўсёды заставаўся мастаком з думкамі пра свой народ – сапраўдным беларусам.

*Пераклад з рускай мовы.*

**Ірына ЕЛАТОМЦАВА,**
мастацтвазнаўца.

Алена САЛАМЕВІЧ

# АДУКАЦЫЯ НА ВАЛОЖЫНШЧЫНЕ

## ПАЧАТАК СТВАРЭННЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ШКОЛЫ

*Працяг. Пачатак у № 5.*

У 1920 – 1921 гг. (якраз на сумежжы гадоў) у Вільні зноў былі праведзены двухтыднёвыя курсы для настаўнікаў (чамусьці "Энцыклапедыя гісторыі Беларусі" звестак пра іх не дае). Там выкладалі М. Кахановіч, К. Душэўскі, Я. Станкевіч, А. Луцкевіч, М. Гарэцкі.

З Валожынскага павета на курсы накіроўваюцца Вінцук Язерскі (Філіпіняты), Хвадзей Барада (з Гарадзечна, працаваў у Гарадзілаве), Антон Шаўлюк (Вялікае Запруддзе, працаваў ва Узбалацкай пачатковай школе), Міхась Адамавіч Станкевіч (Гародзькі, працаваў у Гарадзечанскай беларускай пачатковай школе), Даніла Жывадкевіч (працаваў у Малым Запруддзі), Аляксандр Кулак (працаваў ва Улазавічах). Акрамя іх, на курсах вучыўся ўсім вядомы Язэп Драздовіч.

Вось што напісала пра гэтыя курсы газета "Наша Ніва": *"У канцы сёлетняга году 31-га сьнежня (дзекабря), 1920 г. у Вільні (Астрабрамская, 9) пачнуцца двутыднёвыя беларускія вучыцельскія курсы. На курсах будуць вучыць беларускае мовы, беларусазнаўства і мэтодыкі. Курсы арганізуюцца для вучыцялёў беларускіх школ, якія яшчэ не праслухалі курсаў беларусазнаўства.*

*Навука і кватэра на курсах дармавая. Апрача гэтага слухачом будуць выдавацца абеды, або грашыма 20 – 30 марак у дзень. Будзе і гарбата нараніцы і ў вечары, але закуска свая.*

*Слухачом трэба браць з сабою пасьцелю, нат сяньнік (не набіваны).*

*Адміністрацыя курсаў радзіць яшчэ браць кубак (шклянку), лыжку, талерку (міску), калі гэтыя рэчы ня будуць замінаць у дарозе. Вучыцялі дастануць на курсах пэнсію за сьнежань месяц"* [1, с. 4].

У 1920 – 1922 гг. землі вакол Вільні, Свянцянаў, Смаргоні, Ашмянаў, у тым ліку і Забрэзская воласць, увайшлі ў склад польскай марыянетачнай дзяржавы пад назвай Сярэдняя Літва, якая была створана на тэрыторыях Віленшчыны і Гродзеншчыны з мэтай далучэння да Польшчы. Паводле ўмоў падпісанага ў Сувалках 7 кастрычніка 1920 г. польска-літоўскага пагаднення, Віленшчына лічылася тэрыторыяй Літвы. Восенню 1920 г. войскі генерала Л. Жалігоўскага захапілі частку Віленшчыны нібыта з мэтай вызвалення ад літоўскай "акупацыі". Пасля ўмяшання Лігі Нацый паміж польскім і літоўскім урадамі было заключана перамір'е (29 лістапада 1920 г.), і на тэрыторыі, занятай часцямі Жалігоўскага, утварылася фармальна незалежная ад Польшчы адміністрацыйная адзінка пад назвай Сярэдняя Літва. Вярхоўная ўлада належала генералу Жалігоўскаму, Часовая кіруючая камісія выконвала функцыю ўрада.

На пачатку існавання гэтай дзяржавы ў адносінах да беларускага насельніцтва праводзілася ліберальная нацыянальная палітыка. Вось чаму менавіта з канца 1920 г. так актыўна адкрываліся ў нашых мясцінах школы з беларускай мовай навучання. Вясной 1921 г. у Сярэдняй Літве дзейнічала 186 беларускіх школ. Працавала беларуская гімназія ў Вільні, а ў Барунах – настаўніцкая семінарыя. У 1921 г. на аснове рашэння Цэнтральнай беларускай школьнай рады ў Вільні было створана Таварыства беларускай школы (ТБШ), да яго далучылася ТБШ у Радашковічах, якое заснаваў Браніслаў Тарашкевіч [2, с. 483 – 485].

Актыўна дзейнічаў і Цэнтральны беларускі настаўніцкі саюз. Газета "Наша думка" 18 лютага 1921 г. паведаміла, што ў яго раду ўвайшлі настаўнікі Забрэзскае воласці М. Станкевіч і М. Базеўскі. Урад "беларускага вучыцельскага хаўруса Забрэзскай воласці мае ў сваім складзе М. І. Станкевіча (старшыня), А. Шаўлюка і В. Рэгеля" [3, с. 6].

Аднак настаўнікам сталі затрымліваць выплаты заробку, некаторым ён не выдаваўся з лістапада 1920 г. Педагогі збіраліся на сходы, складалі пратаколы, а выпіскі з іх накіроўвалі ў розныя інстанцыі:

*"Выпіска з пратаколу зборкі часткі вучыцялёў Забрэзскае валасьці*

*1921 г. 12 красавіка.*

*На зборку з'явіліся Амельян Сівец, Міхась Адамаў Станкевіч, Яўгеньня Цярэшчанкава, Міхась Язэпаў Станкевіч, Лукаш Барада, Міхась Анухрэяў Станкевіч, Даніла Жывадкевіч, Лівон Сівец, Тацяна Сівец і Марыля Станкевіч.*

*П. 2. Аб выплаце пэнсіі* [заробку. – ***А. С.***] *вучыцялям за лістапад месяц выясьнілася, што інструктар Вінцук Азерскі заставіў расьпісацца на ведамасьці аб атрыманьні пэнсіі за лістапад месяц, але хоць вучыцялі і расьпісаліся, но пэнсіі усёй не атрымалі. Для выясьненьня гэтага пытаньня, зборка вучыцялёў пастанавіла прасіць акружнога інструктара Дубіну, ад Нацыянальнага Беларуска-*

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 2.*

*га Камітэту, выясьніць у Дэпартамэнце Асьветы, на якой прычыне гэта пэнсія не была выплачана.*

*Аб выплаце пэнсіі заарыштаванаму польскай уладай вучыцялю Дубінской беларускай пачатковай школы Сымону Сухадольцу, выясьнілася, што пэнсіі Сухадолец не атрымлівае. Калі вучыцялі выясьнілі інструктару Азерскаму аб цяжкім палажэньні сямьі Сухадольца, і прадлажылі хлапатаць аб выплаце гэтай пэнсіі, то інструктар сказаў, што аб гэтам і думаць ня трэба, бо пэнсіі гэтай ня выплацяць. А калі сказалі, што відзелі пэнсію выведзенай па ведамасьці ў Дэпартамэнце Асьветы, і запыталі, дзе яна дзяецца, то інструктар сказаў, што адаслаў інспэктару. А ў канцы канцоў выясьнілася, што пэнсія не адсылана і знаходзіцца ў інструктара.*

*Падпісалі Старшыня Ам. Сівец і сэкрэтар М. Станкевіч.*

*З арыгіналам згодна. Інструктар У. Дубіна"* [4].

Разам з тым у "Нашай думцы" за 20 мая 1921 г. змешчаны "Адкрыты ліст у Беларускую Школьную Раду", дзе настаўнікі Валожыншчыны, наадварот, хваляць В. Азерскага за яго працу, за стараннасць у наладжванні работы ў школах, узгадваюць, як ён *"езьдзіў ў Вільню або Ашмяну* па пэнсію і развозіў яе па школах для раздачы…"* [5].

Далей у "Адкрытым лісце" гаворыцца, што абвінавачваць В. Азерскага не трэба, што ён свядомы беларус і не ад яго залежыць затрымка зарплаты. Напэўна, функцыю школьнага інструктара Азерскі выконваў і ў Валожынскай воласці, бо саюз настаўнікаў гэтай воласці таксама выступае ў яго падтрымку: *"…яго працай, як шчырага беларуса, усе вучыцялі і грамадзяне нашае воласьці здаволены, бо яна была надта карыснай для беларускага народу, калі-ж былі якія расходы з вучыцельскае пэнсіі, дык яны рабіліся ўсякі раз з агульнае пастановы вучыцельскага Саюзу, аб чым і сьведчыць урад вучыцельскага Саюзу Валожынскай воласьці.*

*Старшыня Вучыцельскага Саюзу Валожынскай воласьці Сьцяпан Шчуцкі. Заступнік Старшыні Тамаш Белановы. Пісар Цяжолаў"*.

З рознымі просьбамі, скаргамі настаўнікі звярталіся не толькі да мясцовых адказных асоб, але і да ранейшага кіраўніцтва. 4 лютага 1921 г. у газеце "Наша думка" школьны інструктар С. Шымански піша пра школьныя весткі з Ашмяншчыны, адзначае, што, хоць Валожынскі павет ужо адносіўся да Навагрудскага ваяводства, да яго ўсё роўна часта прыязджаюць сяляне Валожынскага павета з рознымі пытаннямі аб школах: «*Чым магу я іх усцешыць? Толькі адным: "Чакайце!"… Навет вучыцелі, паны і тыя часта задаюць пытаньне, чы атрымаем мы пэнсію за студзень і люты, чы можна сьмела вучыць дзяцей пабеларуску, бо заўтра можа прыехаць са Стражы Крэсовай і зачыніць школу… Аднак, ня гледзячы на ўсе гэтыя перашкоды, у маім школьным районе ёсьці шаснаццаць беларускіх пачатковых школак, а ня трачу я надзеі, што за палавіны лютага будзе ня меней дваццацёх. Задзержываецца пакуль адкрыцьцё школак за недастатковасьцю вучыцялёў*» [7, с. 6].

Тая ж "Наша думка" 17 чэрвеня 1921 г. адзначыла, што, *"па статыстыцэ Дэпартаменту Прасветы, на тэрыторыі Сярэдняй Літвы ёсць 158 беларускіх пачатковых школ, ў якіх працуе 182 вучыцялёў і вучацца 7.734 дзяцей. Сярэдніх школ 2"* [8, с. 6].

Такім чынам, хоць школы з беларускай мовай навучання на тэрыторыі Сярэдняй Літвы летам 1921 г. працавалі і іх было нямала, усё роўна існавала небяспека, што ўлады могуць іх зачыніць, акрамя таго, не хапала настаўнікаў, якія маглі б працаваць у беларускіх школах.

Для вырашэння апошняй праблемы з 25 чэрвеня да 21 жніўня 1921 г. у Вільні былі зноў арганізаваны Беларускія настаўніцкія курсы. З вёскі Гародзькі туды паехала ажно 7 чалавек. Паводле звестак НАРБ і фота курсаў, усе яны працавалі ў беларускіх, у асноўным пачатковых, школах: Міхась Адамавіч Станкевіч (Гарадзечанская школа), Міхась Восіпавіч Станкевіч (Скрыплеўская школа), яго сястра Марыля Станкевіч (Арляняцкая школа ў Крэўскай вол.), Алена Сівец (Пекароўская школа ў Палачанскай вол.), яе сястра Таццяна Сівец (Пагарэльская школа), Міхась Ануфрыевіч Станкевіч (Гародзькаўская школа), Вольга Станкевіч (Гарадзілаўская двухкласная школа ў Палачанскай вол.). Слухачамі курсаў сталі Хвадзей Барада (родам з Гарадзечна, Гарадзілаўская двухкласная школа), Пётр Рэут (Куцяняцкая школа), Вінцук Азерскі (Валожынская школа), Аляксандр Вяршыцкі з Забрэззя (Нарэйшаўская школа), Сымон Сухадолец і Васіль Рагель (Дубінскія школы I, II), Даніла Жывадкевіч (Малазапрудская школа). З усіх дакументаў курсаў самай каштоўнай крыніцай інфармацыі пра існаванне беларускіх школ з'яўляюцца заявы настаўнікаў з просьбай залічыць на курсы, дзе кожны абавязкова ўказваў сваю школу. Таму сёння мы павялічым спіс настаўнікаў першых беларускіх школ Валожыншчыны: Юрый Борыс (Келеўская), Аляксандр Кулак (Улазавіцкая), Сымон Кароль (Даўбенеўская), Алена Карнавух (Бабровіцкая), Якім Бубневіч (Жураўская), Уладзімір Сухадолец (Чартавіцкая), Валянціна Іода (Румская), Тамаш Белановіч (Маршалкоўская), Сцяпан Шчуцкі (Лужанская), Ігнась Лоўчы (Замас-

* Варта адзначыць, што яшчэ ў канцы 1920-га і самым пачатку 1921 г. Гародзькі і наваколле ўваходзілі ў Ашмянскі павет. Занальны архіў у Маладзечне захоўвае дакумент, які сведчыць: новы, Валожынскі, павет утвораны 11.01.1921 г., у склад яго ўвайшло 14 гмін, у тым ліку і Забрэзская, Лебедзеўская ж гміна адышла да Віленскага павета [6]. Вось чаму інструктар Азерскі ў канцы 1920 г. яшчэ ездзіў у Ашмяну, а не ў Валожын.




**Фрагмент здымка навучэнцаў і выкладчыкаў настаўніцкіх курсаў у Вільні.**
1921 г. Захоўваецца ў сямейным архіве Ніны Радайтэне – дачкі Міхася Адамавіча Станкевіча.

цянская), Павел Цяжолы (Панізская), Янка Іода (Белакорская), Вера Кавалеўская (Аўгустоўская), Зміттрук Журкевіч (Капусцінская), Янка Федаровіч (Мінцеўская). На курсах займаліся Янка Казакевіч і Антон Сецька з Вішнева, Мар'я Маеўская з Валожына, Антон Шаўлюк з Вялікага Запруддзя і інш. [9]. На фота настаўніцкіх курсаў 1921 г. ёсць тыя, чые прозвішчы не сустрэліся ў дзённіку гэтых курсаў і ў спісе тых, каму выдалі пасведчанні (на фотаздымку курсаў 165 навучэнцаў, афіцыйна пасведчанні выдадзены толькі 101 чалавеку). Некаторыя з навучэнцаў былі вольнымі слухачамі, бо па сямейных абставінах не маглі знаходзіцца на вучобе пастаянна, камусьці перашкаджалі матэрыяльныя праблемы. У НАРБ захоўваецца шмат ведамасцей, па якіх выдавалася грашовая дапамога, сустракаюцца там і прозвішчы вольных слухачоў. Як і на папярэдніх настаўніцкіх курсах, ёсць асобы з аднолькавымі прозвішчамі і нават імёнамі. Паколькі беларускай традыцыі не ўласціва называць чалавека па бацьку, у дзённіку насупраць цёзкаў стаяць рымскія лічбы I, II.

Кіраўніком курсаў быў С. Рак-Міхайлоўскі, сакратаром – Ю. Лістапад, які таксама вучыўся на курсах.

У дзённіку Вучыцельскіх дадатковых курсаў [9] адзначана, што працаваць яны пачалі ў суботу 25 чэрвеня. Дзённік змяшчае план лекцый на ўвесь перыяд навучання. Выкладаліся: гісторыя Беларусі (М. Кахановіч), беларуская мова (Я. Станкевіч і М. Косцевіч), дыдактыка (С. Рак-Міхайлоўскі), спевы ("пяяньне народных песень"; Ф. Згірскі), польская мова (Ф. Аляхновіч), геаграфія Беларусі (І. Канчэўскі), гісторыя беларускай літаратуры (М. Гарэцкі), рысунак (А. Дубайкоўскі), "фізічнае ўзгадаваньне".

На занятках па беларускай мове чыталіся лекцыі на наступныя тэмы: *"Уплывы чужых моваў на беларускую ў XIX і XX в. Беларуская літаратурная мова. Пераход е ў я. Пераход э ў а. Гукі т і ц. Пераход т у ц. Змягчэньне зычных з, с, дз, ц перад мягкімі зычнымі. Назоўнае імя. Назвы часцей цела чалавека і жывёлы. Скланеньне імёнаў, лічэбнікаў. Канчаткі роднага, меснага і клічнага склонаў у імёнах мужчынскага роду. Узоры скланеньня імён жаночага роду з канчаткамі на -а, -я, з канцавым зычным і -ў. Скланеньне прыметнікаў. Чыслы. Займя. Узоры скланеньня. Пазнаваньне спражэньня па неазначальнай форме дзеясловаў і ўзоры спражэньня"* і інш. Акрамя лекцый, праводзіліся практычныя заняткі, на якіх курсанты займаліся перакладам, чытаннем, а выкладчыкі аналізавалі пісьмовыя працы. Арганізоўваліся мерапрыемствы, як, напрыклад, экскурсіі па Вільні.

Афіцыйна курсы павінны былі працаваць да 31 жніўня 1921 г.

Аднак рада курсантаў і прадстаўнікоў ад інтэрнатаў (12 чалавек, старшыня рады С. Сіняк, сакратар М. Іванкевіч) сабраліся на пасяджэнне ў гэты ж дзень і пастанавілі: "...*курсы прадоўжыць*

*не далей як да 20-га жніўня дзеля таго, што польскія вучыцялі, скончыўшыя курсы, ужо атрымліваюць пасады, а сяляне не ведаюць, калі вернуцца ў свае школы беларускія настаўнікі і ці будуць беларускія школы"* [10]. Курсанты адзначылі, што яны вымушаны будуць без адпачынку прыступаць да працы, наўрад ці паспеюць навесці парадак у школах, бо трэба будзе яшчэ патраціць час на складанне папер для дазволу адкрываць беларускую школу. Нават выказалі думку, што 2-месячныя курсы не могуць даць звання настаўніка тым слухачам, якія яго не маюць, і не павялічаць кваліфікацыю тым, хто яго мае. Выступілі таксама супраць пісьмовых прац, экзаменаў: маўляў, гэта толькі трата часу і энергіі. Прапанавалі экзамены правесці праз месяцаў 5-6, калі слухач паспее добра засвоіць усё, што выкладалі на курсах, і падрыхтавацца належным чынам; цяпер жа – выдаць адпаведныя пасведчанні, што курсанты праслухалі лекцыі [10].

Паводле "Пратакола сходу лектараў Беларускіх Настаўніцкіх курсаў сумесна з Рэферэнтам беларускіх школаў пры Дэпартаменце Асьветы Цэнтральнай Літвы і прадстаўнікамі рады слухачоў і Рады Беларускага Настаўніцкага Саюзу жніўня 21 дня 1921 г.", было вырашана спыніць лекцыі 21 жніўня, выдаць кніжкі-пасведчанні з адзнакаю "Можа быць беларускім -ай вучыцелем -лькай" 101 слухачу, якія «*а) маюць вучыцельскае званьне, б) або сваей працаю паказалі, што могуць быць вучыцелем у беларускай школе, аб чым ведама складу цяперашняга пасяджэньня, калі ўсе яны (групы "а" і "б") умеюць беларускую мову*» [11]. Кніжкі павінны былі змяшчаць адзнакі насупраць кожнага прадмета.

Згодна з тым жа пратаколам, рэшта слухачоў можа таксама атрымаць пасведчанні з адзнакаю "могуць быць беларускім -ай вучыцелем -лькай", калі здасць перад камісіяй "рэпетыцыі"; хто не з'явіцца на "рэпетыцыю", атрымае кніжкі з адзнакаю "рэпетыцыі не здаваў". Тым, хто "на рэпетыцыю не з'явіцца і аб кім вядома, што не ўмеюць", вырашана выдаць кніжкі з адзнакаю "быў на курсах, рэпэтыцыяў не дзяржаў і ня ўмее" [12].

Так, курсанты спяшаліся дадому, каб падрыхтаваць беларускія школы да навучальнага года, непакоіліся, што, пакуль яны вучацца ў Вільні, польскія ўлады могуць угаварыць сялян адправіць сваіх дзяцей у польскія школы. Хваляванні курсантаў былі небеспадстаўныя.

Цікавымі з лінгвістычнага пункту гледжання з'яўляюцца як архіўныя дакументы курсаў, так і фотаздымкі. Пад імі змешчаны прозвішчы курсантаў, але яны не заўсёды супадаюць з варыянтамі, якія ўнесены ў спісы курсантаў. Неафіцыйныя жаночыя прозвішчы тыпу Сіўчанка (ад афіцыйнага Сівец), Станкевічанка (ад Станкевіч), Пракапавічанка (ад Пракаповіч), Федаравічанка (ад Федаровіч), Грынкевічанка (ад Грынкевіч), Мультанянка (ад Мультан), Скаўроншчынка (ад Скаўронская), Якуцянка (ад Якута), Ярашанка (ад Ярош), Меленчынка (ад Меленец) сведчаць, што перад намі незамужнія настаўніцы (шкада, што на здымках курсаў 1921 г. няма жаночых імён ці хоць бы ініцыялаў). Прозвішча пад фотаздымкам Рубаніха гаворыць, што муж настаўніцы – Рубан. Таксама сустракаюцца і мужчынскія прозвішчы з нарашчэннем суфіксаў: Драздоўшчык (ад Драздоўскі), Сасноўшчык (ад Сасноўскі), Тулоўшчык (Тулоўскі), Габрыновічык (ад Габрыновіч), Трахімовічык (ад Трахімовіч). Такія прозвішчы часцей сустракаюцца на фотаздымку курсаў 1919 г.

Беларускія настаўніцкія курсы ў Вільні – безумоўна, як і іншыя курсы, што праводзіліся ў Слуцку, Мінску, Гродне, Свянцянах, – сталі важным асяродкам падрыхтоўкі кадраў для працы ў беларускай нацыянальнай школе. Аналіз дакументаў і фотаздымкаў гэтых курсаў паказаў, што педагогі імкнуліся павысіць сваю кваліфікацыю, папоўніць веды па прадметах, якія раней у школах на Беларусі не выкладаліся, таму многія не раз праходзілі падрыхтоўку. Курсы фарміравалі настаўніцкую салідарнасць, тут слухачы сустракалі сяброў-аднадумцаў як сярод выкладчыкаў, вядомых тады і цяпер людзей, так і сярод калег. Сябрамі станавіліся людзі рознага веку, іх аб'ядноўвала ідэя стварэння сапраўднай нацыянальнай адукацыі. На курсах сустракалі сваё каханне, некаторыя стварылі сем'і.

Пра многіх курсантаў, асабліва тых, хто праявіў сябе як грамадска-палітычны дзеяч, стаў пісьменнікам, вядомым педагогам, мастаком, ужо пісалі нашы даследчыкі: пра Адольфа Клімовіча, Міхася Каберца, Наталлю Арсенневу, Петрака Зяновіча, Язэпа Драздовіча, Міхася Станкевіча і многіх іншых… Мы дапоўнім гэты шэраг, калі раскажам пра лёс некаторых настаўнікаў, якія жылі і працавалі ў адной мясцовасці, але іх дзейнасць не была абмежавана толькі гэтай тэрыторыяй.

*Працяг будзе.*

**Спіс літаратуры**

1. **Беларускія Вучыцельскія Курсы** // Наша Ніва. – 1920. – № 9. – 20 снежня.
2. **Дубік, С.** Сярэдняя Літва / С. Дубік, А. Чарнякевіч // ЭГБ. – Мінск : БелЭн, 2001. – Т. 6, ч. І.
3. **Наша думка.** – 1921. – № 7. – 18 лютага.
4. **Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ).** – Ф. 883. – Воп. 1. – Спр. 14. – Арк. 5.
5. **Адкрыты ліст у Беларускую Школьную Раду** // Наша думка. – 1921. – № 20. – 20 траўня.
6. **Занальны архіў у Маладзечне.** – Ф. Р4. – Воп. 1. – Зв. 3. – Спр. 95. – Арк. 12.
7. **Наша думка.** – 1921. – № 5. – 4 лютага.
8. **Наша думка.** – 1921. – № 24. – 17 чэрвеня.
9. **НАРБ.** – Ф. 883. – Воп. 1. – Спр. 14, 118, 122.
10. **НАРБ.** – Ф. 883. – Воп. 1. – Спр. 14. – Арк. 44.
11. **Тамсама.** – Арк. 54.
12. **Тамсама.** – Арк. 55 зв.

*Спадчына*

# БЕЛАРУСКІ КУБЕЛ

## ДА ПЫТАННЯ ПРА ПАХОДЖАННЕ НАЗВЫ

*А ў клець ўвойдзеш – кубла нет,*
*А ў сень ўвойдзеш – пярыны нет,*
*А ў хату ўвойдзеш – дачкі нет,*
*За вароты выйдзеш – толькі след.*
З беларускай вясельнай песні.

Сярод вялікай разнастайнасці бандарных вырабаў кубел вылучаецца вонкавым выглядам і той функцыяй, якую ён выконваў у якасці гаспадарчага начыння, а таксама як важны атрыбут вясельнай абраднасці.

Упершыню ў беларускамоўных пісьмовых крыніцах слова *кубел* згадваецца ў 1533 г. у кнізе Віцебскага земскага суда 1533 – 1540 гг.: "*…взяли с клети… кубел с платьем, а в кубле две копы грошей а две сукни женских кольтришовых синихъ*" [3, с. 207].

Кубел быў заўсёды даволі вялікай ёмістасцю, складаўся з высокіх клёпак*, сцягнутых чатырма або пяццю абручамі. Трапляліся, хоць і рэдка, кублы з сямю абручамі. Кубел заўсёды звужаецца да верху, каб клёпкі з вушкамі закліньвала і яны не вырываліся падчас пераноскі. Звычайна аб'ём кубла складаў каля 40 драўляных вёдраў. Дзве супрацьлеглыя клёпкі, што выступалі зверху, мелі вушкі з прасвідраванай адтулінай, куды ўстаўляўся кій, пры дапамозе якога пераносілі кубел. Вушкі выраблялiся абавязкова, бо перанос кубла быў вельмі важнай часткай вясельнага абраду. Кубел меў таксама накрыўку з вечкам.

Для вырабу кублаў выкарыстоўвалася пераважна асіна, радзей сасна. Асіна ў якасці сыравіны саступала дубу, але была значна таннейшая за яго. Да таго ж клёпкі з асіны былі светлымі, чыстымі, вільгацеўстойлівымі. Яны ніколі не растрэскваліся, лёгка паддаваліся апрацоўцы. Новы, зроблены з асіны перад вяселлем, кубел быў амаль белы, з цямнейшымі па колеры абручамі і таму вельмі прыгожы.

Самыя лепшыя абручы атрымліваліся з яловых галінак – вельмі гнуткіх і моцных. Для іх вырабу маглі выкарыстоўваць таксама ляшчыну ці бэз і ў рэдкіх выпадках – вярбу ці вербалоз.

У філалагічнай літаратуры лічыцца, што слова *кубел* запазычана з польскай, а праз яе – з нямецкай мовы [12, с. 396]. М. Грынблат выказваў думку пра яго паходжанне з літоўскай мовы [5, с. 532].

Аднак меркаванне пра запазычанасць слова *кубел* у беларускай мове выклікае сумненні. Папершае, яно шырока распаўсюджана сярод простага народа. Роднаснае яму слова *купело*, 'гняздо птушкі', таксама вельмі часта сустракаецца. Па-другое, *кубел* і *купело* існуюць як у беларускай мове, так і ва ўкраінскай, і ў рускай.

Вытокі слова *кубел*, хутчэй за ўсё, трэба шукаць у лацінскай мове. У старажытных жыхароў Апенінаў было боства Кубіна (імя паходзіць ад слова *кубо* 'ляжу'), якое засцерагала немаўля ў калысцы [2, с. 181]. Акрамя таго, у лацінскай мове слова *cubile* абазначала і пасцель, і гняздо, і ачаг, і асяродак [7, с. 211], а спальня ў старажытных рымлян мела назву *cubicula* [1, с. 129]. Як бачым, сувязь беларускага слова *кубел* з лацінскім *cubile* відавочная.

У праславянскай мове вядома слова *kyb(ъ)lo* [11, с. 162]. Этымалагічны слоўнік славянскіх моў прыводзіць звесткі пра слова *кубел* у чэшскай, старапольскай і ўкраінскай мовах. *Kabela* ў чэшскай і старапольскай мовах – 'торба'. Ва ўкраінскай мове словам *кубела* называюць плецены выраб з накрыўкай. У названым слоўніку адзначаецца, што, магчыма, слова *кубел* паходзіць ад дзеяслоўнага кораня *-коб-* 'вешаць' [13, с. 87], але, на нашу думку, гэта вельмі спрэчнае меркаванне.

Слоўнікам У. Даля зафіксавана, што ў Калужскай губерні кублам называўся кошык або кайстра [6, с. 175]. У Бранскай і Пскоўскай абласцях яшчэ ў 1950-я гг. так называлі кош для бялізны [9, с. 380].

Пацвярджэннем таму, што раней у славян кублам называлася пасцель, служыць слова *кубікуларь*. Праўда, ужо ў 1499 г. у Ноўгарадзе яно было



**Кубел з экспазіцыі Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту.**

---
* **Клёпкі** – дошчачкі, з якіх складаюць бандарныя вырабы. – *Заўвага рэд.*

рэдкім, таму перапісчык тэксту Бібліі на палях тлумачыць, што гэта *пасцельнічы* [10, с. 102].

"Дамастрой" прыводзіць падрабязнае апісанне цырымоніі пераезду маладой у дом жаніха. Пры гэтым слова *пасаг* не гучыць, гаворка ідзе толькі пра пасцель. *"А за дружкой повезут постель в санях с передком, а летом – изголовьем к облучку, накрытое одеялом. А в санях две лошади сивые, а около саней боярские слуги в нарядном платье, на облучке же станет постельничий старший в золоте, держит святой образ"* [8, с. 177]. Гэтыя звесткі яскрава сведчаць, што ў часы Сярэднявечча ў рускіх пасцель служыла пасагам маладой. У дадзеным выпадку, хутчэй за ўсё, пад словам *пасцель* разумелі ложак.

Вядома, што ў мове рускага арго кублам называлася пасцель у Цвярской і Тульскай абласцях [4, с. 460].

Гэтыя факты дазваляюць прасачыць наступную сувязь. У старажытных рымлян кубелай называлася пасцель, гэтак жа называўся і пасаг, які ў старажытнасці складаўся амаль з адной бялізны. Далей слова *кубела* перайшло на начынне, у якім пераносіўся пасаг, – кош або кайстру. Калі ім на змену прыйшоў грунтоўны бандарны выраб для пераносу пасагу, то ён таксама стаў называцца кублам.

Такім чынам, можна сцвярджаць, што слова *кубел* існавала ў нашай мове ў перыяд яе вылучэння з праславянскай мовы і бярэ свой пачатак з часоў індаеўрапейскай моўнай еднасці.

Пасля вяселля кубел заставаўся з гаспадыняй на ўсё жыццё. Там яна захоўвала ўсю сямейную вопратку, а таксама грошы і каштоўнасці. Як правіла, кубел замыкаўся. На адным канцы засаўкі (цуркі), якая прасоўвалася ў вушкі, быў упор, а на другім канцы – проразь для замка.

У канцы XIX – пачатку XX ст. у сялянскім побыце кубел з мэтай захавання пасагу выкарыстоўваецца ўсё радзей. На змену яму прыходзіць куфар, або скрыня. Тлумачыцца гэта найперш тэхнічным прагрэсам: у тыя часы дошкі, з якіх вырабляўся куфар, распілаваныя на тартаках, значна патаннелі і сталі больш даступнымі. Таму пасаг сялянскіх дзяўчат складвалі ўжо ў куфры.

**Спіс літаратуры**


1. **Велишевский, Ф.** История цивилизации / Ф. Велишевский. – М., 2000. – 702 с.
2. **Винничук, Л.** Люди, нравы и обычаи Древней Греции и Рима / Л. Винничук. – М., 1988. – 496 с.
3. **Гістарычны слоўнік беларускай мовы.** – Мінск, 1997. – Вып. 16. – 359 с.
4. **Грачев, М. А.** Словарь тысячелетнего русского арго : 27 000 слов и выражений / М. А. Грачев. – М., 2003. – 120 с.
5. **Гринблат, М. Я.** К вопросу об участии литовцев в этногенезе белорусов / М. Я. Гринблат // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. – М., 1959. – С. 523 – 543.
6. **Даль, В. И.** Толковый словарь живого великорусского языка : в 4 т. / В. Даль. – М., 2004. – Т. 2. – 672 с.
7. **Дворецкий, И. Х.** Латинско-русский словарь / И. Х. Дворецкий. – М., 2003. – 846 с.
8. **Как жену учить, как себя вести, как судьбу узнать.** – СПб. : Авалонъ, 2008. – 304 с.
9. **Словарь русских народных говоров.** – СПб., 2002. – Вып. 15.
10. **Словарь русского языка XI – XVII вв.** – М., 1981. – Вып. 8.
11. **Супрун, А. Е.** Введение в славянскую филологию / А. Е. Супрун. – Минск, 1989. – 480 с.
12. **Фасмер, М.** Этимологический словарь русского языка : в 4 т. / М. Фасмер. – М., 2003. – Т. 2. – 672 с.
13. **Этимологический словарь славянских языков. Праславянский лексический фонд.** – М., 1983. – Вып. 10. – 200 с.



**Аляксандр МАКАРЧЫК,**
вядучы навуковы супрацоўнік
Беларускага дзяржаўнага музея
народнай архітэктуры і побыту.


## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2011 год

ЖНІВЕНЬ

*Заканчэнне. Пачатак на с. 41.*

**22 жніўня** – 150 гадоў з дня нараджэння Ігната Буйніцкага (1861 – 1917), акцёра, рэжысёра, тэатральнага дзеяча

100 гадоў з дня нараджэння Іосіфа Лакштанава (1911 – 1986), акцёра, рэжысёра, заслужанага артыста Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння Ірыны Дзідзічэнкі, артысткі балета, заслужанай артысткі Беларусі

**23 жніўня** – 115 гадоў з дня нараджэння Казіміра Бянеўскага (1896 – 1968), альтыста, заслужанага артыста Беларусі

110 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Дзяругі (1901 – 1979), дзеяча самадзейнага мастацтва, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

85 гадоў з дня нараджэння Васіля Петручука, беларуска- і польскамоўнага празаіка, заслужанага дзеяча культуры Польшчы. Жыве ў Беластоку

75 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Меранкова, жывапісца

**24 жніўня** – 80 гадоў з дня нараджэння Юрыя Альбіцкага (1931 – 1996), мастака кіно, жывапісца

**25 жніўня** – 175 гадоў з дня нараджэння Станіслава Акрэйца (1836 – пасля 1918), беларускага і рускага журналіста, мемуарыста, белетрыста

85 гадоў з дня нараджэння Васіля Праскурава (1926 – 1987), празаіка, паэта, публіцыста, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

**26 жніўня** – 100 гадоў з дня нараджэння Паўла Дзянісава (1911 – ?), музыканта, трубача, заслужанага артыста Беларусі, заслужанага артыста Расіі

75 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Рубцова, жывапісца

**27 жніўня** – 200 гадоў з дня нараджэння Тадэвуша Лады-Заблоцкага (1811 – 1847), паэта

105 гадоў з дня нараджэння Сяргея Новіка-Пеюна (1906 – 1994), паэта, празаіка

**28 жніўня** – 75 гадоў з дня нараджэння Генадзя Бураўкіна, паэта, перакладчыка, дзяржаўнага дзеяча

**29 жніўня** – 70 гадоў з дня нараджэння Леаніда Улашчанкі, акцёра, заслужанага артыста Беларусі

*Паводле картатэкі БДАМЛМ.*

*З музейных фондаў*

# ПЯТРУСЬ БРОЎКА – ЯКУБУ КОЛАСУ

## АЎТОГРАФЫ, ДАРЧЫЯ НАДПІСЫ, ПРЫСВЯЧЭННІ

У рабочым кабінеце Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа знаходзіцца шафа з пасляваеннай асабістай бібліятэкай паэта. Там зберагаюцца і кнігі Петруся Броўкі, якія ён падараваў выдатнаму майстру слова. Большасць з іх маюць дарчыя надпісы сябру і настаўніку Якубу Коласу:

*"Дарагому дзядзьку*
*Якубу Коласу*
*У дзень нашае сустрэчы*
*ў Маскве.*
*Шчыра.*
*Пятрусь Броўка*
*5.1.1945 г."*

(П. Броўка. Беларусь. Масква, 1945)

*"Дарагому Якубу Коласу*
*Ад усяго шчырага сэрца.*
*Пятрусь Броўка*
*3.III.47 г."*

(П. Броўка. У роднай хаце. Мінск, 1946)

*"Дарагому дзядзьку*
*Якубу Коласу.*
*Ад шчырага сэрца і*
*шчырага пажадання:*
*доўга жыць і ніколі*
*не хварэць.*
*Пятрусь Броўка*
*16.XII.47 г."*

(П. Броўка. Выбраныя творы. Мінск, 1947)

*"Дарагому*
*Канстанціну Міхайлавічу.*
*Ад усяе душы.*
*Пятрусь Броўка*
*8.X.1950 г."*

(П. Броўка. Сонечнымі днямі. Мінск, 1950)

*"Дарагому дзядзьку Якубу*
*Коласу.*
*Якога вельмі люблю і*
*якому ўсяго найлепшага*
*ў жыцці жадаю.*
*Пятрусь*
*7.IV.55 г."*

(П. Броўка. Цвёрдымі крокамі. Мінск, 1954)

25 чэрвеня 1955 г. у памяшканні Рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага адбыўся юбілейны вечар, прысвечаны 50-годдзю з дня нараджэння П. Броўкі, на які быў запрошаны і народны паэт. У сувязі з гэтай датай Я. Колас напісаў верш-прысвячэнне:

*Азірнёмся, Пятруська, назад –*
*Колькі кветак пасохла ў пракосе!*
*І чаго, эх, чаго толькі, брат,*
*Пражыць, перачуць не прыйшлося!*

Якуб Колас прысвяціў Петрусю Броўку таксама наступныя вершы: "Маім Петрусям"; «У "Сабачым Вусе": Петрусю Броўку»; "Петрусям Глебку і Броўку" ("Люблю я Петрусёў…"); "Петрусю Броўку" ("Някепскі час быў прад вайною…"); "Петрусю Броўку" ("Памяну шчырым словам Петруся…"); "Петрусям Броўку і Глебку" ("Я люблю Беларусь…"); "Дамок на водшыбе: Прысвячаецца П. Броўку"; "Петрусям" ("Гляджу на вас я, Петрукі…").

Відавочна, што ўзаемаадносіны калег былі шчырымі, цёплымі. У адным са сваіх лістоў П. Броўка піша Я. Коласу: *"Бо мы без Вас па-праўдзе кажучы, як малады бярэзнік без дуба"*. Пётр Усцінавіч быў жаданым госцем у доме песняра. У мемарыяльнай частцы музея захоўваецца сувенірны рог, падараваны П. Броўкам






Я. Коласу ў сувязі з яго 70-годдзем.

Пасля смерці народнага паэта П. Броўка браў удзел у мерапрыемствах па ўшанаванні яго памяці: выступаў з прамовай на адкрыцці мемарыяльных дошак у Акінчыцах і Альбуці, прысутнічаў на адкрыцці філіяла музея ў Смольні.

Трэба адзначыць, што П. Броўка – лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа за раман “Калі зліваюцца рэкі” (1959).



**Якуб Колас і Пятрусь Броўка** (у цэнтры) **з калегамі ў Ленінградзе.** 1947 г.

Пятрусь Броўка ўваходзіў у склад рэдакцыйных калегій збораў твораў Я. Коласа ў 7 тамах (выйшаў да яго 70-годдзя), у 11 тамах (выйшаў да 90-годдзя) і ў 14 тамах (выйшаў да 100-годдзя); рэдагаваў другі, адзінаццаты і дванаццаты тамы апошняга выдання. Акрамя гэтага, П. Броўка быў галоўным рэдактарам зборніка артыкулаў пра жыццё і дзейнасць Я. Коласа “Вялікі пясняр беларускага народа” (1959) і зборніка, прысвечанага 80-годдзю з дня нараджэння класіка “Жыццё для народа” (1962).



Дарагому дзядзьку
Якубу Коласу
у дзень нашае сустрэчы
ў Маскве.
Шчыра.-
Пятрусь Броўка
5.1.1945 г.



**Пятрусь Броўка на адкрыцці мемарыяльнай дошкі на доме сям’і Якуба Коласа ў Акінчыцах.** 1961 г.

Сваю жалобу і перажыванні ў сувязі са стратай настаўніка Пётр Усцінавіч перадаў у вершы “Памяці Якуба Коласа” (1958):

*А ты быццам кажаш*
*Усім на расстанні*
*Пра тое, чым вечна жыло тваё сэрца:*
*Каб кожны вялікай любові не страціў*
*Да лёсу, да сілы,*
*Да славы народа,*
*Каб мы шанавалі*
*Зямлю, сваю маці,*
*Цяпер і заўсёды, цяпер і заўсёды!*

**Таццяна МАКАРАНКА,**
старшы навуковы супрацоўнік
навукова-фондавага аддзела
Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага
музея Якуба Коласа.

# СЦЯЖЫНКАМІ ПАДАННЯЎ І МІФАЎ

## КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталі: 1.** … і Гаўры – мянушкі любімых сабак міфічнага першанасельніка Беларусі князя Бая: паводле падання, па слядах, дзе беглі сабакі, пацяклі рэкі – Дняпро і Дзвіна. **3.** Ласкавая назва ў народзе бусла, святой на Беларусі птушкі. **6.** Невялікае драпежнае насякомае, у беларускай міфалогіі асацыюецца з працавітасцю і добрымі прадказаннямі. **8.** Драпежная жывёліна: у міфалогіі – сімвал ветлівасці і ўрадлівасці, у казках – сімвал хітрасці. **9.** Жалезны … – драпежнік, які, паводле падання, з'явіўся ў сне вялікаму князю ВКЛ Гедыміну, пасля чаго той загадаў заснаваць Вільню. **11.** Музычны гук. **12.** Прыгожая птушка, сімвал вернасці ў каханні, харства, святасці. **13.** *"А жаўранак звоніць над грушай, / Свой … селяніну свяргоча"* – з верша "Запела вясна сваю песню" Янкі Купалы. **18.** …, ці гора, – даўней прадвесцем яе лічылася пранікненне птушкі праз акно ў дом. **19.** Птушка, якая ўспрымалася сярод беларусаў сімвалам вядзьмарства, а таксама мудрасці і ведаў. **24.** Дрэва, што лічылася ў беларусаў апекуном маці, дзяўчат. **25.** Жамяра (прадказвае надвор'е: калі яе шмат – трэба чакаць дажджу). **27.** Земнаводная жывёла: некалі пры яе першым веснавым "співе" на Беларусі раілі куляцца. **30.** Шатландская аўчарка. **31.** …, ці гаёвы дзед, – паводле павер'яў, дух, які сочыць за парадкам у лесе і мае слугамі звяроў і птушак. **32.** Жывёла, помнік якой з саломы і дрэва змайстравалі ў Бабруйску. **33.** Галаўны ўбор, сімвал улады, яе меў, паводле заходнебеларускіх міфаў, вялікі кароль вужоў Жалгіун-Каралюс. **34.** …, ці прадказальнік, – у беларускім фальклоры гэтым эпітэтам узнагароджаны крумкач.

**Па вертыкалі: 1.** Млекакормная жывёла, герой народных казак, прыпевак. **2.** Атмасферная вільгаць, з якой звязаны першы выган статка на Юр'я, качанне па траве на Купалле. **4.** Прыгожая чубатая птушка, паводле міфа, некалі была царом птушак, але Бог пакараў яе за пыху. **5.** Рэшткі чаго-небудзь. **7.** *Гора табе, …, калі цябе карова коле* (прыказка). **8.** *Не помніць карова зімы, дачакаўшы …* (прыказка). **10.** *Дай мазі ў …, а ў працы – песні вясёлай* (прыказка). **14.** Насякомае, самая моцная ў свеце істота: падымае вагу ў 50 разоў цяжэйшую за сябе. **15.** … Чарадзей – імя полацкага князя, які, паводле падання, мог перакідвацца ў розных звяроў. **16.** У беларускай казцы – цар усіх ракаў. **17.** Карыснае насякомае, паводле міфаў, утварылася са слёз дзяўчыны-прыгажуні. **20.** Смоўж, паводле падання, мае ажно 25 тысяч зубоў. **21.** Веснавая птушка. **22.** Паэт, песняр. **23.** Паводле беларускіх міфаў, імя кашэчага караля. **26.** Марскі рак, вочы якога робяць агляд на 360 градусаў. **28.** Вадзяны … – там раней трымалі чорных ката і пеўня як найлепшую ахвяру вадзяному. **29.** …, ці кнігаўка, – балотная птушка, жыве каля вады, але, паводле падання, заўжды пакутуе ад смагі: крык яе нагадвае "піць-піць".

**Адказы**

**Па гарызанталі: 1.** Стаўры. **3.** Буська. **6.** Павук. **8.** Ліса. **9.** Воўк. **11.** Нота. **12.** Лебедзь. **13.** Кліч. **18.** Бяда. **19.** Сава. **24.** Ліпа. **25.** Машкара. **27.** Жаба. **30.** Колі. **31.** Гаюн. **32.** Бабёр. **33.** Карона. **34.** Вяшчун.

**Па вертыкалі: 1.** Свіння. **2.** Раса. **4.** Удод. **5.** Астача. **7.** Воле. **8.** Лета. **10.** Кола. **14.** Мурашка. **15.** Усяслаў. **16.** Хабёр. **17.** Пчала. **20.** Слімак. **21.** Шпак. **22.** Баян. **23.** Варгін. **26.** Краб. **28.** Млын. **29.** Каня.

Склаў **Лявон ЦЕЛЕШ.**

Установа «Рэдакцыя часопіса "Роднае слова"». Заснавальнік – Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйны нумар часопіса 561.
220035, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 47, кор. 1, пад'езд 2 (уваход з вул. Гвардзейскай, код на ўваходзе: 43 + званок).
Р/р № 3015702170012 у аддзяленні № 527 ААТ "Белінвестбанк" г. Мінска, код 739, УНН 190241571, ОКПО 37551965.

*Тэлефоны:* галоўнага рэдактара **(017) 203-35-17**, намесніка галоўнага рэдактара **(017) 203-24-69**,
рэдактараў і галоўнага бухгалтара **(017) 203-34-79**, адказнага сакратара і загадчыка прыёмнай **(017) 203-07-40**,
факс **(017) 203-07-40**.
E-mail: **rodnaje_slova@tut.by**
**www.rs.unibel.by**

Падп. да друку 02.06.2011. Фармат 60x84 1/8. Папера газетная. Гарнітура "Minion Pro". Афсетны друк. Ум.-друк. арк. 10,1.
Ум.-фарб. адбіт. 12,07. Ул.-выд. арк. 12,5. Тыраж 3160 экз. Зак. 1375.
Надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва "Беларускі Дом друку"».
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 79. ЛП 02330/0494179 ад 03.04.2009.